# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 25 Сшыткі 1–2 (48–49) Снежань 2018

## ЗМЕСТ

### Артыкулы



### Архівaліі



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

# Развіццё паняцця заходніх межаў Вялікага Княства Літоўскага ў XIII–XVI ст.

**Томас Чэлкіс**

У цяперашні час тэрмін “мяжа” вызначаецца як лінія, што падзяляе тэрыторыі дзвюх дзяржаў, дзвюх адміністрацыйных адзінак, двух фізічных феноменаў або груп людзей пэўнага рэгіёна. Часам яна пазначаецца на тэрыторыі шырокай фартыфікацыйнай паласой, шэрагам ахоўных пунктаў або пагранічных пастоў. Бывае, што геаграфічныя аб’екты цалкам або часткова адпавядаюць мяжы[1]. Даследаваная гісторыкам Даніэлем Паўэрам праблема лексікі і класіфікацыі сярэднявечных межаў паказвае, што ім уласцівы культурныя, палітычныя, эканамічныя, рэлігійныя і іншыя рысы[2]. Вылучаюцца розныя тыпы межаў. Па словах Даніэля Нордмана[3], тэрыторыі могуць падзяляць ваенныя арганізацыі (маркі), масівы неабжытых земляў, прыродна-геаграфічныя вехі – горы, моры, балоты[4], а таксама структуры больш складаных сацыяльных

[1] Гл.: Siegfried A. Préfas, in: Ancel J. Géographie des frontieres. Paris, 1938. P. 7–11; Frontière // Grand Larousse encyclopédique. T. 5. Paris, 1968. P. 288.

[2] Power D. A. Frontiers: Terms, Concepts, and the Historians of Medieval and Early Modern Europe // Frontiers in question Eurasian borderland 700–1700. Ed. Power D., Stander N. New York, 1999. P. 1–12; таксама: Nordman D. Frontières de France. De l`espace au territoire XVI e – XIX e siècle (далей Nordman D. Frontières). Paris, 1998. P. 40–66.

[3] Nordman D. Frontières. P. 24–52.

[4] Гл.: Schroeter F. Le système de délimitation dans les fleuves internationaux // Annuaire français de droit international. Vol. 38. 1992. P. 948–982.

арганізацый або дзяржаў[5]. Як паказваюць аналагі, тыпы палітычных межаў Вялікага Княства Літоўскага (далей ВКЛ) могуць даследавацца ў розных аспектах. Мэта гэтага артыкула – выявіць развіццё паняцця заходніх межаў ВКЛ і асаблівасці іх маркіроўкі ў XIII–XVI ст., а таксама прычыны ўзнікнення мяжы як "лініі".

ВКЛ як палітычна тэрытарыяльнае ўтварэнне было вялікім, асабліва ў XV ст., і развіццё асобных частак яго тэрыторыі мела сваю спецыфіку[6]. Фармаванне заходніх межаў цэнтра ВКЛ з Нямецкім ордэнам і міждзяржаўныя дэлімітацыйныя працэсы праявіліся першымі. У цэнтральнай частцы краіны раней за ўсё пачала фармавацца канцэпцыя "дзяржаўнай" тэрыторыі. Правільна ўсвядоміўшы працэс фармавання межаў ВКЛ, можна больш

[5] Пра генезіс і тып межаў гл.: Sahlins P. Natural frontiers revisited: France's boundaries since the seventeenth mentury // American Historical Review. Vol. 95. Nr. 5. 1990. P. 1423–1451; Jaspert N. Grenzen und Grenzräume im Mittelalter: Forschungen, Konzepte und Begriffe, in: Grenzräume und Grenzüberschreitungen im Vergleich. Der Osten und der Westen des mittelalterlichen Lateineuropa, hrsg. von Herbers K., Jaspert N. Berlin, 2007. S. 43–70; Ellis G. S. Civilizing the Natives: State Formation and Tudor Monarchy. C. 1400–1603 // Imagining Frontiers Contesting Identities. Ed. Ellis G. S., Klusáková L. Piza, 2007. P. 77–92; Rajman J. "In confinio terrae" Definicja i metodologiczne aspekty badań nad średniowiecznym pograniczem // Kwartalnik historyczny. Warszawa. T. 1. 2002. S. 79–96; Frankot E. Medieval Maritime Law from Oléron to Wisby: Jurisdictions in the Law of the Sea // Communities in European History: Representations, Jurisdictions, Conflicts. Ed. Pan-Montojo J., Pedersen F. Pisa, 2007. P. 151–172.

[6] Гл.: Темушев В. Н. Гомельская земля в конце XV – первой половине XVI в.: территориальные трансформации в пограничном регионе. Москва, 2009; Bucevičiūtė L. Lietuvos valstybės teritoriniai kontaktai rytuose XV–XVI a.: keletas sienų istorijos epizodų // Istorija. T. 78. 2010. P. 3–14; Bucevičiūtė L. Lietuvos Didžioji Kunigaikštystė XV–XVI a.: valstybės erdvės ir jos sienų samprata. Kaunas, 2015; Čelkis T. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės sienos "prie Juodosios jūros" XV–XV a. // Istorija. T. 83. 2011. P. 3–13; Čelkis T. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės teritorija: sienų samprata ir delimitaciniai procesai XIV–XVI amžiuje. Vilnius, 2014.

дакладна раскрыць значэнне міждзяржаўных дэлімітацыйных працэсаў. Усходнія і паўднёвыя працэсы фармавання дзяржаўных межаў, якія адрозніваюцца па структуры і па храналагічным характары, патрабуюць асобнага аналізу.

## ***Граніца*, *рыса*, *знак* – значэнні тэрмінаў у крыніцах XIII–XVI ст.**

Пры перакладзе дэлімітацыйных тэрмінаў са старых моў на сучасныя непазбежныя цяжкасці ў тлумачэнні. Таму перш чым пачнем абмеркаванне дэмаркацыі і значэння межаў, варта разгледзець тэрміны, што сустракаюцца ў крыніцах.

Тэрміны лацінскай мовы *granicea*, *finis*, *limes* (“ad limites terrarum ducus Mazouie <...> usque antiquas granicies”[7]; “limites seu granicies ac fines perpetuos”[8]) паказваюць на мяжу і як на аб’ект, і як на знак[9]. У дзяржаўных, зрэшты, як і ў недзяржаўных, актах асабліва распаўсюджаны тэрмін славянскага паходжання *granicea*[10]. Тэрмін лацінскай мовы, якім абазначаўся штучна створаны межавы знак, быў *gadis* (“vbi finales gades seu limites”[11]) – размежавальны

[7] Codex diplomaticus Lithuaniae (далей Raczyński E. CDL). Ed. Raczyński E. Vratislaviae, 1845. S. 238 (1419 г.).

[8] Метрика Великаго Княжства Литовскаго (1545–1572). Книга посольская (далей МВКЛ (1545–1572), Книга посольская). Собр. Оболенский М., Данилович И. Москва, 1843. № 9. С. 8 (1545 г.).

[9] Гл.: Słownik łaciny średniowiecznej w Polsce. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk, 1975. T. 4, 2 (30). S. 219–223; ibid. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk, 1976. T. 4, 4 (32). S. 589–594; ibid. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łódź, 1983. T. 5, 9 (43). S. 1431–1433.

[10] Тэрмін нямецкай мовы – *Grenze*; першы раз згаданы на тэрыторыі Нямецкага ордэна (1262 г. Торунь). Гл.: Wenskus R. Das Ordensland Preussen als Territorialstaat des 14. Jahrhundests // Der deutsche Territorialstaat des 14. Jahrhunderts. Sigmavingen, 1970. S. 353.

[11] Kodeks dyplomatyczny księstwa Mazowieckiego (далей Kodeks dyplomatyczny księstwa Mazowieckiego). Warszawa, 1863. Nr. 80. S. 73 (1358 г.).

знак, які можна разумець як невялікі зямельны насып[12]. Падобная сітуацыя і з тэрмінамі *scopulus* ("scopulus positus super flumen Lek"[13]), *colliculum* ("fecimus unum colliculum alias kopiec"[14]). Іх варта перакладаць як *памежны знак*, *насып*, *капец*[15]. У дакументах, напісаных канцылярскай мовай ВКЛ, сустракаюцца наступныя тэрміны: *граніца* ("старая граница межи Литвою и Прусы"[16]), *рубеж* ("по дереву старые рубежи пошли"[17]), што азначаюць межы як аб'ект – "лініі" ці знак[18], які аб'ядноўвае ў сябе паняцце выбітага або высечанага знака[19]; *мяжа* ("О права земленые, о границах и о межах, о копах"[20]) – тэрмін часцей ужываўся

[12] Słownik łaciny średniowiecznej. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk, 1976. T. 4, 3 (31). S. 480; T. 4, 4 (32). S. 481.

[13] МВКЛ (1545–1572), Книга посольская, № 10. С. 10 (1545 г.).

[14] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 5 (1427–1506). Užrašymų knyga 5 (далей Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 5). Parengė Banionis E. Vilnius, 1993. Nr. 125. P. 326 (1473 г.).

[15] Pirmasis Lietuvos Statutas. Tekstas senąja baltarusių, lotynų ir senąja lenkų kalbomis. T. 2, d. 1 (далей PLS). Parengė Lazutka S., Valikonytė I., Gudavičius E. ir kiti. Vilnius, 1991. P. 367. Słownik Polszczyzny XVI wieku. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łodź, 1976. T. 10. S. 618. Паводле слоўніка тэрмін лацінскай мовы *scopullus* адпавядае літоўскаму слову *kapčius*, тэрміну канцылярскай мовы ВКЛ *копец*, польскому *kopiec*. Ibid. 1961. T. 2, 4 (12). S. 589.

[16] МВКЛ (1545–1572), Книга посольская, № 15b. С. 17 (1532 г.).

[17] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, мікрафільм: Lietuvos Valstybės Istorijos Archyvas. Ф. 389 (далей Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560), арк. 18 (1542 г.). Упершыню гэтыя архіўныя дакументы апублікаваны: Дзярновіч А. Выкарыстанне працэдурных нормаў I Статута Вялікага Княства Літоўскага пад час демаркацыі дзяржаўнай мяжы ВКЛ з Лівоніяй (паводле матэрыялаў кнігі Метрыкі ВКЛ № 560) // Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha. Sud. Valikonytė I., Steponavičienė L. Vilnius, 2005. P. 243–248. У артыкуле выкарыстана архіўная інфармацыя; публікацыя дакумента: Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. № 560 (1542 г.). Падрыхт. Дзярновіч А. Мінск, 2007.

[18] Словарь русского языка XI–XVII вв. Москва, 1977. Т. 4. С. 123; Словарь древнерусского языка (XI–XIV вв.). Москва, 1989. Т. 2. С. 285.

[19] Словарь русского языка XI–XVII вв. Москва, 1997. Т. 22. С. 225–226.

[20] PLS, 8 sk. P. 218.

пры апісанні мяжы прыватнага зямельнага ўгоддзя, у дагаворах сустракаецца рэдка і перакладаецца як мяжа або роў[21]; *капец* ("тых двух копцовь по деревю"[22]) мае значэнне гранічнага знака, адпавядае паняццю гранічнага знака або зямельнага насыпу. У старапольскай мове тэрмінам *granica*[23] называлася ўмоўная "лінія" або знак (насып, слуп, роў і г. д.), які падзяляў тэрыторыі[24]. *Miedza*[25], як і *granica*, мае падвойнае значэнне, аднак, як і тэрмін канцылярскай мовы ВКЛ *мяжа*, ён часцей за ўсё выкарыстоўваўся для абазначэння прыватных межаў, а не ў дзяржаўнай дэлімітацыі[26]; *kopiec*, *kopc* – 'зямельны знак, насып, горка'[27], пераняты нямецкай мовай і ў дакументах XVI ст. сустракаецца як *Kupitze*, *Cupittze*[28].

Дэлімітацыйныя тэрміны, якія абазначаюць мяжу, часцей за ўсё ўжываюцца ў множным ліку: "limites et Granicies inter Terram nostram lytwanie et districtum Grodnensem"[29]. З аднаго боку, гэта абумоўлена шматзначнасцю пералічаных тэрмінаў і паказвае на іх цэласнасць, напрыклад: "ажъ до трехъ копцовъ"[30]. Форма множнага ліку тэрмінаў, які пазначае

[21] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (далей Археографический сборник документов. Т. 1). Т. 1. Вильна, 1867. № 31. С. 48 (1546 г.): "отъехати межы земяны". Словарь русского языка XI–XVII вв. Москва, 1982. Т. 9. С. 65–66. PLS. P. 371.

[22] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, l. 4 (1542 г.).

[23] МВКЛ (1545–1572), Книга посольская, № 15а. С. 16 (1545 г.): "gdy piersze granice byłi".

[24] Słownik Polszczyzny XVI wieku. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łodź, 1974. T. 8. S. 94–104.

[25] PLS, 8 sk. P. 219: "O pravach ziemskich, graniczach, miedzach j o kopach".

[26] Słownik Polszczyzny XVI wieku. T. 13. Wrocław, 1989. S. 563–564.

[27] МВКЛ (1545–1572), Книга посольская, № 13. С. 14 (1545 г.). Słownik Polszczyzny XVI wieku. T. 10. S. 618–619.

[28] Гл.: Jakovļeva M. Robežas un administratīvais iedalījums Latvijas teritorijā 16. gs. otrajā pusē un 17. gs., in: Latvijas zemju robežas 1000 gadas. Sastādījis Caune A. Rīga, 1999. P. 131.

[29] Kodeks dyplomatyczny księstwa Mazowieckiego. Nr. 80. S. 73 (1358 г.).

[30] Археографический сборник документов. Т. 1. № 31. С. 47 (1546 г.).

мяжу як аб'ект, звязана з працэсам яе маркіроўкі, які ўяўляе сабой цэласнасць асобных адрэзкаў (пунктаў)[31]. Такім чынам, выкарыстанне формы множнага ліку часта было абумоўлена ўспрыманнем "мяжы" як сумы розных межавых знакаў.

## Вытокі ўзнікнення паняцця палітычнай мяжы ВКЛ у XIII–XIV ст.

У XIII ст. Літва, як і тэрыторыя ВКЛ, што фармавалася ў XIV ст., складалася з аб'яднанага ўладаром кангламерату архаічных тэрыторый. Буйныя геаграфічныя аб'екты – лясныя масівы, балоты, розныя вадаёмы – неабжытыя тэрыторыі – аддзялялі адно тэрытарыяльнае аб'яднанне ад другога. Па словах Генрыка Лаўмяньскага, населеныя балтыйскімі плямёнамі тэрыторыі ў XIII ст. былі даволі ізаляваныя паміж сабой і падтрымлівалі мінімальныя сувязі, а шчыльнасць насельніцтва складала прыблізна 3 чалавекі на 1 кв. км[32]. У светапоглядзе балтыйскіх плямёнаў некаторым неабжытым тэрыторыям надавалася сакральнае значэнне. Па словах Рэйнхарда Венскаўса, асаблівасць лясоў і палёў Прусіі, якія лічацца святымі, у большай меры была абумоўлена неабходнасцю падзелу тэрыторый паміж плямёнамі[33]. Працягласць такіх

[31] Limites Regni Poloniae et Magni Ducatus Litvaniae (далей Dogiel M. Limites). Ed. Dogiel M. Vilnae, 1758. P. 213 (1541 г.): "Quatruordecimum scopulum fieri jussimus in prato non remote a fossa parva. Directe progrediendo posuimus quintum decimus in prato, & ibidem non remote signum factum est in arbore. Sextum decimus scopulus positus est in merica quandam". Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1376–1430 (далей CEV). Ed. Prochaska A. Cracoviae, 1882. Nr. 898. S. 494 (1420 г.): "habendo fluvium Memel undique per dua miliaria in sinistra usque in fluvium Jura".

[32] Гл.: Łowmiański H. Studja nad początkami spoleczeństwa i państwa Litewskiego. T. 2. Wilno, 1932. S. 99–106.

[33] Wenskus R. Beobachtungen zur Verhältnis von Burgwall, Heiligtum und Siedlung im Gebiet der Prussen // Studien zur europäischen Vor – und Frühgeschichte. Neumünster, 1968. S. 322–323. Жыгімонт Герберштайн ва ўспамінах пра падарожжа па землях ВКЛ у XVI ст. адзначае, что жамойты мелі шмат святых гаёў і баяліся сустрэцца ў іх з прывідамі. Гл.: Герберштейн С. Записки о Московии. Перевод Малеина И. А., Назаренко В. А. Москва, 1988. С. 195.

вераванняў пацвярджаюць і пазнейшыя пісьмовыя крыніцы. У апісанні межаў паміж ВКЛ і Лівоніяй 1426 г. упамінаецца святы гай (“der hillige bushe stahn”[34]), у 1541 г. пры абнаўленні тых жа межаў згадана: “procedendo deorsum similiter a luco, granicies directe procedunt”[35], дзе святы гай выступае межавым “знакам”.

Нямецкі ордэн, які з’явіўся ў Прыбалтыцы ў XIII ст., асаблівую ўвагу аддаваў сваёй тэрытарыяльнай базе – вызначыў і зацвердзіў межы з суседнімі краінамі, у першую чаргу з Польшчай і Мазовіяй[36]. Спачатку Ордэн не думаў узгадняць межы з Літвой (палітычнай арганізацыяй), бо планаваў заваяваць яе землі, як гэта адбылося ў Прусіі. Антанас Саліс сцвярджае, што першыя межы з Літвой Ордэн “крэсліў” адназначна: на захопленых тэрыторыях наладжваў мясцовую прасторавую структуру[37]. Пры стварэнні адміністрацыі заваяваныя землі дзяліліся на адзінкі рознага прызначэння. Такую “перабудову” адлюстроўвае дакумент 1211 г.: “fratris nostri A. Rigensis episcopi, ut terra, quae Lettia dicitur, tripartita sorte divideretus, placuit scripto trium cartarum tres terrae partes aequales distingui”[38]. Рыхталіся апісанні межаў падзеленых тэрыторый, на аснове якіх можна сцвярджаць, што межамі адміністрацыйных частак Ордэна часта станавіліся старыя архаічныя межы асобных земляў, бо непазбежна даводзілася

[34] Liv, -Est – und Curländisches Urkundenbuch (далей LUB), hrsg. Bunge F. G. Bd. 7. Riga – Moskau, 1881. Nr. 472. S. 326 (1426 г.).

[35] Dogiel M. Limites. P. 216 (1541 г.).

[36] Гл.: Kowalczyk E. Dzieje granicy Mazowiecko-Krzyżackiej (далей Kowalczyk E. Dzieje granicy). Warszawa, 2003; Długokęcki W. Die Bildung der Grenze zwischen dem Deutschordensland Preußen und dem Herzogtum Masowien in den Jahren 1343–1422 (далей Długokęcki W. Die Bildung der Grenze), in: Grenze und Grenzüberschreitung im Mittelalter 11. Symposium des Mediävistenverbandes vom 14. bis 17. März 2005 in Frankfurt an der Oder. Hrsg. von Knefelkamp U., Bosselmann-Cyran K. Berlin, 2007. S. 136–149.

[37] Salys A. Die žemaitischen Mundarten, in: Salys A. Raštai. T. 4. Roma, 1992. P. 222.

[38] LUB, hrsg. Bunge F. G. Bd. 1, Reval, 1853. Nr. 23. S. 31 (1211 г.).

прыстасоўвацца да сфармаванай структуры[39]. Прыкладам можа стаць апісанне межаў Курляндскага біскупства 1237 г.: “Curonensem vero diocesin sic limitamus, ut quidquid est inter Memelam et praedictum fluvium Vende, usquo ad Litoviam, et sicut Aboa clauditur versum fluvium Vende, usque ad terminos Semigalliae, in Curonensi dioecesi computertur”[40], у якім згадана і мяжа з Літвой. Іншы прыклад – апісаная Ордэнам у 1291 г. мяжа: “ad ordinem nostrum pertinebit, Lyva vero per rivum, qui dicitur Barthowe, ad Lethoviam ascendendo, et terram, quae nuncupatam est Scoden per descensum, ubi Lyva intrat mare, ex ultraque parte ripae superius et inferius usque rivulum, qui dicitur Hilge A, dominus episcopus et sui successores pacifice possidebunt”[41]. З пагаднення магістраў Прусіі і Лівоніі 1328 г. відаць, што межамі была вызначана акруга Клайпедскага замка: “incipiendo primo a loco ubi fluvius Heiligena influit mare salsum, eundem fluvium ascendendo ad locum, ubi ex origine scaturit et erumpit, inde directe ad campum Emmere procedendo, hinc versus fluvium Emmerleke divertendo, ipsum fluvium descendendo usque ad locum, ubi influit aquam, quae Menie nuncupatur, ulterius Meniam ascendendo, usque in terram Lithoviae ad locum, ubi et unde primo effuit ipsa Menia de lacus Hasenplute dicto, hoc addito, quod tota terra Karsovitarum,

[39] У дакуменце Ордэна 1369 г. зафіксаваны рэаліі XIII ст. – апісанне межаў Вармійскага епіскапства. Ім адпавядаюць вехі геаграфічных аб’ектаў; дадатак да дакумента – дадатковыя вопісы межаў – “рэгістр” іншых прускіх земляў, якія, хутчэй за ўсё, яшчэ не былі далучаны і экспансію якіх Ордэн яшчэ толькі намерваўся здзейсніць. Гл.: Monumenta historiae Warmiensis. Bd. 3. Braunsberg, 1866. S. 31–32.

[40] LUB, Bd. 1. Nr. 153. S. 197 (1237 г.). На думку гісторыка Эдварда Гудавічуса, гэты дакумент – трансумпт апісання межаў зацверджанага ў 1234 г. Курляндскага епіскапства, гл.: Gudavičius E. Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje. Vilnius, 1989. P. 41. Прыкладам рэструктурызацыі Ордэна ў шырокім плане можна лічыць падзел Ордэнам Курляндыі ў 1253 г., гл.: LUB. Bd. 1. Nr. 249. S. 327–329 (1253 г.).

[41] LUB. Bd. 1. Nr. 543. S. 677 (1291 г.). Подобны адрэзак згаданы ў дакуменце Лівоніі 1429 г.: LUB, hrsg. von Bunge G. F. Bd. 8. Riga – Moskau, 1884. Nr. 64. S. 43 (1429 г.).

cum castro et territorio Memlensi praefatis, ad terram Prussiae de cetero integraliter in perpetuum pertinebit”[42]. Нягледзячы на тое, што гэтыя апісанні адлюстроўваюць межы такімі, якімі іх успрымаў Ордэн, яны дазваляюць выявіць агульныя рысы размежавання балтыйскіх земляў. Межам адпавядаюць буйныя прыродныя аб’екты – лясы, рэкі, балоты, азёры, якія падзялялі племянныя землі. Такія аб’екты звычайна знаходзіліся на неабжытых тэрыторыях. У прыведзеных прыкладах няма штучна створаных абмежавальных знакаў. Звычайна ўказваецца, што мяжа ідзе праз пусташ да тэрыторыі пэўнай зямельнай адзінкі (“usquo ad Litoviam; usque ad terminos Semigalliae”), якую трэба падзяліць. У асаблівых выпадках архаічныя межы больш буйных земляў пазначаліся і штучна створанымі знакамі. Археалагічныя крыніцы сведчаць, што ў XIII ст. у вёсцы Рэкучай (Літва, Швянчонскі раён) існаваў абарончы насып – сцяна[43]. Абапіраючыся на пісьмовыя крыніцы, гісторык Артурас Дубоніс сцвярджае, што абарончы ўчастак Рэкучай ахоўвалі служылыя людзі літоўскага князя[44]. Магчымасць існавання такіх межаў пацвярджае і дагавор 1343 г. паміж Мазовіяй і Ордэнам, у якім адзін адрэзак мяжы праходзіў уздоўж канавы: “fluvium Nyda nominatum ab inde directe

[42] LUB, hrsg. von Bunge G. F. Bd. 2. Reval, 1855. Nr. 1233. S. 228 (1328 г.); апублікаваны: Preußisches Urkundenbuch, hrsg. Hein M. Bd. 2 (2). Königsberg, 1935. Nr. 618. S. 408–409. Епіскап Курляндыі таксама згадвае мяжу ў больш познім дакуменце 1392 г.: “Also anzuhebende die Heilligen A, do sie vellet in das mehr, und sie ufzugehende, bis do sie entspringet, von danneu zu gehende, so man allirgerichteste mag, bis uf das feldt zu Lobe, von dannen gerichte zu gehende bis do man das fliez Winda allernegst treffen mag, der Winda vor uf zu folgende, bis do sie entspringet, also das alle die land, die zwischen den vorgeschrebenen grenitczen uf die rechte hand und den landen zu Lithawen ubd der Memle und dem Curischen habe beschlossen sien, sollen dem ehegenannten hern hoemeister und dem orden zugehoren”, гл.: LUB, hrsg. Bunge F. G. Bd. 3. Reval, 1857. Nr. 1319. S. 675 (1392 г.).

[43] Гл.: Girininkas A., Semėnas V. XIII a. Rėkučių gynybinis įrenginys // Kultūros paminklai. D. 2. Vilnius, 1995. P. 31–33.

[44] Dubonis A. Lietuvos didžiojo kunigaikščio leičiai: iš Lietuvos ankstyvųjų valstybinių struktūrų praeities. Vilnius, 1998. P. 68–82.

procedendo usque ad **fossatum** (вылучана намі. – *Т. Ч.*), quod iacet inter haspaludes Tlokunpelk et Namyumpelk ab eodem **fossato** procedendo directe ad fluvium Oritz"[45]. Балтыйская тапаніміка паказвае на тое, што гэтае ўмацаванне паміж двума балотамі *Tlokunpelkės* і *Namupelkės* было створана яцвягамі. У падрыхтаваным Ордэнам апісанні Селійскай зямлі 1392 г. межам адпавядалі не толькі "ланцугі" геаграфічных аб'ектаў, але і спецыяльныя знакі – крыжы на дубе: "Primo recipit originem ab amne Kusbu apud quercum, crucibus signum"[46]. Штучныя знакі, відавочна, паказвалі на мясціны кантактаў мясцовых жыхароў, абумоўленых каланізацыяй нежылых земляў. Высякаючы лясы з розных бакоў, мясцовыя жыхары прасоўваліся ўглыб, пакуль не сустракаліся адзін з адным. У Першым Літоўскім Статуце зафіксаваны такі выпадак: "а як сотнут ся топоры, тут будеть граница"[47]. Аднак у апісанні старых зямельных межаў такая дакладная маркіроўка штучна створанымі знакамі сустракаецца вельмі рэдка.

Апісаныя прыклады адлюстроўваюць паняцце межаў на архаічных тэрыторыях. Менавіта яны былі асновай эклектычна фармаванай тэрыторыі ВКЛ, дзе межы аддаленых ад палітычнага цэнтра тэрыторый уключалі ў сябе і асаблівае паняцце ранніх "дзяржаўных" межаў.

## Узнікненне дзяржаўных межаў ВКЛ у XIV ст.

Узнікненне абумоўленых міжнародным дамовамі межаў было вынікам доўгага працэсу, які залежаў ад інтэнсіўнасці і характару палітычных узаемаадносін суседніх краін. Войны і перамір'і прымушалі дзяржавы

[45] Codex diplomaticus Prussicus, hrsg. Voigt J. Bd. 3. Königsberg, 1848. Nr. 40. S. 62 (1343 г.).

[46] LUB. Bd. 3. Nr. 1326. S. 687 (1392 г.).

[47] PLS, 8 sk., 9 str. P. 226. Гл.: Čelkis T. Privačios žemėvaldos ribų nustatymas ir žymėjimas XV–XVI a. Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje // Istorijos šaltinių tyrimai. T. 3. Sud. Antanavičius D. Vilnius, 2011. P. 39–42.

дамаўляцца аб тэрыторыях[48]. Менавіта такім шляхам фармавалася палітычнае паняцце тэрыторыі краіны – тэрытарыялізацыя, што пасля зацвярджалася дэлімітацыйнымі працэсамі. Па словах Бярнарда Гуені, у працэсе фармавання тэрыторый дзяржаў рэструктуралізацыя была вельмі важная: так адбываўся "пераход" ад адвольна сфармаваных асобных зямельных межаў, што вылучалі тэрыторыю краіны, да паняцця "дзяржаўнай" мяжы, якая адлюстроўвала "інтэнсіўнасць" палітычнай улады манарха на тэрыторыі[49]. П'ер Тоўберт сцвярджае, што "новыя" дзяржаўныя межы неабходна было "матэрыялізаваць", г. зн. "памяняць" іх статус "мяжы прыватнай зямельнай уласнасці", юрыдычна абгрунтаваць міжнароднымі дамовамі, ствараючы такім чынам асобныя межы – "лініі"[50].

Вялікі літоўскі князь Гедымін у дагаворы пра мір і гандаль 1323 г. з лівонскай і эстонскай шляхтай, а таксама з рыжскімі гараджанамі асабліва падкрэсліў, што прыезджым дазваляецца "пресечь наши границы"[51] і свабодна падарожнічаць па тэрыторыі ў Ноўгарад і Пскоў. У дагаворы пра мір і гандаль 1338 г. паміж ВКЛ і Ордэнам вылучаны "мірны рубеж": "unde van der Ewestenmunde dvers over [de] Duna tho ener hostede, dese het Uspalde, unde van denne reghtte tho eme dorpe, dat het Stripayne <…> lande tho Lettowen: Balnike, Kedrayche, Nemensyane <…> Vortmer scal de vrede gan van der Eweste up wente an de ghe heten is de Pedene unde vort van der beke wente an den olden vrede"[52]. Гэтае апісанне можна лічыць часова ўзгодненай "мяжой" паміж дзяржавамі, своеасаблівым

48 Гл.: Teschke B. Geopolitical Relations in the European Middle Ages: History and Theory // International Organization. 1998. Vol. 52. Nr. 2. P. 344–346.

49 Guenée B. Des limites féodales aux frontières politiques, in: Les lieux de mémoire. II Le Nation. Red. Nora P. Paris, 1986. P. 11.

50 Toubert R. Frontière et Frontières: un objet historique, in: Castrum 4. Frontière et peuplement dans le monde méditerranéen au Moyen Âge. Ed. Poisson J. M. Rome – Madrid, 1992. P. 9.

51 Chartularium Lithuaniae res gestas magni ducis Gedeminne illustrans (далей Chartularium Lithuaniae res gestas). Gedimino laiškai. Parengė Rowell S. C. Vilnius, 2003. P. 59–60 (1323 г.).

52 Ibid. P. 258–259 (1338 г.).

вылучэннем тэрыторыі з пэўным юрыдычным статусам. “Мірны рубеж” у дагаворы вызначаецца як утварэнне, якое складаецца з больш дробных адзінак, абвешчана іх залежнасць, але не згадана ніякая іншая межавая лінія акрамя рэчышча ракі, што раздзяляе тэрыторыю.

У часы вялікіх князёў Альгерда і Кейстута было ажыццёўлена некалькі працэсаў вызначэння межаў з Мазовіяй і Нямецкім ордэнам. Вядома, што ў 1358 г. адбывалася ўзгадненне мяжы паміж ВКЛ і Мазовіяй[53]. Верагодней за ўсё, дэлімітацыю абумовілі працэсы ўзгаднення межаў паміж Ордэнам і Мазовіяй у XIV ст.[54], асабліва калі ўлічыць, што за тэрыторыі спаборнічалі Мазовія і ВКЛ[55]. Апісанне мяжы 1358 г. паказвае, што яна адпавядала прыродным аб’ектам: “Primo et principaliter Incipiendo in vulgari a Kamyonibrod directe ad Raygrod et a Raygrod directe eundo per fluuium Metha et a Metha directe per fluuium Bebrza et a Bebrza directe ad Torgouisko et Torgouisko directe eundo ad Vsczewelikey strugi et eundo per eundem fluuium vsque ad verticem rivuly seu flumini Maleysucholdi dicti et a vertice eiusdem Maleysucholdi deorsum eundo per ipsum fluuium directe vsque ad fluuium seu riwulum Sprząsla et eundo deorsum per eundem fluuium directe vsque ad popelowosedlisko et a popelowosedlisko directe ad newothinczavscze vbi finales gades seu limites Terrarum nostrarum et ipsius ducis Semouithi Mazouie concurrerunt cessauerunt et concluse”[56]. Аднак апісанне мае і некаторыя рысы, характэрныя для “лінейнай” мяжы. Названыя тапонімы паказваюць на каланізаваныя тэрыторыі, а для маркіроўкі выкарыстаны штучныя знакі – *gades*.

[53] У гістарыяграфіі няма адназначнай думкі наконт аўтэнтычнасці гэтага дагавора. Гл.: Nowy kodeks dyplomatyczny Mazowsza. Wyd. Sułkowska-Kuraś I., Kuraś S. Warszawa, 2000. Cz. 3. S. 30–32; Maroszek J. Pogranicze Litwy i Korony w planach króla Zygmunta Augusta. Białystok, 2000. S. 13–14, 26.

[54] Гл.: Kowalczyk E. Dzieje granicy. S. 157–216; Długokęcki W. Die Bildung der Grenze. S. 136–149.

[55] Гл.: Paszkiewicz H. Z dziejów Podlasia w XIV wieku // Kwartalnik Historyczny. Lwów, 1928. R. 42 (zesz. 2). S. 229–245.

[56] Kodeks dyplomatyczny księstwa Mazowieckiego. Nr. 80. S. 73 (1358 г.).

У 1367 г. вялікія князі літоўскія Альгерд і Кейстут заключылі мірны дагавор з Лівоніяй, у якім намечана ўтварэнне “мірнага рубяжа”: “Dunam ascendendo usque ad rivum Egelamen, et ulterius de hoc rivulo usque ad Videntske, ita, quod in his limitationibus pacis latrunculis tam de partibus nostri, quom de partibus Lethoviae non transibut”[57]. “Мірны рубеж”, апісаны ў дамове ў раздзеле земляў паміж Ордэнам і ВКЛ у 1379 г., – гэта, хутчэй за ўсё, фіксацыя першай міждзяржаўнай мяжы: “das unsir landt der Rusen, das an dem teil der Memil gelegin ist, kegin dem lande Prusen, also Wilkewitzk, Saras, Droyczen, Melnik, Belitzk, Brisk, Camentz und das landt Garten, fride haben sullen vor allen luten des landes zcu Prusen, vor herunge, vor strutern und vor allirhande lute, di en schaden tun mochten. Do wedir sullen haben fride in iren landen Ostirrode, das gebiet mit Ortolsburg und mit allem deme, das zcu dem gebite Ostirrode gehorit, und das landt, das zcu Allensteyne gehorit, und ouch di gebiet, di zcu Gunlauken und zcu Seburg <…> Und das landt Garten sal haben in der wiltnisse von dem selbin lande Garten also vil an der Memel an czu hebin eyne myle obinwennyg Perlam di Memel uf und gerichte czu gen sechs mile in di wiltnis kegin dem lande zcu Prusen und di Memel uf czu gen bis an di gefridten landt. Do si ruret Wilkawiczka das gebiet an allen enden des striches von der Memel sechs mile czu gen di gerichte uf kegin dem lande czu Prusen <…> Dis sint di dorfer der greniczen czwisschin Perlam und Garten”[58] (яны пазначаны. – *Т. Ч.*). На логіку падзелу тэрыторый мірнага рубяжа ўздзейнічала сфармаваная структура архаічных паселішчаў – яны падзелены як непадзельныя адзінкі. У апісанні пералічана шмат жылых тэрыторый і нават адлегласць на 6 міль – столькі ў “памежную” пусташ маглі прасунуцца жыхары, але штучныя знакі дэмаркацыі мяжы не згадваюцца. Даволі вялікай часткі рубяжа адпавядала прыродная мяжа – “укліненая” пусташ. Дэлімітацыйнае паняцце апошняй

[57] LUB. Bd. 2. Nr. 1041. S. 772 (1367 г.); Chartularium Lithuaniae res gestas. P. 302–303.
[58] Raczyński E. CDL. S. 54 (1379 г.).

саступае дакладнасці мяжы з дамовы 1382 г., у якой Ягайла падараваў Ордэну Жамойцкую зямлю да ракі Дубісы: "землі і ваколіцы, абжытыя і нежылыя, што знаходзяцца паміж землямі Ордэна і Дубісы, пачынаючы з сярэдзіны Дубісы ў тым месцы, дзе яна ўпадае ў Нёман, і прасоўваючыся да таго месца, адкуль з яго выцякае"[59]. Гэтая рака адпавядала "новай" мяжы паміж дзяржавамі.

У міжнародных дамовах ВКЛ XIV ст. асобным пунктам указваліся абстрактныя вехі першых межаў тэрыторыі краіны. Яны адлюстроўвалі тэрытарыяльны кампраміс паміж краінамі-суседкамі. У дамовах тэрыторыі звычайна дзялілі як адзінкі, а апісанні межаў на асобных адрэзках даволі абстрактныя, спецыяльныя знакі маркіроўкі межаў практычна не выкарыстаны. Такое паняцце мяжы адпавядае створанаму Ордэнам апісанню межаў архаічных земляў.

## Дэлімітацыйныя працэсы ВКЛ у часы княжання Вітаўта

Часы вялікага князя Вітаўта адзначаны ўзмацненнем палітычных узаемаадносінаў з Нямецкім ордэнам: вырашалася праблема валодання Жамойцю. У 1398 г. паміж Ордэнам і ВКЛ была падпісана Салінская дамова пра вечны мір, па якой тэрыторыя Жамойці да ракі Нявежыс перайшла ва ўласнасць Ордэна. У гэтай дамове зафіксавана "новая" мяжа паміж дзяржавамі, якая падзяліла "ўсю" тэрыторыю суседніх краін. Няма падставы меркаваць, што гэтая мяжа складалася суцэльна з межавых "адрэзкаў" адаптаваных племянных земляў. Такім чынам, апісанне гэтай мяжы было вынікам дзяржаўнай палітыкі. Можна зрабіць выснову, што ў канцы XIV ст. паняцце дэлімітацыі было да канца ўсвядомлена ў ВКЛ, а мэтанакіраванае стварэнне асобных "адрэзкаў" мяжы паказвае на ўмацаванне паняцця дзяржаўнай тэрыторыі ў гэтай частцы. Мяжа паміж ВКЛ і Лівоніяй праходзіла так: ад

[59] LUB. Bd. 3. Nr. 1185. S. 394 (1382 г.). Raczyński E. CDL. S. 58 (1382 г.).

Салінскага вострава па рацэ Нёман да ракі Нявежы (Нявежыс), далей уздоўж гэтай ракі да Вайсвільчай, потым да ракі Роды, далей да азёр Смердынь і Апашча (Apaščia), да дарогі Прэнгелі ў бок Ненямейча праз пусташ да вытокаў Аглуоны, проста пасярод пусташы да межаў з Псковам; адрэзак мяжы з Прусіяй: ад Салінскага возера да вытокаў ракі Шашупы (Шэшупе), далей да таго месца, дзе рака Нета выцякае з возера Нета, уздоўж гэтай ракі да ракі Бобр і па ёй да ракі Нараў[60]. Мяжы адпавядаў ланцуг рэк і азёр, якія ішлі праз пусташ; толькі ў адным месцы згадана дарога і камень у рацэ Родзе. У рэгістры дакументаў археографа Ігната Даніловіча ўказваецца, што ў 1398 г. вялікі магістр Ордэна звярнуўся да князя Вітаўта з пытаннем наконт устаноўкі знакаў на гэтай мяжы[61].

Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 г. ВКЛ імкнулася захаваць Жамойць у сферы свайго ўплыву (у час перамоваў яна фактычна і належала ВКЛ). Гэта пацвярджае скарга вялікага магістра князю Вітаўту ў лісце 1416 г., дзе гаворыцца, што жыхары памежных тэрыторый з боку ВКЛ руйнуюць землі жыхароў Ордэна[62]. Відавочна, што некаторы час дзейнічалі старыя межы, якія адпавядалі межам тэрыторыі краіны. Аднак палітычныя межы ВКЛ фармавалі праведзеныя перамовы. У праекце будучай мяжы паміж ВКЛ і Ордэнам згадана вымярэнне мілямі, намечаны адрэзак працягласцю 2 мілі ад правага берага ракі Нёман, які перайшоў Ордэну[63]. Актуальнасць пытання даказвае і агавораная ў карэспандэнцыі Ордэна і князя Вітаўта ў 1425 г. праблема ўраўнення адзінак вымярэння адлегласці "вяроўкамі": Вітаўт скардзіцца, што ў "казначея мера на пол локтя длиннее"[64]. Патрабавалася падзяліць жыхароў памежнай зоны як мага

[60] LUB, hrsg. von Bunge G. F. Bd. 4. Reval, 1859. Nr. 1479. S. 224–225 (1398 г.).

[61] Skarbiec diplomatów. T. 1. Ed. Daniłowicz I. Wilno, 1860. Nr. 697. S. 316.

[62] CEV. Nr. 712. S. 374–375 (1416 г.).

[63] CEV. Nr. 898. S. 494–495 (1420 г.).

[64] CEV. Nr. 1204. S. 708 (1425 г.): "mose des trezelers bei einer halben elen lenger"; Nr. 1206. S. 709 (1425 г.).

больш дакладна. Палітычныя інтарэсы стваралі паняцце "адміністрацыі" тэрыторыі краіны. Меркаваныя вехі геаграфічных аб'ектаў ужо не адпавядалі ўзрослым патрабаванням, нават самыя маленькія тэрытарыяльныя адзінкі набылі сваё значэнне. Гэтыя працэсы выражалі інтэнсіўныя ўзаемаадносіны ўлады з тэрыторыяй.

Доўгія перамовы з Ордэнам завяршыліся Мельнскім мірам у 1422 г. ВКЛ атрымала Жамойць і была зацверджана мяжа з Прусіяй: ад Мазовіі, так званага Каменнага броду на рацэ Ліке, да азёр Граева і Тачылава, праз пусташ да возера Райгруд, праз пусташ да Прэйвесцкай мясцовасці і Меруніпак у бок Віштынецкага возера, якое перайшло да Ордэна, далей да вытоку ракі Ліпаўкі (Лепоны), уздоўж па ёй да зліцця з Шырвінтай, далей да зліцця апошняй з Шашупай, праз пусташ да месца зліцця рэк Нёмана і Святой (Свенты, Швянтоі), уздоўж яе 2 мілі, потым праз пусташ да ракі Юры, далей з адлегласцю на 2 мілі ад Нёмана, 1 міля ўздоўж ракі Юра, праз пусташ да заліву і ўздоўж мяжы Клайпедскага комтурства да Балтыйскага мора[65]. ВКЛ межы з Лівоніяй успрымала асобна ад межаў з Прусіяй, у склад якой трапілі зацверджаныя дзяржаўнай мяжой адрэзкі "старых" земляў ("ad antiquos limites inter Samogitiam, Lituaniam, Russiam, ab una, et Livoniam ab altera partibus tentos et servatos, non tamen ad illos limites, qui antiquitus inter terras praedictas sunt servati")[66]. У 1422 г. гэтай мяжы адпавядаў "ланцуг" геаграфічных аб'ектаў, а на некаторых адрэзках яна была вымерана мілямі. Аднак акцэнтам дэлімітацыі было тое, што гэтая мяжа стала вынікам палітычных працэсаў, якія адбываліся паміж дзяржавамі. Зацвердзіць адрэзак старых земляў як мяжу для абедзвюх краін было нялёгка, для гэтага патрабаваліся палітычныя аргументы. Зацверджаныя межы дзяржавы не раз папраўляліся, удакладняліся і адзначаліся з-за ўзмацнення ўнутранай каланізацыі дзяржавы, якая дасягала іх і "пасоўвала".

[65] LUB, hrsg. von Bunge G. F. Bd. 5. Riga, 1867. Nr. 2637. S. 880–881 (1422 г.).
[66] Ibid. S. 881 (1422 г.).

У 1424 г. была ўдакладнена мяжа паміж ВКЛ і Прусіяй каля Клайпеды, яна вымерана мілямі[67]. З карэспандэнцыі гданьскага комтура з вялікім магістрам Ордэна ў 1425 г. відаць, што мяжу паміж ВКЛ і Прусіяй на адрэзку ад Раманвердэра і Шашупы і ад Істэрбурга ў бок Коўна планавалася памеціць знакамі[68]. Вядомы некалькі дакументаў 1426 г., у якіх зафіксаваны толькі вопісы адрэзкаў межаў ВКЛ і Лівоніі ад Святой (Свенты, Швянтоі) да Янішак (Ёнішкіса)[69]. Межы вылучаюцца дакладнасцю ўсталявання штучных знакаў: "пазначанае крыжам дрэва <…> ад таго дрэва ўздоўж рэчкі званай Vilce, дзе таксама стаялі дрэвы з крыжамі, ад тых дрэў ідучы ўверх да месца, званага Schodderschode; <…> дзе калісьці стаяў камень з крыжам, ад таго каменя палова мілі [наперад][70]; ад гары Suddoberschenn направа, дзе стаіць пазначаны дуб, ад яго направа ўздоўж рэчкі да другога дрэва, на якім стары знак крыж, ад яго, значна прайшоўшы, вёска Wallesz, якая знаходзіцца на нямецкім баку"[71]. Вельмі дакладнае апісанне межавых знакаў, указанне назваў прыгранічных паселішчаў, пералік дарог[72], вымярэнне мяжы – усё гэта паказвае на пашырэнне ўнутранай каланізацыі: каля мяжы з'явіліся каланізаваныя прыгранічныя зоны. Такім чынам, на некаторых адрэзках праявілася мяжа-"лінія". Узнікненне пытанняў аб пагадненні межаў было праявай стабілізацыі тэрыторыі ВКЛ, кропкай апоры якой сталі межы ВКЛ і Ордэна

[67] CEV. Nr. 1150. S. 643 (1424 г.). У больш раннім лісце таго ж года Вітаўт піша пра ўзгадненне і вымярэнне межаў паміж ВКЛ і Прусіяй, гл. ibid. Nr. 1139. S. 632 (1424 г.). У лісце Вітаўта Вялікаму магістру ад 8 траўня 1424 г. гаворыцца пра папраўку і вымярэнне мяжы з Жамойцю каля Нёмана, гл.: Skarbiec diplomatów. T. 2 (далей Skarbiec diplomatów. T. 2). Ed. Daniłowicz I. Wilno, 1862. Nr.1395. S. 86.

[68] CEV. Nr. 1207. S. 711 (1425 г.).

[69] LUB. Bd. 7. Nr. 472–473. S. 326–327 (1426 г.).

[70] Ibid. Nr. 472. S. 326 (1426 г.).

[71] Ibid. Nr. 473. S. 327 (1426 г.).

[72] Ibid. Nr. 472–473. S. 326–327: "eine mile weges baven dem berge Rottow; dorch dat velt dem weghe recht uth to vogende langes".

часоў князя Вітаўта[73]. У мірнай дамове 1431 г. паміж князем Свідрыгайлам і Ордэнам было адзначана, што межы з Ордэнам часоў князя Вітаўта павінны быць захаваны навечна[74]. У 1435 г. Ягайла заключыў з Ордэнам Брэсцкі мірны дагавор, у якім яшчэ раз пацвердзіў межы, вызначаныя Мельнскім мірам[75]. Для далейшага развіцця канцэпцыі межаў ВКЛ гэты працэс меў вялікае значэнне, бо ў дэлімітацыйных дакументах XVI ст. з'явіліся такія катэгорыі, як "старыя памежныя зоны, прыгранічныя зоны часоў Вітаўта"[76]. Дзяржаўныя межы Вітаўта набылі адценне "старасці", іх успрымалі інакш, чым "новыя" межы – "лініі". У дакуменце 1445 г. аб узгадненні мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй менавіта лівонскі бок патрабаваў захавання "межаў часоў Вітаўта", бо з літоўскага боку былі спробы prасунуць мяжу на сваю карысць[77].

Усталяваныя ў часы Вітаўта межы з Нямецкім ордэнам адмежавалі частку тэрыторыі ВКЛ і зацвердзілі яе палітычны статус. З часам гэтыя межы сталі кропкай апоры ва ўсіх наступных міжнародных пагадненнях і дэлімітацыйных дагаворах.

73 Гл.: Čelkis T. Nuo teritorinio ruožo prie linijos: sienų sampratos pokyčiai Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje XIV–XVI amžiuje // Lietuvos istorijos studijos. T. 22. 2008. P. 69–71.

74 LUB. Bd. 8. Nr. 462. S. 273 (1431 г.): "Sunderlich so wellen wir och, das di grenitczen, di czwuschen den Lytawschen, Rewschen unde Samaytischen landen den Prewschen unde Leyflandischen landen, die bei dem alden irluchten fursten und herren, hern Allexandro, andirs Wytawdus, grosfurste zcu Lytawen etc., dem Got gnode, sein gemacht, geschut unde beczechent, durch [uns] unde unser nochkomelinge sullen gehalden werden czu ewigen czeiten".

75 LUB. Bd. 8. Nr. 1026. S. 636 (1435 г.).

76 Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, l. 5 (1542 г.): "а мы вси по тымъ границы за дедовъ и отцовъ нашыми сами вечно держали… от Двины речки аж до границъ Псковских до речки Рубанинь по границу великого князя Витовтову а по Витовтов по границу Радивилову".

77 Гл.: LUB, hrsg. von Bunge G. F. Bd. 10. Riga – Moskau, 1896. Nr. 170–171. S. 108–116 (1445 г.); LUB (Zweite Abteilung), hrsg. Arbusow L. Bd. 3. Riga – Moskau, 1914. Nr. 714. S. 512 (1509 г.): "uns vos unsers ordens landen zu drigne, besunder hercog Witoldus grenitcz nach inhalt des ewigen frides zu vortedingen gemant seyn".

## Дэлімітацыі заходніх межаў у другой палове XV ст.

У другой палове XV ст. ВКЛ і Ордэн працягвалі папраўляць і абнаўляць межы. На тых адрэзках, дзе межы толькі разумеліся або ім адпавядалі ўкліненыя пусташы, з-за распаўсюджвання ўнутранай каланізацыі былі дэлімітаваны “новыя” межы. У лісце нёманскага комтура магістру Ордэна ў 1451 г. указана, што адбылася праверка межаў з ВКЛ: “Ouch als euwir gnade begerende ist von der grenitczen czwisschen Littowen und dissem lande, also hebe ich semlich grenitcz lassn besehen und vorneme, das die leytszleuthe usz Littowen gereitt uff der grenitcz gewest seyn und haben sie besehen, sunder sie haben nicht neuwes geschelmet addir geczeichnet aldo <...> von der Serewintha an bis uff die Memellishe grenitcze und vordan ging der kompthur von de Memell <...> mit en bis an die see. <...> Do vurte wir sie uff die rechte grenitcze widder und weyszten en aldo herczoges Witoldis czeichen und unseres Ordens czeichen in alden eychen und andern bomen”[78]. Удакладненне мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй выклікала вялікія дыскусіі[79]. Сур’ёзныя рознагалоссі часта ўзнікалі паміж жыхарамі прыгранічных тэрыторый краін-суседак. У лісце 1446 г. вялікі магістр Ордэна дакараў вялікага князя літоўскага ў тым, што пачасціліся напады на жыхароў Лівоніі ў памежнай зоне[80]. Вядома, што 22 чэрвеня 1451 г. уладар ВКЛ надаў паўнамоцтвы полацкаму старасту Андрэю Саковічу наглядаць за працэсам размежавання тэрыторый ВКЛ і Лівоніі[81].

[78] Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz: Ordensbriefarchiv OBA 10789 (1451 г.), за выпіскі з гэтага архіва ўдзячны прафесару Рымвідасу Пятраўскасу.

[79] Гл.: Čelkis T., Antanavičius D. 1545 metų Livonijos ir Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės sienos patikrinimas (Livonijos pareigūnų ataskaita) // Lietuvos istorijos studijos. T. 27. 2011. P. 164–168.

[80] Skarbiec diplomatów. T. 2. Nr. 1814. S. 181 (1446 г.).

[81] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 1 (1380–1584). Užrašymų knyga 1. Parengė Baliulis A., Firkovičius R. Vilnius, 1998. Nr. 13. P. 25 (1451 г.).

У 1473 г. ВКЛ і Лівонія падпісалі першы чыста дэлімітацыйны дагавор у Куркуме[82]. У апісанні мяжы няма згадак пра “старыя знакі” – сляды папярэдніх дэлімітацый: у гэтым адметнасць названай дамовы. Мяжа распасціралася ад забалочанага возера Куркуме праз пусташ, перыядычна адрэзкі мяжы пазначаліся насыпамі-капцамі, да ракі Мемель, потым да месца зліцця з ракой Муса, праз акругу Баўскага замка па рацэ Мусе праз гару Камодры да Вешвіле (Weyschwiski), уздоўж ракі Святой (Свенты, Швянтоі) да мора. У апісанні пералічаны памежныя паселішчы, дарогі, штучныя знакі дэмаркацыі: зямельныя насыпы-капцы, выразаныя і выбітыя знакі, недалёка ад Баўскага замка выкапаны роў, праз які пракладзены масток[83], вымярэнні адлегласці: “descendendo usque ad unum milliarem directe, ita quod cirka castrum Bawsko in duobus milliaribus remaneat”[84]. Усё гэта было зроблена для таго, “quia tamen difficilis erat nobis aut nostris mittendum transitum”[85]. Пры зацвярджэнні мяжы з боку Літвы ўдзельнічаў Радзівіл Осцікавіч, таму з часам яна атрымала яго імя: “мяжа Радзівіла, старая мяжа Радзівіла”[86]. Зацвярджэнне гэтай мяжы пацвярджае факт,

[82] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 5. Nr. 125. P. 235–238 (1473 г.). Пергамент захоўваецца: Lietuvos Mokslų Akademijos Vrublevskių Biblioteka, Rankraščių skyrius. Ф. 6, спр. 49. Пра гэты дагавор гл.: Wojtkowiak Z. Północna granica Litwy w średniowieczu. “Limites Inter Litvaniam et Livonia” z 1473 r. // Poznań – Wilnu. Studia historyków w roku tysiąclecia Państwa Litewskiego. Ed. Wojtkowiak Z. Poznań, 2010. S. 213–270.

[83] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 5. Nr. 125. P. 236 (1473 г.): “In primis in loco supradicto Curgun et stagno sive lacu eodem nomine nuncupato fecimus unum colliculum alias kopiec et fossatam ubi est vallis quae apparet, quasi, quidem alveus fluvialis, ubi cunstitutus est quidam ponticulum parvus per eandem vallem, et circa vallem transeundo deorsum fecimus alios colliculos, alias kopce, usque ad sylvam proxime contiguam, eodem lico Curguny in medio fecimus quaedam signa in quercubus et aliis arboribus”.

[84] Ibid.

[85] Ibid.

[86] Напр.: Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Litvaniae . Ed. Dogiel M. T. 5. Vilnae, 1759. Nr. 127. P. 215–219. Nr. 128. P. 219–221 (1557 г.); Latvijas Valsts Vēstures Archīvs

што яшчэ існавалі няўзгодненыя на міждзяржаўным узроўні тэрытарыяльныя вехі. Аднак нават пасля зацвярджэння межаў дагаворамі яны заставаліся рухомымі. Як паказваюць прыклады, у канцы XV ст. паскорыліся працэсы ўнутранай каланізацыі краіны і на некаторых адрэзках жыхары прасоўваліся ў нежылыя пусташы да таго часу, пакуль не здараўся канфлікт або парушэнне межаў. Па словах гісторыка Зянона Івінскіса, з 1481 г. адбывалася шырокамаштабная перапіска з магістрам Ордэна з-за пастаяннага парушэння межаў жамойтамі, а ў 1489 г. межы былі папраўлены[87].

Устаноўленыя ў другой палове XV ст. князем Вітаўтам межы працягвалі ўдакладняцца і папраўляцца. Гэта было абумоўлена ўнутранай каланізацыяй, якая пашыралася ў бок мяжы, месцамі фармаваліся каланізаваныя "памежныя" палосы. Менавіта таму для абазначэння межаў усё часцей выкарыстоўваліся штучныя знакі, якімі трэба было дакладна падзяліць тэрыторыі жыхароў памежнай зоны.

## "Усталяваная лінія": заходнія межы ВКЛ у XVI ст.

У першай палове XVI ст. заўважана новая хваля дэлімітацыйных працэсаў, якая грунтоўна зацвердзіла фармаванне заходніх межаў ВКЛ. У асноўным гэта былі працэсы абнаўлення і зацвярджэння межаў. Абноўленая маркіроўка межаў паміж ВКЛ і Прусіяй[88] у 1529 г. часткова нагадвала дэлімітацыю 1422 г.: мяжы адпавядалі "ланцугі" геаграфічных аб'ектаў. Імкнучыся да больш яснай дэлімітацыі, асабліва побач з населенай акругай Клайпедскага замка, мяжу вымяралі мілямі[89]. Тую ж самую мяжу краіны паўторна зацвердзілі ў 1532, дзе яна ўжо

(далей LVVA). Ф. 554, воп. 3, спр. 20, арк. 16–19.

87 Ivinskis Z. Kovos bruožai dėl Žemaičių ir jų sienų // Athenaeum. Kaunas. 1936. T. 6. P. 112.

88 Dogiel M. Limites. P. 206 (1529 г.): "visum est principio renovare, & servare pro veteri observatione Limites & Terminos intrascriptos".

89 Ibid. P. 206–207.

называлася “граніцай”[90]. У гэтым акце часта згадваюцца памежныя паселішчы (“А отъ Кголубовъ до села до Миколайква, тое село маете прійти на полы, а отъ Миколайква до Высокого”[91]), межы якіх у некаторых месцах вымераны і зацверджаны як дзяржаўная мяжа[92]. Стварэнне спецыяльных абмежавальных знакаў не зафіксавана, мяркуецца, што для гэтых мэтаў былі прыстасаваны знакі прыватных уладанняў.

Па тых жа прынцыпах падрыхтавана акцыя ўзгаднення межаў паміж ВКЛ і Польшчай у XVI ст. Пад час працэсу ўнутранай каланізацыі мела месца і нелегальная каланізацыя пусташаў, што належалі каралю, як напрыклад, у Падляшшы. Адну такую каланізацыю ажыццявіў Ян Радзівіл[93]. З гэтай прычыны ў 1536 г. адбыўся канфлікт з каралеўскай сям’ёй з-за прыроднага раздзяляльнага знака паміж ВКЛ і Польшчай – Бельскай пусташы. Для вырашэння канфлікту патрабавалася дакладна вызначыць мяжу[94]. Пры яе лакалізацыі абапіраліся на мяжу часоў князя Вітаўта і ідэнтыфікацыю паляўнічых угоддзяў гаспадароў ВКЛ[95]. З апісання мяжы відаць, што спецыяльныя раздзяляльныя знакі ў пусташы не ствараліся, абмяжоўваліся толькі пералікам геаграфічных аб’ектаў[96]. Аднак у жылых памежных зонах было праведзена вымярэнне: “отъ Кмитовки отъ Шпакова две мили, отъ Левонева млына и отъ Богушова три мили,

90 МВКЛ (1545–1572). Книга посольская. № 15b. С. 17 (1532 г.).
91 Ibid. С. 18.
92 Ibid. С. 17: “отъ замъку Лецкого лежить треть мили, а отъ Страдунь две части мили”.
93 Jakubowski J. Przykład zmienności granic administracyjnych na Litwie w w. XVI // Ateneum Wileński. T. 10. Wilna, 1935. S. 161–164.
94 Ibid. S. 164.
95 Археографический сборник документов. Т. 1. № 17. С. 15 (1536 г.): “Вказали тежъ и поведили мне осочники: въ реки Супряслы, где Соколдка въ Супрясло впадала, ижъ на томъ местцы, за Витолта и за Жикгимонта а за Казимира и за Александра короля, околы бывали господарскіи”.
96 Ibid. № 18. С. 19–22.

отъ Быстрого ставу, отъ Нерешли пять миль"[97]. Пры праверцы межаў паміж ВКЛ і Лівоніяй у 1542 г. адказныя службовыя асобы – "камісары" – абапіраліся на паказанні старых жыхароў і землеўладальнікаў з прыгранічнай зоны: "так тые люди Псковскии поведили перед нами иж томъ местцу панъ Радивил хлеба ель как тую границу чиниль"[98]. Зацікаўлены ў гэтым былі і самі жыхары, якія нават самастойна правялі вымярэнні на розных адрэзках мяжы[99]. У паказаннях жыхароў часта згадваецца мяжа часоў князя Вітаўта: "а мы вси по тымъ границы за дедовъ и отцовъ нашыми сами вечно держали <…> от Двины речки аж до границъ Псковских до речки Рубанинь по границу великого князя Витовтову а по Витовте по границу Радивилову"[100]. Такім чынам дэманстравалася, што мяжа, каля якой яны жывуць, была ўсталявана кіраўніком, а не з'явілася з дапамогай нелегальнай каланізацыі, у час прасоўвання ўглыб земляў іншай дзяржавы. Існаванне такіх нелегальных межаў засведчылі скаргі жыхароў: "какь долго и шыроко немецы забрали земли"[101]; "зверь ловили и рыбу ловили"[102]. У 1543 г. герцаг прускі пісаў сімнскаму старасту, што атрымаў ад службовай асобы з Інстэрбурга вестку аб прасоўванні жыхароў Сімнскага староства ўглыб прускіх земляў. Жыхары "прасоўвалі" дзяржаўную мяжу, якая праходзіла праз лясістую мясцовасць, праклалі праз яе дарогу і нават пабудавалі мост цераз раку, а межавыя знакі сапсавалі: "praeterea procerissimam arborem apud Matlaucken, in qua signum limitum ascriptum fuit, deiicere"[103]. У лісце патрабавалася неадкладна вырашыць гэтую праблему.

Жыхары прыгранічных тэрыторый былі зацікаўлены, каб не панесці страт у працэсе дэлімітацыі. Гэта было

97 Ibid. № 18. С. 22.
98 Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, l. 4 (1542 г.).
99 Ibid.
100 Ibid. l. 5.
101 Ibid. l. 1.
102 Ibid. l. 4.
103 Elementa ad fontium editiones. T. 60 (28). Ed. Lanckorońska C. Romae, 1984. Nr. 2274. P. 48–49 (1543 г.).

вельмі актуальна, бо пад час устанаўлення мяжы паміж ВКЛ і Польшчай у 1546 г. амаль усёй "лініі" адпавядалі прыватныя ўладанні сялян і землеўладальнікаў[104]. Аднак частку дзяржаўных тэрыторый падзялялі "ўкліненыя" натуральныя межы, напрыклад балоты: "И надъ тымъ же балотамъ окозали намъ копецъ, и менуючи, яко бы тотъ копецъ мелъ быти граничный"[105]. Бывалі выпадкі, што пры дэлімітацыі прыгранічныя тэрыторыі свядома каланізаваліся. Так здарылася ў 1542 г. пры праверцы мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй ("на пущах асожоных")[106]. З дапамогай такіх дзеянняў загадзя перасякаліся спробы нелегальнага парушэння межаў і ўзнікнення канфліктаў паміж жыхарамі.

З гэтых прычын пад час працэсу фармавання межаў лінейнага тыпу змяняўся і працэс іх маркіроўкі. Калі раней у дэлімітацыйных актах і апісаннях межаў асноўнымі знакамі былі геаграфічныя аб'екты, штучна створаныя зямельныя насыпы, знакі на камянях і дрэвах, часам заставы ці равы, то ў XVI ст. павялічылася выкарыстанне штучных знакаў, а ідэальным межавым знакам рабілася населеная тэрыторыя. Пры абнаўленні межаў паміж ВКЛ і Лівоніяй у 1541 г. зарэгістраваны знакі: "Sextus decimus scopulus positus est in merica quadam. Decimum octavum posuimus circa rubum"[107]; "ad ponticulum, qui est in via, qua vadunt ad Nobile Strumborg"[108]. Апісаны і асаблівасці навакольнай мясцовасці: "Septimus posuimus similiter in prato ad quercum combustam, ubi iussimus fieri foveam carbonibus, & lapidibus repletam; <...> posuimus ad truncum quercinum; <...> scopulum fecimus fieri inter

[104] Археографический сборник документов. Т. 1. № 31. С. 49 (1546 г.): "тогды врадникъ Воинскій, ставшы на Городищу, поведилъ, ижъ то есть на той стороне речки поветъ Луковскій, а тое Городище кгрунтъ естъ великого князства Воинскій, и поля тые, которые суть все Воинское".

[105] Ibid. С. 51.

[106] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, l. 1 (1542 г.).

[107] Dogiel M. Limites. P. 213 (1541 г.).

[108] Ibid. P. 214.

duas quercus"[109]. З XVI ст. знакамі маркіруюцца не лясныя дрэвы, а спецыяльна пастаўленыя слупы ("collem posuimus")[110]. Часта не абмяжоўваліся адным знакам: "три копцы насыпаны, одна немецкая, а другая псковская, а третия полоцкая"[111]; "три сосны насыпаны, одна немецкая, а другая псковская, а третия полоцкая"[112]. За захаванасць дзяржаўных межаў адказваў цэлы шэраг сацыяльных груп[113], а ў іх стабільнасці былі зацікаўлены самі жыхары памежных тэрыторый. Пры абнаўленні мяжы паміж Літвой і Прусіяй у 1545 г.[114] спрэчную тэрыторыю вымяралі вяроўкамі ("*funiculus*"), таксама як і пры дэлімітацыі мяжы ВКЛ і Польшчы ў 1546 г.[115].

Дэлімітацыі XVI ст. ужо не абмяжоўваліся знакамі Вітаўта на дрэвах, як у дакументах сярэдзіны XV ст., ім патрабаваліся больш складаныя знакі. У 1529 г. была абноўлена мяжа паміж Лівоніяй і ВКЛ: "od Włości Bracławskiey począwszy od Dźwiny rzeki, od Kamienia, ktory leży w Dźwinie rzece z napisem Ruskim, a wyrobiony iest na kształt kobyły"[116] – выдзеўбаны надпісы са слоў. Увагі заслугоўвае і справаздача лівонскіх службовых асоб аб праверцы мяжы з ВКЛ у 1545 г., вопіс якой змяшчае мноства цікавых межавых знакаў. Часта згадваюцца камяні, пазначаныя крыжамі: "ad lapidem in quo alim crucis signum fuit; ad

[109] Ibid. P. 212–213.
[110] Ibid. P. 217.
[111] Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 560, l. 4 (1542 г.).
[112] Ibid. l. 18.
[113] Ibid. l. 2–3: "земли пановъ Смоленских и у границы; до старины князя Масалцки полъ пары милъ". Археографический сборник документов. Т. 1. № 31. С. 47 (1546 г.): "ставили шесть светковъ, шляхтичовъ, людей старыхъ".
[114] МВКЛ (1545–1572). Книга посольская. № 8. С. 7 (1545 г.). Ibid. № 7. С. 6–7; 8. С. 7–8; 9. С. 8–9; 10. С. 9–11; 12. С. 12–13; 13. С. 13–14; 14. С. 14–16; 15b. С. 16–17. Таксама гл.: Ilarienė I. Varia Livonica: Lietuvos Metrikos Viešųjų reikalų knygos Nr. 3 (525) sandaros ypatumai // Lituanistica. 2008. T. 54. Nr. 4 (76). P. 1–16.
[115] Археографический сборник документов. Т. 1. № 31. С. 54 (1546 г.): "промежку коруны и великого князства у тыхъ местцахъ инде на полмили, а инде на милю, а инде на версту".
[116] Dogiel M. Limites. P. 220 (1529 г.).

lapidem in medio fluvio positum Rowde vocatum"[117]. Цікавы і перамаляваны пісарам знак – "ad talem signaturtam ⚲"[118]. Іншы знак – каменны пастамент з крыжамі – быў усталяваны на востраве Strelzen на возеры Дрысвяты: "ad lacum Druxten, per lacum ad parvam insultam in eodem lacu sitam Strelzen nuncupatam, in cujus crepidine positum est magnum Saxum in quo crucis signum"[119]. Пісар указаў яшчэ адзін знак – калона з падвойнымі перакладзінамі (гл. мал. 1[120], мал. 2[121]).

Знак гэты высечаны з вялікага каменя ля ракі Пергац (Pergatz), прытоку ракі Даўгавы: "Longitudo hujus X saxo incisae est quinq palmorum linae transversa superiori duos havet palmos non ita magnos interior intidem duos palmos cum longitudine media unius digiti"[122]. Іншыя знакі, якія згадваюцца даволі часта – розныя пагоркі ці нават іх комплексы: "directe ad montem Lincowe cui templum est inaedificatum et sujacet oppidum idem noment a monte Soiritum <…> ad alium montem Krollkalne qui a priore per quadrantem miliaris dictas <…> ad tertium montem Pillaten nuncupatum"[123]. Можна думаць, што гэта рэшткі структуры архаічнага паселішча.

У дакуменце 1545 г. згаданы і сімвалічныя знакі дзяржаў – Пагоня ВКЛ і лівонскія крыжы: "ad lapidem Kabulakmen vokatum. Huic olim in sculptum fuit **equus quod set signum Lithuaniae** (вылучана намі. – *Т. Ч.*) et duo cruces Livoniae", якія пашкодзіў баярын Мікалай Квалькун (Nicolaus Kwalchuen) і вясковы жыхар Вайткус Пунсіла (Woitkusch Punsila)[124]. У 1545 г. знак мяжы з Прусіяй быў:

[117] LVVA. Ф. 554, воп. 3, спр. 20, арк. 3, 6.
[118] Ibid. l. 3.
[119] Ibid.
[120] LVVA. Ф. 554, воп. 3, спр. 20, арк. 4; копія дакумента ад 27 ліпеня 1545 г. зроблена ў XVIII ст.
[121] Дакумент з ідэнтычным вопісам мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй 1545 г. і з падобным памежным знакам гл.: Lietuvos Valstybės Istorijos Archyvas. Ф. 1276, воп. 1, спр. 1601, арк. 1–2 (копія XVIII ст.). За спасылку ўдзячны дац. др. Эдмунду Рымшу.
[122] LVVA. Ф. 554, воп. 3, спр. 20, арк. 4.
[123] Ibid.
[124] LVVA. Ф. 554, воп. 3, спр. 20, арк. 3.



**Мал. 1.**
Памежны знак паміж ВКЛ і Лівоніяй у 1545 г.



**Мал. 2.**
Памежны знак паміж ВКЛ і Лівоніяй у 1545 г.

"columnam de muro lateritio esse erectam et positam, inter scopulum terreum, ac flumen ipsum Lek, in ipsaque calumna, infixa sunt arma versus meridiem sculpta in lapide magni ducatus Lithuaniae, equus album cum sessore armato, a parte dextra; a sinistra vero aquilla nigra cum corona inaurata in collo, in pectore literam S sculptam habens"[125] і надпісы са слоў[126]. Усе гэтыя знакі канчаткова вылучылі мяжу дзяржавы з агульнай сістэмы маркіроўкі тэрыторыі (прыватных межаў), увялі паняцце знака дзяржаўнай мяжы. Аднак працэсы ўзгаднення і абнаўлення межаў працягваліся і пазней[127]. Пасля правядзення ў 1564–1566 г. адміністрацыйна-прававой рэформы ВКЛ уся тэрыторыя краіны была падзелена

[125] МВКЛ (1545–1572). Книга посольская. № 10. С. 10 (1545 г.).

[126] Ibid. C. 11: "Columna limitum. Carmina haec exsculpta sunt in lapide sub armis. / Quando Sigismundus patrijs Avgustvs in oris / Primus et Albertus Machio iura dabant / Ille Jagielonis vaeteresque binomini vrbes. / Hicque Borussorum pace regebat opes / Haec errecta fuit moles, quae limite fines / Signat et amborum seperat arua ducum. / Anno Domini MDXLV, mense Augusto".

[127] Напр., акт абнаўлення межаў паміж ВКЛ і Курляндскім стараствам 14 красавіка 1584 г.: Wojtkowiak Z. Delimitacija Litewsko-Kurlandzka z 1584 roku // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3. S. 270–276.

на ваяводствы і паветы[128]. Межы новых адміністрацыйных адзінак супадалі з дзяржаўнымі межамі. Так з’явілася дадатковая магчымасць кантролю дзяржаўных межаў, бо ў абавязкі дзяржаўных службоўцаў уваходзіў і нагляд за межамі службовай тэрытарыяльнай адзінкі.

## Высновы

1. Дэлімітацыйныя тэрміны ў старых мовах шматзначныя і перадаюць паняцці мяжы як аб’екта і як знака; ужыванне тэрмінаў у множным ліку, абумоўленае іх шматзначнасцю, адлюстроўвае дзяржаўную мяжу як цэласнасць асобных частак.

2. Нямецкі ордэн, які з’явіўся ў XIII ст. на тэрыторыі Прыбалтыкі, заняўся стварэннем структуры сваёй дзяржавы і аховай сваіх межаў. Для гэтых мэтаў рыхтаваліся апісанні межаў асобных земляў, якія часта супадалі са “старымі” межамі архаічных земляў. Тэрыторыі падзяляліся буйнымі геаграфічнымі аб’ектамі – ляснымі масівамі, балотамі, рознымі вадаёмамі. Штучна створаныя знакі згадваюцца рэдка, толькі ў месцах кантактаў жыхароў. Імаверна, што межы тэрыторыі ВКЛ у XIII–XIV ст. развіваліся аналагічна (кангламерат архаічных земляў).

3. З’яўленне ў XIV ст. межаў ВКЛ, зацверджаных міжнароднымі дамовамі, было вынікам доўгага працэсу. Фармавалася паняцце тэрыторыі палітычнай дзяржавы, зацверджанай дэлімітацыйнымі працэсамі. Дагавор аб міры і гандлі паміж ВКЛ і Ордэнам (Лівоніяй) 1338 г. вылучыў “мірны рубеж”, які па сутнасці быў часовай мяжой паміж дзвюма краінамі. У 1358 г. адбывалася ўзгадненне межаў паміж ВКЛ і Мазовіяй, якія выражалі вехі геаграфічных аб’ектаў і штучныя знакі – *gades*. У дагаворы паміж ВКЛ і Ордэнам 1379 г. апісаны “мірны рубеж”, тэрыторыі падзелены па структуры паселішчаў, якая склалася раней. Такая “дэлімітацыя” наўрад ці магла адпавядаць “мяжы” з

[128] Литовская Метрика. Т. 1, 7-я книга публичныхъ делъ. Русская историческая библиотека. Т. 30. Юрьевъ, 1914. № 118. С. 882–895.

дамовы Дубісы 1382 г., калі кіраўнік Ягайла падарыў Ордэну Жамойць да ракі Дубісы, якая стала новай мяжой.

4. "Новая" мяжа, зафіксаваная ў Салінскай дамове паміж ВКЛ і Ордэнам у 1398 г., была вынікам міждзяржаўнай палітыкі. З'яўленне мяжы-"лініі" сведчыла аб сцвярджэнні паняцця тэрыторыі ВКЛ і аб узаемаадносінах яе з уладай. У праекце аб межах паміж ВКЛ і Ордэнам у 1420 г. згадана вымярэнне межаў мілямі, бо вялікае значэнне набылі і малыя тэрытарыяльныя адзінкі. Палітычныя інтарэсы стваралі высокадакладнае паняцце "адміністрацыі" дзяржаўнай тэрыторыі. Па вечнай мірнай дамове Мельна 1422 г. Жамойць перайшла ў валоданне ВКЛ, былі ўсталяваны і межы з Ордэнам. У 1426 г. узгадняўся адрэзак межаў паміж ВКЛ і Лівоніяй, у маркіроўцы якога заўважна мноства штучна створаных знакаў: пазначаныя крыжамі дрэвы і камяні, вымярэнне адлегласці мілямі.

5. У XV ст. адбывалася абнаўленне межаў. Сфармаваныя пад час праўлення князя Вітаўта межы лічыліся "старымі" і "правільнымі", вылучаліся "знакі", што іх маркіравалі, а гэта пацвярджала важнасць перамен, якія адбываліся пад час праўлення князя Вітаўта. У 1473 г. паміж ВКЛ і Лівоніяй быў аформлены першы выключна дэлімітацыйны дагавор у Куркуме, у якім згадана шмат штучных знакаў: земляныя насыпы, крыжы на дрэвах, роў каля замка ў Баўску. Гэта сведчыла пра пашырэнне ўнутранай каланізацыі ВКЛ у бок межаў і пра з'яўленне каланізаваных прыгранічных зон.

6. У XVI ст. працягвалася працэдура абнаўлення межаў ВКЛ, абумоўленая неабходнасцю кантролю жыхароў з памежных зон. Часта на неабжытыя прыгранічныя тэрыторыі сялілі сялян. Для лакалізацыі межаў звярталіся да апытання мясцовых жыхароў, якія ў сваіх паказаннях нярэдка ўспаміналі межы князя Вітаўта. У многіх выпадках дзяржаўным межам адпавядалі межы прыватных угоддзяў. Маркіроўка ўдасканальвалася, а межавыя знакі рэгістраваліся і апісваліся. У 1545 г. на мяжы ВКЛ і Лівоніі пастаўлены знак – слуп з дзяржаўнымі гербамі і надпісамі, які зацвердзіў паняцце дзяржаўнай мяжы, а таксама вылучыў яе з агульнай сістэмы маркіроўкі тэрыторый.

# The development of the concept of the Grand Duchy of Lithuania western borders in $13^{th}$–$16^{th}$ centuries

**Tomas Čelkis**

In old languages demarcation terms were polysemous and used to express concepts of a border as an object and a sign. Territorial sections used to become limits for pre-statehood disputes however demarcation of the said sections was no longer a spontaneous phenomenon. In 1358 the Grand Duchy of Lithuania concluded its first international demarcation treaty with Masuria, in which the demarcation was still close to old tribal concepts. The campaign of identification of Western borders with the Teutonic Order during the Vytautas times was a new phase of development, which evidenced emergence of manifestations of the concept of a borderline. After the borders identification campaign, in the $15^{th}$ century the borders renewal process was going on, during which the borders of the Vytautas times were already, called the old ones and true ones, which is evidenced by the importance of changes, which occurred during the Vytautas times when a new territorial self-perception was emerging. In 1473 a new border treaty was concluded with Livonia. In the $1^{st}$ half of the $16^{th}$ century the border renewal procedure, determined by the necessity to manage the internal colonization process, which reached the borderline territories of the Grand Duchy and its adjacent states, was further developed. In most cases private domains were legitimated as a state border, the stability of which was a concern of all the stakeholding social groups. Demarcation of borders was improved in the $16^{th}$ century. In the acts the demarcation lines were accurately registered and described. In 1545 the following demarcation line was built, i. e. the pillar with the states' coats of arms and names. Such demarcation shows that in the $1^{st}$ half of the $16^{th}$ century the line character of the state border was in its final phase of development, which meant the emergence of the concept of the state's territory in the Western part of the Grand Duchy of Lithuania.

# Мілітарныя абрысы культу Божай Маці Жыровіцкай у XVII ст.*

**Генадзь Сагановіч**

Традыцыя прыпісваць Божай Маці функцыі абароны ад ворага і забеспячэння ваенных перамог мела глыбокія карані і ўзыходзіла да Візантыйскай імперыі. Там яшчэ ў VII ст., пасля цудоўнай абароны Канстанцінопаля ад авараў, Марыя стала апякункай візантыйскай сталіцы, а таксама воінаў і саміх імператараў, што бралі яе ікону ў ваенныя паходы[1]. У візантыйскіх гімнах Багародзіцу называлі "правадыркай войскаў", "непрабівальным шчытом"[2] і іншымі падобнымі азначэннямі з ваеннага лексікону.

Пад уплывам візантыйскай традыцыі такое ўспрыманне Дзевы Марыі пашыралася на Русі. Адзін з ранніх прыкладаў таму – бітва 1170 г. за Ноўгарад Вялікі, калі, паводле легенды, ікона Божай Маці дапамагла ноўгарадцам абараніцца ад суздальцаў[3]. У гісторыі Маскоўскай дзяржавы таксама вядома нямала выпадкаў, калі ваенныя поспехі звязваліся з імем Багародзіцы. Так, у літаратуры можна знайсці сцвярджэнні, што ў 1380 г. у абозе

* Артыкул напісаны дзякуючы стыпендыі *Thesaurus Poloniae* МЦК у Кракаве (восень 2018).

1 Гл.: Степаненко В. П. Военный аспект культа Богоматери в Византии (IX–XII вв.) // Античная древность и средние века. Вып. 31. Екатеринбург, 2000. С. 198–220.

2 Vitkauskienė B. R. Kult maryjny // Kultura Wielkiego Księstwa Litewskiego: analizy i obrazy / oprac. Census Ališauskas V. [et al.]; przekł. Bukowiec P., Kalęba B., Piasecka B. Kraków, 2006. S. 273.

3 Сказание о земной жизни Пресвятой Богородицы [репринт изд. 1904 г.]. Москва, 1991. С. 242–243.

арміі князя Дзмітрыя Іванавіча Данскога на Куліковым полі знаходзілася ікона Успення Божай Маці і што сам князь прыпісваў перамогу яе заступніцтву[4]; што нябесная заступніца часта ратавала ад спусташэнняў Маскву (у 1395 г. ад Тамерлана, у 1408 г. ад хана Эдыгея, у 1521 г. ад крымскага хана Махмет Гірэя), а ў 1581 г. не дазволіла арміі Стэфана Баторыя захапіць Пскоў[5] і да т. п.

У межах ВКЛ, як і ў Польскім каралеўстве, якое з XIV ст. уключала і заходнія землі Украіны, развіццё візантыйска-ўсходнеславянскага культу Марыі знайшло натуральны працяг. На абшарах дзяржавы Ягайлавічаў разам з шанаваннем Божай Маці ў грамадстве пашыралася яе прызнанне ў войску. Адной з ранніх праяў такой тэндэнцыі была, сярод іншага, папулярнасць "Багародзіцы", якая стала важнай баявой песняй у XV ст., пад час войнаў з Нямецкім ордэнам, пра што пісаў у сваёй хроніцы Ян Длугаш[6]. Трэба ўлічваць, што Ордэн ад пачатку існавання таксама называў сваёй апякункай Найсвяцейшую Панну Марыю. Для рыцараў гэтага ордэна яе культ пераўзыходзіў нават культ Хрыста – пра адданасць рыцараў Марыі шмат напісаў храніст Пётр з Дусбурга[7]. І ў тым, што "Багародзіца" гучала ў 1410 г. пад Грунвальдам, у паслядоўным прысваенні гэтай песні войскамі Ягайлы і Вітаўта, даследчыкі небеспадстаўна бачаць адкрытае ідэалагічнае супрацьборства і духоўнае суперніцтва з рыцарскай дзяржавай[8]. Пазней

[4] Праўда, даследчыкі не знаходзяць гэтаму яўных сведчанняў, а сама Данская ікона Прасвятой Багародзіцы, як высветлена, была напісана пазней. Гл.: Амелькин А., Селезнев Ю. Куликовская битва в свидетельствах современников и памяти потомков. Москва, 2011. С. 267–268.

[5] Сказание о земной жизни Пресвятой Богородицы. С. 245, 247–249, 252–255.

[6] Długosz J. Roczniki czyli Kroniki Sławnego Królestwa Polskiego. Ks. 10 i 11 / przeł. J. Mrukówna, red. S. Gawęda i in. Warszawa, 1982. S. 122–123 і інш.

[7] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. Москва, 1997. С. 65–66, 69–70 і далей. Пар.: Матузова В. И. Время в "Хронике земли Прусской" Петра из Дусбурга // Древнейшие государства Восточной Европы, 2006. Москва, 2009. С. 326–328.

[8] Hashod J.-P. "Dlaczego pod Grunwaldem śpiewano 'Bogurodzice'?"

“Багародзіца” спявалася “па звычаю продкаў”[9] перад бітвамі і ў абозах войскаў Рэчы Паспалітай і асабліва шанавалася, што можна звязваць з узрастаннем веры ў яе сілу. З пачатку XVII ст. захаваліся абозныя казані, прысвечаныя Багародзіцы. Перад пачаткам бітвы ўсе мусілі выконваць гэтую песню, каб падкрэсліць містычны характар войска як выбранага народа[10].

Даследчыкі адзначаюць, што XVII стагоддзе стала часам лавінападобнага ўзрастання колькасці месцаў культу Марыі ў Рэчы Паспалітай. Як тлумачыцца, адной з прычын такой з’явы можна лічыць змену тыпу набожнасці, а менавіта з’яўленне “тэалогіі страху”, якая запанавала на абшарах Еўропы ў эпоху барока[11]. На ўсходніх землях Рэчы Паспалітай на ўмацаванне культу і памнажэнне яго святых месцаў у XVII і XVIII ст. паўплывалі таксама частыя войны ды прыродныя катаклізмы, перажываць якія насельніцтву дапамагала шанаванне ікон, вера ў дапамогу Марыі[12]. Пратэкцыі нябеснай заступніцы прыпісваліся і перамогі над ворагам. Пры гэтым аб дапамозе ў тыя часы прасілі не ў Багародзіцы як такой, а ў канкрэтнай яе выявы – у іконы[13]. З надзеяй на цудоўныя абразы і ўмяшанне Божай Маці ў ходу вайны, відаць, можна звязваць і тое, што пазней у

Duchowa rywalizacja między Krzyżakami a Polakami // Pamiętnik Literacki. T. XCVI (2005). Z. 2. S. 43–49.

9 Gloger Z. Encyklopedia staropolska ilustrowana. T. 1. Warszawa, 1978. S. 185–187; Łopatecki K. Koncepcja Boga – Pana historii wśród żołnierzy Rzeczypospolitej na przełomie XVI i XVII wieku // Religia wobec historii, historia wobec religii / pod red. E. Przybył. Kraków, 2006. S. 369.

10 Kazania ks. Fabijana Birkowskiego Zakonu S. Dominika kaznodziejskiego / wyd. K. J. Turowski. Krakow, 1858. S. viii; пар.: Barłowska M. Ekscytarz Chodkiewicza w “Wojnie Chocimskiej” Wacława Potockiego. Powinowactwa literackie i rzeczywiste // Barok 2001. Nr. 1. S. 93; Łopatecki K. Op. cit. S. 369.

11 Zakrzewski A. J. W kręgu kultu maryjnego: Jasna Góra w kulturze staropolskiej. Częstochowa, 1995. S. 86–88.

12 Пар.: Kuchowicz Z. Obyczaje staropolskie XVII–XVIII wieku. Łódź, 1975. S. 106–107.

13 Niendorf M. Das Großfürstentum Litauen. Studien zur Nationsbildung in der Frühen Neuzeit (1569–1795). Wiesbaden, 2006. S. 158–159.

цырымоніях каранацыі Дзевы Марыі ў Рэчы Паспалітай абавязковым элементам урачыстасці было войска[14].

Характэрна, што мілітарныя матывы культу Марыі прапагандаваліся і ў тагачаснай літаратуры. Напрыклад, у адным з найбольш значных твораў вялікага канцлера ВКЛ Альбрыхта Станіслава Радзівіла "Дыскурс набожны…"[15], напісаным не пазней за 1635 г., аўтар параўноўвае Дзеву Марыю з войскам, называе яе гетманам, што камандуе "палкоўнікамі" і "ротмістрамі", пад якімі меліся на ўвазе патрыярхі, апосталы і вызнаўцы Марыі – аддзелы, гатовыя да бою[16]. А ў вершы славутага польскага паэта і гісторыка Веспасіяна Кахоўскага "Студзянна" Багародзіца была названа "кватармайстрам нябесных палкоў", "нябесным абозным"[17].

Веру ў дапамогу Марыі падмацоўвалі канкрэтныя прыклады яе заступніцтва за сваіх вызнаўцаў. Відаць, самым вядомым на тыя часы прататыпам умяшання нябеснай апякункі ў вайну стала абарона Яснай Гары ад шведаў у канцы 1655 г., упершыню апісаная прыёрам чанстахоўскага кляштара айцоў паўлінаў Аўгустынам Кардэцкім у "Новай Гігантамахіі"[18]. Услед за ім аўтары іншых твораў, што апісвалі аблогу, найперш такія, як Станіслаў Кабежыцкі і Амброзы Нешпарковіч[19], галоўную ролю ў пе-

[14] Łopatecki K. Nabożeństwa wojskowe w Rzeczypospolitej szlacheckiej: zarys organizacyjno-prawny // Rzeczpospolita państwem wielu narodowości i wyznań, XVI–XVIII wiek / pod red. T. Ciesielskiego i A. Filipczak-Kocur. Warszawa – Opole, 2008. S. 533.

[15] Radziwiłł A. S. Dyskurs nabożny z kilku słów wzięty o wysławieniu najświętszej Panny Bogarodzicy Maryjej. Krakow, 1650.

[16] Radziwiłł A. S. Dyskurs nabożny… S. 1, 11, 267, 274–292, 305 і інш. Пар.: Słomak I. Militaria w wybranych modlitewnikach XVIII wieku – wobec tradycji emblematyki // Terminus. R. XIV. Kraków, 2012. S. 72.

[17] Kochowski W. Utwory poetyckie: wybór / oprac. M. Eustachiewicz. Wyd. 2. Wrocław, 1991. S. 80.

[18] Kordecki A. Nowa Gigantomachia. Kraków, 1657; Pamiętnik oblężenia Częstochowy: 1655 r. / Augustyn Kordecki; tł. z łac. J. Łebkowskiego i. e. Łepkowskiego z r. 1858 / red. J. Majdecki. Częstochowa, 1991. Пар.: Kersten A. Szwedzi pod Jasną Górą 1655. Warszawa, 1975.

[19] Kobierzycki S. Obsidio Clari Montis Częstochoviensis <…> Gdańsk, 1656; Obsidio Clari Montis = Oblężenie Jasnej Góry / Stanisław Kobierzycki; z jęz. łac. przeł. K. Chmielewska i E. Rygał; wstęp i

рамозе над шведамі таксама прыпісвалі Марыі. Апошні пісаў, напрыклад, што самі шведы гаварылі, як Марыя паказвалася ім пад час аблогі, і ў выніку яе ўмяшання іх кулі то білі ў зямлю, то бралі вышэй, а запальныя ядры, выстраленыя па кляштары, ляцелі назад[20].

“Новая Гігантамахія” Кардэцкага выканала важную ролю ў тым, каб грамадства верыла ў цудадзейнае ўмяшанне Чорнай Мадонны (як называлі абраз Божай Маці Чанстахоўскай) у абарону Яснай Гары і дапамогу сваім вызнаўцам: чатыры разы яна друкавалася ў другой палове XVII ст. і яшчэ тройчы – у наступным стагоддзі[21]. За названымі аўтарамі гэтую ж ідэю праводзілі творцы польскай нацыянальнай літаратуры (у т. л. Адам Міцкевіч, Генрык Сянкевіч), і ў XIX ст. Ясная Гара стала польскім нацыянальным міфам. Безумоўна, да гэтага спрычыніліся не толькі сама паспяховая абарона Яснай Гары ад шведаў, але і звязаная з ёю львоўская прысяга караля Яна Казіміра ў 1656 г. з афіцыйным абвяшчэннем Багародзіцы каралевай Польшчы і ВКЛ, а, напэўна, яшчэ больш – каранацыя Чанстахоўскай іконы (1717 г.)[22]. Як бы там ні было, сама вера ў тое, што гэта ўмяшанне Марыі забяспечыла поспех абароны Чанстаховы ў 1655 г., рабілася фактам масавай свядомасці насельніцтва Рэчы Паспалітай яшчэ ў другой палове XVII ст.[23].

Аднак такой славе Яснай Гары і Чорнай Мадонны папярэднічаў шэраг менш вядомых прыкладаў на

przyp. A. J. Zakrzewski. Kraków, 2007; Nieszporkowitz A. Odrobiny Stołu Krolewskiego, Abo Historya O Cudownym Obrazie Naswięt: Panny Maryey Częstochowskiey <...> na Iasney Gorze Częstochowskiey <...> Kraków, 1683. Пар.: Michałowska M. Palladium polskie. Militarne aspiekty ikonografii maryjnej XVII–XVIII wieku // Studia Claromontana. T. 6. Jasna Góra, 1985. S. 34–35.

[20] Nieszporkowitz A. Odrobiny Stoiu Krolewskiego… S. 161–163, 167, 169.

[21] Zakrzewski A. J. W kręgu kultu maryjnego… S. 110.

[22] Witkowska A., Nastalska-Wiśnicka J. Ku ozdobie i obronie Rzeczypospolitej. Maryjne miejsca święte w drukach staropolskich. Lublin, 2013. S. 91, 120–121.

[23] Michałowska M. Palladium polskie. Militarne aspiekty ikonografii maryjnej XVII–XVIII wieku // Studia Claromontana. T. 6. Jasna Góra, 1985. S. 44–45.

ўсходнеславянскіх землях Рэчы Паспалітай, дзе цудатворныя іконы Дзевы Марыі, як лічылася, задавальнялі гарачыя малітоўныя просьбы сваіх вызнаўцаў і дапамагалі ім у вайне з непрыяцелем. У прыватнасці, з ваеннай гісторыяй сярэдзіны XVII ст. непасрэдна звязана ікона Божай Маці Холмскай[24]. Як сцвярджаў канцлер А. С. Радзівіл, калі кароль Ян Казімір у 1651 г. "пачуў аповеды пра цудоўны абраз Багародзіцы ў Холме ў схізматыкаў", то забраў яго ў паход супраць казакоў і змясціў у абозе каля намёта для правядзення імшы[25]. Пра абраз Дзевы Марыі ў каралеўскім абозе, каля якога ўсё войска заўзята malілася, паведамляў у сваіх успамінах і Станіслаў Асвенцім. Апошні пісаў таксама, што незадоўга да бітвы коннікі з харугвы падольскага ваяводы Станіслава Патоцкага, "будучы ў полі на старожы, убачылі ў паветры белагаловую, якая сваім плашчом прыкрывала наш абоз", – і гэты прывід быў успрыняты як знак пратэкцыі Марыі над войскам Рэчы Паспалітай і зарука будучых перамог[26]. Пасля пераможнай бітвы 1651 г. пад Берасцечкам лічылася, што вікторыю арміі Рэчы Паспалітай прынёс у тым ліку абраз Божай Маці Холмскай. Перад ім былі складзены сабраныя трафеі, а кароль "на каленях і без падушкі дзякаваў Богу і Багародзіцы"[27]. Сцэна з каралём перад холмскай іконай у першай палове XVIII ст. была змешчана на срэбраным пакрыцці алтарнай пліты ў старой грэка-каталіцкай царкве Нараджэння Найяснейшай Дзевы Марыі ў Холме.

Падобную славу займела ікона Божай Маці Бярдычаўскай, якую ў мясцовы кляштар кармелітаў перадаў кіеўскі ваявода Януш Тышкевіч (лагойскі) у падзяку за

[24] Пар.: Лабынцев Ю. А., Щавинская Л. Л. Живая древность: литературная традиция культа иконы Богоматери Холмской наших дней // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. 2002. № 2 (8). С. 14–25.

[25] Radziwiłł A. S. Pamiętnik o dziejach w Polsce. Przełożyli i oprac. A. Przyboś i R. Żelewski. T. 3. Warszawa, 1980. S. 291.

[26] Stanisława Oświęcima dyaryusz 1643–1651 / wyd. W. Czermak. Kraków, 1907. S. S. 289. Пар.: Michałowska M. Palladium polskie. Militarne aspiekty ikonografii maryjnej XVII–XVIII wieku // Studia Claromontana. T. 6. Jasna Góra, 1985. S. 32.

[27] Radziwiłł A. S. Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 3. S. 309.

вызваленне з турэцкай няволі[28]. Яе называлі "Аздобай і абаронай украінскіх краёў"[29], а сам Бярдычаў – "фартэцыяй Божай Маці". Адзначылася ў вайне і Сокальская ікона Божай Маці: традыцыя сцвярджае, што яна ў 1655 г. "страхам паразіла" вялікія войскі Багдана Хмяльніцкага[30].

На землях Беларусі таксама былі цудадзейныя іконы з падобнай славай. Сярод іх трэба найперш прыгадаць абраз Божай Маці, які належаў касцёлу кармелітаў у Бялынічах (закладзены Львом Сапегам у 1620-я гады)[31]. Пра яго паходжанне амаль не захавалася дакладных звестак[32]. Найверагодней, ікона была мясцовай – яе стварыў у 20-я ці 30-я гады XVII ст. невядомы мастак[33]. Неўзабаве пасля гэтага яна пачала праслаўляцца цудамі[34], сярод якіх – паспяховая абаро-

[28] Słomak I. Militaria w wybranych modlitewnikach XVIII wieku – wobec tradycji emblematyki. S. 73.

[29] "Ozdoba i obrona Ukraińskich Krajów" – гл.: [Pinocci J. S.] Grzegorz od Św. Ducha: Ozdoba y obrona Ukraińskich krajów Przecudowna w Berdyczowskim obrazie Marya... Berdyczow, 1765; Пар.: Witkowska A., Nastalska-Wiśnicka J. Ku ozdobie i obronie Rzeczypospolitej. S. 164–166.

[30] Bartącz S. Cudowne Obrazy Matki Najświętszej w Polsce. Lwów, 1891. S. 251.

[31] На думку В. Насевіча, на жаль, нічым не пацверджаную, Л. Сапега мог і абраз вывезці з межаў Маскоўскай дзяржавы ў гады Смуты. Гл.: Насевіч В. У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай // Памяць: Бялыніцкі раён. Мінск, 2000. С. 49.

[32] Асноўную літаратуру гл. у: Witkowska A., Nastalska-Wiśnicka J. Ku ozdobie i obronie Rzeczypospolitej, s. 173–174.

[33] Жудро Ф. Белыничский Богородичный монастырь // Могилевские Епархиальные Ведомости (далей МЕВ). 1893. № 27-28. С. 492–496; Wołyniak [Giżycki J. M.]. Z przeszłości karmelitów na Litwie i Rusi. Cz. 1. Kraków, 1918. S. 33–34.

[34] У літаратуры сцвярджаецца, што ў XVIII ст. з-за цудоўнай іконы Божай Маці Бялынічы называлі "Беларускай Чанстаховай". Гл.: Barącz S. Cudowne Obrazy Matki Najświętszej w Polsce. S. 21–22; Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 1. Warszawa, 1880. S. 199. Цікава, што ў В. Насевіча яна "руская Чанстахова" – на жаль, без спасылкі на крыніцы. Гл.: Памяць: Бялыніцкі раён. Мінск, 2000. С. 56. У кожным разе Бялыніцкую ікону маглі параўноўваць са славутым Чанстахоўскім абразам толькі пасля таго, як у 1760 г. яе вярнулі з Ляхавіч у Бялынічы, дзе быў узведзены новы касцёл, а ў наступным годзе смаленскі епіскап Ежы М. Гільцэн (Hylzen) з дазволу Апостальскай сталіцы правёў каранацыю гэтай святыні.

на Ляхавіч у 1660 г., пад час вайны з Маскоўскай дзяржавай. У Ляхавічы ікона трапіла ў 1655 г., калі яе перадалі ў моцную фартэцыю Сапегаў, каб уберагчы святыню ад прафанацыі ці рабавання, і заставалася яна там больш за сто гадоў. У літаратуры часам выказваецца думка, што Божай Маці Бялыніцкай дзякавалі за перамогу арміі Рэчы Паспалітай над маскоўскімі сіламі ў бітве пад Палонкай у 1660 г.[35], хоць сам абраз знаходзіўся тады ў абложанай фартэцыі Ляхавіч. На справе з умяшаннем Божай Маці Бялыніцкай звязвалі ўсё ж толькі абарону Ляхавіч, а не бітву пад Палонкай. Пра гэта ясна сведчаць гравюра[36], прысвечаная згаданай абароне, і вота[37], ахвяраваная іконе ў падзяку за абарону Ляхавіч, відаць, самім Станіславам Міхалам Юдыцкім, які кіраваў ляхавіцкай залогай.

Яшчэ адзін беларускі абраз праславіўся дачыненасцю да перамогі 1673 г. пад Хоцінам – гэта абраз Божай Маці з Юравіч[38]. Згодна з каталіцкай традыцыяй, калі пад Хоцінам турэцкая армія абступіла войска гетмана Яна Сабескага і ўжо не было надзеі на добры сыход супрацьстаяння, у

[35] Krahel T. Sanktuaria maryjne decezji wileńskiej // Wiadomości Kościelne Diecezji Białostockiej. T. 13: 1987. Nr. 3. S. 115. Пар.: Witkowska A., Nastalska-Wiśnicka J. Ku ozdobie i obronie Rzeczypospolitej. S. 120–121.

[36] Гл.: Бабулин И. Б. Московские “легионы” на гравюре “Осада Ляхович в 1660 году” // История военного дела: исследования и источники. Т. 3. С.-Петербург, 2012. С. 297–320. Пар.: Kossarzecki K. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005.

[37] Паломническое путешествие воспитанников Могилевской духовной семинарии в Белыничский мужской монастырь 18–20 июня 1893 года // МЕВ. 1893. № 21. С. 366. У надпісе на воце, названым “Obrona Lachowicka – początek wojen wygranych”, аўтар дзякаваў Бялыніцкай Панне за тое, што ўберагла яго ад “непрыяцельскай рукі”, і дадаваў: “Дзякуючы табе абараніў Ляхавіцкі замак, дзякуючы табе адбіў маскоўскія і шведскія штурмы” (*Przez cie Lachowickie[go] zamku obroniłem / Przez cie szturmy moskiewskie j szwedskie odbiłem…*). Пар.: Корнилова Л. А. Страницы белорусской мариологии: Жировичская, Белыничская и Остробрамская иконы Богоматери // Сборник Калужского художественного музея. Вып. 1. Ч. 1. Калуга, 1993. С. 40.

[38] Асноўную літаратуру пра гэты абраз гл. у: Witkowska A., Nastalska-Wiśnicka J. Ku ozdobie i obronie Rzeczypospolitej, s. 289–290.

храмах Рэчы Паспалітай сталі прасіць дапамогі супраць непрыяцеля. Тады, як сцвярджаў у сваім творы ксёндз Францішак Колерт, аўтар кніжкі па гісторыі гэтай іконы, у Юравічы да капліцы сабраўся “цэлы Мазырскі павет”, які ў малітвах прасіў, каб Маці Божая выслала на дапамогу рыцарству Рэчы Паспалітай “моцнага Анёла, дала падтрымку і абарону…”[39]. І ўжо ў наступную ноч людзі пабачылі “над капліцай Юравіцкай Марыі дзіўнае святло, з якога зарады вогненных стрэлаў вылятлі да Хоціма – ясны знак Нябеснай дапамогі і падтрымкі…”. А ўдзень Сабескі разбіў туркаў, перамогшы іх намнога большую армію. Ф. Колерт адназначна звязваў вікторыю з умяшаннем Юравіцкай Марыі, якая “стала страшнай Бусурману, як выстаўлены абоз”, і сцвярджаў, што тыя стрэлы, якія бачылі над капліцай, паляцелі на галовы непрыяцеля[40]. У адной з песняў пра цудоўны абраз з Юравічаў, друкаваных пазней, ён таксама праслаўляецца за ролю ў перамозе над туркамі пад Хоцінам[41].

Аднак сярод цудатворных ікон, звязаных з ваеннымі падзеямі на землях Беларусі, асаблівае месца належыць несумненна Божай Маці Жыровіцкай. Гэты маленькі абраз, зроблены на яшмавым камені авальнай формы, належыць да найбольш папулярнага ў візантыйскім мастацтве іканаграфічнага тыпу “Замілаванне” (або “Элеўса”)[42]. Яго гісторыі прысвечана нямала даследаванняў[43], а важнай крынічнай асновай з’яўляюцца творы, напісаныя манахамі Жыровіцкага манастыра ў

[39] Kolert F. Krynice cudownych łask Maryi z Jurowickich Gór wynikające. Nieśwież, 1755. S. B9.

[40] Тамсама. S. B10–B11.

[41] У песні, між іншага, гаворыцца: *…pod Chocimem tłuszcz bisurmanska zbila, zgniotła, rozproszyłaś i w niwiecz ich obrociłaś Siłą swą świętą*. Гл.: Barącz S. Cudowne Obrazy Matki Najświętszej w Polsce. S. 95.

[42] Бобров Ю. Г. Основы иконографии древнерусской живописи. С.-Петербург, 1995. С. 209, 215–216.

[43] Сярод публікацый апошніх дзесяцігоддзяў гл.: Mironowicz A. Jozafat Dubieniecki – historia cudownego obrazu żyrowickiego // Rocznik Teologiczny. T. XXXIII (1991). S. 195–215; Chomik P. Kult ikon Matki Bożej w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI–XVIII wieku. Białystok, 2003. S. 60–74 і наст.

XVII–XVIII ст. Першым такім творам стала “Гистория, або Повесть людей розных, веры годных, о образе чудотворном Пренасвятейшое Девы Марии Жировицком…”, напісаная Феадосіем Баравіком не пазней за 1621 г. і затым надрукаваная ў Вільні спачатку на старабеларускай і польскай, а потым толькі на польскай мове[44]. Яна ўключае гісторыю з’яўлення іконы ў Жыровічах, яе апісанне і прыклады цудаў, якія пры ёй адбыліся. Потым узнік твор “Чудотворная икона Пресвятой Богородицы в Жировичах” Ясафата Дубянецкага, які быў манахам, а ў 1652–1654 г. архімандрытам Жыровіцкага манастыра. Яго кніга, што ўяўляла з сябе перапрацоўку гісторыі Баравіка з дапаўненнямі[45], хутка таксама была выдадзена базыльянамі ў Вільні[46]. Рукапісы твораў як Баравіка, так і Дубянецкага, якія калісь належалі Жыровіцкаму базыльянскаму манастыру, а цяпер захоўваюцца ў архіўных фондах у Санкт-Пецярбурзе[47] і Львове[48], застаюцца каштоўнымі крыніцамі па гісторыі іконы да гэтага часу.

[44] Гл. другое польскамоўнае выданне: Borowik T. Historia abo powieść zgodliwa przez pewne podanie ludzi wiary godnych o obrazie przeczystey Panny Mariey żyrowickim cudotwornym. Wilno, 1628.

[45] Падрабязней гл.: Мірановіч А. Малавядомая крыніца да гісторыі Жыровіцкага манастыра // Белорусский сборник: статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 6. С.-Петербург, 2008. С. 167–169.

[46] Dubieniecki J. Historia o obrazie przeczystej Panny Mariey cudownym. Wilno, 1653.

[47] Боровик Т. “Гистория або повесть…”. Архив Санкт-Петербургского института истории РАН (далей АСПбИИ РАН). Ф. 52 (коллекция П. Н. Доброхотова). Оп. 1. Д. 38. Л. 15–19. Што тычыцца твора Я. Дубянецкага “Образ Чудотворны Пресвятой Богородицы в Жировичах”, то гэта больш позняя копія друкаванай версіі яго кнігі 1653 г. Гл.: АСПбИИ РАН. Ф. 52. Оп. 1. № 270. Л. 1–5об. Публікацыя ў: Mironowicz A. Jozafat Dubieniecki – historia cudownego obrazu żyrowickiego. S. 207–215.

[48] Львівська національна наукова бібліотека України ім. В. Стефаника, Відділ рукописів (далей ЛННБУ ВР). МВ 261: Dubieniecki J. O Cudach ktorą sie wszechmocnoscia Boza Przy Obrazie Przeczystej Dziewicy w Zyrowicach po dzis dzien dzieja. Пар.: Суша А. Лёс культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі: новыя знаходкі ў львоўскіх зборах //

Згодна з “Гісторыяй…” Баравіка, ікона з’явілася пастушкам у лесе на дзікай грушы, калі ўладальнікам Жыровіч быў маршалак гаспадарскі Аляксандр Солтан[49], і хутка стала вядомая сваімі цудамі – дапамогай хворым і пакалечаным ды іншымі праявамі боскай ласкі. Найбольшая ж вядомасць да жыровіцкай святыні прыйшла ў перыяд яе прыналежнасці базыльянам – пасля 1609 г. Калі ў творы Феадосія Баравіка першы цуд ад святой іконы ў Жыровічах быў засведчаны пад 1558 г., а іх пералік даведзены 1628 г.[50], то Ясафат Дубянецкі ў сваёй кнізе запісаў цуды да 1652 г., пры гэтым найбольшая іх колькасць прыпадала на апошнія гады, калі ў Рэчы Паспалітай бушавала казацкае паўстанне[51]. Але іх рэгістрацыя працягвалася, і ў рукапісе Я. Дубянецкага, які захоўваецца ў Львове, за перыяд з 1558 г. да сярэдзіны XVII ст. запісана ўжо 1976 выпадкаў Боскай ласкі, што адбыліся пры жыровіцкай іконе[52]. І на гэтым рэгістратарская праца не скончылася. Да нас дайшлі два рукапісы розных аўтараў, якія запісалі розныя цуды ды сцвярджэнні іх сведкаў за перыяд з 1619 да 1756 г.[53]. У іх гаворыцца пра ўваскрашэнне памерлых, рознага роду выздараўленні, вылечванні рук і ног, вяртанне зроку, розуму, мовы і г. д. Гэта пераважна тыповыя прыклады дабрадзействаў Багародзіцы, якія ў той час прыпісваліся і многім іншым цудатворным

Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі / склад. Л. Г. Кірухіна, К. В. Суша. Вып. 11. Мінск, 2009. С. 88–130.

49 Найверагодней ікона з’явілася ў першыя дзесяцігоддзі XVI ст. Гл.: Жукович П. Неизданное русское сказание о Жировичской иконе Божией Матери (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии Наук. Т. XVII. Кн. 2. С.-Петербург, 1912. С. 204–209.

50 Borowik T. Historia abo powieść… S. D, O3.

51 Dubieniecki J. Historia o obrazie… S. 74–129.

52 ЛННБУ ВР. МВ 261: Dubieniecki J. O Cudach ktorą sie wszechmocnoscia Boza Przy Obrazie Przeczystej Dziewicy w Zyrowicach po dzis dzien dzieja.

53 ЛННБУ ВР. МВ 393, МВ 394. Пар.: Суша А. Лёс культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі: новыя знаходкі ў львоўскіх зборах. С. 92.

абразам[54]. Але ёсць сярод іх многа такіх, што вылучаюцца ў асобную катэгорыю цудаў – гэта розныя формы дапамогі ў вайне супраць ворагаў.

Спачатку мілітарныя матывы цудадзейнай сілы Божай Маці Жыровіцкай выяўляліся ў сувязі з прыездамі каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх, якія пачалі наведваць жыровіцкую святыню з сярэдзіны XVII в. Першым з каранаваных асобаў у Жыровічы прыехаў кароль Уладзіслаў IV Ваза з каралевай Цэцыліяй Рэнатай. Пра гэты візіт, што адбыўся ў пачатку 1644 г., пісаў у сваіх мемуарах цытаваны вышэй Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, які адзначыў, што манарх "ахвяраваў Багародзіцы дары вялікай каштоўнасці" і прабыў тады ў Жыровічах два дні[55]. Потым іх гасцінна прымаў у сваіх Ружанах надворны маршалак Казімір Лявон Сапега[56], які шчодра падтрымліваў уніяцкую царкву ў ВКЛ. За каралеўскай парай прыехалі каронны канцлер і вялікая світа саноўнікаў. Спецыяльную службу ў жыровіцкай царкве адслужыў віленскі архімандрыт Аляксей Дубовіч, адзін з лепшых уніяцкіх красамоўцаў. Яго казань была выдадзена ў Вільні асобнай кніжачкай пад назвай "Кан'юнкцыя зямных планет з нябеснымі, выстаўленая ў Жыровіцкай царкве"[57]. Базыльянскі прапаведнік гаварыў у казані, што пасля прыезду такога манарха "сэрцы і вера ўсіх народаў" пачнуць паварочвацца да гэтага святога месца[58]. Выглядае, што гэты візіт караля ў Жыровічы быў нейкім чынам звязаны

[54] Пар.: Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych / do druku przygot., wstęp. A. Mironowicz. Białystok, 1997; Księga cudów przed ikoną Matki Boskiej Waśkowskiej dokonanych / do druku przygot. i wstęp. A. Mironowicz. Białystok, 2012. Пар.: Kruk M. P. Ikony-obrazy w świątyniach rzymsko-katolickich dawnej Rzeczypospolitej. Kraków, 2011. S. 189–192.

[55] Radziwiłł A. S. Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 2. S. 383–384.

[56] Kognowicki K. Życia Sapiehów y listy od monarchów, książąt y różnych panujących do tychże pisane. T. 3. Wilno, 1792. S. 97; Sapiehowie: materjaly historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 2. Petersburg, 1891. S. 24–25.

[57] Dubowicz A. Coniunctia planet ziemskich z niebieskiemi w cerkwi zurowieckiej wystawiona. Wilno, 1644.

[58] Ibidem. S. A3v.

з планамі вайны супраць Турцыі, якія Уладзіслаў IV выношваў з вузкім колам блізкіх яму палітыкаў[59]. Бо толькі прымаючы такое дапушчэнне, можна зразумець, чаму ў жыровіцкай казані адзначалася, што пасля малітвы ў "той царкве, дзе вядзецца ўсходняя багаслужба", кароль Уладзіслаў IV адбярэ ў Турцыі "ўсходнія краіны", а Божая Маці з Сынам гатовая "ачольваць войска Яго Каралеўскай Міласці, рыхтуючы перамогі і каралеўства"[60].

Аднак да вайны з Турцыяй не дайшло, затое неўзабаве на землях Украіны распачалося казацкае паўстанне, узначаленае Багданам Хмяльніцкім, і з гэтымі падзеямі быў звязаны візіт у беларускае мястэчка наступнага манарха. У 1651 г., калі Ян Казімір Ваза рыхтаваўся весці армію ў паход супраць войска Б. Хмяльніцкага і татараў, то ён таксама паехаў памаліцца і папрасіць падтрымкі ў Божай Маці Жыровіцкай. Як адзначыў у сваім дзённіку цытаваны вышэй А. С. Радзівіл, кароль прыехаў тады ў Жыровічы, "каб прынесці прысягу" Дзеве Марыі[61]. Як і пад час візіту Уладзіслава IV, яго таксама прымаў у Ружанах К. Л. Сапега, а ў жыровіцкай царкве спецыяльную службу для манарха адслужыў той жа Аляксей Дубовіч, казань якога зноў выдалі ў Вільні[62]. У прадмове віленскі архімандрыт умела звязаў з'яўленне жыровіцкай іконы на грушы са старажытнай гісторыяй. Прыпамінаючы, што каралю Давіду бог падаваў знак на вяршалінах грушак, калі трэба пачаць бітву, каб перамагчы, ён рабіў выснову, што гэтым самым Госпад Бог паабяцаў ласку перамогі каралям на грушы, і напэўна "таму Айчына не можа парадавацца генеральнай вікторыяй, што па ласку такой перамогі не звярталася да груш. Генеральную перамогу трымае пры сабе Прачыстая Дзева Жыровіцкая, цудатворны абраз якой аблюбаваў сабе месца на грушы; на

[59] Historia dyplomacji polskiej (połowa X – XX w.). T. 2: 1572–1795 / pod red. Z. Wójcika. Warszawa, 1982. S. 110–111; Wisner H. Władysław IV Waza. Wrocław [et. al.], 1995. S. 101–104.

[60] Dubowicz A. Coniunctia planet… S. B2–B2v.

[61] Кароль прыехаў "dla spełnienia ślubu". Гл.: Radziwiłł A. S. Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 3. Warszawa, 1980. S. 287.

[62] Dubowicz A. Złota godzina dnia złotego początek. Wilno, 1651.

грушы ў святле з'явіўся, там быў заўважаны і знойдзены, да грушы заўсёды вяртаўся, на грушы здзяйсняў цуды, каб Найяснейшы Польскі Кароль, вялікі Манарх шырокай Сарматыі ў Жыровіцкай царкве набожна прасіў аб перамозе <…> уважліва слухаў жыровіцкія малітвы", і толькі пасля гэтага пачынаў вайну – "аглядаў войска, даваў бітву"[63]. У самой казані таксама гаварылася, што польскі кароль і вялікі князь літоўскі кленчыць у жыровіцкай царкве і пакорна схіляецца перад алтаром, аддаючы "пад абарону Божай Маці сваю Карону, сваю дзяржаву"[64].

28–30 чэрвеня 1651 г. адбылася бітва пад Берасцечкам, у якой сапраўды перамогу здабыла армія Рэчы Паспалітай. І гэтая перамога лічылася ласкай, атрыманай ад жыровіцкай іконы. Удзячны кароль у наступным годзе выдаў Жыровічам прывілей, які пацвярджаў магдэбургскае права і мусіў служыць "праслаўленню Прачыстай Дзевы Марыі і забеспячэнню патрэбаў тых, хто да яе прыходзіць…"[65].

Кнігі цудаў паказваюць, што ў гады Хмяльнiччыны Божая Маці Жыровіцкая пачала дапамагаць у вайне не толькі ў адказ на малітвы манархаў: нябесным заступніцтвам яна падтрымлівала сваіх звычайных вернікаў у іх барацьбе з казакамі і дзякуючы гэтаму знаходзіла ўсё большую папулярнасць сярод удзельнікаў вайны. Цікава, што аўтар першага апісання гісторыі культу Жыровіцкай Дзевы Марыі Феадосій Баравік, які двойчы быў ігуменам жыровіцкага манастыра, да ўступлення ў базыльянскі ордэн сам быў на вайсковай службе[66], – біяграфічны факт, які, магчыма, таксама меў нейкае значэнне для папулярызацыі іконы сярод жаўнераў.

[63] Ibidem. S. 2rev–3.
[64] Ibidem. S. A.
[65] Гл.: Материалы для истории Жировицкого монастыря // Литовские епархиальные ведомости (далей ЛЕВ). 1864. № 4. С. 131–132. Фактычна гэта было пацверджанне права на кірмашы, дадзенага Жыровічам яшчэ ў 1642 г. каралём Уладзіславам IV, і права на абмежаванае самакіраванне, якое ў дакуменце называлася магдэбургскім правам. Гл.: Rimša E. Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego / tłum. J. Sienkiewicz. Warszawa, 2007. S. 1176–1177.
[66] Ozorowski E. Borowik Teodozy // Słownik Polskich Teologów Katolickich. T. 1. Warszawa, 1981. S. 198–199.

Першыя прыклады заступніцтва Божай Маці Жыровіцкай за ўдзельнікаў ваенных дзеянняў падаў у сваёй гісторыі іконы Язафат Дубянецкі, а потым яшчэ больш падобных выпадкаў запісалі іншыя манахі, якія працягвалі кнігі цудаў. Паводле Я. Дубянецкага, многія шляхцічы засведчылі, што ў вайне з казакамі зварот у малітве да жыровіцкай Божай Маці ўратоўваў ім жыццё. Напрыклад, зямянін Рэчыцкага павета чачэрскі намеснік Ян Костка сцвярджаў, што калі ў 1648 г. яго схапілі казакі і ўжо выводзілі расстрэльваць, ён памаліўся абразу – і быў адпушчаны[67]. Наступны сведка Павел Турчыновіч з Гарадзенскага павета, таварыш харугвы стражніка ВКЛ Грыгорыя Мірскага, сцвярджаў у сваіх звестках, што ў бітве з казакамі палкоўніка Міхаіла Крычэўскага пад Лоевам ён быў падстрэлены пад рэбры і ўжо мусіў упасці з каня, але "аддаўся помачы Найсвяцейшай Панны, ахвяруючыся яе цудатворнаму жыровіцкаму абразу, [і хоць] быў тады пасечаны, але хутка цалкам выздаравеў"[68]. А Даніла Хіліцкі з Пінскага павета паведаў драматычную гісторыю пра тое, як ён з групай шляхты хаваўся ад казакоў у лесе, але тыя падпільнавалі і на яго вачах пачалі хапаць і забіваць шляхцічаў. Тады Хіліцкі схаваўся ў высокай траве і, звярнуўшыся да цудоўнай іконы, стаў прасіць паратунку – і ў выніку казакі не заўважылі яго, хоць доўга шукалі і праходзілі побач[69]. Лідскі шляхціч Бардоўскі таксама паведамляў пра заступніцтва Найсвяцейшай Жыровіцкай Панны ў часы "мінулых няшчасных сутычак з казакамі": яна і яму дапамагла выйсці жывым "амаль з рук непрыяцельскіх"[70]. А шляхетны Тэафіл Ян Корбут з Ваўкавыскага павета засведчыў, як ён, будучы ў 1651 г. у радзівілаўскім абозе пад Любечам, не раз апынаўся ў небяспецы "паміж густых непрыяцельскіх шабляў і куляў", але "калі пакорным сэрцам прасіў ратунку

[67] Dubieniecki I. Historia o Obrazie… S. 21.
[68] Ibidem. S. 45–46.
[69] Ibidem. S. 55–56.
[70] [Dubieniecki J.] O Cudach ktorą sie wszechmocnoscia Boza Przy Obrazie Przeczystej Dziewicy w Zyrowicach po dzis dzien dzieja. ЛННБУ ВР. МВ 261. S. 1095.

ў Найяснейшай Панны, то заўсёды бачыў, што [яна] як магутнай віхурай адганяла непрыяцеляў, а сам з Божай ласкі здаровым вяртаўся з бітвы"[71].

Ужо ў гады барацьбы з казакамі практыкаваўся рытуал пасвячэння вайсковых харугваў перад святым абразом у Жыровічах. Запіс пра гэта ёсць у цытаваным выданні Я. Дубянецкага. Як сцвярджалі ў сакавіку 1652 г. два шляхцічы з харугвы берасцейскага земскага пісара Станіслава Баброўніцкага, яны абодва вярнуліся з вайны "здаровымі і цэлымі" дзякуючы заступніцтву Панны Марыі. Пры гэтым яны адзначылі, што папрасілі апекі ў жыровіцкай іконы ў той дзень, "калі пасля пасвячэння сваёй харугвы выходзілі з ёй з Жыровічаў"[72].

Тое, што ў гады паўстання Хмяльніцкага цудатворны абраз жыровіцкага манастыра, можна сказаць, набываў славу абаронцы беларускіх земляў ад казакоў, пацвярджае зварот да яе заступніцтва не толькі шляхцічаў, але і жыхароў горада. Так, прадстаўнікі царкоўнага ўніяцкага брацтва з Мінска ў 1649 г. прыйшлі ў Жыровічы з паклонам, каб падзякаваць цудатворнай іконе за тое, што апека Марыі не дапусціла казакоў да горада. Яны ахвяравалі абразу сярэбраную пласцінку (воту) з вершаваным тэкстам, у якім гаварылася, што заступніцтвам Жыровіцкай Дзевы быў ад Мінска "меч казацкі адвернуты"[73].

Вайна 1654–1667 г. прынесла небывалыя спусташэнні як усяму краю, так і Жыровічам ды самому базыльянскаму манастыру. Базыльяне аказаліся ў сітуацыі безабаронных і бяспраўных, паколькі на захопленых землях у адпаведнасці з палітыкай маскоўскіх уладаў уніяцкая царква пазбаўлялася права на існаванне. Як паведамлялася цару, у верасні 1655 г. ратнікі ваяводы князя Аляксея Трубяцкога "город Слоним и слободы и Журавицкой унеяцкой монастырь каменой город и около Журавицкого монастыря слободы и иные унеяцкие монастыри и костелы выжгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без

71 Dubieniecki I. Historia o Obrazie… S. 93.
72 Ibidem. S. 77.
73 [Dubieniecki J.] O Cudach… S. 1081.

остатку…”[74]. Каб выратаваць цудатворны абраз, манахі вывозілі яго ў суседні Быцень, дзе базыльянскі манастыр быў цудам уратаваны ад разбурэння пробашчам Сімяонам Стаўроўскім[75]. Улічваючы цяжкае становішча, у якім апынулася цалкам (*funditus*) разбуранае непрыяцелем “цудоўнае месца Жыровічы”, сойм 1661 г. выказаў мястэчку ў пастанове “асаблівую павагу і спачуванне”, вызваліўшы яго на чатыры гады ад падаткаў[76].

З іншага боку, тая спусташальная вайна па-свойму паспрыяла далейшаму развіццю культу Божай Маці Жыровіцкай. Менавіта з запісаў за тыя гады паходзіць асабліва шмат прыкладаў заступніцтва Жыровіцкай Дзевы за жаўнераў ВКЛ. Іх засведчылі ў рукапіснай “кнізе цудаў” дзясяткі ўдзельнікаў тых падзей, вайскоўцы розных чыноў – ад таварышаў да паручнікаў і капітанаў[77]. Некаторыя з іх адзначылі, што гэта ім “таварыства параіла <…> ахвяравацца Найсвяцейшай Панне Жыровіцкай”[78], г. зн. у войску тады ўжо быў пэўны культ названай іконы, і многія жаўнеры бралі з сабою яе копію. Найчасцей гаворыцца пра выпадкі, калі Марыя дапамагала ўхіляцца ад варожых куляў і халоднай зброі, загойваць атрыманыя раны, уцякаць з палону і ад пагоні, ад несправядлівага ваеннага суда, а таксама ад розных іншых нягодаў ваеннага часу, у тым ліку ад абозных хваробаў. Паводле сведчанняў, такія цуды мелі месца ў баях з маскоўскім войскам пад Смаленскам, на Віцебшчыне, пад Меднікамі, у сечы з арміяй царскага ваяводы князя Юрыя Далгарукага над ракой Басяй і ў іншых бітвах.

Найбольш прыкладаў праслаўлення сілы цудадзейнай іконы прывёў ужо згаданы ротмістр Станіслаў

[74] Мялешка В. Грамадзянская вайна на Беларусі // Profesor Henryk Łowmiański – życie i dzieło : Materiały z sesji naukowej poświęconej dziesiątej rocznicy śmierci uczonego / red. A. Kijas, K. Pietkiewicz. Poznań, 1994. S. 141.

[75] Stebelski I. Chronologia albo porządne według lat zebranie znaczniejszych w Koronie Polskiej i Wiel. Księstwie Litewskim… dziejów i rewolucji… Wilno, 1782. S. 285.

[76] Volumina legum. Przedruk zbioru praw staraniem XX. Pijarów w Warszawie. T. IV. Petersburg, 1859. S. 381.

[77] ЛННБУ ВР. МВ 394. S. 9–39.

[78] Тамсама. S. 16, 59адг.

Баброўніцкі, берасцейскі земскі суддзя. Спачатку ён расказаў пра выпадкі ў Гомелі, абложаным у 1654 г. казакамі Івана Залатарэнкі, да якіх далучылася маскоўскае войска. Калі там у выніку гарматных абстрэлаў і штурмаў былі моцна пашкоджаны замкавыя сцены, Баброўніцкі сам "жыровіцкія папяровыя абразкі да дзюрак паўкладваў, і тады дзякуючы пратэкцыі Найсвяцейшай Панны [яны] былі ўратаваныя ад усіх штурмаў". Пры гэтым, у выніку ўмяшання нябеснай апякункі, спроба казакоў запаліць замак скончылася тым, што агонь "абярнуўся і спаліў нямала іх"[79]. Гэта прыклад такога ж заступніцтва за горад, дараванага Жыровіцкай Дзевай, якім праз год на ўсю Рэч Паспалітую праславілася Божая Маці Чанстахоўская, што дапамагла абаронцам Яснай Гары адбіцца ад шведаў[80].

Пазней пад Меднікамі, сцвярджаў далей Баброўніцкі, ім давялося атакаваць двухтысячны аддзел маскоўскіх стральцоў, і калі непрыяцель пачаў густы і моцны абстрэл, то многія з каня падалі, а ён у сваёй харугве нікога не страціў, і тлумачыў гэта так: "напэўна нам тое дапамагло, што кожны пры сабе па маёй парадзе меў папяровы абразок Найсвяцейшай Жыровіцкай Панны"[81]. Падобны цуд паўтарыўся пад Смаленскам, дзе яго харугва натрапіла на вялікую групоўку маскоўскіх рэйтараў. Там Баброўніцкі з таварышамі ўратаваўся дзякуючы таму, што "прысягнуў таму святому месцу" (г. зн. Жыровічам); так было і ў бітве 1661 г. над Басяй, дзе жыровіцкі абразок убярог яго з таварышамі ад "густой страляніны з магутных гармат"[82]. Са свайго боку шляхціч Геранім Ліпскі, які таксама браў удзел у той сечы, паведаміў, што меў зашытымі ажно два такія абразкі – "адзін у шапцы, а другі ў каптане на грудзях", і "калі маскоўская пяхота адкрыла агонь з мушкетаў, то вялікая куля трапіла ў шышак

[79] Тамсама. S.14адг.–15.
[80] Pamiętnik oblężenia Częstochowy: 1655 r. / Augustyn Kordecki. Częstochowa, 1991; Obsidio Clari Montis = Oblężenie Jasnej Góry / Stanisław Kobierzycki; z jęz. łac. przeł. K. Chmielewska i E. Rygał; wstęp i przyp. A. J. Zakrzewski. Kraków, 2007. S. 178–179, 210.
[81] ЛННБУ ВР. МВ 394. S. 15.
[82] Тамсама.

пад ніжнюю бляху, але, наткнуўшыся на зашыты абразок, сплюшчылася і не ўчыніла шкоды"[83].

Нябесная апякунка не пакідала без дапамогі і многіх ужо параненых жаўнераў. Так, Якуб Адамовіч, таварыш харугвы абознага ВКЛ Міхала Казіміра Паца, апісаў тое, як яго падстрэлілі ў бітве з Хаванскім пад Віцебскам (1661 г.), пасля чаго ён чатыры дні, церпячы страшны боль, не мог дастаць кулю. Але ўспомніў, што меў пры сабе абразок жыровіцкай іконы, і ўявіў, "як у Жыровічах Найсвяцейшая Панна загойвае яго раны, і з таго часу пачаў папраўляцца, куля ў хуткім часе выпала і стаў здаровым"[84]. Як апавядаў іншы шляхціч, Самуэль Рамашэўскі з Лідскага павета, калі яго, узятага ў палон, масквіцін у лесе "прастрэліў", а потым яшчэ шабляй пасек, то ён ахвяраваўся той жа іконе – і дзякуючы гэтаму выжыў, страціўшы толькі выбітае вока[85].

Жаўнеры верылі, што іх апякунка можа пасеяць страх у стане непрыяцеля, літаральна пазбавіць яго духу. Прыклад такога ўмяшання падаў да запісаў у кнігах жыровіцкага манастыра Себасцян Высятыцкі, які сцвярджаў, што ў 1660 г., калі маскоўскае войска Хаванскага з крыкам "Руби! Руби!" раптоўна напала на ляхавіцкі абоз, то ён з таварышамі крыкнуў: "Найсвяцейшая Панна Жыровіцкая, ратуй нас!", і ўсе прысягнулі цудоўнай іконе, у выніку "Маскву ахапіў такі страх, што самі пачалі ўцякаць"[86]. Сваім жа Жыровіцкая Дзева, сцвярджалі сведкі, дадавала духу[87], аберагала ад палону ці прыходзіла на выручку ў няволі. Так, Пётр Тамкевіч, Базыль Вігура і іншыя шляхцічы розных паветаў ВКЛ сцвярджалі, што прысяга жыровіцкай святыні

[83] Тамсама. S. 12адг.
[84] Тамсама. S. 39.
[85] Тамсама. S. 10адг.
[86] Тамсама. S. 15адг.
[87] Часам гаварылася пра амаль літаральнае вяртанне духу. Так, Марцін Кацёл са Смаленскага ваяводства, які служыў у Мсціслаўскай харугве, моцна захварэў і ў 1662 г. ужо хацеў накласці на сябе рукі, але пасля таго, як аддаўся ў апеку цудоўнай іконе Найсвяцейшай Маці, вярнуўся да здароўя. Гл.: ЛННБУ ВР. МВ 394. S. 27–27адг.

дапамагла ім цудоўным спосабам ыратавацца з маскоўскага палону[88]. А таварыш гусарскай харугвы палявога гетмана ВКЛ Міхаіл Юршэвіч расказаў, як у бітве з царскай арміяй пад Дзіснай ён зваліўся з каня і павінен быў трапіць у палон, бо "ўжо з усіх бакоў акружылі", але дзякуючы малітве да жыровіцкай іконы дзівам уратаваўся[89].

Урэшце Божая Маці Жыровіцкая не пакідала жаўнераў без дапамогі і ў тых выпадках, калі яны траплялі ў бяду з іншых прычын, у тым ліку з-за алкаголю. Напрыклад, Конрад Барычэўскі з харугвы палкоўніка Самуэля Кміціча распавёў, як "аднаго разу, будучы добра п'яным і ўехаўшы на кані з вялікага разбегу ў балота, зваліўся і аб вострыя камяні моцна патоўк галаву і твар, так што, калі выцягнулі з балота, нямала часу праляжаў як мярцвяк". Але як павезлі да жыровіцкай святыні, то "на першым жа начлезе паздаравеў, пехам прайшоў з дзясятак міляў да Жыровіч і там аддаў падзяку Богу і Божай Маці"[90]. Падобная гісторыя была запісана і ад шляхціча Берасцейскага ваяводства Казіміра Антановіча[91].

Зразумела, да так шанаванай вайскоўцамі жыровіцкай святыні звярталіся не толькі ў хвіліны вялікай патрэбы. Адзін з актыўных удзельнікаў той вайны ашмянскі стольнік Ян Уладзіслаў Пачобут-Адляніцкі, які служыў у гусарскай харугве палявога гетмана, у 1660-я гады шматразова наведваў Жыровічы. У сваіх успамінах ён адзначаў, што выбіраўся туды, каб "наведаць Маці Міласэрнасці", пабыць там на богаслужбе перад цудатворнай іконай з жонкай і малымі дзеткамі, або проста прыехаць у "шчаслівае месца"[92].

Асобнае месца ў мілітарным змесце культу Божай Маці Жыровіцкай займае яе далучанасць да вялікага ваеннага трыумфу. Як сцвярджае традыцыя, жыровіцкі абраз спрычыніўся да перамогі ў славутай бітве 1660 г. пад

88 ЛННБУ ВР. МВ 394. S. 9, 13.
89 Тамсама. S. 26.
90 Тамсама. S. 13.
91 Тамсама. S. 9адг.
92 Pamiętnik J. W. Poczobuta-Odlanickiego (1640–1684) / wyd. A. Rachuba. Warszawa, 1987. S. 236, 248, 267, 287, 291.

Палонкай, што каля Слоніма. Лічыцца, што напярэдадні гэтага важнага сутыкнення яму маліліся вялікі гетман Павел Сапега, які быў з войскам у Жыровічах 24 чэрвеня, і рускі ваявода Стэфан Чарнецкі, што прывёў сваю каронную дывізію на злучэнне з сіламі ВКЛ для бітвы з арміяй ваяводы баярына Івана Хаванскага[93]. Калі баталія пад Палонкай скончылася разгромам групоўкі Хаванскага[94], то заслуга ў атрыманай перамозе прыпісвалася тады Божай Маці[95]. І хоць непасрэдных сведчанняў такога трактавання перамогі ў апісаннях удзельнікаў бітвы або сучаснікаў тых падзей знайсці пакуль не ўдаецца[96], некаторыя пазнейшыя крыніцы пацвярджаюць такую легенду.

Спачатку сцэна бітвы пад Палонкай стала сюжэтам апошняга малюнка ў серыі з дзесяці выяваў, што адлюстравалі галоўныя моманты гісторыі цудатворнай іконы і яе цудаў на карціне невядомага францішканіна, які ў 1666 г. намаляваў жыровіцкі абраз у натуральную велічыню[97]. Пазней пра карціну на тэму згаданай бітвы паведамляў выкладчык полацкай базыльянскай школы Тэафіл Янткевіч у брашуры пра каранацыю жыровіцкай іконы, якая адбылася ў 1730 г.[98]. Апісваючы інтэр'ер Успенскага сабора – галоўна-

[93] Charkiewicz W. Żyrowice – łask krynice. Słonim, 1930. S. 17.

[94] Пра аблогу Ляхавіч і затым пра бітву пад Палонкай падрабязней гл.: Kossarzecki K. Kampania roku 1660 na Litwie. Zabrze, 2005. S. 162–199, 220–235; Majewski A. A. Aleksander Hilary Połubiński (1626–1679), marszałek wielki litewski: działalność polityczno-wojskowa. Warszawa, 2017. S. 236–242.

[95] Charkiewicz W. Żyrowice… S. 18; Корнилова Л. А. Страницы белорусской мариологии. С. 35.

[96] У прыватнасці, Ян Хрызастом Пасэк, які ўдзельнічаў у бітве і досыць шмат увагі аддаў яе апісанню, нідзе не ўпамінае жыровіцкай іконы, адзначыўшы толькі, што пасля перамогі Стэфан Чарнецкі ў Дзень Найсвяцейшай Панны Марыі ўвайшоў у Ляхавічы, дзе яго ўзнёсла віталі як вызваленцу. Гл.: Pasek J. Ch. Pemiętniki / przedm. J. Tazbir; wstęp i objaśnienia W. Czapliński. Warszawa, 2009. S. 213–215.

[97] Фота гэтай выявы змешчана ў пачатку прыведзенай працы В. Харкевіча.

[98] Jĸtkiewicz T. Aquila grandis magnarum alarum in Zyroviciana solitudine nidificans, sub corona renascens Beatissima Virgo Maria, in parva sua, sed pretiosissima gemma, maximis gratijs a tertio

га жыровіцкага храма, спецыяльна дэкараванага да ўрачыстасці, ён спыніўся на сямі авальных карцінах, змешчаных на калонах і хорах, якія дэманстравалі найбольш важныя моманты гісторыі абраза і тых цудаў, што пры ім здзейсніліся. На трэцяй левай калоне вісела карціна, якая ілюстравала перамогу ў бітве пад Палонкай з дапамогай Маці Божай Жыровіцкай. У небе над маскоўскім войскам невядомы мастак змясціў жыровіцкую ікону, што праменямі б'е па варожых ратніках, якіх праследуюць, забіваюць і бяруць у палон жаўнеры Рэчы Паспалітай[99].

Слава перамогі пад Палонкай прыпісвалася жыровіцкай Божай Маці і ў "Песні аб Найсвяцейшай Жыровіцкай Панне", ці проста "Жыровіцкай песні", якую з нагоды згаданай каранацыі напісаў базыльянін Скальскі[100]. Гэты твор, які лічыцца самай вядомай песняй пра цудатворныя абразы ВКЛ, напісаны простай мовай і ўтрымлівае нямала канкрэтных гістарычных фактаў, у тым ліку згадкі пра фундатараў манастыра і візіты манархаў да іконы. Самі

jam saeculo orbi nota a sanctissimo felicis recordationis Benedicto XIII, sub felicissimo regimine Clementis XII ad secundissimam Augusi Secundi regis Poloniarum totiusque polono-palaemonici orbis felicitatem, ante comitia regni generalia Grodnae celebranda, anno Domini 1730. 19 Septembris juxta vetus vero calendarium 8 ejusdem… Supraslij, 1730. У пачатку XX ст. протаіерэй Мікалай Дзікоўскі выдаў грунтоўны рускамоўны пераказ гэтага твора. Гл.: Диковский Н. Коронование Жировицкой чудотворной иконы Богоматери. (1730 год). Гродно, 1902.

99 Jętkiewicz T. Aquila grandis magnarum alarum… Supraslij, 1730. S. 74. Пар.: Диковский Н. Коронование Жировицкой чудотворной иконы Богоматери. С. 40–41.

100 Piesni nabozne na swięta uroczyste według porządku Koscioła Swiętego Rzymsko-katolickiego na cały rok zebrane, z przydatkiem nowych pesni przedrukowane. Wilno, 1831. S. 504–514. Пар.: Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T.3. Warszawa, 1846. S. 686. Charkiewicz W. Opus cit. S. 18; Корнилова Л. А. Страницы белорусской мариологии. С. 37; Chomik P. Elementy dydaktyczne w poezji maryjnej jako forma kultu cudownych ikon Matki Bożej w Wielkim Księstwie Litewskim // Szkolnictwo prawosławne w Rzeczypospolitej / pod red. A. Mironowicza, U. Pawluczuk, P. Chomika. Białystok, 2002. S. 248; idem. Kult ikon Matki Bożej w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI–XVIII wieku. Białystok, 2003. S. 353–356.

Жыровічы ў ёй названы “новай Чанстаховай”, а наконт бітвы сказана, што:

*Палубінскія і Агінскія, і зацныя Сапегі*
*І Карэцкія, і Чарнецкія, і адважныя Хадкевічы*
*Атрымалі тут Жыровіцкую дапамогу,*
*З малым войскам разагналі непрыяцельскую моц*[101].

Успрыманне перамогі пад Палонкай як чарговай праявы ласкі Прачыстай Дзевы Марыі яшчэ больш праслаўляла жыровіцкі абраз. У 1684 г. у Жыровічы прыязджаў Ян III Сабескі, які маліўся і дзякаваў Божай Маці за перамогу над асманскай арміяй у бітве пад Венай. Па просьбе мясцовага войта кароль пацвердзіў беларускаму мястэчку магдэбургскае права, загадаўшы, між іншага, аберагаць пасяленне ад жаўнераў – “каб ніхто ніякім чынам не адважваўся неяк абцяжарваць гэтае святое месца…”[102].

Візіты манархаў, як і вера ў ролю жыровіцкай іконы ў атрыманні вялікіх ваенных перамог, – усё гэта, несумненна, зрабіла вядомым беларускае мястэчка далёка за межамі краю. Пералічваючы ў сваім творы самыя вядомыя месцы Рэчы Паспалітай другой паловы XVII ст., у якіх былі цудатворныя іконы Божай Маці, згаданы вышэй Веспасіян Каҳоўскі прывёў васямнаццаць гарадоў і мястэчак, сярод якіх на шостым месцы былі Жыровічы[103]. І ў песні 1730 г. гэтае мястэчка было невыпадкова названа “новай Чанстаховай”. Калі браць пад увагу ваенны аспект культу Божай Маці Жыровіцкай, то можна сказаць, што для ВКЛ яна ў тыя часы сапраўды была своеасаблівым аналагам Чорнай Мадонны з Яснай Гары.

[101] Вось увесь фрагмент песні, прысвечаны бітве: *I w Połące tam walczące wojsko Moskwy przegrało / Choc sie bitwą z naszą Litwą Kawalerską scierało / Połubińscy i Ogińscy, i zacni Sapiehowie / I Koreccy, i Czarnieccy, i bitni Chodkiewiczowie / Tu przyznali Zyrowickiej pomocy / Wojska mało rozpraszało nieprzyjacielskie mocy.* Цыт. паводле: Piesni nabozne na swięta uroczyste… S. 507.

[102] Гл.: ЛЕВ. 1864. № 4. С. 133–134.

[103] Kochowski W. Utwory poetyckie: wybór / oprac. M. Eustachiewicz. Wyd. 2. Wrocław, 1991. S. 80–81.

# Military aspects of the Cult of Lady of Žyrovičy in 17th century

**Hienadź Sahanovič**

The icon of the Virgin Mary of Žyrovičy (Western Belarus) originally belonged to Orthodox Church and was considered miraculous, but from the beginning of the 17th century, when local population started to convert to the Unia, until 1839 it belonged to the Basilian Order. During those times it became legendary for miracles and turned into one of the most famous in the Polish-Lithuanian Commonwealth. The author considers the little-known aspects of the Cult of the Lady of Žyrovičy related to several wars waged in the 17th century in Belarus. It turns out that the local nobility and the townspeople claimed that the Lady of Žyrovičy helped them in the war against Moscow and the Zaporozhian Cossacks. It was also believed that Moscow troops were defeated in 1660 near Polonka thanks to the patronage of the Lady. In general, from this point of view the icon of the Virgin Mary of Žyrovičy played nearly the same role in the Grand Duchy of Lithuania as the Black Madonna from Częstochowa in the Polish Kingdom.

# Нацыяналізм і нацыянальныя мовы

## Тамаш Камусэла*

У вялікім корпусе навуковай літаратуры на тэму нацыяналізму, як правіла, прызнаецца важнасць мовы ў працэсе фармавання нацый і дзяржаў. Аднак абмяркоўваць пытанні мовы і нацыяналізму досыць складана, бо тут прысутнічаюць моцныя, часта непрамоўленыя, нарматыўныя цверджанні, і да такіх, здавалася б, нейтральных і ўніверсальных тэрмінаў, як "нацыя", "нацыянальная дзяржава", "нацыянальнасць", могуць дадавацца розныя палітычныя і сацыяльныя канатацыі. Яны могуць істотна разыходзіцца ў розных краінах і мовах. Яшчэ адна складанасць – у таксама латэнтным для Захаду нарматыўным супрацьпастаўленні дыялектаў і моў, калі дыялекты ўспрымаюцца як "дзеці" "ўласна моў". Больш за тое, канцэпцыя мовы – гэта адначасова і прадукт культуры (у т. л. палітыкі), і асноўная прылада фармавання культуры як сацыяльнай рэальнасці (адрозна ад матэрыяльнай). Нацыі, нацыянальныя дзяржавы і мовы, бадай, нябачныя ў матэрыяльнай рэальнасці, аднак яны складаюць падмурак сацыяльнай рэальнасці сучаснага свету, якім мы яго ведаем.

У гэтым эсэ даводзіцца, што этналінгвістычны нацыяналізм – асноўны механізм стварэння і захавання сацыяльнай

* Публікуецца з ласкавай згоды аўтара паводле: Tomasz Kamusella. Nationalism and National Languages // James W. Tollefson and Miguel Pérez-Milans, eds. The Oxford Handbook of Language Policy and Planning. Oxford: Oxford University Press, 2018.
Аўтар удзячны Пітэру Бэрку за зычлівую падтрымку, Кэтрын Гібсан, Джэймсу Толефсану, Мігелю Перэс-Мілансу і Дораці Баўхоф – за іх шматлікія заўвагі і прапановы, якія дазволілі істотна палепшыць гэтае эсэ. Вядома, адказнасць за ўсе магчымыя хібы нясе толькі аўтар.

рэальнасці ў цэнтральнаеўрапейскіх нацыянальных дзяржавах – звязаны з нарматыўным ізамарфізмам (шчыльным прасторава-дыскурсіўным перапляценнем) мовы, нацыі і дзяржавы. Гэты механізм паказаны як сукупнасць некалькіх працэдур, што дазваляе ўжыць канцэпцыю этналінгвістычнага нацыяналізму як інструмент аналізу. Большасць дзяржаў, якія адпавядаюць гэтаму нарматыўнаму ізамарфізму (за рэдкімі выняткамі на абсягу астатняй Еўразіі), знаходзяцца ў Цэнтральнай Еўропе, дзе пасля Першай сусветнай вайны асноватворным прынцыпам нацыяналізму стаў этналінгвістычны нацыяналізм. (Яшчэ адна сукупнасць ізаморфных дзяржаўных утварэнняў месціцца ў Паўднёва-Усходняй і Усходняй Азіі; яна паўстала ў выніку Другой сусветнай вайны і дэкаланізацыі.) На прыкладзе этналінгвістычнага нацыяналізму ў Цэнтральнай Еўропе тут даследуюцца гістарычнае развіццё сувязяў паміж мовай і нацыяналізмам, адпаведныя паняццева-тэрміналагічныя складанасці і моўная палітыка пасля Другой сусветнай вайны, якая адлюстроўвае ізамарфізм мовы, нацыі і дзяржавы.

## Распаўсюд нацыяналізму па планеце

Цяпер мы жывем у глабальную эпоху нацыяналізму (як празорліва прадказваў Ганс Кон у 1962 г.). З распадам Савецкага Саюза ў 1991 г. з палітычнай карты свету знікла апошняе значнае ідэалагічна ненацыянальнае дзяржаўнае ўтварэнне. Першыя самаабвешчаныя нацыянальныя дзяржавы – ЗША, рэвалюцыйная Францыя і Гаіці – узніклі напрыканцы XVIII ст. У першай палове наступнага стагоддзя да іх далучыліся іспанскія калоніі ў Лацінскай Амерыцы, што імкліва заваявалі незалежнасць як нацыянальныя дзяржавы. У 20-я г. XIX ст. у Еўропе (еўрапейскай частцы Асманскай імперыі, на т. зв. Балканах) таксама з'явіліся аўтаномныя хрысціянскія нацыянальныя дзяржавы, якія здабылі незалежнасць: Чарнагорыя, Сербія і Грэцыя.

У Заходняй Еўропе Бельгія сфармавалася як нацыянальная дзяржава на рэлігійнай аснове, а Нідэрланды і Швейцарыя акрэслілі сябе як дзяржавы адзінай нацыі. Пасля заснавання Каралеўства Італія ў 1861 г.

і Германскай імперыі ў 1871 г. як па сутнасці нацыянальных дзяржаў усе еўрапейскія краіны Новага часу, за выняткам Аўстра-Венгрыі і Расійскай імперыі, ператварыліся ў нацыянальныя дзяржавы, каб захаваць або вярнуць сабе дзяржаўную легітымнасць. Да Першай сусветнай вайны нацыянальная дзяржава стала эталонам легітымнага дзяржаўнага ладу ў Паўночнай, Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы і на постасманскіх Балканах, амаль цалкам падзеленых на нацыянальныя дзяржавы.

Па-за межамі Еўропы да пачатку дваццатага стагоддзя мадэль нацыянальнай дзяржавы, якая прыраўноўвалася да мадэрнасці і прагрэсу, прынялі Японія пры імператару Мэйдзі, Кітайская Рэспубліка і Каралеўства Сіям (Тайланд) – апошняе дзяржаўнае ўтварэнне, якое такім чынам імкнулася супрацьстаяць спробам Францыі ператварыць яго ў французскую калонію. Тая ж мадэль нацыянальнай дзяржаўнасці распаўсюдзілася і ў пасяленскіх калоніях Вялікабрытаніі, якія адна за адной ператварыліся ў Канадскую канфедэрацыю, Аўстралійскую садружнасць, Дамініён Новая Зеландыя і Паўднёва-Афрыканскі Саюз. У міжваенны перыяд пасля распаду Аўстра-Венгерскай, Расійскай і Асманскай імперый практычна ўсе еўрапейскія дзяржавы (апроч Вольнага горада Данцыг і Дзяржавы-горада Ватыкан) ператварыліся ў нацыянальныя дзяржавы. (Адметны вынятак – Савецкі Саюз, што меўся ахапіць усю планету, як вынікае з яго падкрэслена ўніверсалісцкай назвы, у якой камуністычная дзяржава не прывязвалася ні да якой этнічнай і геаграфічнай канкрэтыкі.) Шмат якія постасманскія тэрыторыі Блізкага Усходу і арабскай Паўночнай Афрыкі: Егіпет, Ірак, Сірыя, Турцыя – атрымалі незалежнасць і сталі нацыянальнымі дзяржавамі, іншыя ж ступілі на шлях да будучай нацыянальнай незалежнасці пад мандатам Вялікабрытаніі і Францыі. Астатнія незалежныя дзяржаўныя ўтварэнні не на Захадзе, асабліва Абісінія (Эфіопія) і Персія (Іран), імкнуліся тэрмінова пераафарміцца ў нацыянальныя дзяржавы, каб не зрабіцца калоніямі заходніх дзяржаў.

Пасля Другой сусветнай вайны распаліся заходнія марскія каланіяльныя імперыі. У выніку гэтай маштабнай

дэкаланізацыі, якая ахапіла ўвесь свет, усе былыя калоніі без вынятку, атрымаўшы незалежнасць, абвяшчалі сябе нацыянальнымі дзяржавамі. Працэс завяршыўся ў 1991 г. распадам Савецкага Саюза на пятнаццаць нацыянальных дзяржаў – былых саюзных рэспублік, кожная са сваёй этналінгвістычнай нацыяй, у адпаведнасці з абвешчаным Іосіфам Сталіным у 1930 г. лозунгам, што культура ў Савецкім Саюзе мусіць быць “нацыянальная паводле формы, але сацыялістычная паводле зместу”[1]. Такім чынам, нацыяналізм стаў першай усеагульна прызнанай інфраструктурнай ідэалогіяй легітымавання дзяржаўнасці, як у ЗША, так і ў Іране, Паўночнай Карэі ці Науру – дзяржавах, якія рэзка адрозніваюцца паміж сабою амаль ва ўсім, апроч неад’емнай прыхільнасці да нацыяналізму.

Паўстае пытанне: што нясе ў сабе нацыяналізм як адзіная ідэалогія фармавання, легітымавання і захавання дзяржавы ў познемадэрны перыяд (ад 1991 г.)? Каб падыходзіць усім дзяржавам свету, нягледзячы на ўсе іх велізарныя адрозненні, гэтая ідэалогія мусіць складацца з некалькіх простых, шырока прызнаных і гнуткіх правілаў. Яны падрабязна разглядаюцца ў наступным параграфе.

### Нацыяналізм і “гульні розуму”: чарадзейства

Сцісла кажучы, нацыяналізм зыходзіць з таго, што, каб мець легітымнасць, дзяржаўнае ўтварэнне мусіць быць нацыянальнай дзяржавай, г. зн. дзяржавай толькі адной нацыі. У адпаведнасці з вестфальскай мадэллю тэрытарыяльнай дзяржавы (*Territorialstaat*) пасля 1648 г. нацыянальная дзяржава ўяўляецца як своеасаблівая абмежаваная прастора, аднародная або рэлігійна, культурна і моўна, або з гледзішча статусу яе жыхароў – грамадзян. Гэтая аднародная абмежаваная прастора, якая ў ідэале складаецца з адзінай суцэльнай тэрыторыі, знаходзіцца

[1] Цыт. паводле: Вдовин А. И. “Русский вопрос” и “российская нация” на современном этапе // Национальная идентичность России и демографический кризис / ред. С. С. Сулакшин и др. Москва, 2007. С. 145.

пад уладай аднаго ўрада, які ахоўвае палітычны, ваенны, сацыяльны і часам эканамічны суверэнітэт прасторава і ідэалагічна адасобленай нацыянальнай дзяржавы ад усіх іншых дзяржаўных утварэнняў. Гэта азначае, што ўрад ахоўвае нацыянальную дзяржаву ад непажаданых уплываў і магчымых ваенных уварванняў, як правіла, з боку суседніх дзяржаў. Такім чынам, нацыянальная дзяржава выступае як прыклад уласцівай чалавецтву сацыяльнай тэндэнцыі імкнуцца да бяспекі ва ўяўленых (сканструяваных) "морфа-імуналагічных сферах"[2]. Нацыя, у сваю чаргу, лічыцца найвышэйшай уяўнай таксанамічнай адзінкай чалавечай супольнасці, што *a priori* выключае магчымасць узнікнення любой не менш упарадкаванай і жыццяздольнай наднацыянальнай супольнасці. Толькі нацыі могуць прэтэндаваць на права на дзяржаўнасць (нацыянальнае самавызначэнне) і адначасова быць крыніцамі дзяржаўнасці і яе легітымнасці.

Аналіз паняцця "нацыя" па-англійску і па-французску ўскладняецца тым, што на гэтых дзвюх мовах названы тэрмін звычайна ўжываецца як сінонім да слова *дзяржава*. Таму навукова-юрыдычны неалагізм *nation-state* [нацыянальная дзяржава] выглядае як таўталогія. Гэтая праблема не паўстае, напрыклад, у нямецкай і польскай мовах. Па-нямецку "дзяржава" – *Staat*, а "нацыя" – *Volk* (або ў некаторых спецыяльных значэннях – *Nation*), а па-польску – адпаведна *państwo* і *naród*. Па-нямецку і па-польску тэрмін *нацыя* як чалавечая супольнасць (г. зн. *Volk* і *naród*) не маюць значэння 'дзяржава'. "Нацыянальная дзяржава" перадаецца па-польску як *państwo narodowe*, а па-нямецку – як *Nationalstaat*.

З *nationality* [нацыянальнасцю] таксама ўзнікаюць тэрміналагічныя цяжкасці: гэтае слова можа азначаць ці прыналежнасць асобы да нацыі, ці чалавечую супольнасць, "большую за этнас, але меншую за нацыю", якая можа мець права на аўтаномію, але не на нацыянальную незалежнасць (у гэтым значэнні некаторыя

[2] Solterdijk P. Spheres.Vol 1: Bubbles. Transl. by W. Hoban. Los Angeles, 2011. P. 46.

аўтарытэтныя навукоўцы аддаюць перавагу неалагізму *протанацыя*[3]). Аднак па-англійску *nationality* найчасцей ужываецца як сінонім паняцця "грамадзянства". Па-нямецку "нацыянальнасць" – *Nationalität*, а па-польску – *narodowość*, і гэтыя словы не азначаюць "грамадзянства" – *Staatsbürgerschaft* па-нямецку і *obywatelstwo* па-польску. Расійскае паняцце "национальность" розніцца ад "грамадзянства" (*гражданство* па-руску), але мае два значэнні: 'народнасць' (ад слова *народ*) і 'нацыянальнасць' (ад слова *нацыя*). Раней абодва гэтыя паняцці былі сінанімічныя ў значэнні 'протанацыя, якая мае права на аўтаномію', і толькі 'нацыянальнасць' азначае прыналежнасць да нацыі. Цяпер у значэнні 'протанацыя' ўжываецца амаль выключна "народнасць". Такім чынам, у сучаснай рускай мове ёсць два адпаведнікі *nationality* – у залежнасці ад значэння, і гэта змяншае верагоднасць блытаніны. Адсюль вынікае, што носьбіты англійскай, нямецкай, польскай і рускай моў могуць мець на ўвазе зусім розныя рэчы, ужываючы адныя і тыя ж англійскія тэрміны.

Аднак нацыі як чалавечыя супольнасці (г. зн. дэмаграфічны "змест" нацыянальных дзяржаў) істотна розняцца, напрыклад, сваёй колькасцю. Побач з кітайскай нацыяй колькасцю 1,4 млрд чалавек тувалуанская колькасцю менш за 10 000 чалавек выглядае карлікавай. Такія адрозненні не пазбаўляюць ніводную нацыю права на гэтае найменне, бо няма канкрэтных матэрыяльных крытэрыяў, якім мусіць адпавядаць супольнасць, каб прэтэндаваць на статус нацыі. Працэс фармавання нацыі – дыскурсіўны, ён залежыць ад рыторыкі ўлады[4], якая выказваецца і рэалізуецца праз мову[5].

Стварэнне нацыі ці нацыянальнай дзяржавы – гэта моўны акт, які, калі і можа змяніць матэрыяльную

[3] Гл.: Hobsbawm E. J. Nations and nationalism since 1780: Programme, myth, reality. Cambridge, 1990. P. 72.

[4] Han B.-C. Was ist Macht? Stuttgart, 2005.

[5] Bourdieu P. Language and symbolic power / ed. J. B. Thompson, transl. by G. Raymond & M. Adamson. Cambridge, 1992; Foucault M. The order of things: Archaeology of the human sciences. London, 2002 (1970).

рэальнасць, дык не адразу[6]. Сукупнасці, якія завуцца “нацыямі” ці “нацыянальнымі дзяржавамі”, належаць сацыяльнай рэальнасці, якая спараджаецца праз мову сталых зносін паміж людзьмі і супольнасцямі[7]. І нацыі, і нацыянальныя дзяржавы немагчыма разгледзець і ідэнтыфікаваць з дапамогай інструментаў, якімі карыстаюцца прыродазнаўчыя навукі, даследуючы матэрыяльную рэальнасць. Нацыі і нацыянальныя дзяржавы не ўбачыць ні з пазіцыі назіральніка на паверхні Зямлі, ні з арбіты, ні няўзброеным вокам, ні ў тэлескоп. Да нацыі і нацыянальнай дзяржавы нельга дакрануцца, хоць нацыяналісты традыцыйна сцвярджаюць, што, калі неабходна, трэба аддаць жыццё за сваю краіну, маючы на ўвазе нацыю і / ці нацыянальную дзяржаву[8]. Такім чынам, нацыі і нацыянальныя дзяржавы нараджаюцца толькі праз чалавечае ўяўленне, г. зн. дыскурсіўна, праз мову.

## Роля мовы

У 1793–1794 г. рэвалюцыйная Францыя выключыла з адукацыі і афіцыйнага ўжытку ўсе мовы, якімі да таго звычайна карысталіся на пісьме, апроч французскай. Аднак мова не зрабілася адзіным падмуркам нацыі, ці дзяржаўнасці[9]. Ідэя нарматыўнай роўнасці паміж дэмаграфічнай сукупнасцю – нацыяй – і нарматыўным моўным адзінствам з’явілася на землях былой Святой Рымскай Імперыі пад час шматразовых наступаў Напалеона на самым пачатку XIX ст., якія ў 1806 г. прывялі да распаду гэтай тысячагадовай імперыі. Такім чынам, знікла дамадэрнае дзяржаўнае ўтварэнне, якое магло б ператварыцца ў нямецкую нацыянальную дзяржаву. У выніку

[6] Austin J. L. How to do things with words. Cambridge, 1962.
[7] Searle J. R. The construction of social reality. London, 1995.
[8] Balch G. T., Foster W. Apatrioticprimer for the little citizen: Anauxiliary in teaching the youth of our country the true principles of American citizenship. Indianapolis, 1898. P. 67.
[9] Certeau M. de, Julia D., Revel J. Une politique de la langue : La Révolution française et les patois. L’enquête de Grégoire. Paris, 1975.

нованароджаны нямецкі нацыянальны рух пазбавіўся магчымасці пайсці шляхам французаў, якія ператварылі Каралеўства Францыя ў французскую нацыянальную дзяржаву. Такое становішча моцна турбавала нямецкамоўных інтэлектуалаў (*Bildungsbürgertum*) на пачатку XIX ст.

Выйсце прапанавала добра вядомая антыфранцузская песня[10], у якой сцвярджалася, што нямецкая нацыянальная дзяржава (айчына немцаў) мусіць распасцірацца "паўсюль, дзе гучыць нямецкая мова"[11]. Гэты моўны падыход да нацыянальнага пытання стаў новай нормай для Новага часу, якая сцвярджае, што носьбіты адной мовы (моўная супольнасць) натуральным чынам утвараюць нацыю і што тэрыторыя кампактнага пражывання гэтай моўнай супольнасці мусіць зрабіцца нацыянальнай дзяржавай[12]. Гэтая норма паспяхова прайшла выпрабаванне ў 60 – 70-я г. XIX ст., калі Італія і Нямеччына сфармаваліся як этналінгвістычныя нацыянальныя дзяржавы. Пазней, пасля Першай сусветнай вайны, у адпаведнасці з названым прынцыпам змяніліся палітычныя абрысы Цэнтральнай Еўропы (у гэтай працы пад ёю разумеецца вертыкаль пасярэдзіне Еўропы ад Скандынавіі да Балканаў). Ад другой паловы XIX ст. пытанне мовы як паказніка нацыянальнасці (прыналежнасці да нацыі паводле чыста моўнага вызначэння) уключалася ў агульнадзяржаўныя перапісы насельніцтва ва ўсёй Цэнтральнай Еўропе[13].

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны на месцы былых імперыі Габсбургаў і Асманскай імперыі, на захадзе ранейшай Расійскай імперыі, а таксама на некаторых усходніх тэрыторыях, адрэзаных ад Германскай імперыі, паўсталі этналінгвістычныя нацыянальныя дзяржавы.

[10] Arndt E. M. Des deutschen Vaterland. In E. M. Arndt. Fünf Lieder für deutsche Soldaten. Berlin, 1813.

[11] Цыт. паводле: Feuerzeig L. (Ed.). Deutsche Lieder für Jung und Alt. Middleton, 2002. S. 70.

[12] Reiter N. Gruppe, Sprache, Nation. Wiesbaden, 1984

[13] Leuschner T. Richard Böckh (1824–1907): Sprachenstatistik zwischen Nationalitätsprinzip und Nationalstaat // Historiographia Linguistica. V. 31 (2004). P. 389–421.

Апроч таго, пад час Балканскіх войнаў і Першай сусветнай вайны ад пачатку этнарэлігійныя нацыянальныя дзяржавы на Балканах усё больш рабіліся этналінгвістычнымі. Найлепшы прыклад гэтых змен – Албанія, заснаваная ў 1912 г. на выключна этналінгвістычнай глебе. Албанская нацыя ўтварылася з носьбітаў албанскай мовы, якія вызнавалі розныя рэлігіі: іслам, праваслаўе, каталіцтва. Дзяржавы-пераможцы ў Першай сусветнай вайне прынялі гэтую новую логіку палітычнай арганізацыі Цэнтральнай Еўропы. Этналінгвістычны прынцып паступова зрабіўся натуральным, як сведчыць наступная цытата з аўтарытэтнай буйной працы 1917 г. на гэтую тэму, якую ўважліва вывучалі ўдзельнікі перамоў на Парыжскай мірнай канферэнцыі: “усё большае супадзенне моўных і палітычных межаў трэба ўспрымаць як нармальнае развіццё падзей. <…> Бо нацыі, як і асобы, найлепш раскрываюць сябе, калі яны свабодныя, г. зн. калі іх лёс – у іх уласных руках”[14].

У выніку ў міжваенны перыяд, напрыклад, у Эстоніі адзінай афіцыйнай і нацыянальнай мовай стала эстонская, у Венгрыі – венгерская, у Польшчы – польская, у Румыніі – румынская. Меркавалася, што гэта дзяржавы толькі для сваіх адпаведных этналінгвістычных нацый, якія размаўляюць на нацыянальнай мове, г. зн. для эстонскамоўных эстонцаў у Эстоніі, венгерскамоўных венграў у Венгрыі, польскамоўных палякаў у Польшчы і румынскамоўных румынаў у Румыніі. Каб дзяржавы-пераможцы прызналі легітымным новае палітычнае ўтварэнне ў Цэнтральнай Еўропе, яно мусіла адпавядаць гэтай мадэлі этналінгвістычнай нацыянальнай дзяржаўнасці. (Цікава, што дзяржавы-пераможцы не хацелі пашыраць названы прынцып фармавання нацыянальнай дзяржавы на іншыя рэгіёны Еўропы і пагатоў на свае заморскія калоніі[15].)

Гэтае абавязковае прыраўноўванне нацыі і нацыянальнай дзяржавы да адзінай моўнай супольнасці стварыла

[14] Dominian L. The frontiers of language and nationality in Europe. London; New York, 1917. P. 342.

[15] Mishra P. From the ruins of empire: The revolt against the West and the remaking of Asia. London, 2012.

велізарную ідэалагічную і палітычную праблему для Чэхаславакіі і Каралеўства Сербаў, Харватаў і Славенцаў (ад 1929 г. – Каралеўства Югаславія). Першая была заснавана як агульная дзяржава для чэхаў і славакаў, а другая – для сербаў, харватаў і славенцаў. Большасць палітычных дзеячоў, як і насельніцтва Цэнтральнай Еўропы, разглядала вышэйназваныя супольнасці як свайго роду асобныя нацыі ці нацыянальнасці (протанацыі) са сваімі ўласнымі мовамі. Таму ні Чэхаславакія, ні Каралеўства не маглі быць нацыянальнымі дзяржавамі, як гэты тэрмін разумелі ў Цэнтральнай Еўропе пасля 1918 г.

Калі б гэтыя дзве дзяржавы не легітымаваліся і не выжылі, гэта быў бы моцны ўдар па дыпламатычных і палітычных намаганнях краін-пераможцаў пераўладкаваць палітычную канструкцыю Цэнтральнай Еўропы паводле прынцыпаў этналінгвістычнага нацыяналізму. У выпадку Чэхаславакіі знайшлі рашэнне абвясціць яе нацыянальнай дзяржавай чэхаславацкай нацыі з адзінай афіцыйнай і нацыянальнай мовай – чэхаславацкай. На практыцы ў міжваеннай Чэхаславакіі ў дзяржаўным кіраванні і адукацыі на тэрыторыі Славакіі выкарыстоўвалася славацкая мова, а на чэшскіх землях Багеміі і Маравіі-Сілезіі – чэшская. Згодна з гэтай мадэллю, чэхаславацкая мова складалася з двух варыянтаў: чэшскага і славацкага[16]. На такое ўскладненне, як Карпацкая Русь са сваёй нацыяй – русінамі – у якасці трэцяга этнатэрытарыяльнага складніка міжваеннай Чэхаславакіі, папросту не зважалі. Русінскі этнонім не фігураваў у назве дзяржавы, і іх мова – русінская – не называлася трэцім варыянтам чэхаславацкай.

Тое, што значнасць мовы ў канструяванні і легітымаванні нацыянальных дзяржаў у Цэнтральнай Еўропе стала нарматывам, відаць і на прыкладзе Каралеўства Сербаў, Харватаў і Славенцаў. Назва з трох складнікаў змянілася на ўнітарнае найменне Югаславія ў 1929 г. – праз восем гадоў пасля канстытуцыйнага рашэння 1921 г.

[16] Nekvapil J. On the relationship between small and large Slavic languages // International Journal of the Sociology of Language. V. 183 (2007). P. 146–147.

надаць сербска-харвацка-славенскай статус адзінай афіцыйнай і нацыянальнай мовы гэтай нацыянальнай дзяржавы. Трохскладнікавая назва мовы ніколі афіцыйна не змянялася, але ад 1929 г. яе ўсё часцей і часцей пачалі называць югаслаўскай. Хоць каралеўскім загадам у 1929 г. сербы, харваты і славенцы абвяшчаліся адзінай нацыяй югаславаў, на практыцы ў дзяржаўным кіраванні і адукацыі міжваеннай Югаславіі серба-харваты і славенцы *de facto* разглядаліся як дзве асобныя супольнасці югаслаўскай нацыі. Гэтаксама афіцыйная сербска-харвацка-славенская мова падзялялася на два варыянты, кожны – на сваёй тэрыторыі: славенская ўжывалася ў Падраўскім рэгіёне (сучаснай Славеніі), а сербска-харвацкая – на ўсёй астатняй тэрыторыі нацыянальнай дзяржавы і ў дзяржаўным кіраванні. Апроч таго, сербска-харвацкі варыянт сербска-харвацка-славенскай мовы афіцыйна меў дзве графічныя сістэмы: кірыліцу і лацініцу, таму лацінічны варыянт неафіцыйна называўся харвацкім, а кірылічны – сербскім. Тэрытарыяльна харвацкі варыянт панаваў у Харвацкім рэгіёне (заснаваны ў 1939 г., ён супадаў з абсягамі сучаснай Харватыі і часткі Босніі), а сербскі – на поўдні Югаславіі (на тэрыторыі сучасных Косава, Македоніі, Сербіі і Чарнагорыі).

Другая сусветная вайна кардынальна змяніла не толькі тэрытарыяльны падзел Чэхаславакіі і Югаславіі, але і становішча з афіцыйнымі (нацыянальнымі) мовамі. У 1939 г. Чэхаславакія раскалолася як нацыянальная дзяржава. Славакія стала незалежнай нацыянальнай дзяржавай толькі для славацкамоўных славакаў, і яе адзінай афіцыйнай і нацыянальнай мовай была славацкая. Чэшскія землі інкарпараваў Трэці Рэйх (ваенная Нямеччына) як Пратэктарат Багеміі і Маравіі, дзе афіцыйнымі мовамі былі нямецкая і чэшская. (Венгрыя анексавала Карпацкую Русь – адрозна ад міжваеннай Чэхаславакіі, у Венгрыі русінская мова ў нейкім аб'ёме ўжывалася як афіцыйная разам з венгерскай.) Ад 1945 г. Чэхаславакія (за выняткам Карпацкай Русі, улучанай у склад СССР як частка Украіны) аднавіла сваю самастойнасць як нацыянальная дзяржава чэхаславацкага *народа*, што

складаўся, паводле Канстытуцыі 1948 г., з дзвюх *братніх нацый* – чэхаў і славакаў. Аднак вяртання да чэхаславацкай мовы не адбылося, і ў якасці афіцыйных і нацыянальных моў функцыянавалі і чэшская, і славацкая[17].

Падзел Югаславіі ў 1941 г. паміж Нямеччынай, Італіяй, Венгрыяй і Балгарыяй таксама прывёў да скасавання сербска-харвацка-славенскай мовы як афіцыйнай і нацыянальнай мовы нацыянальнай дзяржавы. Славенскі варыянт выйшаў з афіцыйнага ўжытку, бо этнічную тэрыторыю славенцаў падзялілі паміж сабой Нямеччына і Італія. У падкантрольнай Нямеччыне і Італіі краіне з афіцыйнай назвай Незалежная Харвацкая Дзяржава, якая займала тэрыторыю сучасных Харватыі і Босніі, сербска-харвацкую мову з дзвюма графічнымі сістэмамі замяніла лацінічная харвацкая, а кірылічны варыянт быў катэгарычна забаронены ў афіцыйным ужытку і ў адукацыі. Гэтаксама ў Сербіі пад уладай нямецкай ваеннай адміністрацыі кірылічная сербская мова выціснула з афіцыйнага ўжытку сербска-харвацкую. У італьянскім Губернатарстве Чарнагорыя таксама панавала сербская мова, хоць першапачаткова Рым планаваў замяніць яе на чарнагорскую. У далучанай да Балгарыі частцы паўднёвай Сербіі (сучаснай Македоніі) кірылічную сербска-харвацкую ў афіцыйным ужытку і ў адукацыі замяніла балгарская[18].

Пасля вайны ў камуністычнай Югаславіі сербска-харвацка-славенскую мову не аднавілі, але два яе варыянты міжваеннага часу – двухграфічная сербска-харвацкая і славенская – вярнуліся да жыцця як самастойныя афіцыйныя і нацыянальныя мовы. Пераймаючы прыклад Савецкага Саюза, пасляваенная Югаславія была наноў

[17] McDermott K. Communist Czechoslovakia, 1945–89: A political and social history. London, 2015. P. 48.

[18] Greenberg R. D. Language and identity in the Balkans: Serbo-Croat and its disintegration. Oxford, 2008. P. 22; Samardžija M. Hrvatski jezik, pravopis i jezična politika u Nezavisnoj Državi Hrvatskoj. Zagreb, 2008; Scotti G., & Viazzi L. Le aquile delle Montagne Nere. Storia dell'occupazione e della guerra italiana in Montenegro (1941–1943). Milano, 1987.

створана як ненацыянальная федэрацыя, што складалася з этналінгвістычных нацыянальных рэспублік. У Сацыялістычнай Рэспубліцы Славенія афіцыйнай і нацыянальнай мовай была славенская, а ў Сацыялістычнай Рэспубліцы Македонія – македонская. Пра македонскую мову заявілі ў 1944 г., калі югаслаўскія камуністычныя сілы ўжо адваявалі ў Балгарыі большую частку былой паўднёвай Сербіі, якую перайменавалі ў Македонію. У выніку да 1945 г. з сербска-харвацка-славенскай мовы міжваеннага часу нарадзіліся македонская, сербска-харвацкая і славенская мовы[19].

Сербска-харвацкая была афіцыйнай і нацыянальнай мовай у чатырох сацыялістычных рэспубліках Югаславіі: Босніі і Герцагавіне, Харватыі, Чарнагорыі і Сербіі. Такая канфігурацыя выпадала з цэнтральнаеўрапейскага кантэксту, які прадугледжваў, што кожная сапраўдная нацыя – у межах сваёй нацыянальнай дзяржавы ці нацыянальнай рэспублікі (у выпадку федэрацый) – мусіць мець сваю ўласную адметную нацыянальную мову. Таму ў 1974 г. кожная з гэтых чатырох сацыялістычных рэспублік атрымала свой уласны варыянт нацыянальнай мовы[20]. У Сацыялістычнай Рэспубліцы Харватыя ён афіцыйна менаваўся харвата-сербская, ці харвацкая, мова, у якой ужывалася толькі лацініца. У Сацыялістычнай Рэспубліцы Сербія, наадварот, афіцыйна замацоўвалася кірылічнае пісьмо, а ў Чарнагорыі і ў Босніі і Герцагавіне дазвалялася карыстацца абодвума алфавітамі. Урэшце афіцыйнае найменне дзяржаўнай мовы ўсёй Югаславіі – сербска-харвацкая – з агульнай згоды змянілі на сербска-харвацкую / харвата-сербскую, харвацкую і сербскую[21].

Праз пяць гадоў, пасля інтэрвенцыі ў 1968 г. краін Варшаўскай Дамовы на чале з СССР у Чэхаславакію,

[19] Greenberg R. D. Language and identity in the Balkans. P. 18.

[20] Ibidem. P. 23.

[21] Brozović D., Ivić P. Jezik, srpskohrvatski/hrvatskosrpski, hrvatski ili srpski [Izvadak iz II izdanja Enciklopedije Jugoslavije]. Zagreb, 1988; Tollefson J. W. The language debates: Preparing for the war in Yugoslavia, 1980–1991 // International Journal of the Sociology of Language. V. 154 (2002). P. 65–82.

гіпатэтычную нацыянальную дзяржаву двухнацыянальнага чэхаславацкага народа пераўтварылі ў ненацыянальную федэрацыю дзвюх нацыянальных рэспублік: Чэшскай Сацыялістычнай Рэспублікі і Славацкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Як і ў федэратыўнай Югаславіі, за ўзор узялі савецкую мадэль. Як і раней, афіцыйнай мовай Чэхіі заставалася чэшская, а Славакіі – славацкая. Істотная розніца была ў тым, што калі да 1969 г. агульнадзяржаўнай мовай была чэшская, дык пасля ва ўсіх сферах грамадскага жыцця афіцыйна ўвайшло ў норму поўнае і роўнае чэшска-славацкае двухмоўе[22].

Гэтыя прыклады з Цэнтральнай Еўропы да падзення камунізму ў 1989 г. яскрава сведчаць, што мовы – гэта сукупнасці, якімі могуць маніпуляваць асобныя людзі і супольнасці. Людзі могуць ствараць і знішчаць ці аб'ядноўваць і падзяляць мовы, як і нацыі і дзяржавы[23]. Але перш чым разглядаць дынаміку фармавання моў і яе паралелі з фармаваннем і руйнаваннем нацый і нацыянальных дзяржаў, трэба знайсці паразуменне ў адной істотнай канцэптуальнай і тэрміналагічнай праблеме.

## ***Einzelsprache*: канцэпцыя *адной мовы***

Тое, што мы называем *мовамі*, – гэта не звычайная форма множнага ліку ад абстрактнага, незлічальнага назоўніка *мова*, бо той ніколі не ўжываецца ў множным ліку. Гэты абстрактны назоўнік выключна адзіночнага ліку азначае біялагічную здольнасць чалавека да маўлення. У сваю чаргу, злічальны назоўнік *мова* і яго форма множнага ліку азначаюць канкрэтныя ўвасабленні гэтай біялагічнай здольнасці. Названая здольнасць дазволіла асобным чалавечым супольнасцям стварыць свае ўласныя

[22] Nábělková M. The Czech-Slovak communicative and dialect continuum: With and without a border // Kamusella T., Nomachi M., Gibson C. (Eds.) The Palgrave hand- book of Slavic languages, identities and borders. Basingstoke, 2016. P. 140–184.

[23] Kamusella T. Language as an instrument of nationalism in Central Europe // Nations and Nationalism. V. 7 (2) (2001). P. 235–252.

мовы і такім чынам стаць *моўнымі супольнасцямі*. Таму антраполагі схільныя ставіць знак роўнасці паміж моўнымі супольнасцямі ў грамадствах да ўтварэння дзяржавы і этнасамі[24]. Такім чынам, калі мова – гэта частка матэрыяльнай рэальнасці, дык мовы як вынікі ўвасаблення біялагічнай здольнасці да маўлення – гэта плён дзейнасці людзей і іх супольнасцяў, г. зн. культурныя артэфакты, г. зн. часткі сацыяльнай рэальнасці. Прынцыпова важна разумець, што адной здольнасці да маўлення недастаткова для зносін паміж людзьмі і іх супольнасцямі, гэтаксама як здольнасць хадзіць – яшчэ не хада. Функцыю зносін могуць выконваць толькі *мовы*.

Наяўны слоўнікавы запас англійскай і іншых вядомых мне еўрапейскіх моў не дазваляе правесці яснае, адназначнае тэрміналагічнае разрозненне паміж здольнасцю да маўлення і канкрэтным увасабленнем гэтай здольнасці. Нейк вырашыць праблему дазваляе толькі стары нямецкі спецыялізаваны тэрмін. Каб абазначыць біялагічную здольнасць да маўлення, нямецкамоўныя філолагі ўжываюць агульнае слова *Sprache*, але калі трэба ясна і адназначна назваць канкрэтнае ўвасабленне гэтай здольнасці (*адну мову*), яны аддаюць перавагу наватвору *Einzelsprache*. Зразумела, што ў побытавым ужытку ў нямецкай, як і ў англійскай, кажуць, што людзі размаўляюць на *Sprachen* (мовах), а не *Einzelsprachen*[25].

Больш за тое, канцэпцыя асобнай, замкнёнай *Einzelsprache* (адной мовы) – гэткае ж чалавечае вынаходства, як і канцэпцыя нацыі[26]. Абедзве яны, падобна, з'явіліся ў Заходняй Еўропе і адтуль распаўсюдзіліся па свеце як неад'емная частка стандартнага культурна-палітычнага

[24] Shaul D. L. A prehistory of Western North America: The impact of Uto-Aztecan languages. Albuquerque, 2014. P. XVI.

[25] Dreschler M. Grundlegung zur wissenschaftlichen Construktion des gesammten Wörter- und Formenschatzes. Zunächst der Semitischen, versuchsweise und in Grundzügen auch der Indo-Germanischen Sprachen. Palm und Enke, Erlangen, 1830. S. viii.

[26] Kamusella T. On the similarity between the concepts of nation and language // Canadian Review of Studies in Nationalism. V. 31 (2004). P. 107–112.

кaмплекта заходняга каланіялізму і імперыялізму. Да таго як сацыяльнай рэальнасці праз палітычныя рашэнні і абавязковую пачатковую адукацыю навязалі канцэпцыю *Einzelsprache*, мовы былі, па сутнасці, суцэльнай сукупнасцю, якая паступова змянялася ад клана да клана, ад вёскі да вёскі, ад горада да горада, ад рэгіёна да рэгіёна, ад дзяржавы да дзяржавы і ад імперыі да імперыі[27]. Хоць Новы час у моўным аспекце (чытай: моўнай палітыцы) быў ідэалагічна шчыльна звязаны з канцэпцыяй *Einzelsprache*, у шмат якіх рэгіёнах захавалася паступовая моўная пераемнасць у геаграфічным абсягу. Для азначэння прасторава-сацыяльнага складніка гэтай з'явы патрабаваўся належны тэрмін – "дыялектны кантынуум"[28].

## Супрацьпастаўленне дыялектаў і моў

Немагчыма гаварыць пра *Einzelsprachen*, не згадаўшы паняцце "дыялект", канцэптуальна і ідэалагічна звязанае з паняццем "адной мовы". Выглядае, што гэтая дыяда – таксама вынаходства Захаду, якое распаўсюдзілася па свеце і цяпер шырока ўспрымаецца як норма апісання моў у грамадстве.

Гэтае супрацьпастаўленне нясе ў сабе шматлікія латэнтныя нарматыўныя цверджанні[29]: па-першае, што мова складаецца з дыялектаў, па-другое, што дыялекты – ніжэйшыя (горшыя) за мовы, і таму апошнія мусяць выступаць як "парасоны" (па-нямецку *Dachsprachen*, даслоўна – "дахавыя мовы") для першых[30], па-трэцяе, што кожная сапраўдная мова мае ўстойлівае пісьменства,

[27] Billig M. Banal nationalism. London, 1995. P. 29–36.

[28] Chambers J. K., Trudgill P. Dialectology. Cambridge, 1998. P. 5–11.

[29] Kamusella T. The history of the normative opposition of "language versus dialect": From its Greco-Latin origin to Central Europe's ethnolinguistic nation-states // Colloquia Humanistica. V. 5 (2016). P. 164–188.

[30] Kloss H. "Abstand languages" and "Ausbau languages" // Anthropological Linguistics. V. 9 (7) (1967). P. 29–41.

а дыялекты – вусныя варыянты, яны звычайна не ўжываюцца на пісьме.

Пакінуўшы ўбаку марную спробу правесці навуковае разрозненне паміж мовамі і дыялектамі (напр., паводле крытэрыя ўзаемнай (не)зразумеласці[31]), важна адзначыць, што агульнапрынятае ў наш час падпарадкаванне дыялектаў мовам – вялікі анахранізм. Галоўнае ў тым, што *Einzelsprache* – гэта дыялект цэнтра ўлады, г. зн. сталіцы, ці дыялект – дакладней, сацыялект – эліты, які замацаваўся на паперы і такім чынам стаў інструментам улады. У выніку вуснае і пісьмовае маўленне паноўнай супольнасці – мова паводле вызначэння, а маўленне "нізоў" – дыялект, пісьмо на якім не заахвочваецца і нават абвяшчаецца нарматыўна немагчымым[32].

Нарматыўнае супрацьпастаўленне *Einzelsprache* і дыялекту – вынік дачыненняў улады ў чалавечых супольнасцях і шматстайнага палітычнага пераносу гэтых няроўных дачыненняў. Гэтае супрацьпастаўленне як такое легітымуе падуладнасць ніжэйшых паноўнай эліце ці, згодна з сучаснай палітычнай тэрміналогіяй, падуладнасць этнасаў, протанацый і меншасцяў прызнаным нацыям са сваімі нацыянальнымі дзяржавамі. У Цэнтральнай Еўропе, дзе ідэалогіяй стварэння і захавання дзяржаўнасці выступае этналінгвістычны нацыяналізм, гэтае нарматыўнае супрацьпастаўленне *Einzelsprache* і дыялекту і, як вынік, падпарадкаванне першаму апошняга складаюць сутнасць *modus operandi* гэтай ідэалогіі.

Гэтая кароткая гісторыя паняцця *Einzelsprache* і супрацьпастаўлення дыялекту і мовы мае дзве мэты. З аднаго боку, яна завяршае агульны агляд росту ролі моў у фармаванні нацый і нацыянальных дзяржаў у Еўропе. З другога, яна складае метадалагічную аснову аналізу этналінгвістычнасці нацыяналізму ў Цэнтральнай Еўропе.

31 Bloomfield L. A set of postulates for the science of language // Language. V. 2 (3). (1926). P. 153–164; Haugen E. Semicommunication: The language gap in Scandinavia // Sociological Inquiry. V. 36 (2). (1966). P. 280–297.

32 Пар.: Tollefson J. W. Planning language, planning inequality: Language policy in the community. London, 1991.

## Нарматыўны ізамарфізм мовы, нацыі і дзяржавы

Я зыходжу з таго, што галоўнае нарматыўнае цвярджанне этналінгвістычнага нацыяналізму ў тым, што ўсе носьбіты пэўнай мовы (ці моўная супольнасць) складаюць нацыю і што тэрыторыя іх кампактнага пражывання павінна стаць нацыянальнай дзяржавай гэтай нацыі. У найлепшым выпадку мова, нацыя і дзяржава шчыльна накладаюцца адно на адно прасторава і ідэалагічна – паўстае нарматыўны ізамарфізм гэтых трох складнікаў. Як выглядае, мова стварае дадатковы ахоўны (ізаляцыйны) слой для тэрытарыяльна-дэмаграфічнай “морфа-імуналагічнай сферы” нацыі[33] – сферы, што абараняе нацыю ад небяспекі, якую нясе вонкавы свет. Большасць наяўных нацыянальных дзяржаў у свеце маюць дваістую ахоўную сферу – толькі са шчыльна пераплеценых нацыі і яе дзяржавы. Іх імуналагічная сфера складаецца з дэмаграфічнага і тэрытарыяльнага слаёў, між тым як этналінгвістычная нацыянальная дзяржава мае таксама трэці слой – моўны.

Асноўныя спадарожныя прынцыпы нарматыўнага ізамарфізму мовы, нацыі і дзяржавы вымагаюць, каб нацыянальная мова была *адзінай* афіцыйнай мовай нацыянальнай дзяржавы і не належала ніякім іншым дзяржаўным утварэнням і нацыям. Як вынік, у межах нацыянальных дзяржаў не можа быць аўтаномных тэрыторый з адрознымі ад нацыянальнай афіцыйнымі мовамі. Гэтаксама па-за межамі нацыянальнай дзяржавы, якой належыць яе мова, не можа існаваць аўтаномных тэрыторый, дзе гэтая мова мела б афіцыйны статус. Дадатковы прынцып палягае ў тым, што кожны чалавек у складзе этналінгвістычнай нацыі мусіць валодаць выключна нацыянальнай мовай і што ў нацыянальнай дзяржаве не павінны стала пражываць носьбіты іншых моў. Гэтаксама носьбіты нацыянальнай мовы не павінны стала пражываць па-за межамі сваёй нацыянальнай дзяржавы[34].

[33] Solterdijk P. Op. cit. P. 46.
[34] Kamusella T. The isomorphism of language, nation, and state: The case of Central Europe // Burszta W., Kamusella T.,

Дыялекты не падпадаюць пад прынцыпы нарматыўнага ізамарфізму. Этналінгвістычны нацыяналізм, як правіла, не зважае на кантынуумы дыялектаў і іх выроўніванне, г. зн. знішчэнне[35]. У тыповых цэнтральнаеўрапейскіх нацыянальных дзяржавах выключны статус нацыянальнай мовы часта гарантуецца Канстытуцыяй, а дыялекты ў афіцыйных дакументах звычайна не згадваюцца. Існуе маўклівая згода, што дзяржаўнае кіраванне, адукацыя і СМІ вядуць да непазбежнага знікнення дыялектаў, на змену якім з цягам часу прыходзіць ідэалізаваная аднародная нацыянальная мова, якая ахоплівае сабой усю нацыянальную дзяржаву і ўсе грамадскія слаі нацыі. Мабыць, гэта і меў на ўвазе італьянскі палітык-нацыяналіст і пісьменнік Масіма д'Адзэлья ў сваім знакамітым выслоўі: “Мы зрабілі Італію. Цяпер мы мусім зрабіць італьянцаў”[36].

Як будзе паказана далей, нарматыўны ізамарфізм мовы, нацыі і дзяржавы – гэта аналітычны інструмент, які дазваляе даследаваць этналінгвістычны характар нацыянальных дзяржаў у Цэнтральнай Еўропе.

## Дзе знаходзіцца Цэнтральная Еўропа?

Аднак эўрыстычную каштоўнасць нарматыўнага ізамарфізму як інструмента, каб вызначыць этналінгвістычны нацыяналізм, псуе адна “сляпая пляма”. Дактрына суверэнітэту перашкаджае этналінгвістычнай нацыянальнай дзяржаве без праблем дапусціць, каб яе нацыянальную мову абвясціла сваёй афіцыйнай і / ці нацыянальнай іншае дзяржаўнае ўтварэнне або яго аўтаномны рэгіён. У гэтых выпадках можна гаварыць пра *амаль ізаморфныя*

Wojciechowski S. (Eds.). Nationalisms across the globe: An overview of nationalisms of state-endowed and stateless nations. Vol 2: The World. Poznań, 2006. P. 57–92.

[35] Auer P. (Ed). Dialect levelling and the standard varieties in Europe. Berlin, 1998; Stieber Z. Z dziejów powstawania języków narodowych i literackich. Warsaw, 1956.

[36] D'Azeglio M. I miei ricordi, Vol. 1. Florence, P. 7; Killinger C. L. The history of Italy. Westport, 2002. P. 1.

нацыянальныя дзяржавы. Напрыклад, у 2010 г. сербская Ваяводзіна аднавіла сваю аўтаномію, надаўшы пры гэтым афіцыйны статус славацкай, венгерскай, румынскай, русінскай, сербскай і славацкай мовам[37]. У выніку раней цалкам ізаморфныя нацыянальныя дзяржавы Венгрыя, Румынія, Славакія па-за сваёй воляй зрабіліся амаль ізаморфнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі. У сваёй ацэнцы значэння этналінгвістычнага нацыяналізму ў Цэнтральнай Еўропе я не звяртаю ўвагі на гэтую параўнальна дробную адрознасць і разам разглядаю ізаморфныя і амаль ізаморфныя нацыянальныя дзяржавы.

Уважлівы разгляд палітычнай карты Цэнтральнай Еўропы за 2007 г. – да стварэння нацыянальнай дзяржавы ў Косаве ў 2008 г. і з'яўлення аўтаномнай Ваяводзіны з шасцю афіцыйнымі мовамі і двума алфавітамі – дае магчымасць класіфікаваць нацыянальныя дзяржавы як у табліцы.

У 2007 г. чатырнаццаць з трыццаці пяці дзяржаўных утварэнняў Цэнтральнай Еўропы былі ізаморфнымі нацыянальнымі дзяржавамі і яшчэ трынаццаць – амаль ізаморфнымі. Разам гэтыя дзве катэгорыі складалі 77% агульнай колькасці дзяржаў у рэгіёне. Калі паглядзець на колькасць насельніцтва, з 416,32 млн жыхароў Цэнтральнай Еўропы (у тым ліку – трэць насельніцтва Еўрапейскай часткі Расіі[38]) 357,69 млн (86%) жывуць у ізаморфных ці амаль ізаморфных дзяржавах. Такім чынам, сучаснай Цэнтральнай Еўропе ўласцівы этналінгвістычныя паводле арганізацыі, легітымацыі і функцыянавання дзяржавы.

Наколькі мне вядома, у Заходняй Еўропе існуе ўсяго адна цалкам ізаморфная дзяржава – Ісландыя – і дзве амаль ізаморфныя: Мальта і Нідэрланды. Астатнія

[37] Statut Autonomne Pokrajine Vojvodine, 2014: www.propisi.com/statut- autonomne-pokrajine-vojvodine.html; Zakon o utvrđivanju nadležnosti Autonomne pokrajine Vojvodine, 2009:www.paragraf.rs/propisi/zakon_o_utvrdjivanju_nadleznosti_autonomne_pokrajine_vojvodine.html

[38] Index Mundi, 2015: www.indexmundi.com/malaysia/population.html

**Табліца. Ізаморфныя і іншыя дзяржаўныя ўтварэнні Цэнтральнай Еўропы ў 2007 г.**

| Ізаморфныя дзяржавы (14) | Амаль ізаморфныя дзяржавы (13) | Іншыя этналінгвістычныя дзяржавы (4) | Неэтналінгвістычныя дзяржавы (4) | Агульная колькасць дзяржаўных утварэнняў | Працэнт ізаморфных дзяржаў | Працэнт ізаморфных і амаль ізаморфных дзяржаў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Албанія<br>Балгарыя<br>Венгрыя<br>Латвія<br>Літва<br>Македонія<br>Нарвегія<br>Польшча<br>Румынія<br>Славакія<br>Славенія<br>Чарнагорыя<br>Чэхія<br>Эстонія | Боснія<br>Грэцыя<br>Кіпр<br>Люксембург<br>Малдова<br>Нямеччына<br>Паўночны Кіпр<br>Сербія<br>Турцыя<br>Украіна<br>Фінляндыя<br>Харватыя<br>Швецыя | Аўстрыя<br>Беларусь<br>Данія<br>Ліхтэнштэйн | Акратыры і Дхекелія<br>Гара Афон<br>Прыднястроўе<br>Расійская Федэрацыя | 35 | 40 | 77 |

заходнееўрапейскія нацыянальныя дзяржавы – не ізаморфныя. Я не хачу сказаць, што ў Заходняй Еўропе мова не мае палітычнай значнасці. Проста ў гэтым рэгіёне мова звычайна не служыць падставай стварэння, легітымацыі і функцыянавання дзяржавы. Напрыклад, Швейцарыя, з яе афіцыйным чатырохмоўем, не мае швейцарскай мовы, а Францыя моцна падтрымлівае распаўсюд французскай мовы як афіцыйнай ці нацыянальнай[39].

Аднак у Цэнтральнай Еўропе становішча выглядае іначай. З распадам Югаславіі ў 1991–2007 г. сербска-харвацкая мова падзялілася на баснійскую, сербскую, чарнагорскую і харвацкую, так што кожная постюгаслаўская нацыянальная дзяржава (за выняткам Косава, што, як выглядае, схіляецца да этналінгвістычнага нацыянальнага саюзу з Албаніяй) мае сваю нацыянальную мову[40]. Такім чынам, з сербска-харвацка-славенскай мовы міжваеннага часу на сёння ўтварылася шэсць нацыянальных моў: баснійская, македонская, сербская, славенская, чарнагорская і харвацкая. Калі ў 1991 г. постсавецкая Малдова атрымала незалежнасць, назву кірылічнай малдоўскай мовы (ад 1989 г. – лацінічнай) змянілі на “румынскую мову”. Славянамоўнае насельніцтва Малдовы баялася, што гэта можа стаць першым крокам да саюзу з Румыніяй. Гэта прывяло да вайны, у выніку якой усходняя частка Малдовы аддзялілася – узнік непрызнаны пратэктарат Расіі Прыднястроўе. У 1994 г. Канстытуцыя Малдовы аднавіла старую назву – малдоўская мова, каб схіліць Прыднястроўе вярнуцца, але пакуль гэтыя захады не далі плёну. Практычна малдоўская і румынская мовы – амаль аднолькавыя, розніца паміж імі меншая, чым паміж брытанскім і амерыканскім варыянтамі англійскай[41]. Апошнім часам з’явілася тэндэнцыя зноў перайменаваць малдоўскую ў румынскую, хоць кірылічная малдоўская

[39] Poissonnier A., Sournia G. Atlas mondial de la francophonie: Du culturel au politique. Paris, 2006.
[40] Greenberg R. D. Op. cit.
[41] King C. The ambivalence of authenticity, or how the Moldovan language was made // Slavic Review. V. 58 (1999). P. 117–142.

застаецца адной з афіцыйных моў Прыднястроўя разам з рускай і ўкраінскай, у якіх таксама выкарыстоўваецца кірыліца[42].

Калі ў 1991 г. Македонія абвясціла незалежнасць, першай прызнала гэтую постюгаслаўскую нацыянальную дзяржаву Балгарыя. Аднак Сафія не прызнае македонскай мовы і македонскай нацыі. З афіцыйнага гледзішча Балгарыі, македонская мова – гэта адзін з літаратурных варыянтаў балгарскай. Таму носьбіты македонскай афіцыйна разглядаюцца як балгарамоўнае насельніцтва, якое належыць да балгарскай нацыі ў яе этналінгвістычным вызначэнні. Адсюль вынікае, што, на думку Балгарыі, македонскай нацыі ў чыстым выглядзе не можа існаваць[43].

Халакост у час Другой сусветнай вайны, кардынальныя змены межаў, пасляваенныя перасяленні (г. зн. выгнанне саюзнікамі этналінгвістычных супольнасцяў) ператварылі Польшчу ў аднародную, як ніколі раней, этналінгвістычную нацыянальную дзяржаву, у якой няпольскамоўныя меншасці складаюць менш за 1% насельніцтва. Аднак зусім нечакана пад час перапісу 2011 г. 850 000 чалавек (больш за 2%) сказалі, што належаць да этналінгвістычнай нацыі сілезцаў, і больш за паўмільёна – што размаўляюць дома і з суседзямі па-сілезску. Згодна з Канстытуцыяй Польшчы 1997 г., польскую нацыю складае ўся сукупнасць польскіх грамадзян, незалежна ад этнічнай прыналежнасці, мовы і веравызнання. Але ўлады вырашылі ў афіцыйных звестках не зважаць на сілезцаў і носьбітаў сілезскай мовы – афіцыйна нацыянальныя меншасці і носьбіты

[42] Hotărâre Nr. 36 din 05.12.2013 privind interpretarea articolului 13 alin. (1) din Constituție în corelație cu Preambulul Constituției și Declarația de Independență a Republicii Moldova (Sesizările nr. 8b/2013 și 41b/2013). (2013): http://constcourt.md/download.php?file=cHVibGljL2NjZG9jL2hvdGFyaXJpL3JvLWhfMzZfMjAxM19yby5wZGY%3D

[43] Majewski P. (Re)konstrukcje narodu: Odwieczna Macedonia powstaje w XXI wieku. Warszawa, 2013. S. 74; Shea J. Macedonia and Greece: The struggle to define a new Balkan nation. Jefferson, 1997. P. 352.

іншых ад польскай моў па-ранейшаму складаюць менш за 1%[44].

Гэтыя прыклады сведчаць, што ва ўсёй Цэнтральнай Еўропе працягвае панаваць нарматыўны ізамарфізм мовы, нацыі і дзяржавы. Цэлых 86% насельніцтва гэтага рэгіёна жыве ў нацыянальных дзяржавах, дзе адметная цэнтральнаеўрапейская сацыяльная рэальнасць мацуецца дзяржаўным кіраваннем, палітычнымі партыямі, школамі, СМІ і бізнесам. Ва ўсім рэгіёне эталонам у разуменні нормаў грамадскапалітычнага ладу выступае этналінгвістычны нацыяналізм. Таму цэнтральнаеўрапейцаў можа здзіўляць, што ў Канадзе не размаўляюць па-канадску, а ў Нігерыі – па-нігерыйску.

Апроч некалькіх іншых этналінгвістычных нацыянальных дзяржаў у Еўразіі, напрыклад Ісландыі і Туркменістана, у Паўднёва-Усходняй і Усходняй Азіі сканцэнтраваны – паводле стану на 2007 г. – яшчэ сем цалкам ізаморфных нацыянальных дзяржаў: В'етнам, Інданэзія, Камбоджа, Лаос, М'янма, Тайланд і Японія – і пяць амаль ізаморфных: Малайзія, Манголія, Паўднёвая Карэя, Паўночная Карэя і Філіпіны. У будучыні параўнальныя даследы распаўсюду ідэй у свеце і ідэалагічных сувязяў паміж этналінгвістычным нацыяналізмам у Цэнтральнай Еўропе і Паўднёва-Усходняй і Усходняй Азіі могуць прынесці вялікі плён у выглядзе новых аналітычных ведаў.

## Этналінгвістычны нацыяналізм у будучыні

Добра гэта ці кепска, але ва ўсёй Цэнтральнай Еўропе нарматывам стварэння, легітымавання і захавання дзяржаўнасці застаецца этналінгвістычны нацыяналізм. І ў бліжэйшай будучыні становішча не зменіцца. Калі заходнееўрапейскія палітыкі ясней усвядомяць сутнасць гэтага тыпу нацыяналізму, ім будзе больш зразумела, што маюць на ўвазе іх цэнтральнаеўрапейскія калегі, звяртаючыся да лозунгаў нацыі і нацыянальнай мовы. З іншага боку,

[44] Kamusella T., Nomachi M. The long shadow of borders: The cases of Kashubian and Silesian in Poland // The Eurasia Border Review. V. 5 (2) (2014). P. 35–60.

палітыкі Цэнтральнай Еўропы могуць пастарацца глыбей асэнсаваць этналінгвістычны нацыяналізм, каб пераадольваць абмежаванні, што накладае гэтая ідэалогія, калі гэтага вымагаюць інтарэсы грамадства.

Цяпер адметная характарыстыка большасці шматмоўных раёнаў Цэнтральнай Еўропы ў тым, што ў іх розныя супольнасці ўспрымаюць сваю мову як больш "па-сапраўднаму нацыянальную" за іншыя, у якіх пераважна бачаць небяспеку для чысціні нацыі. Аднак існуюць і выключэнні, у тым ліку шматмоўная сербская Ваяводзіна, Малдова, дзе ў штодзённых зносінах суіснуюць малдоўская / румынская і руская мовы, і Фінляндыя, у якой дзве афіцыйныя мовы: фінская і шведская, хоць шматразовыя спробы пазбавіць шведскую яе канстытуцыйна замацаванага статусу сведчаць пра нарматыўную моц этналінгвістычнага нацыяналізму[45]. Яшчэ адзін прыклад – Нарвегія, якая мае два варыянты нарвежскай мовы: букмал і нюнорск, не менш адрозныя між сабой, чым чэшская і славацкая ці галандская і нямецкая. У Чэхіі і Славакіі сярод пакаленняў, што дасягнулі паўналецця да падзелу Чэхаславакіі ў 1993 г., захоўваецца пазанарматыўнае двухмоўе: паспяховым зносінам не замінае тое, што славакі звяртаюцца да чэхаў пa-славацку, а тыя, у сваю чаргу, адказваюць па-чэшску.

У некаторых раёнах на нацыянальнай мове не размаўляюць досыць вялікія ці ўстойлівыя супольнасці, здольныя супрацьстаяць асіміляцыі. Гэтая ўстойлівасць часам падтрымліваецца навязанымі звонку гарантыямі правоў меншасцяў. Сярод прыкладаў – носьбіты лужыцкіх моў на ўсходзе Нямеччыны, сілезскай – у Верхняй Сілезіі і кашубскай – на поўначы Польшчы, венгерскай – на поўдні Славакіі і ў румынскай Трансільваніі, сербскай – на поўначы Косава, албанскай – на захадзе Македоніі і турэцкай – ва ўсходняй і паўднёвай Балгарыі і паўночна-ўсходняй Грэцыі.

Цікава, што ў Цэнтральнай Еўропе застаецца мала тэрыторый, дзе на афіцыйным узроўні або ў пашыраным побытавым ужытку выкарыстоўваюцца два алфавіты,

[45] Mandatory Swedish, 2015 // Wikipedia - https://en.wikipedia.org/wiki/ Mandatory_Swedish

хоць да XX ст. гэта было нормай для ўсяго рэгіёна. У Малдове на малдоўскай / румынскай мове пішуць лацініцай, а па-руску – кірыліцай. Падобнае становішча існуе ў сербскай Ваяводзіне: па-сербску і па-русінску пішуць кірыліцай, а на астатніх чатырох мовах – лацініцай. У асобных частках Грэцыі і Балгарыі па-турэцку пішуць лацініцай, па-грэцку – грэцкім алфавітам, а па-балгарску – кірыліцай. Падобнае становішча назіраецца ў Македоніі: па-албанску пішуць лацініцай, а па-македонску – кірыліцай. Гэткая "двухалфавітнасць" адпавядае няроўнаму шматмоўю, калі "нізы" валодаюць абодвума алфавітамі, а паноўная супольнасць карыстаецца толькі афіцыйным алфавітам дзяржаўнай мовы і застаецца аднамоўнай.

Своеасаблівы алфавітны апартэід назіраецца ў Босніі і Косаве. У тых раёнах Босніі, дзе жывуць баснійцы і харваты, і ў албанскіх раёнах Косава на албанскай, баснійскай і харвацкай мовах пішуць лацініцай. У сербскіх раёнах Босніі і Косава карыстаюцца толькі кірыліцай. У самой Сербіі, нягледзячы на канстытуцыйны статус кірыліцы як адзінага афіцыйнага алфавіта[46], палова ўсёй друкаванай прадукцыі на сербскай мове выдаецца кірыліцай, а палова – лацініцай. У Чарнагорыі, згодна з Канстытуцыяй, у пісьме на нацыянальнай і афіцыйнай чарнагорскай мове выкарыстоўваюцца і кірылічны, і лацінічны алфавіт[47]. Такім чынам, як і ў Сербіі, чарнагорскія выдаўцы ўжываюць два алфавіты. Аднак у Сербіі і Чарнагорыі "двухалфавітнасць" звязаная не з шматмоўем, а з адзінай афіцыйнай мовай – адпаведна, сербскай і чарнагорскай. Як вынікае, абедзве гэтыя мовы спадкаеміцы двухалфавітнай сербска-харвацкай мовы ў камуністычнай Югаславіі. Яна па-ранейшаму ўжываецца ў інтэрнэце і мае найбольшую з усіх постсербска-харвацкіх моў Вікіпедыю, кірылічную і лацінічную[48].

[46] Constitution of the Republic of Serbia (2006), Art. 10: www.srbija.gov.rs/cinjenice_ o_srbiji/ustav_odredbe.php?id=217

[47] Montenegro's Constitution (2007), Art. 13: https://www.constituteproject. org/constitution/Montenegro_2007.pdf

[48] List of Wikipedias by language group. (2015). Wikimedia: Meta-Wiki – https:// meta.wikimedia.org/wiki/List_of_Wikipedias_by_language_group.

Інтэрнэт і Еўрасаюз – гэта тыя непрадказальныя фактары, якія могуць у будучыні адпрэчыць ідэалагічнае панаванне нарматыўнага ізамарфізму мовы, нацыі і дзяржавы ў Цэнтральнай Еўропе. У склад Еўрасаюза цяпер уваходзяць 28 нацыянальных дзяржаў, якія маюць 24 афіцыйныя мовы. У большасці выпадкаў гэтыя мовы ўжываюцца толькі ў межах адпаведных нацыянальных дзяржаў, але ўсе яны выкарыстоўваюцца структурамі ЕС на ўсім яго абсягу. Апроч таго, мільёны грамадзян ЕС пераязджаюць з адной краіны ў іншыя, на нізавым узроўні спрыяючы распаўсюду сваіх нацыянальных моў. Гэтым яны або ўзбагачаюць тое шматмоўе, што склалася раней, як у Лондане і Парыжы, або ствараюць шматмоўе там, дзе яго раней не было, як у Варшаве і зямлі Мекленбург – Пярэдняя Памеранія, што ў Нямеччыне.

Больш за тое, вольная ад межаў кіберпрастора, непадуладная (пакуль) нацыянальным дзяржавам, дае магчымасць людзям, што належаць да той ці іншай моўнай супольнасці, без праблем падтрымліваць стасункі між сабой у Еўропе і па ўсім свеце. Карыстальнікі інтэрнэту, дзе б яны ні жылі, могуць чытаць, слухаць, глядзець разнастайныя аўдыявізуальныя матэрыялы на сваёй мове. Адным з магчымых вынікаў інтэграцыі мігрантаў у Еўрасаюзе можа стаць страта імі сваёй роднай мовы. Апроч таго, непрызнаныя і прыгнечаныя этнічныя, нацыянальныя і рэгіянальныя моўныя супольнасці могуць развіваць культуру на сваёй мове ў інтэрнэце. Сярод прыкладаў з Вікіпедыі – ніжнесаксонская, кірылічная малдоўская, пантыйская (грэцкая), русінская, сілезская.

Ніводная *Einzelsprache* – не наканаванне. Людзі могуць бясконца ствараць і пераствараць сваю сацыяльную рэальнасць. Гэтаксама і моўная палітыка не застаецца нязменнай. Абмяжоўвае фармаванне сацыяльнай рэальнасці ўкарэненасць звычаяў і перакананняў, якія стрымліваюць чалавечае ўяўленне. У сучаснай Цэнтральнай Еўропе галоўнае такое абмежаванне – сляпая вера, што этналінгвістычны нацыяналізм (г. зн. ізамарфізм мовы, нацыі і дзяржавы) – гэта адзіны магчымы спосаб утварэння, легітымавання і захавання (нацыянальнай) дзяржаўнасці.

*Пераклад Вольгі Калацкай.*

# Nationalism and National Languages

**Tomasz Kamusella**

In the 20th century, the ethnolinguistically homogenous nation-state became the norm of legitimate statehood, especially in Central Europe. At the level of rhetoric, the Soviet Union was an exception to this trend, but it in 1991 was replaced by ethnolinguistic national polities. The idea of the normative isomorphism (tight spatial and symbolic overlapping) of language, nation, and state still obtains in Central Europe, as exemplified by the parallel breakups of Yugoslavia and its Serbo-Croatian language, so that each successor state (with the exception of Kosovo) has its own national language. The widespread normative insistence that languages should make nations and polities, and nation-states should make languages, is limited to Central Europe (including much of the post-Soviet space) and Southeast Asia, prevented outside Eurasia by the imposition of colonial languages. Interestingly, should the European Union persist in its official polyglotism, the normative thrust of ethnolinguistic nationalism in Central Europe may be blunted in the future.

# Вайна і памяць у Расіі, Украіне і Беларусі*

## Джулі Фёдар, Сайман Льюіс, Таццяна Журжэнка

У пачатку вайны на Данбасе, у першыя чэрвеньскія дні 2014 г. – задоўга да таго, як Расія напоўніла рэгіён зброяй, – прарасійскія сепаратысты ў райцэнтры Канстанцінаўка Данецкай вобласці заявілі журналістам, што танк, ужыты імі ў баявых дзеяннях супраць украінскай арміі, быў зняты з пастамента ў мясцовым парку, дзе ён стаяў як помнік падзеям Другой сусветнай вайны, а затым адрамантаваны, запраўлены і “вернуты да жыцця”[1]. Незалежна ад таго, праўда гэта ці мана, метафара сама па сабе магутная – з яе вынікае, што здані вайны, якая скончылася семдзесят гадоў таму, могуць лёгка матэрыялізавацца.

У тым, што Другая сусветная вайна такі працяглы час застаецца ключавым пунктам нацыянальных наратываў згаданых у загалоўку краін, няма нічога дзіўнага, калі ўлічыць, якой крывавай і маштабнай яна была ў гэтай частцы Еўропы. Ваенны досвед быў тут асабліва траўматычны, бо ён абярнуўся для насельніцтва

* Публікуецца з ласкавай згоды аўтараў паводле: Fedor J., Lewis S., Zhurzhenko T. Introduction: War and Memory in Russia, Ukraine and Belarus' // Julie Fedor, Markku Kangaspuro, Jussi Lassila, and Tatiana Zhurzhenko (eds). War and Memory in Russia, Ukraine and Belarus. New York: Palgrave Macmillan, 2017. P. 1–40. Эл. варыянт: https://link.springer.com/chapter/10.1007/978-3-319-66523-8_1

[1] В Константиновке сепаратисты “оживили” танк-памятник // Segodnya.ua. 5.06.2014. Цыт. паводле: https://www.segodnya.ua/regions/donetsk/v-konstantinovke-separatisty-ozhivili-tank-pamyatnik-526553.html (стан на 14.11.2016).

беспрэцэдэнтнымі чалавечымі стратамі, разбурэннем базавай інфраструктуры, рэпрэсіямі з боку двух акупацыйных рэжымаў, масавымі забойствамі, дэпартацыямі і этнічнымі чысткамі. У гэтай частцы Еўропы, якую (разам з Польшчай) Тымаці Снайдэр[2] назваў "крывавымі землямі", бязлітаснасць самой вайны наўрад ці можна аддзяліць ад масавых злачынстваў гітлераўскага і сталінскага рэжымаў. І хоць найбольшыя страты панеслі Украіна і Беларусь, уся тэрыторыя якіх была акупавана і зруйнавана, у заходнім успрыманні гэтыя дзве краіны нярэдка разглядаюцца як нейкае адно цэлае з Расіяй і выпадаюць з-пад увагі. У гэтай працы мы вырашылі выправіць гэтую памылку, пашырыўшы наш аналіз па-за межы ўласна расійскага кантэксту.

Аўтары гэтай кнігі даследуюць узрыўны рост новых практык, агентаў, сімвалаў і наратываў памяці, актуальных сёння для трыкутніка Расія – Украіна – Беларусь. У нейкім сэнсе іх варта разглядаць у кантэксце таго важнага гістарычнага этапу, які мы цяпер перажываем, – адыходу апошніх жывых ветэранаў Другой сусветнай вайны. Як адзначае Стывен Норыс, Дзень Перамогі 2010 г. некаторыя расійскія СМІ апісвалі ў катэгорыях "апошняга парада" ветэранаў і канца "жывой памяці" пра вайну[3]. З адыходам гэтага пакалення памяць пра вайну з камунікацыйнай формы пераходзіць у культурную, калі карыстацца ўжо дастаткова папулярызаванай тэрміналогіяй Яна Асмана. Асман адзяляў камунікацыйную памяць, заснаваную на абмене непасрэдным біяграфічным вопытам, ад культурнай, якая з'яўляецца "своеасаблівым інстытутам. Яна экстэрыярызуецца, аб'ектывуецца і захоўваецца ў сімвалічных формах, якія, у адрозненне ад вуснага маўлення і спадарожнай яму жэстыкуляцыі, застаюцца стабільнымі і сітуацыйна

[2] Snyder T. Bloodlands: Europe between Hitler and Stalin. New York, 2010. Пар. беларускую версію: Снайдэр Т. Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным. Мінск, 2013.

[3] Norris S. M. Memory for Sale: Victory Day 2010 and Russian Remembrance // The Soviet and Post-Soviet Review. 2011. № 2 (38). P. 201–229.

трансцэндэнтнымі”[4]. Акурат на гэтым моманце пераходу робіцца акцэнт аўтарамі кнігі. Яны дакументуюць настойлівы пошук новых формаў памяці, у выніку якіх ваенная тэматыка зноў маніфестуецца ў масавай культуры, працінаючы грамадскае і прыватнае жыццё, ажыўляючы старыя і ствараючы новыя міфы. У часы няпэўнасці, калі знікаюць непасрэдныя носьбіты памяці пра Другую сусветную вайну, такая памяць у Расіі, Беларусі і Украіне набывае яшчэ больш усюдыісны, але пры гэтым шмат у чым і нестабільны характар.

Узвядзенне новых ваенных помнікаў і публічныя заклікі захоўваць памяць пра вайну “жывой” маюць на мэце прыхаваць пашыраную трывогу, звязаную з цяперашнім момантам змены эпох і пераходам у новы свет без “ваеннага пакалення”, чый маральны аўтарытэт амаль безагаворачна прымаўся ў раздробненых і палітычна палярызаваных постсавецкіх грамадствах. Многія з новых практык, даследаваных у кнізе, можна разглядаць як частку таго, што Алена Раждзественская назвала “гіперэксплуатацыяй колішняй Перамогі”, якая “вядзе да пастаяннай актуалізацыі ваеннага досведу, да бясконцых пошукаў новых формаў святкавання гадавіны Перамогі, з тым каб яшчэ даўжэй працягнуць жыццё гэтай падзеі”[5]. Дэвід Марплз[6] ставіць пытанне: як адаб’ецца адыход апошніх ветэранаў на жаданні дзяржавы бясконца падтрымліваць жыццё ваеннай міфалогіі?

Мы пачнем з абмеркавання памяці пра Другую сусветную вайну ў нашым рэгіёне ў святле вайны ва Украіне, якая на момант напісання працы (2017 г.) яшчэ працягваецца. Спачатку

[4] Assmann J. Communicative and Cultural Memory // Cultural Memory Studies: An International and Interdisciplinary Handbook / ed. A. Erll and A. Nünning. Berlin – New York, 2008. P. 116–117.

[5] Rozhdestvenskaya E. Review of E. S. Seniavskaia’s “История войн” // Journal of Soviet and Post-Soviet Politics and Society. 2015. № 1 (2). P. 467–473. Пра імкненне паспець сабраць і ўпарадкаваць успаміны апошніх ветэранаў гл. таксама: Lassila J. Witnessing War, Globalizing Victory: Representations of the Second World War on the Website Russia Today // Memory, Conflict and New Media: Web Wars in Post-Socialist States / Ed. E. Rutten, J. Fedor, and V. Zvereva. Abingdon, 2013. P. 215–227.

[6] Marples D. R. “Our Glorious Past”: Lukashenka’s Belarus and the Great Patriotic War. Stuttgart, 2014.

акрэслім асноўныя контуры ўзаемадзеяння паміж "войнамі памяці" і рэальнай вайной, а таксама варты асаблівай увагі "посткрымскі" якасны зрух, які мы ў сувязі з гэтым назіраем у мясцовай культуры памяці. Затым мы дамо сцiслы агляд асаблівасцяў ландшафту ваеннай памяці ў рэгіёне ў цэлым і ў кожнай з трох краін у прыватнасці, перад тым як перайсці да паказу ключавых арганізацыйных тэм і высноў кнігі.

## Ад войнаў памяці да рэальных войнаў

Постсавецкія "войны памяці" – няспынная барацьба за права вызначаць і навязваць карціну мінулага як падмурак для сучаснай і будучай ідэнтычнасці – і рэальная вайна, якая ідзе цяпер на Данбасе, шмат у чым цесна звязаны між сабой. Акурат палітыка ў сферы памяці была адным з немалаважных элементаў у складаным комплексе прычын, якія абумовілі і інспіравалі цяперашняе сілавое процістаянне ва Украіне. Ідэалагічнае абгрунтаванне расійскай агрэсіі супраць маладой украінскай дзяржавы у значнай ступені вынікала з прэтэнзій на памяць пра мінуўшчыну, а цяперашняя вайна ва Украіне вельмі часта ўяўляецца, інтэрпрэтуецца і апраўдваецца як працяг Другой сусветнай вайны. Прадэмакратычныя сілы Украіны сістэматычна дэманізуюцца ў расійскіх СМІ як "неанацысты", якія хочуць сцерці гістарычную памяць пра савецкую перамогу, а рускіх і яўрэяў падвергнуць генацыду. Ярлык "фашыст" пастаянна ўжываецца ў дачыненні не толькі да ўкраінцаў, але і да самых розных суб'ектаў у Расіі і за яе межамі: ад расійскіх школьнікаў – даследчыкаў сямейнай гісторыі[7] да заходніх праваабаронцаў[8].

[7] У красавіку 2016 г. школьнікаў, якія бралі ўдзел у арганізаваным праваабарончым цэнтрам "Мемарыял" конкурсе эсэ, атакавалі нацыяналісты, некаторыя з якіх былі адзеты ў форму чырвонаармейцаў перыяду Другой сусветнай вайны, ігралі на гармоніках і крычалі: "Фашысты!". Паліцыя стаяла побач і не ўмешвалася. Гл.: Павлова С. Провокация под присмотром полиции // Радио "Свобода". 28.04.2016. Цыт. паводле: https://www.svoboda.org/a/27704522.html (стан на 18.08.2016).

[8] Гл., напрыклад, заяву новага ўпаўнаважанага па правах чалавека ў РФ Таццяны Маскальковай аб тым, што "правы чалавека" цяпер зрабіліся шырмай для фашызму. Гл.:

З аднаго боку, у гэтым няма нічога новага. На працягу дзесяцігоддзяў мінуўшчына была ў нашым рэгіёне найважнейшым полем бітвы ў барацьбе за сучаснасць і будучыню. Пераасэнсаванне гісторыі адыграла значную ролю ў пратэстным руху канца савецкай эпохі, і з тых часоў палітычная валтузня вакол сімвалаў мінулага стала ключавым полем канкурэнцыі, шмат у чым адлюстраваўшы і абумовіўшы постсавецкую эвалюцыю[9]. У прыватнасці, дэбаты аб спосабах ушанавання ахвяр дзяржаўнага насілля ў мінулым тут, як і ўсюды ў свеце, цесна пераплятаюцца з дэбатамі наконт правоў чалавека сёння[10].

Але з пачаткам вайны ва Украіне мы можам гаварыць пра пераход постсавецкай палітыкі памяці ў новую якасць ці, магчыма, нават пра новую з’яву, якая выходзіць за рамкі звычайных спосабаў інструменталізацыі мінуўшчыны. У цяперашнім расійска-ўкраінскім канфлікце мы робімся сведкамі ўзнікнення, а ў некаторых выпадках і культывавання новага падыходу да гісторыі, пры якім элементы мінуўшчыны і сучаснасці зліваюцца між сабой, а паслядоўная канва гістарычных падзей ломіцца.

Некаторыя з найбольш яскравых праяў гэтага сцірання межаў паміж мінуўшчынай і сучаснасцю звязаны з правядзеннем публічных “мемарыяльных перформансаў”. Прыгадаем такі прыклад. У Данецку ў Дзень

Обухов А. Новый генерал-омбудсмен Москалькова решила сражаться с Западом в правозащитной сфере // Московский комсомолец. 22.04.2016. http://www.mk.ru/politics/2016/04/22/novyy-generalombudsmen-moskalkova-reshila-srazhatsya-s-zapadom-v-pravozashhitnoy-sfere.html (стан на 25.04.2016).

9 Miller A., Lipman M. The Convolutions of Historical Politics. Budapest, 2012; Politics of Memory in Post-Communist Europe / Ed. V. Tismaneanu et al. Bucharest, 2010; Transitional Justice in Eastern Europe and the Former Soviet Union: Reckoning with the Communist Past / Ed. L. Stan. Abingdon, 2008.

10 Пра ўзаемасувязь правоў чалавека і гістарычнай памяці гл.: Huyssen A. Present Pasts: Urban Palimpsests and the Politics of Memory. Stanford, 2003; Winter J. The Performance of the Past: Memory, History, Identity // Performing the Past: Memory, History, and Identity in Modern Europe / Ed. K.Tilms, F. van Vree, J. Winter. Amsterdam, 2010. P. 11–23.

незалежнасці Украіны 24 жніўня 2014 г. украінскіх ваеннапалонных прымусілі ўзяць удзел у “ганебным парадзе” перад натоўпам раззлаваных гараджан, якія, падбухтораныя арганізатарамі, кідалі гнілыя прадукты і плявалі ў вязняў; следам жа за калонай прайшла машына для ачысткі дарог. Важна падкрэсліць, што гэты парад быў зрэжысіраваны на ўзор знакамітага сталінскага “парада пераможаных”, калі нямецкіх ваеннапалонных правялі па Маскве, а следам пусцілі падмятальныя машыны для сімвалічнай ачысткі вуліцы. Менавіта гэтая паралель вызначала калектыўны эмацыйны фон у Данецку. Тут, праз семдзесят гадоў пасля Вялікай Айчыннай вайны, сакралізаваны гістарычны наратыў пра колішнюю вайну быў выкарыстаны рускімі протафашысцкімі арганізацыямі для легітымацыі рытуальнага акта насілля і прыніжэння, ажыццёўленага ў форме публічнага мемарыяльнага перформанса.

Той факт, што значная роля ў цяперашняй вайне ва Украіне належыць гістарычным рэканструктарам, – гэта яшчэ адзін прыклад радыкальнага размывання і нават растварэння межаў паміж мінулым і сучасным, паміж фантазіяй і рэальнасцю, якое адбываецца дзякуючы мемарыяльным перформансам. Вядома, гістарычныя рэканструкцыі зрабіліся глабальнай з’явай, адной з многіх новых формаў, пры дапамозе якіх сучасныя грамадствы маюць дачыненні са сваім мінулым. І ўсё ж у нашым рэгіёне мы бачым нешта новае. Тое, што ў іншых месцах застаецца, як правіла, бяскрыўдным хобі для аматараў гісторыі, людзей, апанаваных настальгіяй па мінуўшчыне, ці заўзятых медыявістаў, тут набыло больш злавеснае адценне. З асяроддзя энтузіястаў аматарскіх ваенна-гістарычных рэканструкцый выйшлі многія добраахвотнікі і нават лідары прарасійскага сепаратысцкага руху ва Украіне[11]. Такім чынам, паводле выказвання Аляксандра Эткінда, гістарычная рэканструкцыя пачала

[11] Zhurzhenko T. Russia’s Never-ending War against “Fascism” // Eurozine. 8.05.2015. http://www.eurozine.com/articles/2015-05-08-zhurzhenko-en.html (стан на 18.08.2016); Mitrokhin N. Infiltration, Instruction, Invasion: Russia’s War in the Donbass // Journal of Soviet and Post-Soviet Politics and Society. 2015. № 1 (1). P. 228–229.

"паглынаць сучаснасць", бо гістарычная гульня і рэальнасць пераблыталіся і змяшаліся, утварыўшы грымучую сумесь[12].

Больш за тое, гістарычная рэканструкцыя, паяднаўшы ў сабе забаўляльнае мерапрыемства і аплачаны дзяржавай палітычны спектакль, зрабілася інструментам для маніпулявання грамадскай памяццю і калектыўнымі эмоцыямі. Рэканструкцыя баёў стала адметнасцю шчодра фінансаваных шоу, якія цяпер штогод праводзяцца ў Севастопалі пад эгідай клуба байкераў-патрыётаў "Начныя ваўкі" – новага віп-гульца ў галіне гістарычнай прапаганды, які, карыстаючыся падтрымкай прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, зладзіў ужо нямала маштабных мемарыяльных перформансаў, кожны з якіх прыцягваў вялікую ўвагу прэсы. Штогадовыя шоу "Начных ваўкоў" – гэта вельмі наглядны прыклад таго, як можна ўплываць на калектыўную гістарычную памяць пры дапамозе такіх тэатралізаваных відовішчаў. У 2014 г. іх шоу пад назвай "Вяртанне", арганізаванае ў гонар далучэння Крыма да Расіі, адзначылася праходам некалькіх тысяч матацыклаў, падзеленых на тры калоны, які завяршыўся ля мясцовага мемарыяльнага комплексу ў гонар Другой сусветнай вайны; апроч таго, у ім была задзейнічана ваенная тэхніка расійскага Чарнаморскага флота[13]. У 2015 г. тэмай

[12] Эткінд так выказаўся пра гэта: "[Гістарычныя] рэканструктары павінны, проста абавязаны разумець розніцу паміж мінуўшчынай і сучаснасцю. Яны цяпер гуляюць у дзіўную мінуўшчыну. Трэба разумець адрозненне паміж гульнёй і рэчаіснасцю. Паміж сном і явай. Няхай яны бачаць сны і гуляюць у свой дзіцячы сад. Няхай рэканструкцыя застаецца на сваім месцы. Калі ўсё гэта пачынае блытацца, змешвацца і падмяняцца, дык гэта сапраўды небяспечна. Пужае нежаданне бачыць розніцу з рэальнасцю. Здаровая памяць павінна прызнаваць гэтыя адрозненні, тужыць па мінулым, але разумець, што да яго не вярнуцца. Адмова ад прызнання гэтага адрознення, вера, што мінулае цяпер вяртаецца, – гэта паталогія. Рэканструкцыя, якая паглынае сучаснасць, ні да чога добрага не вядзе". Цыт. паводле: Земцов А. Александр Эткинд: "Реконструкторы сейчас играют в странное прошлое" // Газета недели в Саратове. 7.10.2014. https://fn-volga.ru/newspaperArticle/view/id/2854 (стан на 25.08.2016).

[13] Савченко Н. В Севастополе прошло байк-шоу "Возвращение" // "Российская газета". 9.08.2014. https://rg.ru/2014/08/09/reg-kfo/baikery.html (стан на 26.08.2016).

шоу “Начных ваўкоў” стала Другая сусветная вайна – у яго фінале гледачы ўбачылі інсцэніроўкі тагачасных падзей, выкананыя сучаснымі вайскоўцамі з выкарыстаннем арыгінальнай зброі таго перыяду:

«Роўна апоўначы святло пагасла, потым з’явіўся нямецкі “Месершміт” і пачалася бамбардзіроўка. А затым – бой за Перамогу. <…>

У спектаклі ўдзельнічала рэальная баявая тэхніка Другой сусветнай. Танкі і “Кацюшы” стралялі ў нямецкіх салдат 70 гадоў таму. У якасці масоўкі – вайскоўцы з баявой зброяй».

Гэтыя маштабныя гістарычныя рэканструкцыі крыху нагадваюць масавыя вулічныя тэатралізаваныя інсцэніроўкі падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія ладзіліся для святкавання юбілейных датаў у першыя дзесяцігоддзі савецкага перыяду. Часта можна пачуць, што ў 1927 г. у час інсцэніроўкі штурму Зімовага палаца загінула больш людзей, чым у арыгінальных падзеях 1917 г.; так ці інакш, у абодвух выпадках мы можам наглядна бачыць, як рэканструкцыя перасягае арыгінальную падзею і пераадкрывае мінуўшчыну зыходзячы з патрэб сённяшняга дня. Нядзіва, што для ідэолага расійскага неаімперыялізму Аляксандра Праханава, канцэпцыя якога “Пятая імперыя” і стала асновай для шоу “Начных ваўкоў” у жніўні 2015 г., гэтая імпрэза была “тварэннем новай рэальнасці”[14].

[14] Зладжанае “Начнымі ваўкамі” ў 2016 г. байк-шоу мела назву “Каўчэг збаўлення” і ўключала ў сябе піратэхнічныя эфекты, матацыклетныя трукі і доўгія высакамоўныя маналогі на гістарычную тэматыку. Праханаў так выказаўся з нагоды шоу: «Тут вельмі шмат агню, святла, музыкі, сілы, танца. Тут усё тое, што адбываецца ў храме. У храме, які збудаваў “Хірург” [лідар “Начных ваўкоў”], творыцца новая рэальнасць. Таму што “Пятая імперыя” – гэта сённяшняя наша Расія. У маладых людзях, якія гэта бачаць, абуджаецца наша спрадвечная імперская свядомасць. “Хірург” у гэтым выпадку чараўнік, вяшчун, маг!». Цыт. паводле: Пятая империя и окаменевшие склепы // Meduza.io. 17.08.2016. https://meduza.io/shapito/2016/08/17/pyataya-imperiya-i-okamenevshie-sklepy (стан на 26.08.2016).

Гэта толькі некалькі прыкладаў тых незвычайных спосабаў, пры дапамозе якіх адбываецца пераасэнсаванне мінуўшчыны і сучаснасці ў кантэксце вайны ва Украіне. Як сцвярджае Джэй Вінтэр, "памяць, увасобленая ў дзеяннях, займае цэнтральнае месца ў калектыўнай памяці"[15]; вось жа, некаторыя з аўтараў гэтай кнігі даследуюць спосабы, пры дапамозе якіх розныя мемарыяльныя рытуалы служаць для акрэслення межаў постсавецкай ідэнтычнасці, а нярэдка і для выяўлення ці штучнага стварэння "ворагаў". Мы разгледзім з'яву гістарычнай рэканструкцыі, а таксама новыя перфарматыўныя практыкі, з дапамогай якіх па-новаму выбудоўваюцца ўзаемаадносіны паміж жывымі, тымі, хто загінуў на вайне, і ненароджанымі, – такія, напрыклад, як шэсці "Неўміручага палка", у час якіх людзі праходзяць па вуліцах з фотаздымкамі сваіх продкаў – удзельнікаў вайны, ці народныя фертыльныя рытуалы, што здзяйсняюцца маладымі мужам і жонкай ля танкаў і іншых ваенных помнікаў. Усё гэта пашырае наша ўяўленне пра механізмы калектыўнай мабілізацыі ў перыяды палітычнага крызісу. У прыватнасці, дапамагае знайсці адказ на адно з цэнтральных пытанняў украінска-расійскага канфлікту: як здарылася, што пад уплывам гістарычных міфаў і канцэпцый мінулага, спраектаваных на сучаснасць, людзі ўбачылі ў цяперашняй вайне няскончаную бітву Другой сусветнай, а некаторыя нават наважыліся ўзяць у рукі зброю?

## Рэгіён памяці? Наднацыянальная памяць у Расіі, Беларусі і Украіне

Новая паддысцыпліна "Даследаванні памяці ва Усходняй Еўропе" часта засяроджваецца на падзеле паміж Заходняй і Усходняй Еўропай; пры гэтым Расію хоць і прылічаюць да аднаго з бакоў, але выносяць за дужкі як нейкі асаблівы выпадак. Мы ж збіраемся сканцэнтравацца акурат на Расіі, Украіне і Беларусі, каб намаляваць

[15] Winter J. The Performance of the Past: Memory, History, Identity. P. 11.

больш дыферэнцаваную карціну гэтай часткі Усходняй Еўропы. Цяперашні ўкраінска-расійскі канфлікт затушоўвае той факт, што на самай справе тутэйшым грамадствам не так і далёка ўдалося адысці ад савецкай эпохі, калі тры згаданыя рэспублікі складалі славянскае ядро Савецкага Саюза, а памяць пра Вялікую Айчынную вайну фармавала аснову познесавецкай ідэнтычнасці. Вядома ж, гаворка ідзе пра Украіну (за выключэннем яе заходніх рэгіёнаў), Беларусь і заходнія вобласці Расіі, дзе калектыўны досвед Другой сусветнай вайны найбольш дакладна адпавядаў афіцыйнаму савецкаму наратыву Вялікай Айчыннай, што спрыяла яго прыняццю мясцовым насельніцтвам і паспяховаму выкарыстанню постсавецкімі элітамі. У той жа час сёння мы знаходзімся ў тым пункце, дзе пераасэнсаваныя нацыянальныя міфы пра Другую сусветную вайну пачынаюць рэзка разыходзіцца.

Легітымнасць пасляваеннага СССР грунтавалася на перамозе над нацысцкай Германіяй, а ў аснове афіцыйнай карціны вайны ляжаў распрацаваны ў брэжнеўскую эпоху трыумфальна-гераічны наратыў пра “Вялікую Айчынную вайну”[16]. Гэтая палітыка дапамагла падавіць траўматычныя ўспаміны не толькі пра саму вайну, але і пра замоўчваныя сталінскія рэпрэсіі[17]. Яна ж спрыяла кансалідацыі калектыўнай ідэнтычнасці і фармаванню наднацыянальнай супольнасці, што атрымала назву “савецкага народа”[18].

Міф пра Вялікую Айчынную вайну быў культурным падмуркам не толькі “новай гістарычнай супольнасці – савецкага народа”, але і, беручы вузей, грамадстваў трох

[16] Weiner A. Making Sense of War: The Second World War and the Fate of the Bolshevik Revolution. Princeton, 2001; Дубин Б. Память, война, память о войне. Конструирование прошлого в социальной практике последних десятилетий // Общественные записки. 2005. № 4 (43).

[17] Etkind A. Warped Mourning: Stories of the Undead in the Land of the Unburied. Stanford, 2013.

[18] Пра гэта гл.: Brunstedt J. Building a Pan-Soviet Past: The Soviet War Cult and the Turn Away from Ethnic Particularism // The Soviet and Post-Soviet Review. 2011. № 2 (38). P. 149–171.

славянскіх рэспублік, якія складалі этнічнае і культурнае ядро СССР. Міф пра “агульную перамогу” адыграў асаблівую ролю ва ўзаемаадносінах паміж Масквой, Кіевам і Мінскам; ён адпавядаў базавай гістарычнай парадыгме ўсходнеславянскага адзінства і “братэрства”[19]. Ва Украіне гэта дапамагло заглушыць “альтэрнатыўную” памяць пра антысавецкае нацыяналістычнае супраціўленне і яго калабарацыю з нацыстамі[20]. У Беларусі міфалагізаваны самавобраз “рэспублікі-партызанкі”, якая выканала ключавую ролю ў абароне Савецкага Саюза і забяспечыла перамогу, зрабіўся вызначальнай рысай пасляваеннага грамадства.

І хоць спачатку асноўныя сімвалы і наратывы, звязаныя з савецкім міфам пра Вялікую Айчынную вайну, былі агульныя для Украіны, Расіі і Беларусі, постсавецкія інтэрпрэтацыі гэтага міфа ў трох згаданых краінах развіваліся па-рознаму. Калі ў Расіі міф пра Вялікую Айчынную вайну быў інтэграваны ў новую афіцыйную канцэпцыю рускай ідэнтычнасці, дзяржаўнага патрыятызму і воінскай славы, ва Украіне “падзеленая культура памяці” перашкодзіла нацыянальным элітам дасягнуць кансэнсусу наконт Другой сусветнай вайны. У Беларусі, дзе ваенная міфалогія займала нават больш важнае месца, чым у Расіі, традыцыйны савецкі наратыў, захаваны пры Лукашэнку, усё часцей аспрэчваецца інтэлектуаламі з апазіцыйнага асяроддзя, якія амаль не прадстаўлены ў падкантрольным дзяржаве сегменце публічнай прасторы. Між тым, у апошнія гады назіраецца няспынная барацьба за “права ўласнасці” на Перамогу. Адзін з самых вядомых прыкладаў такой барацьбы – заява Пуціна, зробленая ў 2010 г., што Расія перамагла б у вайне “нават без

[19] Yekelchyk S. Stalin’s Empire of Memory: Russian – Ukrainian Relations in the Soviet Historical Imagination. Toronto – Buffalo, 2004.

[20] Гриневич В. “Расколотая память”: Вторая мировая война в историческом сознании украинского общества // Неприкосновенный запас. 2005. № 2–3 (40–41). http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/gri24.html (стан на 9.01.2017).

Украіны"[21]. І ва Украіне, і ў Беларусі наратыў пра "агульную перамогу" і "агульныя ахвяры" быў прысвоены прарасійскімі палітычнымі сіламі. У постмайданнай Украіне сфармаваўся новы кансэнсус наконт Другой сусветнай вайны як трагічнай, а не гераічнай старонкі айчыннай гісторыі, а фармулёўка "Вялікая Айчынная вайна" знікла з музеяў і падручнікаў. У той жа час адсылкі да Вялікай Айчыннай вайны нярэдка можна пачуць у публічных выступленнях прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі ў кантэксце расійскай агрэсіі на Данбасе.

З распадам Савецкага Саюза імперыя калектыўнай памяці, збудаваная Брэжневым, рухнула не адразу – яе фрагменты былі інструменталізаваны палітычнымі элітамі ў новых незалежных дзяржавах. Даследчыкі калектыўнай памяці ва Усходняй Еўропе, як правіла, аддаюць больш пільную ўвагу працэсам нацыяналізацыі памяці пасля завяршэння "халоднай вайны"[22], але інструменталізацыя памяці ў нашым рэгіёне ажыццяўляецца не толькі дзеля стварэння новых нацыянальных "незалежніцкіх" наратываў. Адзін з процілеглых прыкладаў – узведзены ў 1995 г.

[21] Так пра гэта пісалі ў прэсе; дакладныя словы Пуціна (у адказ на пытанне "Хірурга" пра тое, ці была б магчымай перамога ў вайне, калі б Украіна і Расія былі рознымі дзяржавамі) гучалі наступным чынам: "Цяпер пра нашы адносіны з Украінай. Я дазволю сабе з вамі не пагадзіцца, калі вы цяпер сказалі, што, калі б мы былі падзелены, мы не перамаглі б у вайне. Мы ўсё роўна перамаглі б, таму што мы краіна пераможцаў. І больш за тое – пад тым, што я сказаў, ёсць пэўны грунт. Калі мы паглядзім статыстыку Другой сусветнай вайны, дык высветліцца, што найбольшыя страты ў Вялікай Айчыннай вайне панесла менавіта РСФСР – больш за 70% страт. Гэта значыць, што вайна выйграна – не хачу нікога крыўдзіць, але ж – у асноўным за кошт чалавечых і індустрыяльных рэсурсаў Расійскай Федэрацыі. Гэта гістарычны факт, гэта ўсё ў дакументах ёсць. Гэта ані не прымяншае таго значэння, якое адыгралі ў агульнай перамозе рэспублікі былога Савецкага Саюза. Але безумоўна, калі мы былі разам, мы ўяўлялі сабой куды больш магутную сілу". Відэа гэтай гутаркі гл.: https://www.youtube.com/watch?v=26dcHyMASYs.

[22] Гл., напр.: Memory and Power in Post-War Europe: Studies in the Presence of the Past / Ed. J.-W. Müller. Cambridge, 2002.

ваенны мемарыял у Прохараўцы пад Белгарадам, які быў інтэграваны ў новы наратыў пра славянскае адзінства і зрабіўся абавязковым месцам для сумеснага наведвання расійскімі, украінскімі і беларускімі лідарамі[23]. У траўні 2000 г., перад сустрэчай Пуціна, Лукашэнкі і Кучмы, тамсама была пабудавана праваслаўная капліца са "звонам яднання трох брацкіх славянскіх народаў", аздобленая абразамі трох святых – заступнікаў трох славянскіх краін. Патрыярх Алексій II, які адкрыў сустрэчу трох прэзідэнтаў у Прохараўцы з нагоды 55-годдзя перамогі над нацысцкай Германіяй, у сваёй прамове асаблівы націск зрабіў на тэме славянскага адзінства: "Сыны рускага, украінскага, беларускага народаў гераічна змагаліся тут супраць агульнага непрыяцеля, абараняючы адзіную Радзіму. Шмат хто з іх паклаў жыццё сваё дзеля мірнай і свабоднай будучыні Айчыны. Ніхто не змог бы, нават калі б захацеў, раздзяліць магілы палеглых. У бітве, у самаахвяраванні, у Перамозе яны былі адзіныя. Адзіная іх слава, адзіная наша памяць. <…> І найлепшай данінай героям будзе трывалае захаванне адзінства ўкраінцаў, расіян і беларусаў"[24].

У сярэдзіне 2000-х гадоў Прохараўка стала сімвалам "усходнеславянскага ўз'яднання", пад якім разумелася палітычная, эканамічная і культурная інтэграцыя трох былых савецкіх рэспублік. Палітычныя эліты, зацікаўленыя ў гэтым праекце, імкнуліся ўпісаць "Вялікую Перамогу" ў новы дыскурс панславізму і праваслаўнага адзінства, адаптуючы для гэтага савецкія сімвалы, наратывы і рытуалы.

Такім чынам, самавызначанае (а хутчэй, вызначанае Расіяй) усходнеславянскае ядро былой савецкай прасторы

[23] Zhurzhenko T. Shared Memory Culture? Nationalizing the "Great Patriotic War" in the Ukrainian-Russian Borderlands // Memory and Change in Europe: Eastern Perspectives / Ed. M. Pakier, J. Wawrzyniak. New York – Oxford, 2015. P. 169–192.

[24] Святейший Патриарх Московский и всея Руси Алексий II и президенты России, Украины и Белоруссии посетили Белгород и поселок Прохоровку // Русская Православная Церковь. Отдел внешних церковных связей. 17.05.2000. www.mospat.ru/archive/nr005172.htm (стан на 25.07.2016).

з'яўляецца парадыгматычным рэгіёнам памяці, г. зн. "дыскурсіўнай арэнай, вынесенай па-над узровень нацыянальнай дзяржавы, але не поўнасцю ўніверсальнай"[25]. Існаванне гэтага рэгіёна памяці можна засведчыць як інстытуцыйна, так і эмпірычна: яго прыкмета – не толькі ўзаемадзеянне ў галіне мемарыяльнай палітыкі паміж дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі, але і агульная гісторыя ваенных пакут і пасляваеннага аднаўлення ў складзе СССР. Выпадак з Прохараўкай паказвае, што палітычныя эліты ў Беларусі, Расіі і Украіне стварылі спецыяльныя юрыдычныя, бюракратычныя і сімвалічныя структуры, каб паспрабаваць аб'яднаць ваенныя нарратывы і абгрунтаваць прэтэнзіі на супольную ідэнтычнасць. Іншы прыклад – святкаванне 11 красавіка "Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў", памятнай даты, невядомай за межамі постсавецкіх дзяржаў[26]. Зусім нядаўна, пасля ўварвання Расіі ва Усходнюю Украіну і Крым, падобнае супрацоўніцтва на найвышэйшым узроўні скарацілася. Так, у 2015 г. Беларусь здзейсніла сімвалічны адыход ад расійскай мемарыяльнай мадэлі, прыдумаўшы ў якасці ўласнай альтэрнатывы георгіеўскай стужцы "кветку Перамогі" – яблыневы цвет на чырвона-зялёнай стужцы, якую цяпер надзяваюць ветэраны і гледачы ў час святочных імпрэз на Дзень Перамогі 9 траўня[27]. Тым не менш, відавочна, што мемарыяльныя

[25] Olick J. K. Foreword // Memory and Change in Europe: Eastern Perspectives / Ed. M. Pakier and J. Wawrzyniak. New York – Oxford, 2015. P. x.

[26] Bekus N. Constructing Post-Soviet Space as a 'Remembering Community': Contested Nazi Victimhood after 1989 (даклад на канферэнцыі "Regions of Memory II: Memory Regions as Discourse and Imagination", праведзенай у Варшаве 17–19 сакавіка 2016 г. пад эгідай Еўрапейскай сеткі памяці і салідарнасці).

[27] Больш інфармацыі аб праекце "Кветкі Вялікай Перамогі" можна знайсці на інтэрнэт-партале "Моладзь Беларусі": http://brsm.by/projects/tsvety-velikoj-pobedy/. У прыведзеным там апісанні тлумачыцца, што яблыневы цвет "увасабляе сабой непарыўную сувязь пакаленняў і шчырую ўдзячнасць воінам-героям, якія падарылі сваім дзецям і ўнукам Вялікую Перамогу, магчымасць спакойна жыць, працаваць, гадаваць дзяцей і

сімвалы і наратывы ў гэтым рэгіёне цесна пераплецены, і хоць на змену сумеснаму выкарыстанню агульнай сімволікі ўсё часцей прыходзяць канфлікты ў сферы памяці, аб'яднаўчая яе аснова застаецца трывалай.

Вышэйакрэсленая рэгіянальная перспектыва – гэта плённая прызма для вывучэння культур памяці Беларусі, Расіі і Украіны, бо яна прызнае, што спецыфічная савецкая міфалогія, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, адыграла вельмі значную ролю ў развіцці гэтых трох краін, аднак пры гэтым дазваляе вывучаць паступовыя змены нацыянальных канцэпцый памяці і іх узаемаўплыў адна на адну праз дзяржаўныя межы. Такім чынам, наша рашэнне засяродзіцца на трыкутніку Расія – Украіна – Беларусь не варта разглядаць як праяву маўклівай згоды з ідэалагічным канструктам адвечнага ўсходнеславянскага адзінства і братэрства[28]. Змешчаныя ў кнізе нарысы наглядна дэманструюць, што памяць выступае полем барацьбы як унутры кожнай дзяржавы, так і паміж імі.

Пакручастыя шляхі калектыўнай памяці ў гэтых былых савецкіх краінах даюць таксама павучальны контрпрыклад пашыранаму тэзісу, згодна з якім глабальным сімвалам пакут, перажытых чалавецтвам у XX ст., з'яўляецца Халакост[29]. Крыху парадаксальна, што акурат у

гэтаксама, як у памятным траўні 1945 года, шчыра радавацца расквітнелым садам, што зрабіліся сімвалам новых мірных перамог суверэннай Беларусі".

[28] Пра гісторыю мэтанакіраванага ўкаранення ў навуковы ўжытак паняцця "ўсходнеславянскай" моўнай групы і яго палітычнага выкарыстання гл.: Kamusella T. The Politics of Language and Nationalism in Modern Central Europe. Basingstoke, 2008. Гл. таксама развагі У. Куліка пра ўсходнеславянскі / савецкі наратыў, які пастулюе, што Украіна, Расія і Беларусь утвараюць сабой непарыўную цэласць: Kulyk V. War of Memories in the Ukrainian Media: Diversity of Identities, Political Confrontation, and Production Technologies // Memory, Conflict and New Media: Web Wars in Post-Socialist States / Ed. E. Rutten, J. Fedor, and V. Zvereva. Abingdon, 2013. P. 63–81.

[29] Levy D., Sznaider N. Memory Unbound: The Holocaust and the Formation of Cosmopolitan Memory // European Journal of Social Theory. 2002. № 5. P. 87–106.

тым самым рэгіёне, дзе масавае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва Еўропы адбывалася ў індустрыяльных маштабах (побач з Польшчай, Венгрыяй, краінамі Балтыі і іншымі ўсходнеславянскімі дзяржавамі), метанаратыў пра цэнтральнае месца Халакосту ў сусветнай культуры памяці скінуты са свайго п'едэстала. Вядома, Халакост тут не забыты, няхай сабе афіцыйны савецкі наратыў і не дапускаў пастаноўкі ніякага асаблівага акцэнту на масавых пакутах яўрэяў, замест гэтага абагульнена гаворачы пра гібель "мірных савецкіх грамадзян"[30]. Але Халакост у гэтым рэгіёне дакладна не з'яўляецца цэнтральным стрыжнем памяці; хутчэй ён спаборнічае за першынство з іншымі асноватворнымі міфамі, куды ўваходзяць культ Перамогі і нацыянальныя мартыралогіі.

Між тым, памяць пра Халакост можна разглядаць як пункт сутыкнення паміж мясцовай і глабальнай павесткай. Палітычныя эліты, незалежна ад іх поглядаў, не могуць пазбегнуць адсылак да Халакосту як універсальнага сімвала гісторыі XX ст. Так, пуцінскі рэжым прысвоіў і тым ці іншым спосабам адаптаваў пад свае патрэбы глабальныя дыскурсы прызнання Халакосту і правоў чалавека дзеля ўласнай легітымацыі[31], а празаходні ўрад Украіны звяртаецца да тэмы Халакосту, каб прадэманстраваць сваю прыхільнасць да еўрапейскіх каштоўнасцяў. Адначасова маштабнае публічнае ўшанаванне ў верасні 2016 г. 75-годдзя масавых расстрэлаў ва ўрочышчы Бабін Яр у Кіеве і новыя мемарыяльныя комплексы, створаныя намаганнямі грамадзянскай супольнасці (такія, як "Прастора сінагог" у Львове), сведчаць пра новую тэндэнцыю да інтэграцыі Халакосту ў нацыянальны гістарычны наратыў.

У цэлым усе тры культуры памяці застаюцца фундаментальна структураваныя савецкім міфам пра Вялікую Айчынную вайну. Гэта справядліва нават тады (а па

[30] Гл.: Альтман И. Мемориализация Холокоста в России: история, современность, перспективы // Неприкосновенный запас. 2005. № 2–3 (40–41).

[31] Fedor J. Introduction: Russian Media and the War in Ukraine // Journal of Soviet and Post-Soviet Politics and Society. 2015. № 1 (1). P. 2.

сутнасці, асабліва тады), калі іх погляды на гэты міф дыяметральна разыходзяцца. Як сцвярджаў Майкл Ротберг, вастрыня канфліктаў вакол памяці часткова тлумачыцца "рытарычнай і культурнай *блізкасцю*, здавалася б, процілеглых гістарычных парадыгмаў"[32]. Ротбергава рэмарка наконт таго, што наша стаўленне да мінуўшчыны заўсёды мае "нечаканыя ці нават непажаданыя наступствы, якія звязваюць нас з тымі, каго мы лічым чужынцамі", асабліва падыходзіць тут, дзе нібыта самыя радыкальныя спробы адрынуць савецкую парадыгму так часта спрыяюць хіба што яе далейшаму замацаванню[33]. Пацвярджэннем гэтага тэзіса служаць зацятыя спрэчкі пра ролю Сталіна ў расійскай гісторыі і, у прыватнасці, у перамозе над нацысцкай Германіяй, якія парадаксальна аб'ядноўваюць лібералаў і нацыяналістаў у адным дыскурсіўным полі. Спробы стварыць антысавецкі нацыяналістычны наратыў, у якім месца герояў адводзіцца членам Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН) і Украінскай паўстанцкай арміі (УПА), як паказвае Юлія Юрчук, часта капіююць традыцыйную савецкую прапагандыскую традыцыю і карыстаюцца яе стылёвымі сродкамі. Тое самае можна сказаць пра некаторыя нацыяналістычныя наратывы ў Беларусі, дзе ў той самы час кіраўнічы рэжым паралельна прысвойвае ўсё больш сімвалаў і сюжэтных ліній з культурна-гістарычнага багажу апазіцыі.

Марк Д. Штэйнберг прапануе яшчэ адзін погляд на Усходнюю Еўропу, якім мы карыстаемся ў нашым аналізе. Ён піша: "…калі мы прытрымліваемся азначэння рэгіёна як прасторы, якую акрэсліваюць перш за ўсё сацыяльныя адносіны, а не агульныя рысы культуры, дык Усходняя Еўропа з'яўляецца якраз такой прасторай, з яе ўнікальнай вельмі стракатай спадчынай і часта нечаканай

[32] Rothberg M. Multidirectional Memory: Remembering the Holocaust in the Age of Decolonization. Stanford, 2009. P. 7 (курсіў наш).

[33] Portnov A. Bandera Mythologies and Their Traps for Ukraine // "openDemocracy. Russia and beyond". 22.06.2016. https://www.opendemocracy.net/od-russia/andrii-portnov/bandera-mythologies-and-their-traps-for-ukraine (стан на 24.07.2016).

эвалюцыяй. Асабліва ж характэрна для рэгіёна тое, што ў мадэрную эпоху тут былі зроблены спробы прымусова ўніфікаваць і стабілізаваць адносіны праз абсорбцыю нацыянальнай спецыфікі імперыямі і шматнацыянальнымі дзяржавамі, хоць сёй-той намагаўся і наогул сцерці гэтую спецыфіку”[34].

Што да нашых трох краін, дык варта згадаць: узаемаадносіны паміж імі часта апісваліся і структураваліся ў катэгорыях роднасці і праз метафары, звязаныя з роднасцю, а не, напрыклад, з добрасуседствам ці партнёрствам. Гэта важна ўсведамляць, каб зразумець эмацыйнае напружанне сучасных “войнаў памяці”. Так, паводле расійскіх СМІ, “асабліва крыўднымі і горкімі”, як выказалася адна журналістка, постсавецкія войны памяці робіць той факт, што “ў кола асноўных ворагаў уваходзяць… родныя славянскія народы”[35]. Такім чынам, старыя метафары славянскага братэрства і славянскіх кроўных повязяў захоўваюць сваю сімвалічную сілу, але цяпер часта нясуць адмоўны зарад. Настойваючы на адзінстве і роднасці народаў СССР, савецкая прапаганда паралельна клеймавала ўкраінскіх нацыяналістаў часоў Другой сусветнай вайны як “здраднікаў Радзімы”, і гэтае абвінавачанне перагукаецца з нядаўнімі войнамі памяці на постсавецкай прасторы. Так, новы помнік “ахвярам АУН-УПА” пад назвай “Стрэл у спіну”, які з’явіўся ў Сімферопалі ў 2007 г., уяўляе сабой постаць параненага савецкага салдата, якога трымае ў сваіх абдымках жанчына. Гісторыя гэтай метафары ўзыходзіць да імперскага перыяду ўкраінска-расійскіх стасункаў[36]. Гэты факт дапамагае растлумачыць эмацыйную сілу паняцця “здрады” ў кантэксце сённяшняга

[34] Steinberg M. D. Emotions History in Eastern Europe // Doing Emotions History / Ed. S. J. Matt, P. N. Stearns. Urbana, 2014. P. 75–76.

[35] Цыт. паводле: Маевская Я. Кому и зачем надо порочить историю России // Вечерняя Москва. 29.12.2009. № 246.

[36] Каппелер А. Мазепинцы, малороссы, хохлы: украинцы в этнической иерархии Российской империи // Россия – Украина: история взаимоотношений / отв. редакторы: А. И. Миллер, В. Ф. Репринцев, Б. Н. Флоря. Москва, 1997. С. 125–144.

ўкраінска-расійскага канфлікту, бо празаходняя Украіна ўяўляецца "траянскім канём" амерыканскага імперыялізму. Такім чынам, даміноўны матыў "братэрства" цяпер апынуўся фактычна перакручаным навыварат і ператварыўся ў новую ключавую метафару "здрады". Захаванне гэтай асноўнай ідэі зводзіць выбар паміж даступнымі ролевымі катэгорыямі да радыкальнага мінімуму: можна быць або братам, або здраднікам.

Паспяховая інструменталізацыя ваеннай памяці на постсавецкай прасторы была магчымая дзякуючы таму, што ў народзе міф пра Вялікую Айчынную вайну захаваў яшчэ большую значнасць, чым сярод палітычных эліт. Фрэдэрык Корні адзначыў, што "ўдалыя дзяржаватворчыя наратывы абавязаны сваім поспехам комплексным узаемаадносінам паміж правіцелямі і падданымі", а іх жыццяздольнасць "залежыць ад іх здатнасці прыцягваць індывідаў да працэсаў сэнсаўтварэння"[37]. Дзень Перамогі 9 траўня, які азнаменаваў заканчэнне вайны, – найважнейшая дата афіцыйнага расійскага календара, але ён жа і адзінае постсавецкае свята, сапраўды папулярнае і ў Расіі[38], і за яе межамі[39]. Як падкрэслівае Ніна Тумаркін, у канцы савецкай эпохі Дзень Перамогі "быў *аднačасова* і інструментам прапаганды, якая эксплуатавала яго трыумф, і памінальным днём для мільёнаў сваякоў і сяброў палеглых на вайне"[40]. Моцныя эмацыйныя сувязі паміж індывідуальнымі (сямейнымі) і калектыўнымі ўспамінамі пра вайну сведчаць, што міф пра Вялікую Айчынную вайну ўсё яшчэ адпавядае крытэрыям, акрэсленым Стывенам Коткіным у яго даследаванні савецкай

[37] Corney F. C. Telling October: Memory and the Making of the Bolshevik Revolution. Ithaca, 2004. P. 2–3.

[38] Левинсон А. Война как прошлое и как будущее // Неприкосновенный запас. 2015. № 3 (10). http://nlobooks.ru/node/6369 (стан на 14.11.2016).

[39] Kriegsgedenken als Event: Der 9. Mai 2015 im postsozialistischen Europa / Hg. M. Gabowitsch, C. Gdaniec, E. Makhotina. Padeborn, 2016.

[40] Tumarkin N. The Living and the Dead: The Rise and Fall of the Cult of World War II in Russia. New York, 1994. P. 37 (курсіў наш).

ідэалогіі і прапаганды. Коткін адзначае, што немагчыма проста навязаць прапаганду зверху. Каб быць эфектыўнай, піша Коткін, прапаганда "павінна прапанаваць аповед, які людзі ў той ці іншай ступені гатовы прыняць; аповед, які здольны захапіць уяўленне і які можна пераказваць па-свойму"[41]. І міф пра вайну дагэтуль паспяховы ва ўсіх гэтых адносінах. У рэтраспектыўным кантэксце, пасля Крыма, ён усё яшчэ ўспрымаецца як самы магутны ідэнтыфікацыйны маркёр "рускага свету", пад якім у шырокім сэнсе разумеюць усходнеславянскую, ці праваслаўную, цывілізацыю. Як прадэманстравала "руская вясна" 2014 г., нават праз чвэрць стагоддзя пасля распаду СССР культурная і ідэалагічная прыхільнасць да міфа пра Вялікую Айчынную вайну перасягае палітычную лаяльнасць да новых нацыянальных дзяржаў.

## Расія

Ужо набілі аскоміну канстатацыі, што перамога ў Вялікай Айчыннай вайне сёння засталася адзінай значнай гістарычнай падзеяй, прыдатнай на ролю краевугольнага каменя для постсавецкай расійскай нацыянальнай ідэнтычнасці[42]. Немалаважна і тое, што Перамога выцесніла ці замяніла сабой усе іншыя падзеі, якія маглі б прэтэндаваць на ролю сімвала нацыянальнага адзінства, дасягнутага праз супольныя пакуты і ахвяры, – напрыклад, сталінскія рэпрэсіі. Той факт, што Расійская Федэрацыя ў значнай ступені лічыць сябе правапераемніцай СССР, не дазваляе ёй абвясціць насілле, чынёнае савецкімі ўладамі, нечым навязаным, прыўнесеным звонку. Замест гэтага, як сцвярджае Сяргей Ушакін, ваенная памяць,

[41] Kotkin S. Magnetic Mountain: Stalinism as a Civilization. Berkeley–Los Angeles, 1995. P. 358.

[42] Гл., напр.: Гудков Л. "Пам'ять" о войне и массовая идентичность россиян // Неприкосновенный запас. 2005. № 2–3 (40–41); Wolfe T. C. Past as Present, Myth, or History? Discourses of Time and the Great Fatherland War // The Politics of Memory in Postwar Europe / Ed. R. N. Lebow, W. Kansteiner, C. Fogu. Durham, 2006. P. 249–283.

здаецца, функцыянуе як свайго роду замяшчальнік, "чорная дзірка", здольная паглынуць усе непрызнаныя траўмы, перажытыя Расіяй у XX ст.[43].

Нягледзячы на размыванне ў апошнія дзесяцігоддзі шматлікіх табу наконт ролі СССР у Другой сусветнай вайне[44], савецкі міф пра Вялікую Айчынную вайну, цяпер абноўлены і ўключаны ў новы расійскі гістарычны наратыў, у значнай ступені захоўвае свой свяшчэнны і недатыкальны статус. Кожны наступны расійскі ўрад укладае значныя рэсурсы ў падтрыманне культу Перамогі і яго далейшае выкарыстанне ў якасці інструмента нацыянальнай асветы і патрыятычнага выхавання. Міф пра Перамогу ўяўляецца настолькі важным для нацыябудаўнічага праекта, што дзяржава лічыць сябе абавязанай стаяць на яго варце: так, адмова прызнаць перамогу Чырвонай арміі была аднесена да катэгорыі крымінальных злачынстваў.

Савецкая роля ў разгроме фашызму выступае таксама важным элементам, што ляжыць у аснове расійскіх геапалітычных прэтэнзій на ролю вялікай дзяржавы[45]. Апрача таго, цяперашні расійскі ўрад шырока выкарыстоўвае сімвалічны капітал, які вынікае з гэтай ролі, ва ўзаемаадносінах з былымі савецкімі рэспублікамі, калі любыя спробы апошніх адысці ад савецкага ваеннага наратыву (ці тым больш выйсці з расійскай сферы ўплыву) трактуюцца як праявы "фашызму". Пачынаючы з 2014 г. сімвалы і вобразы савецкага ваеннага міфа выкарыстоўваліся таксама ў якасці "ідэалагічнай зброі" для інспірацыі прарасійскіх узброеных выступленняў ва Украіне. Так, трагічныя падзеі ў Адэсе, калі сутыкненні паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Еўрамайдана скончыліся

[43] Цыт. паводле: Костерина И. Мы у прошлого не учимся, мы им живём // Неприкосновенный запас. 2015. № 4 (102) http://magazines.russ.ru/nz/2015/4/11int.html (стан на 26.07.2016).

[44] Пра гэта гл.: Carleton G. Russian Fiction at War // The Long Aftermath: Cultural Legacies of Europe at War, 1936–2016 / Ed. M. Bragança and P. Tame. New York – Oxford, 2016. P. 358–372.

[45] Падрабязней гл.: Zhurzhenko T. Russia's Never-ending War against "Fascism" (спас. 15).

катастрафічным пажарам у Доме прафсаюзаў, дзе загінулі дзясяткі прарасійскіх пратэстоўцаў, часта апісваліся ў СМІ як “новая Хатынь”, г. зн. паўтор масавага забойства мірных жыхароў, здзейсненага ў беларускай вёсцы ў 1943 г., якое ў пазнейшым савецкім наратыве набыло статус “эталоннага” фашысцкага злачынства. Ахвяры пажару ў Адэсе, у сваю чаргу, былі абвешчаны пакутнікамі, якія загінулі дзеля пабудовы “Наваросіі”[46]. Лічылася, што ахвяры загінулі, з аднаго боку, каб даць пачатак “рускай вясне”, а з другога – у імя мінулых перамог рускай зброі, і гэтыя два вымярэнні часта цесна перапляталіся адно з адным. Напрыклад, адзін праваслаўны святар, каментуючы гэтыя падзеі, напісаў, што адэскі пажар – гэта “АГНЯВОЕ АХВЯРАПРЫНАШЭННЕ <…> блаславёная ахвяра… і вечны праклён фашыстам!”[47]. Вось толькі адзін з прыкладаў таго, як памяць пра Другую сусветную вайну выкарыстоўвалася для падбухторвання антыўкраінскіх выступленняў праз атаясамліванне ўкраінскага нацыяналізму з нямецкім нацызмам як увасабленнем абсалютнага зла.

Такім чынам, праз семдзесят гадоў пасля перамогі над нацысцкай Германіяй Расія заяўляе, што сутыкнулася з тым самым выклікам – пагрозай фашызму. Вось жа, “антыфашызм” зрабіўся цэнтральным элементам новай нацыянальнай ідэі і рухальнай сілай масавай нацыяналістычнай мабілізацыі ў сучаснай Расіі[48]. Гэтая новая палітыка

[46] Гл. напр.: Даренский В. Одесская трагедия как символ современной Украины // Novoross.info. 6.05.2015. http://www.novoross.info/general/31589-odesskaya-tragediya-kak-simvol-sovremennoy-ukrainy.html (стан на 7.11.2016).

[47] Цыт. па: Часовые памяти / сост. А. Чистяков. Москва, 2014. С. 3 (вылучана намі).

[48] Гэтай тэндэнцыі ўжо некалькі гадоў. Ваяўнічыя пракрамлёўскія моладзевыя арганізацыі, накшталт “Нашых”, абгрунтоўвалі сваю легітымнасць гістарычнымі паралелямі, выкарыстоўваючы сакралізаваную версію гісторыі Другой сусветнай вайны для апраўдання неабходнасці процістаяць пагрозе вулічнага насілля пасля Аранжавай рэвалюцыі ва Украіне ў 2004 г. (гл.: Horvath R. Putin’s Preventive Counter-Revolution: Post-Soviet Authoritarianism and the Spectre of

памяці носіць паўсюдны характар: яна распасціраецца ад афіцыйнага дыскурсу і дыпламатычнай рыторыкі да сродкаў масавай інфармацыі, мастацкіх твораў (фільмаў, п’ес, нават опер) і акадэмічных манаграфій.

Украінскія падзеі супалі з хваляй “войнаў памяці” ўнутры самой Расіі. Вось толькі некалькі прыкладаў. У першай палове 2014 г. Пуцін падпісаў закон аб крымiналізацыі “пашырэння заведама непраўдзівай інфармацыі пра дзеянні СССР у час Другой сусветнай вайны”[49], кіраўніком кафедры айчыннай гісторыі XX–XXI ст. Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта прызначаны выхадзец з Федэральнай службы аховы[50], а гісторык Андрэй Зубаў звольнены (няхай і часова) з пасады ў Маскоўскім дзяржаўным інстытуце міжнародных адносін за артыкул, у якім ён параўноўваў цяперашнюю палітыку ў дачыненні да этнічных рускіх у блізкім замежжы з тым, як нацысты “ўрэгулявалі” пытанне судэцкіх немцаў[51]. У жніўні 2016 г., калі заканчвалася падрыхтоўка рукапісу гэтай кнігі, мы сталі сведкамі першага абвінаваўчага прысуду (які быў пакінуты ў сіле Вярхоўным судом) паводле артыкула 354.1 “Рэабілітацыя нацызму”, які, як згадвалася

Velvet Revolution. Abingdon, 2013). У 2010 г. пад эгідай дзяржавы была створана “недзяржаўная арганізацыя” “Свет без нацызму”, а ў 2013 г. расійскія афіцыйныя асобы назвалі адраджэнне неанацызму “галоўным выклікам XXI ст.”. Такую ж назву мела і міжнародная канферэнцыя, прысвечаная гэтай тэматыцы і арганізаваная ў Вашынгтоне пад эгідай расійскіх структур. Гл.: Заседание Российского организационного комитета “Победа” // Официальный сайт Президента России. 12.07.2013. http://www.kremlin.ru/events/president/transcripts/18714 (стан на 15.04.2015).

49 Подписан закон о “реабилитации нацизма” // Информационно-аналитический центр “СОВА”. 5.05.2014. https://www.sova-center.ru/misuse/news/lawmaking/2014/05/d29466/ (стан на 14.11.2016).

50 Аптекарь П. Историки в штатском // Ведомости. 30.01.2014. http://www.vedomosti.ru/opinion/news/22065861/istoriki-v-shtatskom (стан на 1.11.2016).

51 Антонова Е. Профессора уволили за взгляды // Газета.ru. 24.03.2014. http://www.gazeta.ru/social/2014/03/24/5962589.shtml (стан на 1.11.2016).

вышэй, быў уключаны ў Крымінальны кодэкс Расійскай федэрацыі ў 2014 г.[52].

Разважаючы пра расійскую палітыку ў сферы памяці, многія аддаюць першачарговую ўвагу пытанням пераемнасці паміж Савецкім Саюзам і Расійскай Федэрацыі, перспектывам расійскіх намаганняў адрадзіць падабенства Савецкага Саюза і небяспецы пачатку новай "халоднай вайны". Мы лічым такія інтэрпрэтацыі свайго роду "дымавой заслонай", шмат у чым вельмі зручнай для сучаснага расійскага рэжыму, лідары якога часта падаюць сябе як адзіную альтэрнатыву канчатковаму адкату да сталінскіх практык і адвечных тэндэнцый, якія, маўляў, непазбежна вынікаюць з рускага нацыянальнага характару. Менавіта ў інтарэсах пуцінскага рэжыму выкарыстоўваць палітычную валтузню вакол мінуўшчыны для адцягнення ўвагі людзей ад палітычных праблем сучаснасці. Зноў жа, нягледзячы на вонкавае падабенства, гэта адрозніваецца ад таго, як ваенная міфалогія выкарыстоўвалася ў часы СССР. У адрозненне ад даўнейшай савецкай ідэалогіі, якая ўяўляла сабой цэласную і стабільную сістэму, пуцінская ідэалогія неаднародная і эклектычная, яна пазычае і аб'ядноўвае элементы як савецкага, так і імперскага наратываў з мэтай прадэманстраваць "веліч" Расіі.

Важна разумець, што цяперашняя палітыка ў сферы памяці зусім не азначае няўхільнай рэпрадукцыі старых крыўдаў і "старажытнай нянавісці" – хутчэй гэта свядомая актыўная міфатворчасць сучасных эліт. Як падкрэслівае Дункан Бел, міфы "не проста развіваюцца стыхійна,

[52] Блогер Дзяніс Лузгін быў абвінавачаны ў перадруку на сваёй старонцы артыкула, у якім гаварылася, што "камуністы і Германія разам напалі на Польшчу, развязаўшы Другую сусветную вайну, г. зн. камунізм і нацызм сумленна супрацоўнічалі". Вярхоўны суд Расіі пакінуў у сіле пастанову суда першай інстанцыі, дзе сцвярджалася, што гэтая фраза пярэчыць "фактам, устаноўленым Нюрнбергскім трыбуналам". Гл.: Заявление Вольного исторического общества в связи с приговором Денису Лузгину // Сайт Вольного исторического общества. 5.09.2016. http://volistob.ru/statements/zayavlenie-volnogo-istoricheskogo-obshchestva-v-svyazi-s-prigovorom-denisu-luzginu (стан на 7.09.2016).

без актыўнага ўмяшання… Міфы канструююца і фармуюцца – або як наўмысная маніпуляцыя, або як асабліва водгулле твораў літаратуры і мастацтва”[53]. Падзеі, што разгортваюцца ў Расіі, можна разглядаць не як кульмінацыю культурна-палітычнага кансерватызму, а як стварэнне новай нацыі, на чым і настойвае расійскі апазіцыйны журналіст Алег Кашын у артыкуле з нагоды Дня Перамогі 2016 г., дзе ён аналізуе сутнасць расійскай палітыкі памяці. У гэтым артыкуле пад загалоўкам “Новае свята новага народа” Кашын адзначае, што хоць расіяне прывыклі лічыць сябе старым народам з багатай і даўняй культурай, на самай справе варта паглядзець на іх “як на новы народ, што штучна ствараецца проста цяпер у паскораным тэмпе, як туркі пры Кемаль-пашы. <…> Такому народу патрэбен акурат такі міф – міф пра продкаў, якія ў кровапралітнай вайне разграмілі пагрозу з Захаду, былі адданыя сваёй дзяржаве і гатовыя ахвяраваць сабой дзеля яе інтарэсаў”[54]. У гэтым сэнсе Расія не так ужо моцна адрозніваецца ад Украіны і Беларусі, народы якіх часцей і лягчэй успрымаюцца як “новыя” нацыі, што маюць вострую патрэбу ва ўласнай гісторыі і ідэнтычнасці.

## Украіна

У адрозненне ад Расіі ва Украіне супярэчлівыя погляды на савецкую мінуўшчыну і альтэрнатыўныя інтэрпрэтацыі Другой сусветнай вайны спрыялі ўзнікненню глыбокага палітычнага канфлікту, які раскалоў грамадства. У гэтым сэнсе Украіна нагадвае краіну, якая перажыла грамадзянскую вайну, накшталт Іспаніі[55]. Права інтэрпрэтаваць гістарычныя і геапалітычныя вынікі Другой

[53] Bell D. S. A. Mythscapes: Memory, Mythology, and National Identity // British Journal of Sociology. 2003. № 1 (54). P. 75.

[54] Кашин О. Новый праздник нового народа // Rus2web.ru. 6.05.2016. http://rus2web.ru/speczmaterialyi/novyij-prazdnik-novogo-naroda.html (стан на 14.11.2016).

[55] Shevel O. The Politics of Memory in a Divided Society: A Comparison of Post-Franco Spain and Post-Soviet Ukraine // Slavic Review. 2011. № 1 (70). P. 137–164.

сусветнай вайны адкрыта аспрэчваецца канкурэнтнымі палітычнымі сіламі. Пераасэнсаванне Другой сусветнай вайны і яе ролі ў гісторыі Украіны непасрэдна звязана з "посткаланіяльным" пошукам нацыянальнай ідэнтычнасці і праблемай палітычнага выбару паміж Расіяй і Захадам. Калі пад час дзвюх прэзідэнцкіх кадэнцый Леаніда Кучмы (1994–2005) афіцыйныя асобы апелявалі да Другой сусветнай вайны як да "Вялікай Айчыннай вайны ўкраінскага народа", тым самым надаючы савецкаму наратыву нацыянальнае вымярэнне, дык у афіцыйным дыскурсе эпохі Віктара Юшчанкі (2005–2010) украінская нацыя фігуравала як ахвяра двух таталітарных рэжымаў. Паводле слоў Соф'і Грачовай[56], "новы афіцыйны гістарычны наратыў паказваў вайну не столькі гераічнай падзеяй, колькі жахлівай трагедыяй, якую ўкраінскаму народу давялося перажыць з прычыны адсутнасці ўласнай нацыянальнай дзяржавы". У часы Віктара Януковіча гэты падыход быў маргіналізаваны, а некаторыя даўнейшыя сімвалы (накшталт савецкага Сцяга Перамогі) былі вернуты ў афіцыйны ўжытак, што выклікала сур'ёзныя пратэсты.

Ва Украіне, у адрозненне ад Расіі і ў значна большай ступені, чым у Беларусі, з канца 1980-х гадоў у грамадскім полі прысутнічае альтэрнатыўны нацыяналістычны наратыў пра Вялікую Айчынную вайну, які апелюе да АУН-УПА і іх лідараў – Сцяпана Бандэры і Рамана Шухевіча. Гэты наратыў, які займаў даволі маргінальнае месца ў перыяд першага дзесяцігоддзя пасля здабыцца незалежнасці, у эпоху Віктара Юшчанкі быў узняты да ўзроўню палітыкі нацыянальнай памяці. Сімвалічная палітыка Юшчанкі, скіраваная на праслаўленне ўкраінскага нацыяналізму і асуджэнне савецкай улады як антыўкраінскай, палярызавала краіну. Усходнія вобласці Украіны, дзе найбольшай папулярнасцю карысталася Партыя рэгіёнаў, у час прэзідэнцтва Юшчанкі сталі галоўнай арэнай войнаў памяці.

56 Grachova S. Unknown Victims: Ethnic-Based Violence of the World War II Era in Ukrainian Politics of History after 2004 (даклад на 4-м штогадовым Данілавым семінары ўкраінскіх даследаванняў, праведзеным на кафедры ўкраінскіх даследаванняў Атаўскага ўніверсітэта 23–25 кастрычніка 2008 г.).

Як адзначалі некаторыя каментатары, гэтыя войны памяці падрыхтавалі глебу для ўзброенага канфлікту на Данбасе: «Вайна ва Усходняй Украіне (якая атрымала назву "антытэрарыстычнай аперацыі") афіцыйна пачалася ў красавіку 2014 г. Вайна ў розумах людзей, якая цяпер здаецца неад'емнай (і натуральнай) часткай бягучага ваеннага і грамадзянскага канфлікту, пачалася значна раней – калі мінуўшчына зрабілася важным элементам сучаснасці»[57]. Звяртаючыся да ролі палітыкі ідэнтычнасці ў цяперашнім украінскім крызісе, Т. Журжэнка[58] паказала, як расколатая палітычная эліта Украіны адчыніла скрыню Пандоры, выкарыстоўваючы палітыку памяці ў якасці інструмента для масавай мабілізацыі выбаршчыкаў, і як Расія скарыстала "вайну ідэнтычнасцяў", каб аслабіць Украіну і паспрабаваць прадухіліць яе пераарыентацыю на Захад.

Андрэй Партноў прапанаваў адзін з самых збалансаваных і ўзважаных аналізаў адраджэння бандэраўскай міфалогіі ў час еўрамайданаўскіх пратэстаў. Ён адзначае, што, апрача крайне правых шчырых прыхільнікаў Бандэры, былі і тыя, хто падхапіў гэты міф "за кампанію", у адказ на спробы Крамля выставіць Майдан "фашысцкім", хоць часта пры гэтым такія людзі мала што ведалі пра біяграфію і погляды Бандэры[59]. Іншыя даследчыкі таксама звярнулі ўвагу на тое, як сімвал Бандэры набыў новыя значэнні ў ходзе майданаўскіх пратэстаў і прынамсі часткова адышоў ад выключна этнанацыяналістычнага разумення бандэраўскай спадчыны[60]. Зрэшты, як сцвярджае

[57] Kasianov G. How History Goes Wrong: Historical Politics and its Outcomes // Cultural Anthropology. 28.10.2014. https://culanth.org/fieldsights/611-how-history-goes-wrong-historical-poli-tics-and-its-outcomes (стан на 24.07.2016).

[58] Zhurzhenko T. A Divided Nation? Reconsidering the Role of Identity Politics in the Ukraine Crisis // Die Freidenswarte. 2014. № 1–2 (8). P. 249–267.

[59] Portnov A. Bandera Mythologies and Their Traps for Ukraine (спас. 33).

[60] Гл.: Kulyk V. Ukrainian Nationalism since the Outbreak of Euromaidan // Ab Imperio. 2014. № 4. P. 94–122; Yekelchyk S. The Conflict in Ukraine. What Everyone Needs to Know. New York – Oxford, 2015.

Партноў, у канчатковым выніку “многія апынуліся ў пастцы ўсё тых жа прапагандысцкіх схем, ад якіх яны хацелі вызваліцца”[61].

Адна з самых неадназначных нядаўніх з’яў ва ўкраінскай палітыцы войнаў памяці – гэта адноўлены з новай сілай працэс “дэкамунізацыі”, якая працягваецца і дагэтуль. Гэты працэс неабходна разглядаць у кантэксце цяперашняй вайны з Расіяй і падтрымліванымі ёю сепаратыстамі. Нядзіва, што гэтая вайна выставіла на першы план наратыў, засяроджаны вакол нацыянальна-вызваленчай барацьбы, які цяпер актыўна прасоўваецца Інстытутам нацыянальнай памяці на чале з гісторыкам Уладзімірам Вятровічам, вядомым сваёй супярэчлівай рэпутацыяй. Вятровіч, схільны да прымяншэння маштабаў злачынстваў, здзейсненых украінскімі нацыяналістамі супраць яўрэяў і палякаў у час Другой сусветнай вайны, ужо даўно зрабіўся аб’ектам крытыкі як унутры краіны, так і за яе межамі[62]. У 2014 г. вышэйзгаданы інстытут распрацаваў чатыры законы, закліканыя ўкараніць новыя прынцыпы рэгулявання палітыкі памяці ва Украіне. 9 красавіка 2015 г. гэтыя законы былі ўхвалены Вярхоўнай Радай, а 15 траўня – падпісаны прэзідэнтам Парашэнкам, нягледзячы на міжнародную і ўнутраную крытыку і просьбы прывесці іх у адпаведнасць з еўрапейскім заканадаўствам аб правах чалавека[63].

Большая частка гэтай крытыкі адрасавалася двум з чатырох “дэкамунізацыйных” законаў. Першы з іх закліканы “скарэктаваць” грамадскае стаўленне да супярэчлівых УПА і АУН. Гэты закон адкрыта фармулюе афіцыйны канон “нацыянальных герояў”, што абмяжоўвае магчымасць

[61] Гл.: Portnov A. Bandera Mythologies and Their Traps for Ukraine.

[62] Гл.: Миллер А. Политика памяти в посткоммунистической Европе и ее воздействие на европейскую культуру памяти // Gefter.ru. 29.04.2016. http://gefter.ru/archive/18391 (стан на 24.07.2016).

[63] Marples D. R. Open Letter from Scholars and Experts on Ukraine Re. the So-Called “Anti-Communist Law” // Krytyka.com. 2015, April. https://krytyka.com/en/articles/open-letter-scholars-and-experts-ukraine-re-so-called-anti-communist-law (стан на 24.07.2016).

публічных дэбатаў і ўскладняе навуковыя даследаванні гэтых пытанняў. Другі закон афіцыйна асуджае савецкі рэжым нароўні з нацысцкім, якія абодва прызнаюцца таталітарнымі, і крыміналізуе публічнае выкарыстанне камуністычнай і савецкай сімволікі. Абодва законы шырока крытыкаваліся за абмежаванне свабоды слова і спробу навязаць вузкі погляд на савецкі перыяд у гісторыі Украіны як акупацыю.

Два іншыя законы прыцягнулі менш увагі, хоць яны таксама пацягнулі за сабой важныя зрухі ва ўкраінскай палітыцы памяці. Па-першае, быў адкрыты вольны доступ да ўсіх архіваў былога КДБ. Па-другое, унесена істотная змена ў афіцыйны каляндар святочных і памятных датаў ва Украіне: 8 траўня абвешчана Днём памяці і прымірэння. Гэты дзень цяпер суіснуе з даўнейшым дзяржаўным святам – Днём Перамогі, які па-ранейшаму адзначаецца 9 траўня. Такім чынам, закон часткова парваў з савецкай (постсавецкай) традыцыяй святкавання 9 Траўня і з ранейшым наратывам пра Вялікую Айчынную вайну. Украіна дыстанцыявалася ад расійскіх сімвалаў Вялікай Айчыннай вайны (напрыклад, георгіеўскай стужкі), якая да 2014 г. выкарыстоўвалася ў постсавецкіх краінах хутчэй як нейтральны сімвал, але пасля “Рускай вясны” зрабілася сімвалам прарасійскага сепаратызму. Замест гэтага па ініцыятыве Інстытута нацыянальнай памяці быў распрацаваны новы нацыянальны сімвал – выява кветкі чырвонага маку ў спалучэнні з лозунгам “Больш ніколі” (“Ніколи знову”), які выразна апелюе да еўрапейскай традыцыі памяці пра вайну і яе цяперашняга постгераічнага імкнення засяродзіцца на жалобе па ахвярах вайны. Але ў афіцыйнай палітычнай рыторыцы і сімвалічнай палітыцы ўкраінскіх улад Вялікая Айчынная вайна ўсё яшчэ адыгрывае пэўную ролю. Так, прэзідэнт Парашэнка часта апелюе да гэтай вайны, праводзячы паралелі з расійскай агрэсіяй на ўсходзе, а сацыяльная рэклама службы ва ўкраінскай арміі робіць акцэнт на непарыўнасці сувязі з пакаленнем савецкіх ветэранаў. Можна канстатаваць, што новыя ахвяры, героі і пакутнікі вайны на Данбасе выцясняюць

памяць пра Другую сусветную вайну, хоць яе палітызаваныя сімвалы, накшталт георгіеўскай стужкі, па-ранейшаму палярызуюць грамадства, а сутыкненні паміж прарасійскай апазіцыяй і ўкраінскімі нацыяналістычнымі радыкаламі сталі тыповымі для публічных урачыстасцяў на Дзень Перамогі.

У так званых Данецкай Народнай Рэспубліцы (ДНР) і Луганскай Народнай Рэспубліцы (ЛНР) рэалізуюцца альтэрнатыўныя нацыятворчыя праекты, са сваімі калектыўнымі міфалогіямі, героямі і пакутнікамі, і нават з новай нацыянальнай місіяй пад сцягам “антыфашызму”. Міф пра Вялікую Айчынную вайну служыць тут клеем, што змацоўвае такія разнародныя з’явы, як рускае казацтва, ушанаванне шахцёраў-перадавікоў і педаляванне праваслаўных каштоўнасцяў. У рыторыцы самаабвешчаных лідараў ДНР і ЛНР выжыванне “маладых рэспублік” абвяшчаецца “перамогай” – накшталт Вялікай Перамогі 1945 г.

## Беларусь

Беларусь нагадвае Украіну ў тым, што датычыць палярызацыі памяці паміж пра- і антысавецкай мадэлямі, але ў той жа час значна адрозніваецца ад яе з прычыны таго, што антысавецкая ваенная міфалогія займае тут маргінальнае становішча і наўрад ці набудзе значную вагу ў агляднай будучыні. Лукашэнкаўскі рэжым, якому споўнілася ўжо больш за дваццаць гадоў, з самага пачатку грунтаваў сваю палітычную легітымнасць на эксплуатацыі савецкіх міфаў пра “братэрства” з Расіяй і калектыўны гераізм у часы Другой сусветнай вайны. На заранку савецкай улады нацыянальная свядомасць беларусаў была адносна слабой, і таму за семдзесят гадоў камуністычнага рэжыму прамаскоўскім уладам не вельмі часта даводзілася ісці на саступкі беларускім нацыянальным памкненням. З увагі на гэта цэнтральны пасляваенны міф пра “рэспубліку-партызанку” адыграў немалую ролю ў культываванні савецкай лаяльнасці, і ў сакавіку 1991 г. 82,7% беларусаў выказаліся за

захаванне СССР[64]. Улетку 1994 г. Лукашэнка, які дагэтуль быў малавядомай фігурай у беларускай палітыцы, скарыстаў агульную грамадскую незадаволенасць, эканамічную няпэўнасць і настальгію па СССР, каб дамагчыся перамогі на выбарах і стаць першым (і дагэтуль адзіным) прэзідэнтам.

Палітыка памяці так званай "апошняй дыктатуры Еўропы" была пазначана адначасовым звужэннем і пашырэннем культу Перамогі: семантычны аб'ём наратыву звузіўся, але сімвалічны мемарыяльны арсенал пры гэтым узмацніўся. Калі савецкі міф пра "рэспубліку-партызанку" падкрэсліваў уклад беларускага народа ў агульнасавецкі подзвіг, дык версія, прапагандаваная лукашэнкаўскім рэжымам, ледзь прыкметна, але ўсё ж недвухсэнсоўна "нацыяналізавала" гэты міф: беларускі народ цяпер рэпрэзентаваўся як асноўны ўдзельнік і бенефіцыяр гераічнай барацьбы ваенных часоў[65]. "Кветку Перамогі" можна разглядаць як апошняе ўвасабленне гэтай ізаляцыяніcцкай мемарыялізацыі. У той час як украінскія ўлады ў 2015 г. увялі ва ўжытак выяву кветкі мака – сімвал з яўна заходнімі каранямі, тым самым намагаючыся перабудаваць краіну з еўразійскай на еўрапейскую цывілізацыйную мадэль, Беларусь выбрала выяву яблыневай квецені, аздобленую колерамі нацыянальнага сцяга (чырвоным і зялёным). Лукашэнкаўскі рэжым палічыў за лепшае стварыць новы, семантычна пусты сімвал, каб адначасова і працістаяць расійскай мемарыяльнай гегемоніі, азнаменаванай паўсюдным выкарыстаннем георгіеўскай стужкі, і дыстанцыявацца ад заходнееўрапейскага ахвярацэнтрычнага наратыву. Такім чынам, беларускі выпадак уяўляе

[64] Marples D. R. History and Politics in Post-Soviet Belarus. The Foundations // Contemporary Belarus: Between Democracy and Dictatorship / Ed. E. A. Korosteleva, C. W. Lawson, R. J. Marsh. London–New York, 2003. P. 21.

[65] Rudling P. A. "For a Heroic Belarus!": The Great Patriotic War as Identity Marker in the Lukashenka and Soviet Belarusian Discourses // Sprawy Narodowościowe. 2008. № 32. S. 43–62; Marples D. R. "Our Glorious Past": Lukashenka's Belarus and the Great Patriotic War. Stuttgart, 2014.

сабой цікавую мазаіку перапрацаваных савецкіх тропаў, якія адначасова гавораць на карысць еўразійскай цывілізацыйнай ідэнтычнасці, адмаўляючы заходнія ахвярацэнтрычныя наратывы і заяўляючы пра пераемнасць з агульнасавецкай Перамогай, – і вылучаюць асобную, нерасійскую прастору нацыянальнай памяці.

Дзеля прасоўвання такой версіі гістарычна-мемарыяльнага “Sonderweg” (асаблівага шляху) беларуская дзяржава не пашкадавала вялікіх грошай на рэканструкцыю помнікаў савецкай эпохі, накшталт мемарыяльнага комплексу “Хатынь” (адкрыты ў 1969 г., рэканструяваны ў 2006 г.)[66], а таксама дапоўніла іх новымі мемарыяламі, накшталт музея “Лінія Сталіна” (адкрыты ў 2005 г.)[67]. У ліпені 2014 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё абноўленага музея Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску: гэтая буйная ўстанова савецкіх часоў пераехала цяпер у новы, спецыяльна ўзведзены будынак, што дазволіла значна перабудаваць і пашырыць выставачныя плошчы, абсталяваць інтэрактыўныя экспазіцыі і яшчэ больш падкрэсліць сацыяльна-палітычнае значэнне колішняй Перамогі для сучаснасці. На цырымоніі адкрыцця прысутнічаў не толькі Лукашэнка, але і Пуцін, што сведчыць пра транснацыянальнае палітычнае значэнне музея. Гэты нятанны і шырока разрэкламаваны культурны аб’ект дазваляе наведвальнікам уявіць сябе ў гушчы рэканструяваных ваенных дзеянняў, паяднойваючы “кананічны” наратыў пра перамогу беларускіх і савецкіх грамадзян з прыемным 3D-эфектам[68]. Будучы

[66] Падрабязней гл.: Rudling P. A. The Khatyn Massacre in Belorussia: A Historical Controversy Revisited // Holocaust and Genocide Studies. 2012. № 26. P. 29–58; Lewis S. Khatyn and its Discontents: Hegemonic Martyrdom and de-Sovietization in Belarus // Journal of Soviet and Post-Soviet Politics and Society. 2015. № 1 (2). P. 367–401.

[67] Падрабязней гл.: Marples D. R. History, Memory, and the Second World War in Belarus // Australian Journal of Politics & History. 2012. № 58. P. 437–448.

[68] Гл.: Братачкін А. “Подзьвігу народа жыць у вяках”: новы Музэй Вялікай Айчыннай вайны як форма адчужэньня ад гісторыі // pARTisan. 2015. № 27. С. 29–35; Ластовский А., Михеева Л.,

музеем, які актуалізуе (афіцыйную) памяць пра вайну для пакаленняў, што не мелі жывога кантакту з гэтай гісторыяй, ён не пакідае ніякіх сумненняў наконт таго, што Вялікая Айчынная вайна працягвае заставацца ў цэнтры ідэнтычнаснага праекта беларускіх улад.

Але ў той жа час лукашэнкаўскі рэжым паступова дыверсіфікаваў свой падыход да ваеннай памяці. Міф пра рэспубліку-партызанку ўсё яшчэ захоўвае першаснае значэнне, але ён ужо не маналітны. Як паказваюць у сваіх раздзелах Акерман і Рудлінг, складаныя формы ўзаемадзеяння паміж дзяржавай і актывісцкім колам ужо прывялі да ўключэння ў афіцыйны наратыў раней замоўчваных сюжэтаў – ад савецкай вайны ў Афганістане да бітвы пад Оршай 1514 г. паміж войскамі Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы. Халакост і яўрэйская спадчына таксама ўключаны ў пералік агульнапрынятых сімвалаў афіцыйнай мемарыялізацыі, пра што сведчыць удзел Лукашэнкі ў цырымоніі закладкі памятнай капсулы на месцы стварэння мемарыяльнага комплексу “Трасцянец”. У Трасцянцы ў гады вайны існаваў нацысцкі лагер смерці, дзе было загублена больш за 200 тысяч чалавек, найперш яўрэяў[69]. Лішне казаць, што ўсё большая колькасць мемарыялаў зусім не сведчыць пра змяненне падыходаў да памяці пра вайну: характар гэтых помнікаў застаецца амаль выключна трыумфальным і акцэнтуе найперш гераізм і пакутніцтва, а не ахвярнасць і жалобу.

Гэтая шматстайная інструменталізацыя памяці і агульная папулярнасць міфа Перамогі ўскладняе для апазіцыі аспрэчванне манапольных прэтэнзій дзяржавы на вайну. Калі ва Украіне антысавецкая (а таксама антыпольская і

Браточкин А. Критический взгляд на новый музей Великой Отечественной войны в Минске // Новая Еўропа. 25.08.2014. http://n-europe.eu/article/2014/08/25/kriticheskii_vzglyad_na_novyi_muzei_velikoi_otechestvennoi_voiny_v_minske (стан на 24.08.2016).

69 Waligórska M. Jewish Heritage and the New Belarusian National Identity Project // East European Politics and Societies and Cultures. 2016. № 30. P. 332–359.

антысеміцкая) дзейнасць паплечнікаў Бандэры і Шухевіча з гатоўнасцю прапагандуецца ў якасці контрнаратыву савецкай версіі ваеннай перамогі, дык у Беларусі нацыянальна-калабарацыяніцкі рух часоў вайны з цяжкасцю паддаецца такому праслаўленню: ён быў адносна слабы і цалкам дыскрэдытаваны ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Былі спробы "падняць на шчыт" такіх гістарычных дзеячоў, як Усевалад Родзька – патэнцыйны беларускі "адпаведнік" Бандэры, але пакуль што яны не мелі вялікага поспеху. Замест гэтага найбольш прыкметныя спробы аддзяліць беларускую ідэнтычнасць ад савецкага метанаратыву звязаны, як правіла, з выкрыццём злачынстваў сталінізму, якія разглядаюцца асобна ад ваенных падзей. Самы вядомы і палітычна "гарачы" пункт антысавецкай памяці – урочышча Курапаты, месца масавага пахавання ахвяр НКУС у час тэрору канца 1930-х гадоў[70]. Тым не менш, працэс дэканструкцыі міфа пра рэспубліку-партызанку разгортваецца ў літаратуры і культуры і працягваецца па сённяшні дзень.

Улічваючы адносную самаізаляцыю Беларусі ад усходнееўрапейскіх войнаў памяці і яе хісткі нейтралітэт у дагэтуль не завершаным канфлікце паміж Расіяй і Украінай, няма нічога дзіўнага ў тым, што ўкраінская рэвалюцыя ў галіне нацыянальнай памяці, якая адбылася пасля пачатку вайны на ўсходзе краіны, мела зусім слабы водгук у Беларусі. У Крамля не ўзнікла патрэбы ляпіць на частку беларусаў ярлык "фашыстаў", а афіцыйнаму Мінску не давялося пераносіць святкаванне Дня Перамогі на іншы дзень, каб укалоць Маскву. Замест гэтага Беларусь без лішняга шуму дыстанцыюецца ад расійскай мемарыяльнай мадэлі, прыкладам чаго служыць хоць бы рашэнне Лукашэнкі не браць удзелу ў святкаваннях у Маскве 9 траўня 2015 г. На фоне падзей ва Украіне падобны Лукашэнкаў дэмарш, як і ўвядзенне ва ўжытак "Кветкі

[70] Marples D. R. Kurapaty: The Investigation of a Stalinist Historical Controversy // Slavic Review. 1994. № 53. P. 513–523; Etkind A., Finnin R., Blacker U., Fedor J., Lewis S., Mälksoo M., and Mroz M. Remembering Katyn. Cambridge, 2012.

Перамогі", выглядаюць нязначнымі крокамі, якія сведчаць хутчэй пра некаторую боязь расійскіх уплываў, але наўрад ці пра жаданне распачаць зацятую барацьбу з ім. Палітычныя змены ў рэгіёне яшчэ могуць аказаць глыбокі ўплыў на беларускую памяць пра вайну, але пакуль што тутэйшая эвалюцыя ў гэтай сферы ў асноўным захоўвае чыста ўнутраны характар.

## На заканчэнне: ад камунікацыйнай да культурнай памяці

Мы пачалі з расповеду пра тое, як ва Усходняй Украіне вярнулі да жыцця танк часоў Другой сусветнай вайны. На заканчэнне давайце зноў ненадоўга вернемся да гэтага танка-помніка – да мозгу касцей тыповага савецкага мемарыяла, які выдатна ілюструе ўсюдыіснасць гэтай спецыфічнай памяці пра вайну ў штодзённым жыцці.

Шматлікія танкі-помнікі былі адным з ключавых сімвалаў савецкай міфалогіі, што склалася вакол Перамогі. Савецкія танкі, звезеныя непасрэдна з месцаў баёў, а потым узнесеныя на п'едэсталы, былі аднымі з першых імправізаваных ваенных помнікаў, што ўзніклі ва Усходняй Еўропе. У першыя пасляваенныя гады адзін такі танк нават стаяў у цэнтры Вены як частка савецкага ваеннага мемарыяла на Шварцэнбергплац. Танкі-помнікі мелі багатае сімвалічнае значэнне. Яны служылі наглядным напамінам не толькі пра ахвярнасць, але і пра сілу; увасаблялі не толькі памяць пра загінулых, але і папярэджанне для нашчадкаў, што жылі на тэрыторыях, усеяных гэтымі танкамі. Звычайныя серыйныя танкі былі ідэальным сімвалам новай міфалогіі пра перамогу СССР у вайне. Імперыі, якая ў 1930-я гады тэрарызавала ўласных грамадзян, а потым панесла катастрафічныя страты ў Другой сусветнай вайне, быў патрэбен маналітны легітымізоўны наратыў, і яна стварыла яго праз укараненне міфа пра супольную гераічную Перамогу.

Пасля распаду сацыялістычнага блока гэтыя танкі-помнікі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы

напаткаў пераважна дэмантаж ці як мінімум дэсакралізацыя[71]. Але ў нашым рэгіёне гэтыя помнікі, як і міф пра Вялікую Айчынную вайну, у вялікай ступені захоўваюць сваю колішнюю сімвалічную сілу. Камуністычныя ўлады ў свой час уклалі так шмат ідэалагічных інвестыцый у стварэнне культу Вялікай Айчыннай вайны, што і сёння на постсавецкай прасторы многія не здольны ўявіць сабе вобраз мінулага без гэтага прывычнага міфа.

Хоць савецкая міфалогія, прысвечаная Перамозе, была заклікана зрабіць карціну мінулага з аднаго боку аднастайнай, а з другога – чорна-белай, прыгледзеўшыся пільней, мы ўбачым калейдаскапічную мазаіку, складзеную з фрагментаў гэтага міфа, трансфармаваных у тых ці іншых лакальных кантэкстах. Калі мы звернем увагу на эстонскі прыгранічны горад Нарва, то ўбачым, што маладыя пары наведваюць мясцовы савецкі танк-помнік, каб зрабіць вясельныя фатаграфіі, а дзеці ўпрыгожваюць танк кветкамі. Тут танк-помнік зрабіўся “нармальнай” часткай гарадскога кантэксту (як бы дзіўна гэта не выглядала для кагосьці) як сімвал міру.

Між тым, у ходзе новай вайны ва Украіне з’явіліся новыя танкі-помнікі. Каля Нацыянальнага музея Другой сусветнай вайны ў Кіеве танк Т-64БВ, у чэрвені 2014 г. захоплены ўкраінскімі войскамі на Данбасе і перафарбаваны ў колеры ўкраінскага сцяга, цяпер стаіць як матэрыяльнае сведчанне расійскай ваеннай прысутнасці ва Украіне.

І ўсё ж, калі б нам давялося выбіраць танк-помнік, які лепш за ўсё ілюструе сучасны момант, мы маглі б замест гэтага прапанаваць незвычайную скульптурную кампазіцыю, адкрытую ў 2010 г. у Белгарадскай вобласці перад новым Музеем баявой славы на месцы бітвы пад Прахараўкай. Гэтая кампазіцыя пад назвай “Таран” уяўляе сабой

[71] У Празе апошнім часам зрабілася традыцыяй размалёўваць мясцовы савецкі танк у ружовы колер і выкарыстоўваць як фон для разнастайных палітычных і мастацкіх акцый; у польскай Новай Гуце мясцовы танк пачаў успрымацца жыхарамі проста як неад’емны элемент гарадскога ландшафту. Гл.: Pozniak K. Nowa Huta: Generations of Change in a Model Socialist Town. Pittsburgh, 2014.

скульптурную выяву пяці танкаў – двух савецкіх Т-34 і трох нямецкіх “Тыграў”, выкананых у натуральную велічыню. Танкі нібыта застылі ў момант кульмінацыі самазабойчай атакі[72]. Адлюстроўваючы сцэну смяротнага подзвіга, помнік узнаўляе традыцыйны савецкі матыў гераічнага самаахвяравання. Але асабліва цікава ў гэтым новым мемарыяле тое, што ён увасабляе сабой цяперашні пераходны этап. У адрозненне ад звычайнага савецкага танка-помніка гэта не сапраўдны танк, а яго манументальная скульптура; не ваенны артэфакт, а метапомнік – чысты сімвал. У гэтым сэнсе ён сведчыць пра пераход ад камунікацыйнай да культурнай памяці – пра рэкадыфікацыю, рэміфалагізацыю Другой сусветнай вайны, якая адбываецца з прычыны таго, што ўдзельнікі гэтай вайны – ці то жывыя ветэраны, ці рэальныя танкі, што ўдзельнічалі ў сапраўдных баях, – сыходзяць. У той ці іншай ступені манумент пад Прахараўкай выступае алегорыяй гэтага пераходу – нашага руху ў няпэўную будучыню памяці без жывых сведкаў.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[72] Пяціметровы манумент збудаваны такім чынам, каб наведвальнік мог зайсці ўсярэдзіну і паглядзець на яшчэ адзін элемент кампазіцыі – чалавечую постаць, што ўвасабляе сабой “ашалелага нямецкага салдата”, узноўленага паводле вядомай фатаграфіі 1943 г., але “наўмысна састаранага, каб адпавядаць агульнай ідэі скульптурнай кампазіцыі”. Гл.: Музей боевой славы // Vidania.ru. 4.11.2015. http://www.vidania.ru/temple/temple_belgorodskaya/prohorovka_muzey_boevoy_slavy.html (стан на 14.11.2016); Губина С. “Таран” появился на Прохоровском поле // Bel.ru. 16.04.2010. http://www.bel.ru/news/region/45673.html (стан на 14.11.2016). У каментарыі наконт іншага помніка, узведзенага ў 2015 г. тамсама тымі ж скульптарамі (братамі Сагаянамі), адзін з іх так акрэсліў сваю мэту: “Перадаць, як у бітве людзі і тэхніка рабіліся адзіным цэлым і імкліва рухаліся да агульнай мэты”. Гл: Кнорре-Дмитриева К. Воевавшим под Прохоровкой // Новая газета. 16.05.2015. https://www.novayagazeta.ru/articles/2015/05/16/64146-voevavshim-pod-prohorovkoy (стан на 14.11.2016). Гэтая заўвага, магчыма, часткова тлумачыць надзвычай “жывы” характар савецкага танка. Дарэчы, у нядаўнім кінематаграфічным увасабленні бітвы пад Прахараўкай – фільме “Белы тыгр” Карэна Шахназарава (2012) – танкі таксама нагадваюць жывых істот.

# War and Memory in Russia, Ukraine and Belarus

**Julie Fedor, Simon Lewis and Tatiana Zhurzhenko**

This introductory essay, an adapted translation (from English) of an opening chapter of an edited volume, begins with a discussion of World War II memory in Russia, Ukraine, and Belarus, in light of the recent and ongoing war in Ukraine. It outlines the main contours of the interplay between "memory wars" and real war, and the important "post-Crimean" qualitative shift in local memory cultures in this connection. Next, the essay sketches out the specifics of the war memory landscapes of the region, and then of each of the three individual countries, before moving on to introduce the key organizing themes and findings of the book.

# Атлас Мінскай губерні 1800 г.: стварэнне і аўтары

## Яўген Анішчанка

Цэнтральна-беларускія землі, далучаныя да Расійскай імперыі па выніках другога падзелу Рэчы Паспалітай, паводле ўказа ад 3 траўня 1795 г. склалі Мінскае намесніцтва, а з 9 кастрычніка 1796 г. апошняе было арганізавана ў губерню. Намесніцтва спачатку складалася з 13 паветаў: Мінскага, Вілейскага, Пастаўскага, Докшыцкага, Дзісенскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Мазырскага, Давыд-Гарадоцкага, Пінскага, Нясвіжскага, Слуцкага. Такі падзел праіснаваў да 9 кастрычніка 1796 г., калі Давыд-Гарадоцкі, Нясвіжскі, Докшыцкі і Пастаўскі паветы былі выведзены па-за штат, а губерню склалі 10 паветаў: Мінскі, Ігуменскі, Пінскі, Рэчыцкі, Мазырскі, Вілейскі, Слуцкі, Барысаўскі, Бабруйскі, Ашмянскі[1]. Нованабыты абшар адразу стаў аб'ектам пільнай увагі царскіх улад, што рэалізоўвалася праз географа-статыстычнае апісанне тэрыторыі і яе картаграфаванне.

У мэтах падрыхтоўкі ўвядзення новай тэрытарыяльнай будовы царскім загадам ад 8 снежня 1792 г. галоўнакамандуючаму акупацыйнымі войскамі і быламу пскоўска-полацкаму губернатару Міхаілу Крачэтнікаву даручалася з дапамогай афіцэраў Генштаба скласці "верную карту с камеральным описанием" далучаных земляў[2]. Адпаведныя працы курыраваў генерал-маёр, камандзір рэзервовай брыгады Кіеўскага конеегерскага палка і першы мінскі губернатар Іван Мікалаевіч Няплюеў. Апошні ўсклаў выкананне праекта на былога

[1] НГАБ, ф. 333, воп. 1, спр. 778, арк. 156 (указ ад 29 сакавіка 1797 г.).

[2] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792–1796). Вильно. 1903. С. 5; АРДБЛ, ф. 218, к. 751, арк. 5.

чарнігаўскага губернскага землямера (потым мінскага, звольненага з пасады 11 траўня 1797 г.), тытулярнага саветніка Сямёна Цімафеевіча Прарокава[3]. Пад яго камандай першымі сталі працаваць чыны з Падольскай і Валынскай губерняў Кажэўнікаў, Мядзведзеў і Елісееў.

Аснову апісання тэрыторыі склалі інструментальныя здымкі, якія выконваліся ўздоўж вялікіх дарог паводле настаўлення барона, камандуючага інжынерамі Украінскай арміі, інжынер-генерал-маёра Густафа Фёдаравіча фон Кнорынга[4] (1743–?). Мясцовасць разбілі на 7 дыстанцый, унутры якіх здымкі праводзілі гарадніцкі землямер прапаршчык Дзьяканаў, берцынскі землямер Мікалай Троіцкі, чарнігаўскі землямер Міхаіл Сцепановіч, старадубаўскі землямер Мікалай Сакалоў, лахвіцкі землямер прапаршчык Якаў Хамянкоў, нежынскі землямер паручнік Іван Лявіцкі-Рогаль, копыскі землямер Сямён Грачыха. Кожны землямер складаў на свой участак прыватны план у маштабе 5 вёрстаў у англійскім дзюйме (1 : 210 000), якія потым зводзілі ў генеральную або агульную губернскую карту 10-верставога маштабу (1 : 420 000)[5]. У якасці даведачнага суправаджэння да карт далучалася тэкставае або камеральнае апісанне тэрыторыі ў выглядзе каталога населеных пунктаў, іх уладальнікаў, з шырокім наборам сацыяльна-эканамічных звестак – млыноў, корчмаў, вясковых двароў, кірмашоў і г. д.

У справаздачах выканаўцаў фігуруе 8743 тыс. паселішчаў, або 89% ад пазнейшага ўліку. Запланаваны маштаб з-за нераўнамернасці запаўнення і гушчыні аб'ектаў картаграфавання не задаволіў найперш саміх стваральнікаў. З 22 ліпеня 1793 г. участковыя планы сталі рабіць у 2,5 вярсты (1 : 105 000), а генеральную карту – у 5 вёрстаў[6]. Да таго ж заказчыкі не раз прыспешвалі выканаўцаў. Сцепановіч скардзіўся 16 кастрычніка 1793 г., што "ни одного дня не имеет роздуху" і працуе цэлымі начамі. Дзьяканаў карыстаўся вымяральным інструментам без магнітнага

[3] НГАБ, ф. 299, воп. 1, спр. 6, арк. 237.
[4] НГАБ, ф. 120, воп. 1, спр. 1, арк. 133.
[5] НГАБ, ф. 120, воп. 1, спр. 1, арк. 110.
[6] Тамсама, арк. 231.

дзеяння і таму назначаў мерыдыян “по вешкам”, умоўна арыентуючы выявы. Пракокаў наносіў нагрузку карт (т. зв. сітуацыю) “по разпросам” жыхароў[7]. Таму часта адно і тое ж паселішча атрымлівала markdown рознае найменне. Здымшчыкі рэгулярна спасылаліся на мноства цяжкапраходных месцаў, што прыводзіла да недаўліку, прымушала праводзіць здымкі пераважна ўздоўж сухадольных дарог проста з фурманак. Бескантрольнасць палявых дзеянняў адпавядала ваенна-аператыўным мэтам здымак. Інструментальныя здымкі цягнуліся да лістапада – снежня 1793 г.[8]. Населеныя пункты занатоўваліся ў асноўным па вусных дэкларацыях землеўладальнікаў або іх аканомаў пад прысягай. Адзін з узораў 5-верставой карты 1793 г. на Мінскі павет захоўваецца сёння ў Нацыянальным гістарычным архіве разам з чарнавікамі камеральнага апісання[9].

Там жа ёсць і планы бакоў або межаў з суседнімі губернямі. Прынамсі, у маштабе 5 вёрстаў С. Пракокавым складзена “Часть границы между Минской и Могилевской губерниями противу четвертой части”, на якой нанесена р. Друць ад Рагачова да Талачына з пазначэннем навакольных сёл, вёсак, корчмаў, фарпостаў, мытняў[10]. Гэты ж кавалак названы яшчэ “Уменьшительной бок границы между Минскою и Могилевскою губерниями и Могилевским и Игуменским уездами” ў маштабе 4 вярсты, без пазначэння аўтара[11]. План размежавання “Минской и Белорусской губерниев Бобруйского уезда” падпісаны рагачоўскім землямерам Валерыем Гіжыцкім[12]. Чарнавы план у маштабе 2 вярсты граніцы паміж Мінскай губерняй і Рэчыцкім паветам Беларускай губерні падпісаны мінскім землямерам Аўрамам Дзівавым, а белавік – слуцкім землямерам П. Маркевічам[13].

Выніковыя матэрыялы гэтай здымкі пазней выкарыстоўваліся Генштабам пры арганізацыі губерні і стварэнні

[7] Тамсама, арк. 108.
[8] Тамсама, арк. 234.
[9] Тамсама, ф. 1477, воп. 1, спр. 1187.
[10] Тамсама, ф. 1477, воп. 1, спр. 1155.
[11] Тамсама, спр. 1252.
[12] Тамсама, спр. 1243.
[13] Тамсама, спр. 1238 і 1239.

на яе Атласа, паводле царскага ўказа ад 29 сакавіка 1797 г. Так з'яўляецца новы комплекс крыніц. З часу стварэння мінскай губернскай чарцёжнай яе штат запоўнілі мінскі павятовы землямер Аўрам Дзіваў, пінскі Васіль Матчын, барысаўскі Пракоп Худышаў, бабруйскі Кірыл Карнавухаў, слуцкі Сяргей Кобелеў, мазырскі Аляксей Кучаргін, дзісенскі Сямён Бяспалаў, ігуменскі Якаў Васільеў, вілейскі Пётр Кулакоў, рэчыцкі Іван Кісялёў.

З 9 кастрычніка 1796 і да 9 студзеня 1797 г. імі праводзілася вымяжоўванне гарадскіх выганаў і іх картаграфаванне[14]. Па справаздачы 10 студзеня 1797 г. у Мінскай губернскай чарцёжнай было 13 гарадавых планаў у маштабе 50 сажняў (1 : 4200), а ў сакавіку 1798 г. – дадаткова на гарады Пінск, Мазыр, Рэчыцу, Бабруйск, Ігумен, Барысаў[15]. 8 жніўня 1797 г. у Экспедыцыю дамаводства быў адасланы план канала Агінскага (аўтар Худышаў) разам з выявамі сплаўных рэк для адміралцейства[16]. Практычна ўвесь 1797 год вяліся здымкі паштовых дарог 10-сажнёвымі вяроўкамі, але без паказу сітуацыі[17]. Плёнам згаданай працы стала стварэнне спецыяльных генеральных карт Мінскай губерні. У пачатку студзеня 1797 г. у чарцёжнай знаходзілася тры губернскія карты (5, 10 і 20 вёрстаў)[18]. Да 20 ліпеня Кісялёў, Бяспалаў і Матчын склалі 4 новыя генеральныя карты[19], а да 19 кастрычніка дадалі да іх яшчэ 2 паштовыя і 3 генеральныя. Усе названыя картаграфічныя выявы былі арыгінальнымі творамі. Перапіска землямераў не мае ніякіх указанняў на выкарыстанне імі папярэдніх графічных помнікаў польскіх каморнікаў.

[14] Тамсама, ф. 299, воп. 6, спр. 9, арк. 14. Паўторна рабіліся з 18.08.1797 г. (тамсама, спр. 2, арк. 181адв.).

[15] Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2, арк. 11, 70.

[16] Тамсама, ф. 299, воп. 6, спр. 3, арк. 21, 613. План у маштабе 5 вёрстаў цяпер знаходзіцца ў складзе "Гидрографической карты части Российской империи между водами Белаго, Балтийскаго, Чернаго и Каспийскаго морей. Составлена при департаменте водяных комуникаций 1801 года". РДГА, ф. 1399, воп. 1, спр. 4, арк. 1.

[17] Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2858, арк. 1–23, ф. 299, воп. 6, спр. 3, арк. 7, 11, 30.

[18] Тамсама, ф. 299, воп. 6, спр. 3, арк. 1адв.

[19] Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2858, арк. 24–26 адв.

Мноства спецыяльных карт і планаў, створаных па патрабаваннях розных спажыўцоў, спрабавала ўніфікаваць адміністрацыя Паўла І, які захапляўся прускім парадкам. Новы імператар стварыў асабістае Дэпо карт, куды ў мэтах цэнзуры і цэнтралізаванага кантролю за ўсімі картаграфічнымі праектамі ў хуткім часе запатрабавалі адпаведныя матэрыялы з месцаў.

23 студзеня 1797 г. імянным указам усім губернатарам даручалася скласці атласы губерняў паводле новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення ў згаданае Дэпо[20]. 21 лютага кіраўнік Мінскай, Валынскай і Падольскай губерняў, генерал ад інфантэрыі Аляксандр Бекляшоў спецыяльным ордэрам акрэсліў царскі загад. Ён патрабаваў, па-першае, "Губернскую карту с разделением по номерам селений каждого владения" з павятовымі алфавітнымі каталогамі двароў, паселішчаў, уладальнікаў "господской чиншевой шляхты, священнических, татарских, еврейских и обывателей порознь всякого состояния мужеского и женского пола", па-другое, паштовую карту губерні, па-трэцяе, гідраграфічную карту з апісаннем рэк і азёр (апошнюю для сапраўднага стацкага саветніка, дырэктара водных камунікацый Якава Яфімавіча Сіверса)[21].

У такім складзе апрацоўку атласа пачалі з 13 лістапада 1797 г. пад кіраўніцтвам ужо новага губернскага землямера, надворнага саветніка Льва Рыгоравіча Соіна[22]. Курыраваў праект сам губернатар Захар Рыгоравіч Карнееў. Пасля 16 жніўня 1797 г. з дапамогай павятовых маршалкаў па праграме з 16 пунктаў вялося складанне Тапаграфічнага апісання губерні, якое было завершана да канца 1797 г.[23]. Хутка працэс картаскладання перапынілі чарговай карэктывай.

Указам ад 28 студзеня 1798 г. цар запатрабаваў атлас у 2 экзэмплярах з адлюстраваннем межаў зямельных уладанняў з поўным і падрабязным апісаннем апошніх.

[20] Милов Л. В. Исследование об "экономических примечаниях" к генеральному межеванию. Москва, 1965. С. 98.

[21] НГАБ, ф. 120, воп. 1, спр. 2858, арк. 46, ф. 299, воп. 1, спр. 1, арк. 456.

[22] Тамсама, ф. 299, воп. 6, спр. 3, арк. 33.

[23] Тамсама, ф. 295, воп. 1, спр. 3, арк. 2.

Падрабязнасці праграмы выкладаліся ў спецыяльным "Начертании" з 9 пунктаў чарговага канцлера імперыі Аляксея Барысавіча Куракіна. Дасюль даследчыкі карысталіся няпоўным тэкстам прадмовы дадзенага плана[24]. Таму прывяду яе цалкам, у адпаведнасці з ордэрам З. Карнеева ад 15 красавіка 1798 г. Тлумачэнне мела тры ўмовы: першае, "чтоб описания были отделены от карт и переплетены в особых книгах в мере малого александрийского листа, другое, чтоб в самых картах больше было частных дач от общих уездных планов отвязанных и на поле или на другом месте изображенных, дабы тем они яснее и подробнее раскрывались, и третье, желательно бы было, чтоб к планам уездных городов приложены были планы знаменитых в них строений"[25]. Л. Соін рапартамі ад 20 лютага і 16 траўня 1798 г. указаў на адсутнасць у чарцёжнай планаў зямельных уладанняў з-за агульнай неразмежаванасці губерні, што вымушала пракладваць межы дач "антрельные" ці ўмоўныя, на вока[26]. У якасці адзінай спадручнай суцэльнай крыніцы ён называў губернскую карту здымак 1793 г.[27].

Адпаведны парадак апрацоўкі зыходных матэрыялаў вытрымліваўся паводле наказу З. Карнеева ад 18 траўня 1798 г. Пры гэтым усе працы пачыналі са складання планаў паветаў у 5-верставым маштабе, да якіх адначасова прыкладалі рэестр або алфавіты маёнткаў на падставе дадзеных казённай палаты. Пры мностве населеных пунктаў губернатар патрабаваў планы ў 2,5 вярсты. На алфавітах і павятовых планах паказвалі аднолькавыя нумары – для хуткасці і зручнасці карыстання. На падставе алфавітаў паводле спецыяльнай формы № 2 на кожнае зямельнае ўладанне складалі эканамічнае апісанне павета ў выглядзе статыстычнай табліцы, або т. зв. рэмарак. Апошнія рассылалі ў ніжнія земскія суды і да гараднічых з патрабаваннем, "чтобы они в тех же описаниях в назначенных

24 Милов Л. В. К истории создания Экономических примечаний конца XVIII – начала XIX в. // Проблемы источниковедения. Москва, 1962. Т. 10. С. 132–133; Ён жа. Исследование… С. 113.

25 НГАБ, ф. 299, воп. 6, спр. 4, арк. 44, 51.

26 Тамсама, арк. 55, ф. 120, воп. 1, спр. 2, арк. 418–419.

27 Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2, арк. 52адв.

графах проставили число домов, монастырей, церквей и других строений, фабрик, заводов, мельниц и описали б все то, что требуется по оглавлению последней графы". На назве апошняй дасланыя павятовыя апісанні і атрымалі надалей назву камеральных эканамічных заўваг.

Пасля адсылкі рэмарак землямеры рабілі белавыя варыянты генеральнай карты губерні, планаў паветаў і гарадоў з дэманстрацыяй сапраўднай і запраектаванай забудовы. Недастаўленыя звесткі запаўнялі з Тапаграфічнага апісання губерні. Дадзены парадак парушыўся тым, што земскія суды і павятовыя выпраўнікі да чэрвеня 1798 г. падалі ў чарцёжную супярэчлівыя звесткі, якія разыходзіліся з рэвізскімі звесткамі 1795 г. Землямеры ж не мелі часу на іх выпраўленне, бо ўсё лета займаліся тэрміновым межаваннем выганаў гарадоў, разбіўкай іх на кварталы[28]. Вядома, што ў чэрвені – ліпені 1798 г. К. Карнавухаў склаў план Нясвіжа і карту Дзісенскага павета ў 2,5 вярсты, С. Кобелеў – план Давыд-Гарадка і паштовую карту губерні ў 20 вёрст, С. Бяспалаў – планы заштатных гарадоў Давыд-Гарадка, Нясвіжа, Докшыц, Паставаў, Я. Васільеў – план Докшыц і Вілейскага павета, П. Кулакоў – план Рэчыцы і Бабруйска, А. Кучаргін – план Мазыра[29].

У канцы верасня 1798 г. землямеры раз'ехаліся па паветах для асабістага ўдакладнення алфавітаў з рэмаркамі з дапамогай земскіх судоў. П. Матчын паведамляў з Пінскага павета, што з-за адсутнасці членаў судоў ён складаў камеральнае апісанне па даведках аканомаў і з падатковых квітанцый аб выплаце падушнага падатку (апісанне ён здаў 18.11.1798 г.). С. Кобелеў з-за адсутнасці членаў суда сам аб'язджаў памешчыкаў і рассылаў салдат у Слуцкім павеце. П. Кулакоў складаў апісанне Вілейскага павета з дапамогай ключвойтаў[30]. У такім жа становішчы апынуліся А. Дзіваў у Ігуменскім павеце і К. Карнавухаў у Дзісенскім. У цэлым землямеры завяршылі палявую рэвізію зыходных матэрыялаў да канца лістапада 1798 г. Далейшая апрацоўка іх была перапынена люстрацыяй

[28] Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2, арк. 69–70, 90, 96.
[29] Тамсама, арк. 122адв., 199.
[30] Тамсама, арк. 208, 218, 226, 308.

дзяржаўнай вёскі паводле ўказа ад 10 красавіка, і, як сцвярджаюць справаздачы, праца над атласам цягнулася да 20 красавіка 1800 г.[31]. Магчыма, хутка пасля апошняй даты і быў адасланы разгляданы Атлас, паколькі экзэмпляр, які існуе ў зборы Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва, датаваны 1800 г. (гл. табл. 1). Яго 99 аркушаў пераплецены ў адзін том зялёнага колеру з цісненнем назвы і штампам Ваенна-Тапаграфічнага Дэпо. Усе 77 частак генеральных планаў паветаў разам займаюць плошчу 300 м$^2$.

Маруднасць заключнай працы можна растлумачыць шэрагам наступных абставін. 4 сакавіка 1799 г. генерал-пракурор Сената, князь Павел Лапухін папрасіў Л. Соіна падаць "точно такой же" Атлас Мінскай губерні разам з генеральнай картай і Тапаграфічным апісаннем "для выправок о местоположении городов и селений, количества и качества земли, лесов и угодий"[32]. 30 жніўня 1800 г. Л. Соін атрымаў указ кіраўніка Заходніх губерняў А. Г. Розенберга "переписать" яму атлас з тапаграфічным апісаннем для асабістага службовага карыстання. 3 верасня 1800 г. губернскае праўленне распарадзілася, каб Л. Соін пасля завяршэння Атласа ў Дэпо карт склаў яго другі варыянт шляхам "переписки со сведений предыдущего, вместе с топографическим описанием губернии"[33]. Яшчэ адну копію згаданага Атласа ў мінскай чарцёжнай пачалі рабіць для генерал-пракурора Сената Пятра Абальянінава паводле ўказа ад 5 сакавіка 1801 г.[34]. Відаць, таму Соін не спяшаўся адсылаць першы варыянт Атласа.

У фондзе РДВГА захавалася адна з копій гэтага Атласа пад назвай "Атлас 10-ти уездам Минской губернии"[35] ў выкананні зусім новага штата землямераў мінскай чарцёжнай (табл. 2). Кіраваў імі мінскі губернскі землямер Пётр Рыгоравіч Несцяроўскі (1768–?). Пра яго вядома, што

[31] Тамсама, ф. 299, воп. 6, спр. 9, арк. 18–20.
[32] Тамсама, ф. 120, воп. 1, спр. 2, арк. 404, ф. 295, воп. 1, спр. 6, арк. 67.
[33] Тамсама, ф. 299, воп. 1, спр. 128, арк. 28адв.–29.
[34] Тамсама, спр. 12, арк. 19.
[35] РДВГА, ф. ВПА, спр. 18838.

ён паходзіў з маларасійскіх дваран, у 1780 г. паступіў у Кіеўскую акадэмію, у 1787 г. у Пецярбургскую настаўніцкую гімназію, у 1791 г. стаў сяржантам пры Межавым дэпартаменце Сената, у 1797 г. – прапаршчыкам і землямерам Гжацкага павета Смаленскай губерні. Мінскім губернскім землямерам стаў 3 сакавіка 1802 г. і быў ім да 1829 г. У 1805 г. яму прысвоілі званне тытулярнага саветніка. Верагодна, гэты атлас трэба датаваць 1805 годам. Тое, што ён капійны, сведчаць запісы. Да прыкладу, капіяваны карты Мінскага, Вілейскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Пінскага паветаў. Усе карты арыентаваны ружай вятроў і маюць статыстычныя ўстаўкі адносна паштовых станцый, колькасці культавых устаноў па веравызнаннях, школ, млыноў, двароў (казённых, абывацельскіх, яўрэйскіх), жыхароў (купцоў, мяшчан, шляхты, татар, сялян па тыпах уладанняў), паселішчаў (сёлаў, мястэчак, фальваркаў, вёсак, аколіц).

У Інстытуце рукапісу Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага захоўваецца рукапісная “Карта Минской губернии, разделенной на 10-ть уездов”[36]. Яна падпісана згаданым П. Несцяроўскім і лічыцца выкананай у 10-верставым маштабе павятовым землямерам Антонам Глінскім.

Такім чынам, з 1797 г. да пачатку 1801 г. выконвалася 6 варыянтаў Атласа Мінскай губерні разам са статыстычнымі і географа-эканамічнымі дапаможнікамі – Тапаграфічным апісаннем губерні ў цэлым і павятовымі апісаннямі ў прыватнасці. Як відаць, розныя спажыўцы праяўлялі вострую патрэбу ў такога роду інфармацыі. Прыведзеныя звесткі дазваляюць сцвярджаць, што ў аснове ўсяго тыражу картаграфічнай прадукцыі ляжалі адны і тыя ж звесткі 1798 г., якія практычна нязменна вандравалі з копіі да копіі. Апошняя акалічнасць спрыяла пэўнаму розначытанню зыходных крыніц, рабіла першапачатковыя звесткі супярэчлівымі і несупастаўнымі ў поўным аб’ёме. Таму неабходна асцярожна і крытычна падыходзіць да карыстання наяўнымі экзэмплярамі Атласа Мінскай губерні.

[36] ІРНБУ, ф. 1, спр. 1667.

**Табліца 1.** Атлас Мінскай губерні 1800 г. Склад

| Павет | Назва выявы | Маштаб | Памер, см |
|---|---|---|---|
| Мінскі | Генеральны план ч. 1–11 | 1 вярста | 89,5 × 56,7 |
| | Карта павета | 4 вярсты | 88,5 × 55,5 |
| | План горада | 100 саж. | |
| Ігуменскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 5 вёрст | 89 × 55,5 |
| | Генеральны план ч. 1–6 | 2 вярсты | 89 × 55,5 |
| Бабруйскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 5 вёрст | 89 × 56 |
| | Генеральны план ч. 1–7 | 2 вярсты | 89 × 56 |
| Рэчыцкі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 6 вёрст | 89,5 × 56,5 |
| | Генеральны план ч. 1–7 | 2 вярсты | 89 × 55,5 |
| Мазырскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 6 вёрст | 89,5 × 56,5 |
| | Генеральны план ч. 1–9 | 2 вярсты | 89,5 × 56,5 |
| Пінскі | План горада | 100 саж. | |
| | Карта павета | 5 вёрст | 89 × 56,5 |
| | Генеральны план ч. 1–5 | 2 вярсты | 89 × 56,5 |
| Слуцкі | План горада | 100 саж. | |
| | Карта павета | 4 вярсты | 88 × 55,5 |
| | Генеральны план ч. 1–4 | | 89 × 56,5 |
| Вілейскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 4 вярсты | 89,8 × 56,4 |
| | Генеральны план ч. 1–11 | 1 вярста | 88 × 55,5 |
| Дзісенскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 4 вярсты | 88,5 × 56,3 |
| | Генеральны план ч. 1–11 | 1 вярста | 88 × 55,5 |
| Барысаўскі | План горада | 50 саж. | |
| | Карта павета | 6 вёрст | 89 × 56,5 |
| | Генеральны план ч. 1–6 | 2 вярсты | 88,5 × 56,4 |
| Крыніца: РДВГА, ф. ВПА, спр. 20854. | | | |

**Табліца 2.** Атлас Мінскай губерні (1815 ?). Склад

| Павет | Землямер | Маштаб | Памер, см |
|---|---|---|---|
| Мінскі | Падалінскі Павел | 4 вярсты | 73 × 51,5 |
| Ігуменскі | Шалькевіч Адам | 5 вёрстаў | 90 × 78,5 |
| Бабруйскі | Шалькевіч Адам | 5 вёрстаў | 72,5 × 65 |
| Рэчыцкі | мазырскі землямер Піора | 6 вёрстаў | 70,5 × 61 |
| Мазырскі | Піора | 6 вёрстаў | 70,5 × 64 |
| Пінскі | слуцкі землямер Абуховіч Вацлаў | 5 вёрстаў | 71 × 66,5 |
| Слуцкі | Абуховіч Вацлаў | 4 вярсты | 70,5 × 59 |
| Вілейскі | Малдаўскі Мацвей | 4 вярсты | 73 × 67,5 |
| Дзісенскі | Смірноў Васіль | 4 вярсты | 73 × 52 |
| Барысаўскі | вілейскі землямер Малдаўскі Мацвей | 6 вёрстаў | 72,5 × 52,5 |
| Уся губерня | Смірноў Васіль | 20 вёрстаў | 74 × 52 |
| Крыніца: РДВГА, ф. ВПА, спр. 18838. | | | |

# The Minsk Province's atlas of 1800: its preparation and authors

**Jaŭhien Aniščanka**

The article deals with the process of mapping by the Russian land surveyors of the central regions of Belarus after their inclusion into the Russian Empire. The author claims that in the end of 18th century six atlases of the Minsk province were created. However, they all contain many inaccuracies and lots of wrong information what should be taken into consideration by using this atlas.

# Удзел беларусаў у парламенцкіх выбарах у Латвіі (1922–1931)

## Юры Грыбоўскі

Адным з найбуйнейшых асяродкаў беларускага нацыянальнага жыцця ў міжваенны час была Латвійская рэспубліка. Латвійскія беларусы кампактна жылі ў паўднёва-ўсходняй Латгаліі і часткова Земгаліі. Яны былі пятай па колькасці групай сярод нацменаў (пасля рускіх, яўрэяў, немцаў і палякаў). Колькасць жыхароў Латвіі, якія дэкларавалі сябе беларусамі, змянілася ад 79 529 чал. (у 1920 г.) да 26 867 (у 1935 г.). Такая значная розніца ў лічбах не была вынікам міграцыйных ці натуральных працэсаў. Галоўная прычына хавалася ў саміх беларускамоўных жыхарах Латгаліі, нацыянальная самасвядомасць якіх тады яшчэ знаходзілася ў стадыі фармавання. Маючы праблемы з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй, адны і тыя ж людзі ў розны час і пад уплывам разнастайных сацыяльных і палітычных чыннікаў дэкларавалі розную нацыянальнасць. Несвядомая і маласвядомая ў нацыянальным сэнсе беларускамоўная латгальская вёска на пачатку XX ст. стала прадметам нацыянальна-культурнай экспансіі з боку мясцовых нацыянальных рухаў. За душы і сэрцы “тутэйшых” змагаліся рускія, польскія, латгальскія і беларускія дзеячы. Ліберальнае заканадаўства Латвійскай рэспублікі (да 1934 г.) спрыяла нацыянальна-культурнаму развіццю прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Дэмакратычная канстытуцыя давала нелатышам шырокія магчымасці нацыянальна-культурнай аўтаноміі, аналогію якой цяжка знайсці на карце тагачаснай Еўропы. Гэта выкарысталі таксама беларусы. Пачаткам арганізацыі беларускага нацыянальнага руху ў Латгаліі было стварэнне Культурна-асветнага таварыства “Бацькаўшчына”, якое

распачало працу ў Дзвінску ў красавіку 1921 г. Пазней узніклі іншыя беларускія арганізацыі (таварыствы “Беларуская Хата”, “Рунь”, “Прасвета”, Таварыства беларускай моладзі Латвіі, Беларускае пазычкова-ашчаднае таварыства; каапeратыў “Культура і праца” і інш.). Мэтай названых структур было гуртаванне вакол сябе беларускамоўнага жыхарства Латвіі, нацыянальна-культурная праца, накіраваная на фармаванне і ўмацаванне ў яго беларускай нацыянальнай ідэнтыфікацыі. У Латвіі існавала беларускае школьніцтва, якое ў перыяд свайго найвышэйшага ўздыму налічвала 2 гімназіі, 1 сельскагаспадарчую сярэднюю і 51 пачатковую школу. Менавіта школьніцтва стала асноўнай кузняй беларускасці, а настаўнікі – галоўным рухавіком мясцовай беларускай інтэлігенцыі. У 1920 і 1930-я г. Латвія была таксама месцам, дзе выдаваліся беларускія газеты і друкаваліся кнігі на беларускай мове. Сярод арганізатараў і актыўных дзеячоў беларускага жыцця ў Латвіі варта назваць Кастуся Езавітава, Сяргея Сахарава, Мікалая Дзямідава, Андрэя Якубецкага, Уладзіміра Пігулеўскага. Беларуская культурна-асветная і выдавецкая справа ў Латвіі ўжо была прадметам даследчыцкай увагі[1].

У нашай публікацыі засяродзімся на разглядзе палітычнай дзейнасці беларускай меншасці. Адной з асноўных формаў палітычнай актыўнасці латвійскіх беларусаў быў удзел у выбарах у дзяржаўны Сойм (*Saeima*). Перш чым

[1] Першую спробу сінтэтычнага аналізу сітуацыі беларусаў у Латвіі зрабіў К. Езавітаў у кнізе: Беларусы ў Латвіі. Рыга, 1927 [перадрук: Нью-Ёрк – Мінск, 2013]. Сярод сучасных даследаванняў трэба назваць: Apine I. Baltkrievi Latvijā. Riga, 1995; Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах // Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэр. III Міжнар. кангрэса беларусістаў. Мінск, 2001. С. 47–71; Казачёнок К. “Белорусский процесс” в Латвии: обвинение, оправдание, наказание // Латыши и беларусы: вместе сквозь века: сб. научн. статей / ред. М. Г. Королев. Минск, 2012. С. 29–42; Грыбоўскі Ю. Савецкая рэчаіснасць на бачынах беларускай газеты ў Латвіі “Голас Беларуса” (1925–1929) // “Światła masz tyle w sobie...”. Ze studiów wschodniosłowiańskich. Księga pamiątkowa dedykowana Prof. A. Barszczewskiemu w osiemdziesiątą piątą rocznicę urodzin / red. M. Kaczmarczyk, A. Nowacki, M. Sidor, B. Siwek. Lublin, 2015. S. 207–222.

перайсці да разгляду гэтага пытання, неабходна больш падрабязна пазнаёміцца з асноўнымі выбарчымі механізмамі міжваеннай Латвіі і тагачаснай латвійскай палітычнай сцэнай. Упершыню Сойм быў абраны ў 1922 г., а да таго часу ролю вышэйшай заканадаўчай улады выконваў Устаноўчы сход. Аднапалатны парламент абіраўся на тры гады ва ўсеагульных, непасрэдных, прапарцыйных і роўных выбарах. Выбарчае заканадаўства не было пазбаўлена пэўных заганаў. Так, характэрная рыса латвійскай выбарчай сістэмы ў міжваенны час – адсутнасць працэнтнага бар'еру ў дачыненні да партый, якія ўдзельнічалі ў выбарах. Гэта давала магчымасць трапіць у парламент нават нешматлікім і нядаўна створаным палітычным рухам. Наступствам было тое, што палітычны склад Сойма характарызаваўся наяўнасцю шматлікіх дробных партыйных фракцый, якія былі новымі і пазбаўленымі адпаведнага палітычнага досведу. Нярэдка дэпутаты пакідалі ўласныя партыі і пераходзілі да іншых ці засноўвалі новыя. У выніку чарговыя выбары прыносілі ўсё большую колькасць выбарчых спісаў. Павялічвалася колькасць партый, якія маглі правесці ў парламент толькі аднаго-двух сваіх дэпутатаў. Гэта ўскладняла стварэнне ўрада або прадвызначала яго кароткае існаванне, бо партыйныя кааліцыі былі кволымі і хутка распадаліся[2].

У 1920-я г. на латвійскай палітычнай сцэне дзеялі партыі, якія належалі да шырокага ідэалагічнага спектра, аднак найбольш уплывовых і вядучых было некалькі. На левым флангу знаходзілася Латвійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (ЛСДРП – *Latvijas sociāldemokrātisko strādnieku partija*). Сярод правых сіл найбольшай папулярнасцю карыстаўся Латвійскі сялянскі саюз (ЛСС – *Latviešu Zemnieku Savieniba*). Абедзве палітычныя сілы мелі назапашаны досвед палітычнай барацьбы, а ў іх шэрагах працавалі людзі, якіх трэба лічыць бацькамі латвійскай дзяржаўнасці. Нягледзячы на тое, што абедзве партыі цвёрда стаялі на грунце незалежнай і дэмакратычнай Латвіі, яны адрозніваліся па шэрагу ключавых пытанняў адносна

[2] Łossowski P. Kraje bałtyckie na drodze od demokracji parlamentarnej do dyktatury: 1918–1934. Wrocław, 1972. S. 53.

сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны. Сялянскі саюз надаваў прыярытэтнае значэнне развіццю сельскай гаспадаркі, тым часам як ЛСДРП бачыла патрэбу значных інвестыцый прамысловасці. Разыходжанні тычыліся таксама прыярытэтаў знешняй палітыкі.

Стаўленне палітычных партый да беларусаў было розным і залежала ад адносін той ці іншай партыі да ўсіх нацыянальных меншасцяў. Да супрацоўніцтва з нацменамі былі схільныя перадусім сацыял-дэмакраты, якія ў першыя гады незалежнасці складалі большасць у парламенце, дзякуючы чаму блакавалі розныя ініцыятывы, скіраваныя супраць нелатышоў. Вельмі прыхільна да беларусаў ставіўся сацыял-дэмакратычны дзяяч Яніс Райніс, які лічыў, што беларусы ў Латвіі павінны атрымаць культурную аўтаномію, якой яны пазбаўлены ў іншых краінах[3]. Больш насцярожанымі да нацменаў былі правыя сілы. Некаторыя палітыкі разглядалі шматнацыянальны склад Латгаліі як патэнцыйную пагрозу страты гэтай тэрыторыі і бачылі патрэбу ўніфікацыі грамадства на базе латышскіх нацыянальных каштоўнасцяў. Нізкі працэнт пісьменнасці і несфармаванае пачуццё нацыянальнай ідэнтычнасці беларускамоўных жыхароў Латгаліі давалі латвійскімі палітыкам вялікае поле інтэрпрэтацыі. У тагачаснай латвійскай прэсе словы *беларус* і *беларускі* нярэдка пісаліся ў двукоссі, і гэта можна лічыць доказам таго, што аўтары ставілі пад сумнеў самастойнасць беларускай нацыі. На думку некаторых палітыкаў, беларусы былі “псеўданародам”, які намагаецца атрымаць грашовую падтрымку ад дзяржавы на свае школы і адукацыю. Адмоўна да беларускага руху ў Латвіі ставіліся некаторыя латгальскія палітыкі, якія выступалі за захаванне культурнай, моўнай і гістарычнай асаблівасці Латгаліі, але іх праграмы не прадугледжвалі існавання беларусаў на мясцовым краявідзе. Непрыхільную пазіцыю да беларусаў займаў вядомы латгальскі палітык Францыс Кэмпс, які ў латгальскіх беларусах бачыў нашчадкаў зрусіфікаваных латгальцаў, а іх беларускасць лічыў штучнай

[3] Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах. С. 51.

з'явай. Ён разглядаў беларусаў як вынік чужога панавання, шкодны для латгальскай нацыянальнай свядомасці[4].

Прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў мелі магчымасць абароны ўласных правоў, у тым ліку пры дапамозе дэпутацкіх мандатаў. Пад час выбараў ва Устаноўчы сход (1920–1922) беларускі рух у Латвіі яшчэ не набыў арганізацыйных формаў, таму беларуская меншасць не мела ў гэтым органе свайго прадстаўніка. Па просьбе кіраўніцтва Таварыства "Бацькаўшчына" інтарэсы беларускай меншасці восенню 1921 г. згадзіўся прадстаўляць Я. Райніс. Менавіта дзякуючы падтрымцы гэтага палітыка беларусам у 1921 г. удалося стварыць сетку беларускіх пачатковых і сярэдніх школ, а ў складзе Міністэрства асветы быў арганізаваны Беларускі школьны аддзел. Тым не менш гэта не магло цалкам кампенсаваць адсутнасці ўласнага дэпутата ў вышэйшым заканадаўчым органе краіны. У хуткім часе беларусы атрымалі шанец пазмагацца за месца ў латвійскім Сойме. На 7 і 8 кастрычніка 1922 г. былі прызначаны выбары ў Сойм I скліканне (1922–1925). Мясцовы беларускі актыў не збіраўся стаяць убаку ад гэтай падзеі. Але перадвыбарчая кампанія патрабавала адпаведных грашовых сродкаў, недахоп якіх заўсёды адчуваўся ў асяроддзі латвійскіх беларусаў. Пераважную большасць беларусаў у Латвіі складалі беззямельныя і малазямельныя сяляне, якія не маглі падтрымаць сваю інтэлігенцыю. Правадыры латвійскіх беларусаў былі вымушаны шукаць грошы за мяжой. Яшчэ 9 жніўня 1921 г. К. Езавітаў прасіў у прэм'ера БНР грошай на перадвыбарчую кампанію, а таксама дазволу на выхад з беларускага грамадзянства, каб мець магчымасць балатавацца як латвійскі грамадзянін[5]. Невядома, аднак, ці ўрад на выгнанні падтрымаў латвійскіх беларусаў, бо сам знаходзіўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

[4] Голдманис М. "Белорусский" дискурс в латышской прессе (1920–1934): эволюция представления о белорусах как о самостоятельном национальном меншинстве // Латыши и беларусы: вместе сквозь века. Вып. 5. Минск, 2016. С. 69–72.

[5] Архіў Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. Вільня – Нью-Ёрк – Прага – Менск. Мінск, 1998. С. 1173.

У 1922 г. быў створаны Беларускі выбарчы камітэт (БВК) на чале з настаўнікам Міколам Івановым. Сярод пяці выбарчых акруг Латвіі беларусы выставілі ўласны спіс толькі ў адной – латгальскай. Беларускі спіс № 21 (*Baltkrievu sarakst*) складаўся з 14 кандыдатаў. Паводле сацыяльнага паходжання гэта былі: 10 сялян, 3 настаўнікі і фельчар[6]. З практычных меркаванняў БВК хацеў уключыць у свой спіс таксама духоўную асобу. Езавітаў звярнуўся да кс. Язэпа Гайлевіча, але духоўнік адмовіўся з прычыны адсутнасці латвійскага грамадзянства[7]. Выбарчая праграма мела наступныя патрабаванні: 1) перагляд аграрнай рэформы з наданнем права на абавязковы зямельны надзел без перасялення жыхароў Латгаліі ў Курляндыю і наадварот; наданне арандатарам права на атрыманне той зямлі, на якой яны працавалі; наданне права ўсім, хто перасяляецца на хутары, на атрыманне бясплатнага лесу на новыя будынкі; наданне ўсім гаспадарам, якія пацярпелі ад вайны, доўгатэрміновай дзяржаўнай пазыкі на поўнае адраджэнне гаспадаркі, 2) аддзяленне рэлігіі ад дзяржавы, 3) права выкарыстання роднай мовы ў школьніцтве і дзяржаўных установах паўсюль, дзе жывуць беларусы, 4) замена падушнага падатку падаходным, 5) рэформа школьнай праграмы з мэтай прыстасавання асветы да патрэб насельніцтва з увядзеннем у вясковыя школы прадметаў па рамесніцтве, каб кожны вучань атрымліваў прафесійныя веды і ва ўмовах недахопу зямлі не мусіў эміграваць “у Амерыкі і Бразілію”, а мог зарабляць на хлеб на радзіме[8]. Аўтары звярталі ўвагу на сацыяльны характар беларускага спіса, падкрэсліваючы, што ён складаецца “толькі з прадстаўнікоў працоўнай інтэлігенцыі, сялянства і гарадскіх рабочых”[9]. Акцэнтаванне ўвагі на сацыяльна-эканамічных патрэбах было

[6] Склад спіса быў наступны: К. Езавітаў, С. Сахараў, Яўстафі Хруцкі, Дамінік Мяжэцкі, Рыгор Чаркоўскі, Віталь Платач, Мікола Стэймакоў, Міхал Сотчанка, Іван Паўловіч, Павел Блажэвіч, Уладзімір Ціханенка, Клімент Харчэнкаў, Павел Крупенкаў, Фрол Мітрошчанка. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 2.

[7] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 44.

[8] Biełarusy u Łatwii // Kryniсa. 1922. № 4. S. 7.

[9] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 33.

невыпадковым. Беларускія сяляне не выяўлялі вялікай цікавасці да палітыкі, а змагаліся з паўсядзённымі цяжкасцямі, якія былі наступствам матэрыяльнай галечы. Праведзеная ў першыя гады незалежнасці Латвіі аграрная рэформа не вырашыла ўсіх праблем, звязаных з недахопам зямлі. У сярэднім надзелы, якімі распараджаліся сяляне-латышы, былі большымі (14 га) за тыя, якія атрымалі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, паколькі рэформа ставіла перад сабой не толькі сацыяльна-эканамічныя, але і палітычныя мэты. Ліквідуючы буйныя зямельныя ўладанні, рэформа брала пад увагу ў першую чаргу інтарэсы латышоў. Даследаванні даводзяць, што сярэдні памер надзелу беларускага селяніна складаў 10,36 га, што было значна менш за сярэднестатыстычны (19,39 га)[10]. З праграмы спіса № 21 бачым: яе адрасатам было перадусім сялянства, а інтарэсы гараджан практычна не ўлічваліся, што тлумачылася нязначным працэнтам беларусаў сярод гэтай сацыяльнай катэгорыі. Так, у адной з адозваў БВК адзначалася, што спіс № 21 складаецца не “з гарадскіх панкоў, а прэдстаунікоу беларускага селянства з воласьцеу”[11].

Беларускі выбарчы камітэт выдаў асобную адозву да настаўнікаў, у якой падкрэслівалася прысутнасць педагогаў сярод кандыдатаў спіса № 21[12]. Агітацыя на месцах праводзілася праз сетку рэгіянальных аддзелаў Таварыства “Бацькаўшчына” і беларускіх школ. 25 верасня 1922 г. БВК выслаў сябрам таварыства і настаўнікам рэкамендацыю: 1) накіраваць у выбарчыя камісіі сваіх прадстаўнікоў у якасці назіральнікаў, 2) правесці агітацыю сярод сялянства, 3) у дзень выбараў прасачыць, каб сяляне выканалі свой грамадзянскі абавязак[13]. Беларускі актыў разлічваў, што “пры дружным галасаванні” беларусы могуць правесці ў парламент двух кандыдатаў[14].

[10] Sworakowksi W. Polacy na Łotwie. Uwagi o ich liczbie i rozmieszczeniu, składzie wyznaniowym, podziale według płci i wieku, analfabetyzmie i strukturze społeczno-gospodarczej na podstawie łotewskiego spisu ludności 1930 r. Warszawa, 1934. S. 43.

[11] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 35.

[12] Тамсама, арк. 15.

[13] Тамсама, арк. 17.

[14] Тамсама, арк. 34.

Вядзенне перадвыбарчай агітацыі ўскладняла адсутнасць беларускай газеты ў Латвіі. Не маючы ўласнай прэсы, БВК звярнуўся да віленскіх беларускіх газет з просьбай надрукаваць інфармацыю пра выбарчую кампанію беларусаў, каб потым гэты матэрыял можна было распаўсюдзіць у Латгаліі[15]. Акрамя таго, перадвыбарчую агітацыю на рускай мове надрукавала руская газета "Маяк"[16].

Нягледзячы на высілкі БВК, выбары скончылася паразай беларусаў. За беларускі спіс прагаласавала 1548 чал. Гэтым самым вынік беларусаў быў адным з найгоршых у Латгаліі[17]. Ніводзін беларускі кандыдат не трапіў у Сойм. Прычыны гэтай паразы былі прадметам аналізу мясцовых беларускіх дзеячоў. Езавітаў лічыў, што галоўную віну нясуць самі беларусы. Ён сцвярджаў, што мясцовая беларуская інтэлігенцыя не ўсвядоміла важнасці выбараў і не прыклала намаганняў, каб належным чынам падрыхтаваць перадвыбарчую кампанію, якая абмежавалася выданнем згаданай улёткі і праграмы накладам 9 тыс. асобнікаў. Кандыдаты не зладзілі ніводнага мітынгу з выбаршчыкамі[18].

Галоўнымі канкурэнтамі беларусаў у Латгаліі былі кандыдаты – прадстаўнікі агульналатвійскіх, латгальскіх, польскіх і рускіх партый і выбарчых камітэтаў. Паказальны ў гэтым сэнсе прыклад дзейнасці Польскага выбарчага камітэта, за кандыдатаў якога ў Латгаліі прагаласавала 9541 чал. Тым самым палякі атрымалі 6-разовую перавагу над беларусамі. Паводле ж перапісу насельніцтва ў 1920 г. у трох латгальскіх паветах жыло 55 132 беларусаў і 27 220 палякаў. Вынікі выбараў былі па-рознаму інтэрпрэтаваны польскім і беларускім бокам. Паводле беларускіх актывістаў, мясцовыя сяляне з нізкім пачуццём нацыянальнай ідэнтыфікацыі з большым жаданнем галасавалі за польскіх кандыдатаў, якія абяцалі ім больш, чым беларускія. З гледзішча польскіх дзеячоў палітычная

[15] Тамсама, арк. 50.
[16] Тамсама, арк. 12, 13.
[17] Latvijas Republikas Saeimas vēlēšanas 1922 gadā, tekst un redakcija M. Skujenieka. Rīgā, 1923. S. 10.
[18] По поводу статьи "Белорусския похоронныя дроги" // Рижский курьер. 1923. № 632. С. 2.

дэкларацыя сведчыла пра прыналежнасць гэтага насельніцтва да польскай нацыянальнасці і пра тое, што латвійскія ўлады штучна запісвалі палякаў беларусамі. Няўдачы беларусаў у выбарчых кампаніях польскі бок разглядаў як доказ таго, што колькасць беларусаў у Латвіі значна завышана, а мясцовы беларускі рух – гэта “штучная з’ява”[19]. Польскі дзеяч Ян Вяжбіцкі, які трапіў у Сойм, лічыў, што выбары расставілі ўсе кропкі над “і” ды паказалі, што значную частку латвійскіх беларусаў складаюць “не сапраўдныя беларусы, а толькі запісаныя беларусамі ў пашпартах, якія аддалі свае галасы палякам і латгальцам”[20].

Бясспрэчна, што частка беларускамоўных латгальскіх каталікоў падтрымала польскіх кандыдатаў. Але трэба з вялікай асцярожнасцю ставіцца да сцверджання, што палітычная дэкларацыя пад час выбараў сведчыла пра нацыянальную самаідэнтыфікацыю. Па-першае, большасць “тутэйшых” прагаласавала не за польскі ці беларускі спіс, а за латвійскія партыі (агульнадзяржаўныя і мясцовыя латгальскія), якія ішлі на выбары не з нацыянальнымі, а сацыяльнымі і рэлігійнымі лозунгамі. Гэта, аднак, не значыла, што беларускамоўныя жыхары Латгаліі лічылі сябе латышамі ці латгальцамі. За агульналатвійскія і латгальскія партыі галасавала таксама шмат палякаў. Па-другое, польскія дзеячы мелі значна большыя магчымасці і сродкі на падрыхтоўку належнай перадвыбарчай кампаніі. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова параўнаць стан тагачасных польскага і беларускага выдавецкіх рынкаў. Па-трэцяе, шукаючы адказу на пытанне, чаму гміны, якія па нацыянальным складзе лічыліся беларускімі, галасавалі за польскіх кандыдатаў, варта памятаць, што шмат залежала ад арганізатарскіх здольнасцяў і актыўнасці выбарчых штабоў. За некалькі дзён да выбараў Польскі выбарчы камітэт выдаў улётку на рускай

[19] Gierowska-Kałłaur J. Stosunek państwa łotewskiego do miejscowych Polaków i Białorusinów w początkach niepodległości łotewskiej // Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej. 2011. T. 46. S. 214–215.

[20] Вержбицкий Я. Еще о латвийских белоруссах // Рижский курьер. 1923. № 642. С. 2.

мове, адрасаваную беларусам[21]. Гэты дакумент не толькі ўтрымліваў заклік галасаваць за польскі спіс, але і зневажаў беларускіх дзеячоў: “І так, браты беларусы, ідзем жа разам, слухайце сябе і нас, а не правадыроў са спіса № 21, якія дзякуючы вашым галасам хочуць займець сабе цёплыя месцы, стаць вашымі гаспадарамі, насадзіць вам праваслаўе і загнаць вашых дзяцей у руска-кацапскія школы”[22].

Тым не менш памылкова было б лічыць, што большасць беларускамоўных жыхароў Латгаліі аддала перавагу польскім кандыдатам. Сапраўдным пераможцам сталі агульналатвійскія і мясцовыя латгальскія палітыкі. У невялікіх мясцовасцях істотны ўплыў на выбарчы густ сялян мела агітацыя, якая ажыццяўлялася з амбона. У выніку частка беларускамоўных латгальскіх каталікоў галасавала за кандыдатаў, якія праходзілі па клерыкальным спісе (№ 9). Духоўнікі карысталіся падтрымкай перадусім вясковых выбаршчыкаў старэйшага пакалення. Найбольшую колькасць галасоў (47 202) у Латгаліі атрымалі Латгальскія хрысціянскія сяляне (ЛХС)[23]. Тым часам сярод моладзі назіраліся значныя ўплывы латвійскіх сацыял-дэмакратаў (спіс № 3), якія апынуліся на другім месцы па колькасці галасоў, атрыманых у Латгаліі (35 740)[24]. ЛСДРП атрымала 30% галасоў вясковага насельніцтва. Нягледзячы на тое, што сацыял-дэмакраты не дэманстравалі варожасці да беларускіх кандыдатаў, аднак іх выбарчая агітацыя, якая мела выразную сацыял-эканамічную афарбоўку, ускосна шкодзіла спісу № 21, бо была вельмі прывабнай для незаможнай латгальскай вёскі[25]. У параўнанні з выбарамі ва Устаноўчы сход абедзве сілы – хрысціянскія сяляне і сацыял-дэмакраты – атрымалі найлепшыя вынікі. Значную падтрымку займелі таксама мясцовыя Латгальская працоўная партыя (27 679 галасоў),

21 Albin J. Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940. Wrocław, 1993. S. 70.

22 Письмо в редакцию // Рижский курьер. 1923. № 654. С. 3; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 57.

23 Latvijas Republikas Saeimas vēlēšanas 1922 gadā, tekst un redakcija M. Skujenieka. Rīgā, 1923. S. 10.

24 Gierowska-Kałłaur J. Stosunek państwa łotewskiego… S. 214.

25 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 78, арк. 5.

Латгальская сялянская партыя (8 522) і Латгальскае народнае аб'яднанне (6 422)[26]. Усе вялі перадвыбарчую актыўную агітацыю сярод беларускамоўнай часткі Латгаліі.

Варта таксама адзначыць значную пасіўнасць латгальскага сялянства пад час выбараў. У выніку многія сяляне ўвогуле ўхіліліся ад удзелу ў галасаванні. Асабліва гэта тычылася невялікіх мясцовасцяў, якія знаходзіліся далёка ад выбарчых участкаў. Грамадзянская адукацыя і палітычная свядомасць значнай часткі тутэйшага сялянства былі на вельмі нізкім узроўні. Сярод беларусаў адзначаўся найбольшы працэнт непісьменных па краіне.

Пасля паразы на выбарах у Сойм I склікання беларускія дзеячы не адмовіліся ад наступных спробаў трапіць у латвійскі парламент. Наадварот, падзеі, звязаныя з беларускім працэсам (1924–1925), калі на лаве падсудных апынуўся амаль увесь кіраўнічы склад латвійскіх беларусаў, яскрава паказалі нацыянальным дзеячам, што толькі прысутнасць уласных прадстаўнікоў у органах дзяржаўнай і мясцовай улады забяспечыць інтарэсы беларускай меншасці. У № 1 першай беларускай газеты ў Латвіі "Голас Беларуса" (1925) К. Езавітаў заклікаў суайчыннікаў як мага хутчэй распачынаць палітычную працу: "І вось у 4-я ўгодкі нашае нацыянальна-адраджэнчае працы ў Латвіі мы павінны даць сабе ясную справаздачу ў тым, што мы далей не можам абмяжоўвацца выключна працаю культурна-прасьветнаю, што само жыцьцё і асабліва самыя ворагі нашыя прымушаюць нас выйсьці і на шлях працы нацыянальна-палітычнае, а за ёй і працы эканамічнае. Гэткім чынам рух наш у Латвіі перастае быць аднабокім"[27].

За словамі пайшлі дзеянні. У 1925 г. пачалася падрыхтоўка да выбараў у Сойм II склікання. 24 красавіка ў Рызе адбыўся сход групы беларусаў, на якім было прынята рашэнне пра стварэнне Таварыства беларусаў – выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, гарадскія, павятовыя і валасныя самаўрады ў

[26] Latvijas Republikas Saeimas vēlēšanas 1922 gadā, tekst un redakcija M. Skujenieka. Rīgā, 1923. S. 10; Итоги выборов в Сойм // Свободная Мысль. 1922. № 18. С. 2.

[27] Езавітаў К. 1921–1925 // Голас Беларуса. 1925. № 1. С. 1.

Латвіі (*Latvijas Saeimas, pilsetu, aprinku un pagastu pasvaldibu baltkrievu veletaju biedriba*). Мэты таварыства акрэсліваліся ў статуце наступным чынам: "З повconfigured тага, што беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі дае найбольшы працэнт няграматных сялян і рабочых выбаршчыкаў, якія дужа часта – па сваёй несьвядомасьці, неарганізаванасьці, няграматнасьці і адсутнасьці добра нарыхтаванае інфармацыі – ня толькі зусім па выпадковым пабуджэньням галасуюць за той ці іншы сьпісак, але нават і зусім адхіляюцца ад удзелу ў выбарах, – Таварыства ставіць сабе мэтай аб'яднанне беларусаў выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, у гарадскія, павятовыя і валасныя самаўрады, каб даць беларускай меншасьці магчымасьць папярэдняга абмену думак, абгаворваньня сваіх эканамічна-сацыяльных і нацыянальна-культурных патрэбаў, выстаўлення адпаведных беларускіх кандыдатур"[28]. Дзеля здзяйснення гэтай мэты арганізацыя мела намер ладзіць публічныя даклады, лекцыі, сходы і дыскусіі; склікаць кангрэсы, з'езды і нарады; выдаваць газеты, адозвы, праграмы, інструкцыі і іншую літаратуру; выстаўляць уласных кандыдатаў на парламенцкіх і мясцовых выбарах; дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у камісіі і камітэты па выбарах; арганізоўваць вечарыны, шэсці, культурныя мерапрыемствы, латарэі, курсы, бібліятэкі, спартовыя секцыі, хоры, драматычныя, музычныя і навуковыя гурткі[29].

Стварэнне арганізацыі знайшло разуменне ў правінцыі, што засведчылі заявы на ўступленне ў суполку ад жыхароў Дзвіншчыны[30]. У 1925 г. былі створаны філіялы ў 16 мясцовасцях. Арганізацыя пазіцыянавала сябе як сіла сацыял-дэмакратычнага напрамку. Праграма Таварыства шмат у чым дублявала праграмныя пастулаты латвійскіх сацыял-дэмакратаў, але ў ёй больш месца аддавалася нацыянальнаму пытанню. Згодна з праграмай, Таварыства падтрымлівала латвійскую дэмакратычную

[28] Статут Таварыства беларусаў – выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, гарадскія, павятовыя і валасныя самаўрады ў Латвіі // Крывіцкія руны. Вып. II: Беларускі культурны мацярык у Латвіі / рэд. М. Казлоўскі, С. Панізнік. Мінск, 2017. С. 356.

[29] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 83, арк. 11–12.

[30] Latvijas Valsts vēstures arhīvs (LVVA), f. 3235, apr. 6, l. 196.

дзяржаву, якая гарантавала правы і свабоды нацыянальным меншасцям. Падкрэсліваўся пастулат роўнасці беларускай меншасці з астатнімі нацыянальнымі групамі ў Латвіі. Акцэнтавалася ўвага на ўзаемнай павазе паміж беларусамі і латвійскай дзяржавай па прынцыпе: беларуская меншасць выконвае свае грамадзянскія абавязкі ў адносінах да дзяржавы, а дзяржава забяспечвае гэтай меншасці роўныя правы. У праграме знайшлі адлюстраванне пытанні, звязаныя з асветай, працай і зямлёй[31].

2 жніўня 1925 г. у Дзвінску адбыўся агульны з’езд Таварыства, у якім удзельнічалі 46 дэлегатаў ад 9 рэгіянальных аддзелаў. Абралі ўправу арганізацыі ў складзе: К. Езавітаў (старшыня), А. Булат, Янка Шчорс і Ніна Пінская (сябры), Рыгор Плыгаўка (скарбнік), кандыдатамі сталі М. Дзямідаў, Я. Тэтар і Л. Клагіш[32]. Аднак галоўнае рашэнне, прынятае дэлегатамі, тычылася ўдзелу ў парламенцкіх выбарах з асобным беларускім спісам пад назвай “Аб’яднаны сьпісак беззямельных, рабочых і малазямельных грамадзян беларусаў”. У выбарах у Сойм былі выстаўлены два беларускія спісы: № 30 у Латгаліі і № 19 у Земгаліі. У перадвыбарчай улётцы падкрэслівалася, што ў спіс трапілі толькі “працоўныя беларускія элементы і нацыянальна-сацыяльныя дзеячы”. На першых месцах знаходзіліся К. Езавітаў і С. Сахараў, трэцяе месца займалі: па Латгаліі – М. Байкоўскі, па Земгаліі – М. Савіцкі[33]. Планаваўся таксама беларускі спіс па Рызе (К. Езавітаў, С. Сахараў, А. Булат, М. Дзямідаў, Р. Плыгаўка, М. Байкоўскі, Д. Мяжэцкі), аднак ад яго было вырашана адмовіцца з-за невялікай колькасці беларусаў у сталіцы[34].

[31] Праграма Т-ва беларусаў – выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, павятовыя, гарадзкія і валасныя самаўрады ў Латвіі // Голас Беларуса. 1925. № 10. С. 2; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 83, арк. 18–18адв.

[32] LVVA, f. 3009, apr. 1, lpp. 31.

[33] У спісе № 30 былі прозвішчы 11 кандыдатаў: К. Езавітаў, С. Сахараў, Мікалай Байкоўскі, Міхал Клагіш, Эдвард Вайводзіш, Лявон Квест, Дамінік Мяжэцкі, Баляслаў Сітнік, Антон Ворсаў, Станіслаў Красневіч, Рыгор Плыгаўка. Спіс № 19 складаўся з 10 кандыдатаў: К. Езавітаў, М. Дзямідаў, С. Сахараў, Мікалай Савіцкі, Язэп Пятроўскі, Антон Ворсаў, Аўгуст Дварэцкі, Уладзімір Васілёнак, Дамінік Мяжэцкі, Міхал Байкоўскі.

[34] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 81, арк. 1.

Асноўныя лозунгі кампаніі гучалі так: 1) змаганне з беспрацоўем у гарадах (адбудова прамысловасці, развіццё замежнага гандлю, у тым ліку з СССР); 2) перагляд аграрнай рэформы, 3) скарачэнне выдаткаў на войска і ВМФ, 4) барацьба з бюракратыяй у дзяржаўных установах, 5) зніжэнне падаткаў і збораў, 6) забеспячэнне правоў на фабрыках і заводах пры дапамозе страхавой сістэмы і адпачынкаў, 7) забеспячэнне рабочым грамадзянскіх свабод, 8) затрыманне асіміляцыі нацыянальных меншасцяў і абарона школьніцтва з роднай мовай навучання[35]. Наогул жа беларускія кандыдаты ішлі на выбары, выкарыстоўваючы досыць радыкальную рыторыку левага ўхілу. Гэта яскрава засведчыла выдадзеная на патрэбы спісаў № 19 і № 30 брашура “Чего должны добиваться крестьяне и рабочие в Сейме?”. У дакуменце звярталася ўвага на гаротнае эканамічнае становішча (застой прамысловасці, рост беспрацоўя), хібы сацыяльнай палітыкі (несправядлівыя заробкі), празмерны бюракратызм улады, а таксама рэпрэсіі дзяржавы супраць іншадумцаў. Асобны параграф тычыўся ўціску нацыянальных меншасцяў (дыскрымінацыя ў дзяржаўных установах і банках, закрыццё школ, імкненне да латышызацыі). Прычына нядолі бачылася ў тым, што краінай кіруе буржуазія, якая не разумее патрэб працоўных[36].

У адрозненне ад кампаніі 1922 г. беларускія кандыдаты правялі шэраг перадвыбарчых мітынгаў і сустрэч з выбаршчыкамі, пад час якіх пашыраліся выбарчыя плакаты[37]. Асаблівай нагодай да вулічнай агітацыі былі кірмашы ў мястэчках, на якія высылалі агітатараў.

[35] Чего должны добиваться крестьяне и рабочие в Латвийском Государственном Сейме // Голас Беларуса. 1925. № 13. С. 1.

[36] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 82, арк. 15–16.

[37] Беларускі мітынг у Посіне // Голас Беларуса. 1925. № 13. С. 4; Беларускі прэдвыбарчы сход у Дзьвінску // Голас Беларуса. 1925. № 14. С. 4; Беларускі перадвыбарчы сход у Тартаку // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 2; Беларускі сход у Коплаве // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 2; Беларусы на кірмашу ў Пустыні // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 3; Беларускі сход у Люцыне // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 3; Беларусы на кірмашу ў Бароўцы // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 3; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 32, арк. 22–24.

Перадвыбарчая агітацыя адбывалася таксама праз улёткі. Часам перадвыбарчыя мітынгі спалучаліся з культурнымі мерапрыемствамі. Напрыклад, 27 верасня 1925 г. у маёнтку Альмборн (Ілукшскі павет Земгаліі) адбыўся канцэрт-баль, які зладзіла Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў. Адбылася пастаноўка спектакляў "У кавалёвай хаце" і "Збянтэжаны Саўка", п'ес "Паклаўшы на Бога надзею" і "Дзіўныя вочы"[38]. Вядома, што на патрэбы агітацыі спіса № 30 была надрукавана 1 тыс. асобнікаў адозвы да выбаршчыкаў. Праўда, узнікла праблема з дастаўкай літаратуры ў вёскі, якія былі найбольш аддалены ад Дзвінска[39]. Езавітаў раіў адразу расклеіць у Дзвінску 100–150 штук адозвы, а потым штодня даклейваць, "бо напэўна расейцы і палякі будуць зрываць іх"[40]. Напярэдадні выбараў на старонках газеты была змешчана падрабязная інструкцыя наконт працэдуры галасавання[41]. У перадвыбарчай агітацыі беларускі бок карыстаўся як беларускай, так і рускай мовамі.

Беларускія дзеячы заклікалі сялян не галасаваць за чужых кандыдатаў, якія, засланяючыся рэлігійнымі і нацыянальнымі лозунгамі, імкнуцца адцягнуць увагу выбаршчыкаў ад сапраўдных праблем і патрэб сялян і рабочых[42]. Разам з тым рабіліся спробы пошуку саюзнікаў. Галоўная ўправа таварыства даручыла К. Езавітаву распачаць перамовы з латвійскімі сацыял-дэмакратамі з мэтай заключэння палітычнага пагаднення[43]. У жніўні 1925 г. была дасягнута дамоўленасць, згодна з якой сацыял-дэмакраты пагадзіліся, каб беларусы – сябры ЛСДРП – былі кандыдатамі беларускага спіса[44].

[38] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 82, арк. 1–5.
[39] Тамсама, спр. 51, арк. 31.
[40] Тамсама, спр. 80, арк. 30.
[41] Сяляне, беззямельныя і малазямельныя, рабочые і працоўная інтэлігенцыя, 3 і 4 кастрычніка ўсе галасуйце ў Латгаліі за свой сьпісак № 30 // Голас Беларуса. 1925. № 14. С. 1; Да урнаў! // Голас Беларуса. 1925. № 14. С. 4.
[42] Беларусы рыхтуймося да выбараў у Сойм // Голас Беларуса. 1925. № 9. С. 3.
[43] LVVA, f. 3009, apr. 1, lpp. 31.
[44] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 80, арк. 16.

Належную падрыхтоўку кампаніі ўскладняў хранічны недахоп грашовых сродкаў. Адчуванні беларускага актыву яскрава адлюстроўвае ліст (5 жніўня 1925 г.) С. Сахарава да К. Езавітава: "Пачынаецца прэдвыбарчая праца, а грошай няма. Патрэбна знайсьці ня мэнш як 25–30 тыс. руб. На наша вучыцельства разлічваць нельга: яно зусім індэферэнтнае, апроч некалькіх асоб. Дажэ спэктакля і таго зрабіць ня могуць. Ці не дапаможа нам Амэрыка? Бо выбары ў Сойм наша агульная стаўка. І тут трэба праявіць максімум энергіі"[45]. Але старшыня Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў быў бездапаможны. У адказ на ліст Сахарава ён пісаў: "З грашовымі выдаткамі пакульшто цяжкавата, але ёсьць пэунасьць што на гэтых днях мне надышлюць дапамогу-пазыку"[46]. Цяжка меркаваць, якую пазыку меў на ўвазе К. Езавітаў. Вядома, што лідар латвійскіх беларусаў трымаў сувязь з чыкагскімі беларусамі – Язэпам Варонкам і Янкам Чарапуком, якія грашова дапамагалі яму выдаваць газету "Голас Беларуса". Акрамя таго, нельга выключыць, што Езавітаў разлічваў на фінансаванне з Мінску, бо ўжо тады ён наладзіў кантакт з савецкім бокам. Аднак да гэтага эпізоду дзейнасці беларускага дзеяча звернемся пазней.

Беларускія кандыдаты мусілі весці барацьбу за месцы ў парламенце ва ўмовах значнай канкурэнцыі. Сярод галоўных праціўнікаў былі рускія спісы: № 6 – Праваслаўныя выбаршчыкі і рускі блок (кіраўнік архіепіскап Іаан); № 14 – Рускі спіс валасных і грамадскіх дзеячоў (А. Багачоў); № 25 – Польскі спіс (Яраслаў Вільпшэўскі). Рускія кандыдаты не хавалі, што разлічваюць на падтрымку праваслаўных беларусаў. Кандыдаты спіса № 14 разглядалі беларусаў як частку адзінага рускага народа і лічылі, што "нацыянальныя асаблівасці (вялікаросы, маларосы, беларусы) не мяняюць прынцыпу адзінства"[47]. На падобных пазіцыях стаялі кандыдаты Польскага спіса з той розніцай, што яна тычылася веравызнання. Агітатары спіса

[45] Тамсама, спр. 35, арк. 3.
[46] Тамсама, спр. 80, арк. 19.
[47] Тамсама, спр. 85, арк. 55.

№ 25 выступалі супраць таго, каб “паляка перараблялі ў беларуса-каталіка”[48].

Пагрозу стваралі таксама латгальскія сілы: № 1 – Латгальская дэмакратычная партыя (Францыс Трасунс); № 2 – Саюз латгальскіх аратых (Марцін Абул); № 4 – Латгальская працоўная партыя і Саюз малазямельных і беззямельных сялян Латгаліі (Езупс Трасунс); № 7 – Латгальская працоўная народная група (па гэтым спісе ішоў Ф. Кэмпс); № 9 – Латгальскія хрысціянскія сяляне (епіскап Язэп Ранцанс)[49]. Гэтыя партыі вялі агітацыю на рускай мове і запэўнівалі, што будуць абараняць правы “ўсіх рускіх, палякаў, беларусаў і іншых”[50]. Рускамоўнае выданне спіса № 4 заклікала латгальскіх сялян не аддаваць сваіх галасоў за беларускі спіс, які, паводле іх, выставілі сацыял-дэмакраты, каб завабіць больш галасоў[51].

Атмасферу перадвыбарчага змагання ў беларускай латгальскай вёсцы і настрой, які там панаваў, часткова можа перадаць ліст сябра валаснай управы ў Пустыні А. Мірановіча да К. Езавітава: «6/IX, у нашую Пустыню было заглянуўшы цэлых пяць агітатараў. Быў ад № 1 – адзін, хваліў сваяго кс. Трасуна – праваліў. Далей ад № 2, было цэлых два “рыбакі”, тыя яшчэ туды сюды. Далей ад № 3, але той наехаў з сваей літэратурай і сам з носам і на канец ад № 25, але таму прышлось пабрыцца, лепі ад усіх, досыць таго што яго добра крытыкавалі чуць ня усе, апроч некалькі яго шлятаў[52], якія маўчалі, дагаварыўшыся да таго, што трэба хлусьціць (махляваць), каб папасьць у Сейм. “Jeżeli nie skłamiesz to i nie popadniesz”, па гэтых словах усе жыхары рассьмяяліся да упаду і прышлось яму канчаць. Так што з усіх гэтых агітатараў на жыхарах ня было зроблена ні якага вражэньня, а тым больш што пагода была дрэнная і люднасьці было сусім гарстка. Пав. К. Барысавіч! Трэба раз’ежаць абавязкова; гэта мае бальшое значэньне у нас напр.: жыхары цэлы

48 Тамсама, арк. 63.
49 Тамсама, спр. 86, арк. 7.
50 Тамсама, спр. 85, арк. 40.
51 За кого не следует голосовать // Трудовик. 1925. № 4. С. 3.
52 Тэрмін аўтара. – *Ю. Г.*

час пытаюцца “а каліж будзе наш агітатар, трэба было яго паслухаць”, а таму трэба абавязкова свае куткі каму нібудзь аб’ехаць хоць па разу. Толькі патрэбна зараньня надрукаваць праграмы і адозвы да жыхарства»[53].

Выбары ў Сойм II склікання (1925–1928) адбыліся 3 і 4 кастрычніка 1925 г. Беларусам удалося ў некаторых мясцовасцях займець значную падтрымку. Так, спіс № 30 перамог у Прыдруйскай воласці Дзвінскага павета, дзе за яго прагаласавала 695 чалавек[54]. Але гэта можна лічыць адзіным поспехам беларускіх кандыдатаў. Агульны вынік выбарчай кампаніі быў несуцяшальны. Вядома, што за спіс № 30 агулам было аддадзена толькі 1900 галасоў[55]. На жаль, невядома, колькі галасоў атрымаў беларускі спіс у Земгаліі. Падсумоўваючы агульныя вынікі, трэба адзначыць, што ў Земгаліі спіс № 19 атрымаў 4942 выбарчыя талоны, а спіс № 30 у Латгаліі – 39 376[56]. Чарговы раз спроба правесці ў Сойм беларускага прадстаўніка скончылася паразай. Значна лепшых вынікаў дасягнулі іншыя партыі і выбарчыя камітэты. Напрыклад, за польскі спіс прагаласавала 12 497 чал., у тым ліку 6808 у Латгаліі і 4932 у Земгаліі. У Сойм трапілі два польскія прадстаўнікі[57]. Па Латгаліі ў парламент прайшлі чатыры рускія кандыдаты. Добрага выніку дасягнулі мясцовыя партыі: Латгальскія дэмакраты (2 дэпутаты) і Латгальская хрысціянска-сялянская партыя (4 дэпутаты). Найлепшае выбарчае жніва сабралі, аднак, сацыял-дэмакраты, праводзячы па Латгаліі ў парламент 5 дэпутатаў[58].

Беларускі бок вінаваціў у паразе канкурэнцыю, якой закідваў “лоўлю беларускіх душ”[59]. Аналізуючы прычыны

[53] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, арк. 31–32.
[54] Вынікі выбараў у Прыдруйшчыне // Голас Беларуса. 1925. № 15. С. 3.
[55] Różycki J. Polacy na Łotwie. Warszawa, 1930. S. 5.
[56] Окончательный состав нового Сейма // Сегодня. 1925. № 233. С. 4.
[57] Albin J. Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940. Wrocław, 1993. S. 71.
[58] Окончательный состав нового Сейма // Сегодня. 1925. № 233. С. 4.
[59] Езавітаў К. Крызіс Латгальскіх партыяў // Голас Беларуса. 1926. № 37. С. 2.

паразы беларускіх спісаў, варта звярнуць увагу на пазіцыю праваслаўнага і каталіцкага духавенства. Латгальскія беларусы былі традыцыйным грамадствам, сярод якога духавенства карысталася значным аўтарытэтам. На гэтым полі латгальскія, польскія і рускія кандыдаты мелі істотную перавагу над беларускімі, бо праваслаўнае духавенства вяло агітацыю на карысць рускіх кандыдатаў, а каталіцкае агітавала за латгальскія і польскія спісы[60]. Тым часам стаўленне большасці мясцовага клеру абодвух веравызнанняў да беларускай дзейнасці было ў лепшым выпадку абыякавым, а ў горшым – адмоўным. Выпадкі пэўнага супрацоўніцтва святароў з беларускімі арганізацыямі здараліся, але яны мелі эпізадычны характар. Невыпадкова К. Езавітаў у лісце да амерыканскіх беларусаў наракаў на стаўленне святароў: “У Латвійскі сойм прайсьці мне не ўдалося <…> Дужа пашкодзілі нам нашы папы і ксяндзы, якія пайшлі па клерыкальным сьпіскам і лаялі нас на беларускай жа мове. Зразумела, самі яны не прайшлі і нас правалілі. Ліха ведае што”[61].

Насамрэч не канкурэнцыя з боку іншых груповак і стаўленне духавенства былі галоўным ворагам беларускіх кандыдатаў. Трэба цалкам пагадзіцца з К. Езавітавым, які галоўную прычыну няўдачы бачыў у непісьменнасці, нізкай нацыянальнай і палітычнай свядомасці латгальскіх беларусаў. Незаможнае мясцовае сялянства, якое змагалася з наступствамі вайны і было занята штодзённымі клопатамі, не разумела сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі. Мясцовы беларускі рух толькі рабіў свае першыя крокі і быў невядомы пераважнай большасці сялянства. Тым часам сацыяльна-эканамічныя лозунгі беларусаў былі шмат у чым падобныя да тых, якія высоўвалі агульналатвійскія партыі, што мелі непараўнальна большы досвед і матэрыяльныя магчымасці на падрыхтоўку і вядзенне перадвыбарчай кампаніі[62].

[60] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 180, арк. 1.

[61] LVVA, f. 3235, apr. 6, l. 196.

[62] Адраджэнец. Чаму беларусы прайгралі выбарчую кампанію ў Латвіі // Голас Беларуса. 1925. № 17. С. 2.

Нягледзячы на паразу ў 1925 г. беларускі актыў Латвіі не склаў зброі і ў наступныя гады рыхтаваўся да чарговых парламенцкіх выбараў. Працягвала сваю дзейнасць Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў. Арганізацыя мела амбіцыі, каб з цягам часуператварыцца ў галоўную арганізацыю беларускай меншасці ў Латвіі. Езавітаў разглядаў Таварыства як будучы плацдарм для сваёй палітычнай дзейнасці, якой разлічваў ахапіць як мага шырэйшыя слаі беларускага грамадства. У прамове да дэлегатаў II з'езда арганізацыі ў 1926 г. К. Езавітаў адзначаў, што ніякая іншая праграма, акрамя сацыялістычнай, не мае шанцаў прабіцца да сэрцаў беларускай меншасці[63]. На згаданым з'ездзе было вырашана працаваць над нацыянальным выхаваннем беларускага насельніцтва Латвіі, а таксама імкнуцца да кансалідацыі ўсіх нацыянальнасвядомых сіл вакол аднаго цэнтра. Але практыка паказала, што стварэнне адзінага беларускага палітычнага фронту ў Латвіі было задачай невыканальнай. Перашкодай да кансалідацыі сіл у значнай ступені сталі асабістыя амбіцыі дзеячоў беларускай меншасці. Напрыканцы 1920-х і ў пачатку 1930-х г. лагер латвійскіх беларусаў канцэнтраваўся вакол двух лідараў: К. Езавітава і У. Пігулеўскага. Суперніцтва тлумачылася не толькі амбіцыямі, але і пэўнымі разыходжаннямі адносна тактыкі беларускай працы і выбару саюзнікаў. Пігулеўскі належаў да ЛДСРП і бачыў будучыню беларусаў у супрацоўніцтве з гэтай палітычнай сілай, бо яна найбольш спрыяла меншасцям. К. Езавітаў схіляўся штораз больш улева. Як "сацыяліст са стажам" ён не ўяўляў сабе працы на карысць нацыянальных правоў беларусаў без класавай барацьбы. За свае радыкальныя погляды і станоўчае стаўленне да БССР К. Езавітаў зазнаў крытыку з боку больш памяркоўных беларускіх дзеячоў. Ён лічыў беларусаў за найбольш "пралетарскую" групу ў Латвіі, бо яны амаль цалкам складаліся з сялян і рабочых. У сувязі з гэтым ён сцвярджаў, што беларуская меншасць павінна адстойваць

[63] 2-гі Зьезд дэлегатаў "Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў у Латвіі" // Голас Беларуса. 1926. № 39. С. 1–2.

не толькі свае нацыянальныя правы, але і сацыяльныя, якія ён лічыў прыярытэтнымі. На яго думку, беларускі селянін і рабочы здольныя будуць успрымаць нацыянальную агітацыю толькі пасля вырашэння сацыяльна-эканамічных праблем[64]. Беларускі дзеяч крытычна ставіўся да аграрнай рэформы, абвінавачваючы яе рэалізатараў у несумленнасці і дбанні пра інтарэс сярэдніх гаспадароў з адначасовым ігнараваннем патрэб найбяднейшых сялян. Заганы ў правядзенні рэформы былі адной з прычын, па якіх К. Езавітаў адмаўляўся ад супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратамі[65]. Ён лічыў недапушчальным супрацоўніцтва з ЛСДРП і сцвярджаў, што К. Пігулеўскі "цягне беларусаў у балота". Знаходзячыся ў зацятай апазіцыі да У. Пігулеўскага і сацыял-дэмакратаў, К. Езавітаў наладзіў сувязь з Латвійскай партыяй незалежных сацыялістаў (ЛПНС – *Latvijas neatkarīgo sociālistu partija*). У лісце да Аляксандра Чарвякова ён пісаў: «Каб беларуская маса, кінутая бяз прэсы і кіраўніцтва не пайшла за с.-д., куды яе цягне Пігулеўскі <…> дык я ўвайшоў у партыю незалежных сацыялістаў, якая зьяўляецца партыяй тыпу "Грамады", а знача і самай левай партыяй у Латвіі»[66].

З цягам часу разыходжанні паміж У. Пігулеўскім і К. Езавітавым рабіліся больш відавочнымі. Але набліжаліся выбары ў Сойм, і беларускія дзеячы мусілі выпрацаваць стратэгію ўдзелу ў іх сваіх кандыдатаў. Сярод беларускай грамадскасці дамінавала меркаванне пра немэтазгоднасць выстаўлення чарговы раз уласнага спіса, а як альтэрнатыва бачылася ўнясенне сваіх прадстаўнікоў у спісы агульналатвійскіх партый[67]. З мэтай выпрацоўкі далейшай стратэгіі склікалі дзве беларускія канферэнцыі – 28 красавіка і 8 ліпеня 1928 г.[68]. Ужо на І канферэнцыі пазначыліся пэўныя рознагалоссі. Сімпатыі ўдзельнікаў вагаліся паміж выбарам палітычных

[64] На парозе // Праца. Аднаднёўка сялянска-работніцкая. 1928. № 1. С. 2.
[65] Езавітаў К. Беларусы ў Латвіі. Рыга, 1927. С. 45.
[66] LVVA, f. 3235, apr. 6, l. 196.
[67] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 35, арк. 7.
[68] LVVA, f. 3009, apr. 1, l. 3, lpp. 116.

хаўруснікаў – ЛСДРП і ЛПНС. Каб пераадолець крызіс, стварылі камісію па выбарах у Сойм у наступным складзе: Пятро Масальскі (старшыня), Якуб Кастылюк, С. Сахараў і Алесь Сальцэвіч (сябры), Уладзімір Ціхаміраў (сакратар)[69]. Новы орган павінен быў заняцца падрыхтоўкай праекта агульных прынцыпаў выбарчай стратэгіі. Тон працы камісіі задавалі прыхільнікі К. Езавітава, таму яна падрыхтавала праект ухвалы з заклікам, каб беларусы падтрымалі ЛПНС[70]. Каб схіліць беларускую інтэлігенцыю на свой бок, "езавітаўцы" напярэдадні склікання II беларускай канферэнцыі выдалі аднаднёўку "Праца", на старонках якой моцна крытыкавалі сацыял-дэмакратаў, падкрэсліваючы, што стаўка на іх скончыцца для беларусаў згубай. Адначасова аўтары пераконвалі, што для беларусаў адзіным слушным выбарам хаўрусніка будзе аб'яднанне сіл з незалежнымі сацыялістамі[71].

Што маглі прапанаваць беларусам незалежныя сацыялісты? Незалежныя сацыялісты займалі крайне радыкальныя пазіцыі на левым флангу палітычнай сцэны. Партыя была створана на пачатку 1928 г. па задуме Камінтэрна як легальнае крыло камуністаў. Апошнія дзякуючы ЛПНС маглі змагацца за месцы ў латвійскім парламенце. Партыя мела чыста папулістычны характар і засяроджвалася на вострай крытыцы апанентаў. Галоўнае вастрыё партыйнай агітацыі было скіравана супраць памяркоўных левых сіл, перадусім сацыял-дэмакратаў, электарат якіх "незалежнікі" намагаліся захапіць сабе[72]. Партыя экспанавала сябе як змагара за "сапраўдны сацыялізм". У пытаннях замежнай палітыкі партыя дэкларавала нейтральнасць, скасаванне арміі і ўсеагульнае раззбраенне. Незалежныя сацыялісты не абмінулі ў сваёй дзейнасці нацменаў. У чэрвені 1928 г. кіраўніцтва гэтай партыі прыняло рашэнне ствараць секцыі пры

[69] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 88, арк. 4.
[70] Праца Беларускае Выбарчае Камісіі // Праца. Аднаднёўка сялянска-работніцкая. 1928. № 1. С. 3.
[71] Сальцэвіч А. Перад выбарамі // Праца. Аднаднёўка сялянска-работніцкая. 1928. № 1. С. 1.
[72] Łossowski P. Kraje bałtyckie na drodze… S. 53.

рэгіянальных аддзелах партыі ў мясцовасцях, дзе жыла тая ці іншая нацыянальная меншасць. Нацыянальныя секцыі павінны былі на сваіх родных мовах праводзіць агітацыю сярод прадстаўнікоў свайго народа на карысць ПНС. Прадстаўнікі нацыянальных секцый удзельнічалі ў працы мясцовых аддзелаў партыі, а таксама ЦК. На патрэбы агітацыі сярод нацменаў партыя выдала сваю праграму на розных мовах, у тым ліку – па-беларуску[73].

Варта падкрэсліць, што зацікаўленне ЛПНС беларускімі справамі і супрацоўніцтва з партыяй К. Езавітава было невыпадковым. Гэта была частка стратэгіі, якую абралі ўлады ў Мінску ў дачыненні да беларусаў замежжа, у тым ліку Латвіі. Яшчэ ў кастрычніку 1925 г. ЦК КП(б)Б прыняло наступнае рашэнне: "Наша палітыка ў гэтых краінах павінна заключацца ў развіцці нацыянальнага беларускага руху, каб ахапіць яго і ператварыць у рэвалюцыйны рух пад лозунгам аб'яднання беларускага народа, стварэння адзінай Беларусі і ўстанаўлення ў ёй рабоча-сялянскай Савецкай улады"[74]. Арганізацыя працы з беларусамі замежжа вялася супольна НКЗС і ЦК КП(б)Б, а рашэнні прыводзіліся ў выкананне па лініі савецкіх дыпламатычных прадстаўніцтваў. Цэнтрам гэтай акцыі быў Мінск, а прадстаўнікі Савецкай Беларусі трымалі непасрэдную сувязь з упаўнаважаным НКЗС пры ўрадзе БССР[75]. У выпадку беларускага руху ў Латвіі было вырашана выкарыстаць яго у барацьбе з латвійскай дзяржавай, накіроўваючы ў бок збліжэння з БССР. Дзеля ажыццяўлення гэтай задачы неабходна было знайсці беларускіх дзеячоў, схільных да супрацоўніцтва з СССР. У поле бачання савецкіх дыпламатаў трапіў К. Езавітаў. Гэты беларускі дзяяч, як і многія яго паплечнікі па адраджэнскім руху ў той час, знаходзіўся пад значным уражаннем ад поспехаў палітыкі беларусізацыі ў БССР. Самаахвярны і бязмежна адданы беларускай нацыянальнай справе дзяяч шчыра паверыў у тое,

[73] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 88, арк. 6.

[74] Знешняя палітыка Беларусі: зб. дак. і матэр. Т. 2. 1923–1927 / пад рэд. У. Міхнюка і інш. Мінск, 1999. С. 190.

[75] Тамсама. С. 191.

што Савецкая Беларусь пры адсутнасці лепшых альтэрнатываў можа сапраўды стаць здзяйсненнем нацыянальна-культурных і эканамічных імкненняў беларускага народа. Яго не бянтэжыла ідэалагічная афарбоўка БССР, бо яна ўспрымалася хутчэй як праява сацыялістычнай ідэі, якая не была ні чужой, ні варожай для беларускіх дзеячоў на пачатку XX ст. Больш за тое, у 1924–1925 г. Езавітаў быў адным з галоўных падсудных на беларускім працэсе і амаль год праседзеў у латвійскай турме, што не магло не паўплываць на яго стаўленне да латвійскай дзяржавы. Савецкай краіне было вельмі важна перацягнуць Езавітава на свой бок, паколькі ён быў адным з кіраўнікоў беларускага руху ў Латвіі і карыстаўся значным аўтарытэтам, асабліва сярод моладзі. Праўда, бээсэсэраўскім палітыкам не падабалася палітычная афарбоўка "групы Езавітава", якая ацэньвалася як "нацыянал-дэмакратычная". Відавочна, што савецкі бок хацеў мець адносіны з паслухмянай марыянеткай, якая будзе слепа выконваць дырэктывы партыі. Тым часам К. Езавітаў ніколі такім не быў. Ён лічыў сябе саюзнікам СССР, бо быў перакананы, што гэта прынясе карысць беларускай нацыянальнай справе. У Мінску лічылі, што да працы і дэкларацый К. Езавітава трэба ставіцца вельмі асцярожна і імкнуцца ахапіць сваім кантролем выбарчыя камітэты, створаныя гэтым дзеячом, звязваючы іх з Кампартыяй Латвіі, каб праз іх уплываць на настроі беларусаў Латгаліі. Адначасова вёўся пошук сярод латвійскіх беларусаў адпаведных кандыдатаў з прасавецкай арыентацыяй, якія маглі б з часам замяніць К. Езавітава ў арганізацыйнай працы[76].

Мінск намагаўся выкарыстаць К. Езавітава ў супрацьстаянні з "кансерватыўнымі" беларускімі дзеячамі (У. Пігулеўскі, Я. Шчорс, С. Сахараў, М. Дзямідаў) і іх арганізацыямі (таварыствы "Прасвета" і "Беларуская хата"). Савецкі бок вылучаў на гэтую мэту пэўныя сродкі. Вядома, што ў значнай ступені дзякуючы гэтаму К. Езавітаў мог выдаваць газету "Голас Беларуса"[77]. Дапамога ішла па

[76] Тамсама. С. 203.
[77] Тамсама. С. 214, 215.

лініі савецкага дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Рызе, з якім беларускі дзяяч трымаў сувязь з 1925 г. Ён нават быў інфарматарам па мянушцы “Озалс”[78]. У студзені 1928 г. з мэтай кантралявання і пашырэння савецкіх уплываў сярод латвійскіх беларусаў было вырашана падпарадкаваць працу К. Езавітава кіраўніцтву Кампартыі Латвіі праз уцягненне яго ў шчыльнае супрацоўніцтва з незалежнымі сацыялістамі. У выпадку правядзення ў латвійскі Сойм беларускіх дэпутатаў планавалася арганізаваць іх па прынцыпе Беларускай сялянска-рабочай грамады ў польскім парламенце [79].

Савецкія разлікі, аднак, не спраўдзіліся. 8–9 ліпеня 1928 г. у Дзвінску адбылася II беларуская канферэнцыя, на якой беларуская супольнасць канчаткова вырашыла пытанне выбару саюзніка. Пасля вострай дыскусіі перамогу атрымалі прыхільнікі супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратамі. Спроба Езавітава і яго прыхільнікаў пераканаць беларускае настаўніцтва ісці на выбары “адзіным пралетарскім фронтам з Латвійскімі сацыялістычнымі партыямі” скончылася паразай. Канферэнцыя завяршылася прыняццем рэзалюцыі аб кансалідацыі беларусаў вакол ЛСДРП[80].

Пасля згаданай канферэнцыі стала зразумела, што лідары латвійскіх беларусаў пойдуць на выбары рознымі сцежкамі. Частка беларускіх актывістаў, якая падтрымала К. Езавітава, гуртаваліся вакол Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў. Улетку 1928 г. была створана беларуская секцыя ЛПНС, якую ачолілі А. Сальцэвіч, У. Ціхаміраў, А. Райко і К. Езавітаў. Апошні быў запрошаны на І з’езд ЛПНС, які адбыўся 1 ліпеня 1928 г. у Дзвінску. Беларускі дзяяч вітаў удзельнікаў ад імя латвійскіх беларусаў[81]. У Дзвінску і Краслаўцы былі створаны аддзелы беларускай секцыі ЛПНС. У сваіх выступах яе сябры заклікалі беларускія масы ў Латгаліі арыентавацца “ўлева і на ўсход”, а

78 Екабосонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах. С. 52.

79 Знешняя палітыка Беларусі: зб. дак. і матэр. Т. 3. 1928–1941. Мінск, 2001. С. 14–15.

80 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 88, арк. 4; Тамсама, спр. 97, арк. 1–2.

81 У независимых социалистов // Двинский голос. 1928. № 35. С. 1.

латвійскі ўрад называлі “рэакцыйным” і “буржуазным”[82]. Вось як працу беларускай секцыі ЛПНС у Дзвінску характарызаваў адзін з яе сяброў: “Нашы незалежнікі працуюць ува ўсю: не праходзіць ні аднаго мітынгу, каб там не было беларускіх прадстаўнікоў. Аб беларусах загутарылі. Незалежнікі іншых нацыянальнасьцяў глядзяць на нас з пашанай і надзеямі. Стараемся падтрымаць і пашану і надзеі. Цяжка зараз, калі вучыцельства разбрылося, наладзіць сувязі з вёскай, – а без яе мы – нуль. Зьмянілі кіно-фільмы і на будучым тыдню усё-ж-ткі думаем махнуць на дні тры па вёсках. Сродкаў у камісіі няма, а таму мы і прыдумалі кіно”[83]. Немалую актыўнасць праяўляў К. Езавітаў. Яго прозвішча апынулася на чацвёртым месцы ў Рыжскім выбарчым спісе ЛПНС[84]. Як прадстаўнік гэтай партыі ён узяў актыўны ўдзел у перадвыбарчай кампаніі. 8 ліпеня 1928 г. пад час партыйнага мітынгу К. Езавітаў выступіў з дакладам «Рэакцыя ў Польшчы і разгром “Грамады”». Па яго ініцыятыве ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, якая ўтрымлівала пратэст супраць ліквідацыі БСРГ і патрабаванне спыніць пераслед грамадоўцаў. Гэтая рэзалюцыя была апублікавана ў партыйнай газеце незалежных сацыялістаў “Vards”[85]. Акрамя таго, беларускі дзяяч быў абраны сябрам Управы Саркандаўгаўскага аддзела партыі і стаў старшынёй камітэта гэтага аддзела. На сходзе прыхільнікаў ЛПНС, які адбыўся 21 ліпеня 1928 г., К. Езавітаў агучыў даклад “Латвійскія працоўныя і нацыянальныя меншасці”. Пасля гэтага была прынята партыйная рэзалюцыя аб тым, каб звярнуць пільную ўвагу на працу партыі сярод беларускіх, рускіх, польскіх і латгальскіх рабочых[86]. З мэтай перадвыбарчай агітацыі К. Езавітаў меў намер выдаць аднаднёўку “Незалежны сацыяліст”, але гэтая задума засталася нявдзейсненай[87].

[82] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 29, арк. 10–11адв.
[83] Тамсама, спр. 38, арк. 33.
[84] LVVA, f. 3235, apr. 6, l. 196.
[85] Беларускае жыццё ў Латвіі // Голас Беларуса. 1928. № 59. С. 4; НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 15, арк. 23.
[86] Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918 – 1940 годах. С. 55.
[87] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 37, арк. 4.

Тым часам апаненты К. Езавітава па беларускім лагеры таксама не марнавалі часу. Прыхільнікі супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратамі гуртаваліся вакол Таварыства "Рунь" і Беларускага пазычкова-ашчаднага таварыства. Сваю агітацыю яны вялі на старонках газеты "Гаспадар" (галоўны рэдактар Я. Шчорс), а таксама партыйнай прэсы сацыял-дэмакратаў. Ідучы насустрач памкненням беларускіх дзеячоў, ЦК ЛСДРП унесла У. Пігулеўскага ў свой партыйны выбарчы спіс.

Па меры набліжэння выбараў напружанне ўзрастала. І "езавітаўцы", і "пігулеўцы" не вагаліся перад бруднымі захадамі, каб толькі скампраметаваць апанентаў. Езавітаў называў Пігулеўскага "наймітам-чынушай", які дзеля ўласных амбіцый ахвяраваў агульнабеларускім інтарэсам і будуе свой палітычны капітал на барацьбе "з левізной Езавітава". У. Пігулеўскі публічна абвінаваціў К. Езавітава ў распаўсюджванні радыкальных поглядаў сярод памяркоўных беларускіх мас[88]. Як доказ гэтага ён звярнуў увагу на кантакты Езавітава з савецкім прадстаўніцтвам у Латвіі. Пігулеўскі даводзіў, што Езавітаў па загадзе Камінтэрна імкнецца знішчыць беларускую справу ў Латвіі[89]. Пра канфлікт стала вядома не толькі латвійскім беларусам, бо К. Езавітаў інфармаваў пра сваё змаганне з "рэакцыяй" прэсу ў БССР, а яго апаненты карысталіся перыядычнымі выданнямі латвійскіх сацыял-дэмакратаў. Сітуацыя была настолькі сур'ёзная, што К. Езавітаў збіраўся падаць у суд на галоўнага рэдактара адной з сацыял-дэмакратычных газет, абвінавачваючы яго ў паклёпніцтве. Гаворка ішла пра артыкул М. Дзямідава (пад псеўданімам "Раб. К. Я.") у газеце "Латгальская мысль", у якім аўтар адзначаў, што К. Езавітаў у 1919 г., будучы камандзірам 1-га Беларускага пяхотнага палка ў Горадні, выдаў загад страляць у групу рабочых[90]. Езавітаў палічыў публікацыю праявай

[88] LVVA, f. 3235, apr. 6, l. 196.
[89] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 111, арк. 1–5.
[90] Раб. К. Я. Кто руководит "независимым" движением (Открытое письмо лидеру независимых Езовитову) // Латгальская мысль. 1928. № 28. С. 3.

палітычнай правакацыі з боку нядобразычліўцаў, якія помсцілі яму за супрацоўніцтва з незалежнымі сацыялістамі[91]. Ён хацеў абскардзіць аўтара зацемкі ў судзе, а на працэс у якасці сведкаў запрасіць беларускіх дзеячоў з Дзвінска, Прагі, Вільні, Коўна і Мінска. У лісце К. Езавітава да З. Жылуновіча чытаем: “Я з групай маладых пайшоў з партыяй незалежных соцыялістаў, а Пігулеўскі з с-д. Пры чым с-д. выступалі і на канфэрэнцыі і ў прэсе самым ганебным чынам. Асабліва наваліліся на мяне, бо мая рашучая пазыцыя захоплівае моладзь, а таксама і таму, што выступленьні маі на мітынгах у Дзьвінску мелі вялікі посьпех у рабочых масах. Дык, каб скампраметаваць мяне і партыю, цяпер Дзямідаў і Пігулеўскі распушчаюць аба мне ўсялякія нягодныя плёткі <…> справа ў тым, што і самі яны добра ведаць усю абсурднасьць сваіх заяў, але зрабілі іх цяперака таму, што складаюцца сьпіскі ў Сойм і яны сваімі лістамі дапамагаюць стварыць такую атмасфэру, каб партыі незалежных немагчыма было паставіць маю кандыдатуру”[92].

Выбары Сойма ІІІ склікання (1928–1931) адбыліся 6 і 7 кастрычніка 1928 г. Вынікі галасавання задаволілі тых беларусаў, якія паставілі на супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратамі. Сярод кандыдатаў гэтай партыі, якія ў 1928 г. трапілі ў Сойм, апынуўся У. Пігулеўскі. Ён стаў першым і адзіным беларускім дэпутатам у латвійскім парламенце, дзякуючы чаму ў наступныя гады з дэпутацкай трыбуны мог абараняць правы беларускай меншасці. У 1929–1932 г. сацыял-дэмакраты ўваходзілі ва ўрадавую кааліцыю, таму дэпутат-беларус удзельнічаў у дзяржаўным кіраванні. Як дэпутат латвійскага Сойма ў лютым 1930 г. ён быў кааптаваны ў склад прэзідыума Таварыства нацыянальных меншасцяў спрыяння Лізе народаў[93]. Праўда, не ўсе латвійскія беларусы лічылі, што ён апраўдаў іх давер, і нават закідалі яму занядбанне беларускіх інтарэсаў на карысць партыйных абавязкаў (ён рэдагаваў рускамоўнае выданне

[91] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 90, арк. 4.
[92] LVVA, f. 3235, apr. 6, l. 196.
[93] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 181, арк. 18.

ЛДСРП "Трудовая мысль"). Тым не менш неабходна сцвердзіць, што стаўка беларускіх дзеячоў на тактычны саюз з сацыял-дэмакратамі сябе цалкам апраўдала. Поўным фіяска скончылася кампанія тых беларусаў, якія звязвалі свае надзеі з супрацоўніцтвам з радыкальнай ЛПНС. Незалежныя сацыялісты атрымалі 9511 латгальскіх галасоў. Па краіне ім удалося правесці ў парламент шэсць прадстаўнікоў, але сярод іх не было беларусаў. Спроба К. Езавітава трапіць у парламент з камуністычнага спіса скончылася поўнай паразай. Гэтая падзея паўплывала на змену стаўлення Мінска да беларускага дзеяча. Кіраўніцтва КП(б)Б зразумела, што супрацоўніцтва з К. Езавітавым неэфектыўнае. Беларускі дзяяч абвінавачваўся ў адсутнасці рашучасці і радыкалізму ў працы, а таксама ў "палітычным авантурніцтве і шкурніцтве"[94]. Пад уплывам няўдачы на выбарах страціла сэнс далейшая дзейнасць Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў. Праўда, у 1930 г. Езавітаў хацеў на базе гэтай арганізацыі стварыць Беларускую сацыялістычную партыю, але гэтая ідэя не знайшла падтрымкі сярод іншых беларускіх дзеячоў[95]. У наступныя гады Таварыства не праяўляла ніякай актыўнасці.

У другой палове 1920 – пачатку 1930-х г. на латвійскай палітычнай сцэне адбыліся пэўныя змены. Пачаў назірацца выразны ўхіл управа. У пэўнай ступені гэтыя змены абумоўліваліся падзеямі на міжнароднай арэне. Грамадства адчувала наступствы сусветнага эканамічнага крызісу, якія паглыблялі палітычны крызіс. На пачатку 1931 г. аслабла пазіцыя сацыял-дэмакратаў, месца якіх пачалі займаць партыі цэнтра (Саюз прагрэсістаў, Дэмакратычны цэнтр, Партыя новых гаспадароў і дробных сельскагаспадарчых уласнікаў), якія распачалі папулістычную выбарчую кампанію. Палітыкі крытыкавалі сацыял-дэмакратаў, якіх вінавацілі ў палітычных пралiках і злоўжываннях. Змены палітычных настрояў не маглі не закрануць стаўлення да нацыянальных меншасцяў. Пад

[94] Знешняя палітыка Беларусі: зб. дак. і матэр. Т. 3. 1928–1941. Мінск, 2001. С. 14–15.
[95] LVVA, f. 3009, apr. 1, l. 3, lpp. 116.

уплывам сусветнага эканамічнага крызісу разам з ростам папулярнасці правых палітыкаў узмацняліся непрыхільныя настроі да нелатышоў. У такой атмасферы пачалася перадвыбарчая кампанія ў Сойм IV склікання[96].

Па меры набліжэння выбараў назіралася палітычная актыўнасць сярод беларусаў. У снежні 1930 г. была створана Беларуская дэмакратычная партыя Латвіі (БДПЛ – *Baltkrievu demokratiska partija Latvija*). Старшынёй новай фармацыі стаў С. Сахараў, а сярод актывістаў былі Аўгуст Дварэцкі, Міхась Барткевіч, Сяргей Казека і інш. Партыя ставіла за мэту абарону духоўных, юрыдычных і матэрыяльных правоў беларускай меншасці, узмацненне нацыянальнай свядомасці беларускіх мас, матываванне суродзічаў да ўдзелу ў грамадскім жыцці шляхам выстаўлення ўласных кандыдатаў на парламенцкіх і мясцовых выбарах[97]. БДПЛ магла дзейнічаць на тэрыторыі ўсёй Латвіі, але яе кіраўнікі падкрэслівалі, што будуць аддаваць асаблівую ўвагу працы ў Латгаліі і Ілукшчыне. Агульнапалітычныя прынцыпы партыі ахаплівалі падтрымку дэмакратычнага ладу латвійскай дзяржавы, роўных правоў для ўсіх грамадзян незалежна ад нацыянальнасці ў форме нацыянальна-культурнай аўтаноміі, абарону грамадзянскіх правоў, шырокія кампетэнцыі органаў мясцовага самакіравання, свабоду сумлення і рэлігіі. Эканамічная праграма партыі прадугледжвала правядзенне аграрнай рэформы шляхам падзелу буйных зямельных надзелаў і раздачы іх сялянам з аднолькавымі магчымасцямі для ўсіх нацыянальных груп. Дзеячы БДПЛ дамагаліся дзяржаўнай дапамогі ў выглядзе даступных пазык і крэдытаў для беззямельных і малазямельных сялян. Высоўвалася патрабаванне эксплуатацыі лясных рэсурсаў Латгаліі выключна на патрэбы гэтага рэгіёна. Актыўна прапагандавалася кааператыўная дзейнасць сярод сялян. У сферы культуры і асветы падкрэслівалася права ўсіх

[96] Łossowski P. Kraje bałtyckie na drodze… S. 76.

[97] Статут Беларускай дэмакратычнай партыі ў Латвіі // Крывіцкія руны. Вып. II: Беларускі культурны мацярык у Латвіі / рэд. М. Казлоўскі, С. Панізнік. Мінск, 2017. С. 382–389.

грамадзян на бясплатную абавязковую асвету, прыстасаванне школ да патрэбаў сацыяльна-эканамічнага жыцця. БДПЛ абараняла права беларускай меншасці на атрыманне ад дзяржавы і органаў самакіравання грашовых сродкаў на развіццё і функцыянаванне школ з роднай мовай навучання. Партыя таксама абараняла правы беларусаў на атрыманне ад дзяржавы сродкаў на развіццё тэатра і друкаванай прадукцыі[98].

Партыя мела некалькі рэгіянальных філіялаў на Дзвіншчыне і Люцыншыне. Друкаваным органам БДПЛ стала газета "Думка Беларуса", першы нумар якой убачыў свет 1 чэрвеня 1931 г. Няма сумневу, што арганізацыя была створана з разлікам на ўдзел у парламенцкіх выбарах. Неўзабаве ў адным з нумароў партыйнай газеты даваўся агляд і ацэнка сітуацыі латвійскіх беларусаў у аспекце новых выбараў. Беларускія дзеячы з жалем канстатавалі, што замест аб'яднання сіл перад выбарамі ў беларускім асяроддзі наадварот паглыбляюцца падзелы, якія значна зніжаюць шанцы на поспех. Дзеячы партыі заклікалі суродзічаў пакінуць убаку ўнутраныя сваркі і аб'яднацца дзеля дасягнення агульнай мэты[99].

Кіраўнікі БДПЛ разумелі, што неабходна таксама шукаць саюзнікаў на латвійскай палітычнай сцэне. У сувязі з гэтым была зроблена спроба ўвайсці ў саюз з Партыяй прагрэсіўных сялян (ППС). У ліпені 1931 г. дзеячы БДПЛ прапанавалі прагрэсістам супрацоўніцтва ў абмен за ўнясенне прадстаўнікоў партыі ў выбарчы спіс кандыдатаў ППС. Беларусы дамагаліся для сябе 3 месцаў у Латгаліі і 6 – у Земгаліі. Акрамя таго, беларускі бок разлічваў на атрыманне ад латышскіх саюзнікаў матэрыяльнай дапамогі на выданне прэсы, скліканне перадвыбарчага з'езда і іншыя выдаткі. Узамен БДПЛ абяцала ў выпадку правядзення свайго дэпутата, што ён будзе належаць да фракцыі ППС. Па Латгаліі прапанавалі выставіць кандыдатуры С. Сахарава

[98] Праграма Беларускай дэмакратычнай партыі ў Латвіі // Крывіцкія руны. Вып. II: Беларускі культурны мацярык у Латвіі / рэд. М. Казлоўскі, С. Панізнік. Мінск, 2017. С. 389–391.

[99] Выборы ў Сойм і беларусы // Думка Беларуса. 1931. № 3. С. 1.

і Міхала Клагіша, а па Земгаліі – С. Сахарава і А. Базновіча[100]. Але прагрэсісты не пагадзіліся на такія ўмовы, бо ведалі, што беларускія палітыкі не валодаюць вялікім выбарчым патэнцыялам[101]. Нягледзячы на няўдалы пачатак перамоў, беларускі бок не пакідаў надзеі на наладжванне супрацоўніцтва з ППС. 20 верасня 1931 г. у Дзвінску адбыўся з'езд дэлегатаў БДПЛ. У якасці госця ў мерапрыемстве ўзяў удзел прадстаўнік прагрэсістаў, які падкрэсліў, што яго партыя будзе абараняць правы беларусаў у галіне культуры і асветы. Дэлегаты прынялі рашэнне, што пад час выбараў трэба галасаваць за кандыдатаў ППС, а ў далейшай грамадска-палітычнай дзейнасці БДПЛ будзе абапірацца на супрацоўніцтва з прагрэсістамі. Выпрацоўку канчатковай дамовы паміж партыямі дэлегаты даручылі кіраўніцтву партыі[102].

Менш клопатнымі былі перамовы з літоўскай меншасцю ў Земгаліі. У выніку зарэгістравалі супольны літоўска-беларускі спіс № 20 ("Спіс літоўцаў-каталікоў і беларусаў"), які складаўся з 14 кандыдатаў, у тым ліку 3 беларусаў: С. Сахарава (№ 5), Даната Далецкага і Ігната Завадскага. Выбар літоўцаў у якасці саюзнікаў беларускія дзеячы абгрунтоўвалі наступным чынам: "Мы пайшлі з ліцьвінамі ня толькі таму, каб быць больш моцнымі на выборах, а і таму, што тут, у Латвіі, з нацыянальных меньшасьцяў нас і нашы патрэбы больш усяго могуць зразумець ліцьвіны – гэтыя старадаўнія нашы сябры на гістарычным шляху, для нас зусім аднолькава – хто пройдзе па сьпіску № 20 – літовец ці беларус, бо як адзін, так і другі будзе аднолькава бараніць інтарэсы ліцьвінаў і беларусаў"[103]. Выбарчая праграма гэтага спіса складалася найперш з сацыяльна-эканамічных пастулатаў. Толькі ў апошнім пункце згадвалася, што спіс выступае за пашырэнне беларускай і літоўскай пачатковай, прафесійнай

[100] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 101, арк. 4.
[101] Выборы ў Сойм і беларусы // Думка Беларуса. 1931. № 3. С. 1.
[102] Зьезд дэлегатаў Беларускай Дэмакратычнай партыі // Думка Беларуса. 1931. № 5. С. 1.
[103] № 20. Беларусы! № 20 // Думка Беларуса. 1931. № 4. С. 1.

і пазашкольнай асветы[104]. У прэсе выказвалася надзея, што спіс № 20 можа атрымаць падтрымку блізу 6 тысяч выбаршчыкаў, а гэта давала б магчымасць правесці ў Сойм 1–2 дэпутатаў[105]. Разам з тым беларускія дзеячы цвяроза ацэньвалі сітуацыю і разумелі, што, хутчэй за ўсё, не правядуць свайго кандыдата ў Сойм, але дамова з літоўцамі давала ім гарантыю, што калі ў парламент трапіць літоўскі прадстаўнік, ён будзе абараняць правы беларускай меншасці[106].

Разам з набліжэннем галасавання на старонках партыйнай газеты БДПЛ усё больш месца аддавалася выбарчай агітацыі[107]. У перадвыбарчай адозве ЦК партыі гаварылася: «Дужа часта адзін голас дае перавагу варожым партыям, а таму ніхто з беларусаў не павінен казаць: "Абойдзецца і без мяне. Што тамака адзін голас". Памятайце, што кожны голас, пададзены за аб'еднаны літоўска-беларускі сьпісак № 20 па Земгаліі, умацовывае становішча беларусаў у Латвіі. А таму – усе да урнаў! Усе – на выбары! Усе галасуйце толькі за свой сьпісак № 20 па Земгаліі! Не чакайце ад нас крыклівых мітынгаў: мы іх рабіць не зьбіраемся, бо яны ўсім сталі брыдкімі! Не давайце абдурваць сябе чужацкім агітатарам, а дружна падавайце свой голас за беларуска-літоўскі сьпісак № 20»[108].

БДПЛ была не адзінай беларускай сілай, якая ўдзельнічала ў выбарах у Сойм IV склікання. Улетку 1931 г. утварылася беларуская секцыя ў складзе выбарчага спіса "Хрысціянскія сяляне і каталікі" (№ 9) ад Латгальскай партыі хрысціянскіх сялян і каталікоў на чале з епіскапам Я. Ранцансам. Органам беларускай секцыі была газета

[104] Чаго будуць дамагацца кандыдаты літоўска-беларускага сьпіску № 20 у Сойме // Думка Беларуса. 1931. № 5. С. 3–4.

[105] Сахараў С. Ці мае шансы на правядзеньне свайго кандыдата ў Сойм Літоўска-Беларускі сьпісак № 20 па Земгаліі? // Думка Беларуса. 1931. № 4. С. 3.

[106] Mačiulis D. Lietuvos pasiuntinybės pastangos konsoliduoti lietuvių bendruomenę tarpukario Latvijoje // Lietuvos istorijos metraštis. 2007. № 2. LII. P. 42.

[107] К победе // Думка Беларуса. 1931. № 5. С. 1.

[108] Як трэба галасаваць на выборах у Сойм // Думка Беларуса. 1931. № 5. С. 2–3.

“Беларускае Слова”, першы нумар якой выйшаў 10 жніўня 1931 г. Галоўным арганізатарам секцыі і рэдактарам “Беларускага Слова” быў Пятро Журкоўскі, школьны інспектар беларускіх школ. Гэтая нешматлікая групоўка мела выразна антыкамуністычныя і клерыкальныя погляды. Секцыя ставіла за мэту пераканаць беларускае сялянства, каб яно падтрымала на выбарах латгальскіх хадэкаў. Журкоўскі фігураваў у спісе кандыдатаў на дзявятым месцы[109]. Гэты дзеяч акцэнтаваў увагу на патрэбе перакідання беларусамі мосту супрацоўніцтва да латгальскіх суседзяў. Свой удзел у саюзе з латгальскімі хадэкамі беларус тлумачыў сацыяльнымі матывамі[110]. Прычыны гаротнага стану вёскі П. Журкоўскі бачыў у неашчаднай палітыцы левых партый (найперш сацыял-дэмакратаў). Беларус заклікаў таксама не галасаваць за прадстаўнікоў рускай і польскай меншасці[111]. Выдаўцы “Беларускага Слова” апелявалі: “Беларусы! Не паддамося ўгаворам і хітрыкам тых, якія зараз з мягкімі і салодкімі словамі выдаюцца за дабражадальнікаў і нашэптываюць у вушы ня хітраму народу рожную ману і абяцанкі, а пасьля – на здабыцьці таго, што ім трэба, пакажуць свой запраўдны твар. Ганіце ўсіх, хто робіць замахі на родную мову і школы вашы: моцна стойце на сваім нацыянальным грунце і бараніце тое, чым жыў народ і што дае яму права на духовае істнаваньне. Усі памятайце, што вы беларусы, што назова гэтая мусіць быць сьвятая кожнаму з нас, якой зрачыся – ёсьць зрабіць праступак перад сваім сумленьнем і будучыней дзяцей”[112]. Беларускія матывы з’яўляліся, аднак, толькі на старонках цытаванай газеты. Тым часам праграма спіса № 9 не ўтрымлівала беларускіх пастулатаў. У ёй дамінавалі лозунгі сацыяльнага (паляпшэнне дабрабыту і асветы сялян) і рэлігійна-маральнага характару (рэлігійнае выхаванне і

[109] Журкоўскі П. Разнагалосьсе і разыходжаньне // Беларускае Слова. 1931. № 1. С. 1.
[110] Мы пачынаем // Беларускае Слова. 1931. № 1. С. 1.
[111] Чаму мы ідзём з Латгальскай Хрысьціянска-Сялянскай партыяй // Беларускае Слова. 1931. № 1. С. 2.
[112] Беларусы! // Беларускае Слова. 1931. № 1. С. 1.

абарона ад бязбожніцтва)[113]. Крытыкавалася палітыка сацыял-дэмакратаў і прагрэсістаў, якім закідваліся "антыкаталіцкасць" і "бязбожніцтва"[114]. Большасць агітацыйнага матэрыялу на старонках "Беларускага Слова" друкавалася на рускай мове, а яго адрасатамі былі "сяляне-каталікі"[115].

Адносіны паміж БДПЛ і групай П. Журкоўскага не былі партнёрскімі. Дзеячы Беларускай дэмакратычнай партыі Латвіі небеспадстаўна называлі акцыю П. Журкоўскага "мыльнай бурбалкай", створанай на патрэбы перадвыбарчай агітацыі. Сахараў лічыў, што беларусы павінны гуртавацца вакол уласных арганізацый, а не выступаць "пад чужымі сцягамі"[116].

3 і 4 кастрычніка 1931 г. адбыліся выбары Сойма IV склікання (1931–1934). Не прынеслі яны чаканых вынікаў ніводнай беларускай палітычнай групоўцы. Аналіз вынікаў выбараў дазваляе зрабіць выснову, што як і ў час папярэдніх выбараў беларускамоўныя жыхары правінцыі ў асноўным аддалі свае галасы агульналатвійскім і латгальскім групоўкам, а часткова рускім і польскім кандыдатам. Літоўска-беларускі спіс у Земгаліі здолеў атрымаць толькі 3105 галасоў, таму не правёў у Сойм ніводнага дэпутата. Выбары прадвызначылі далейшы лёс БДПЛ. Няўдалая спроба правесці свайго прадстаўніка ў Сойм азначала адсутнасць перспектыў на шырокую партыйную дзейнасць у будучыні. Больш за тое, партыя не выйшла за межы арганізацыйнай стадыі, а не маючы дастатковай колькасці грашовых сродкаў, не магла разгарнуць паўнавартаснай дзейнасці. З прычыны матэрыяльных цяжкасцяў партыйны орган "Думка Беларуса" таксама не меў доўгага жыцця. Яшчэ перад выбарамі, 26 верасня 1931 г., выйшаў апошні нумар газеты. Паразай скончылася таксама спроба

[113] Католики! Голосуйте за № 9 // Беларускае Слова. 1931. № 1. С. 3–4.

[114] Пастор А. Как прогрессисты обманывают народ // Беларускае Слова. 1931. № 2. С. 1–2.

[115] Журковский П. Все Крестьяне-Католики // Беларускае Слова. 1931. № 2. С. 1.

[116] Дземенскі. Думкі беларуса аб новай беларускай часопісі // Думка Беларуса. 1931. № 4. С. 3–4.

П. Журкоўскага дасягнуць беларускай выбарчай карысці пры дапамозе латгальскіх хадэкаў. Трэба адзначыць, што ім удалося атрымаць найбольшую колькасць галасоў у Латгаліі (67 413), і гэта дало восем месцаў у Сойме[117]. Але беларус не трапіў у іх лік. Існаванне беларускай секцыі аказалася з'явай часовай. Амаль адразу пасля выбараў гэтая група знікла з палітычнага далягляду.

Тыя, хто ў 1931 г. удзельнічаў у выбарах у латвійскі Сойм, тады яшчэ не ведалі, што робяць гэта апошні раз. Наступныя парламенцкія выбары павінны былі прайсці ў кастрычніку 1934 г. Аднак гісторыяй было наканавана ім не адбыцца. У траўні 1934 г. у Латвіі быў здзейснены дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўсталяваўся аўтарытарны рэжым на чале з Карлісам Ульманісам. Парламент быў расфармаваны, а дзейнасць дэмакратычнай канстытуцыі і палітычных партый спынена. У змене палітычнага ладу краіны змоўшчыкі бачылі сродак вырашэння палітычнага і эканамічнага крызісу. Такім чынам, у гісторыі латвійскай дзяржавы скончыўся перыяд парламенцкай дэмакратыі.

Падсумоўваючы ўдзел беларусаў у выбарах у Сойм Латвіі, можна зрабіць пэўныя высновы. Удзел у змаганні за дэпутацкія мандаты быў неад'емнай часткай грамадска-палітычнай дзейнасці беларускага актыву ў латвійскай дзяржаве. Лідары мясцовага беларускага руху добра ўсведамлялі факт, што толькі дэпутат-беларус можа паспяхова абараняць нацыянальна-культурныя і эканамічныя інтарэсы беларускай меншасці. Характэрнай рысай беларускай палітычнай сцэны ў міжваеннай Латвійскай рэспубліцы была левая арыентацыя. Гэта не павінна здзіўляць, калі ўзяць пад увагу як сацыяльна-эканамічнае становішча беларускага насельніцтва, так і ўнутрана- (правы сектар латвійскай палітычнай сцэны не быў схільны да супрацоўніцтва з беларусамі) і знешнепалітычны (існаванне БССР) фактары. Больш за тое, стрыжань мясцовага беларускага актыву складалі даўнія прыхільнікі

[117] Latvijas Republikas Saeimas vēlēšanas 1931 gadā, tekst un redakcija M. Skujenieka. Rīgā, 1933. S. 18–19.

сацыялістычнага руху. Гэтая акалічнасць давала ўладам Савецкай Беларусі магчымасць умяшання ў справы беларускага руху з мэтай падначалення яго савецкім інтарэсам, а таксама выкарыстання некаторых яго дзеячоў у змаганні з латвійскай дзяржавай. Яскравы прыклад – выпадак К. Езавітава, які не прынёс, аднак, савецкаму боку пажаданых вынікаў.

Нягледзячы на намаганні ў 1922 і 1925 г. у латвійскіх беларусаў не атрымалася самастойна правесці ў Сойм свайго рэпрэзентанта. Паразы беларускіх спісаў у выбарах давалі нагоду нядобразычліўцам беларускага руху ў Латвіі казаць пра тое, што мясцовыя беларусы – гэта “штучная з’ява”. У параўнанні з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў беларусы былі значна горш арганізаваны і пазбаўлены знешняй падтрымкі. Беларускія актывісты валодалі вельмі сціплымі матэрыяльнымі сродкамі, каб самастойна весці актыўную палітычную кампанію і эфектыўна канкураваць з непараўнальна больш заможнымі і лепш арганізаванымі як агульналатвійскімі, так і нацыянальнымі (латгальскімі, рускімі і польскімі) сіламі. Аднак найважнейшая прычына выбарчых паразаў беларусаў вынікала з “няспеласці” патэнцыйнага электарату. Адрасатамі нацыянальна-культурнай і палітычнай агітацыі беларускіх дзеячоў у Латвіі былі малаадукаваныя і незаможныя сяляне, нацыянальная самасвядомасць якіх яшчэ знаходзілася ў стадыі фармавання. Беларускамоўная латгальская вёска ў сваёй масе была глухой да нацыянальных лозунгаў і пад час выбараў не ідэнтыфікавалася з дэпутатамі толькі таму, што яны пазіцыянавалі сябе як беларусы. У дадзенай сітуацыі беларускія палітыкі маглі трапіць у Сойм, дзейнічаючы ў саюзе з агульналатвійскімі сіламі, якімі маглі быць левыя партыі. Аднак і яны, ведаючы нязначны палітычны патэнцыял беларускага актыву, нярэдка разглядалі яго інструментальна. Нягледзячы на гэта, тактыка кааперацыі з латвійскімі палітыкамі ўсё ж прынесла пэўныя вынікі. Плёнам супрацоўніцтва з ЛСДРП быў факт, што дзякуючы галасам прыхільнікаў гэтай партыі ў Сойм трапіў У. Пігулеўскі, які быў адзіным беларусам у міжваенным латвійскім парламенце.

# Participation of Belarusians in the elections to the Latvian parliament (1922–1931)

**Jerzy Grzybowski**

Latvia in the interwar period was a multinational state. Belarusians belonged to the most numerous national groups. They lived in Latgale. Latvia was one of the main centers of the Belarusian national life. Until 1934, Latvia had a democratic constitution. The state respected the rights of national minorities. In this country, the Belarusians had their own schools, organizations and the press.

Belarusians were also engaged in politics. Belarusian politicians had socialist beliefs. Many of them sympathized with the USSR. This country used some Belarussians to fight against the Latvian state.

The article analyzes the participation of Belarusians in the elections to the Latvian parliament. Belarusian candidates wanted to get into parliament to protect the interests of their nation. Belarusian candidates had to contend with other candidates (Latvians, Russians, Poles) who were better organized. However, the election campaign ended in defeat. The main reason for this was that the Belarusian population did not identify itself with the Belarusian national slogans. That is why Belarusian politicians had to cooperate with Latvian political parties (socialist). As a result, they managed to introduce one deputy to the parliament with the help of the Latvian Social Democrats. This was a relative success that could not satisfy the needs of Belarusians in Latvia.

# Гісторыя літоўска-навасільскіх дагавораў 1427–1491 гадоў і літоўска-варатынскія граматы 1483 і 1488 гадоў*

**Раман Бяспалаў, Сяргей Палехаў**

*Памяці нашага сябра*
*Віктара Цемушава (1975–2011)*

У гістарыяграфіі дагаворы (даканчанні) вялікіх літоўскіх князёў з прадстаўнікамі навасільскага княскага дому (князямі адоеўскімі, бялёўскімі і варатынскімі) вядомыя даўно. Чатыры граматы 1447 (1442?)[1], 1448 і 1459 г. захаваліся ў складзе пятай кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ у асаблівым

* Праца была напісана ў канцы 2015 г. і здадзена ў друк у зборнік артыкулаў памяці В. Цемушава. Матэрыялы зборніка апынуліся ў маскоўскім выдавецтве "Квадрыга". Выхад гэтага зборніка затрымліваецца, таму аўтары вырашылі апублікаваць яе пераклад з неабходнымі дапаўненнямі ў БГА, улічваючы шырокую цікавасць калег да тэмы артыкула і напрацоўкі беларускіх навукоўцаў па праблемах гісторыі Навасільска-Адоеўскага княства, дакументальнага пісьменства ВКЛ і гісторыі яго архіваў.

1 Гэтая грамата датавана: «А писано в Троцехъ, по*д* леты Рожества Хр(и)*с*(то)ва 1447, м(е)*с*(я)ца фе*в*(раля) 20 день, инъди*к* 5». Указаныя тут год і індыкт не адпавядаюць адзін аднаму. У гістарыяграфіі грамата часцей датавалася 1442-м годам (адпаведна 5 индыкту). Цяпер палеаграфічныя назіранні за памылкамі пісараў пры капіяванні дат, а таксама звесткі пасольскіх кніг канца XV ст. пра службу князя Фёдара Варатынскага ў часы Казіміра Ягелона і Васіля II схіляюць Р. Бяспалава датаваць грамату 20-м лютага 1447 г., індыкт 10, чаму плануецца прысвяціць асобнае даследаванне.

комплексе з 15 дагаворных грамат, сярод дагавораў вялікіх князёў літоўскіх з Ноўгарадам, Псковам, малдаўскімі ваяводамі, вялікімі князямі маскоўскімі і цвярскімі пад не зусім дакладным загалоўкам: “Здесь писаны старые доко*н*чанья Казимера короля, коли еще бы*л* великимъ кн(я)земъ”[2].

Пра існаванне згаданых літоўска-навасільскіх грамат у сярэдзіне XVIII – пачатку XIX ст. ведалі асобы, якія працавалі з дакументамі архіваў Рэчы Паспалітай, а пасля – Расійскай імперыі. Пасля таго як у сярэдзіне 1740-х г. кнігі метрыкі ВКЛ былі перавезены з Вільні ў Варшаву, у 1746 г. з літоўска-навасільскімі граматамі маглі пазнаёміцца складальнікі рэестра актаў пятай кнігі запісаў Літоўскай метрыкі[3]. Потым іх чыталі асобы, якія капіявалі гэтую кнігу ў польскай транслітарацыі ў 1770-я г.[4]. Таксама гэтымі дакументамі карыстаўся А. Нарушэвіч, пад кіраўніцтвам якога ў канцы XVIII ст. шэраг літоўска-навасільскіх грамат быў перакладзены на лацінскую мову[5]. У канцы XVIII ст. арыгінальныя кнігі

[2] LM. Kn. 5. 1993. P. 244–259; LM. Kn. 5. 2012. P. 350–364. Сучаснае месца захоўвання (рукапіс канца XVI ст.): РГАДА. Ф. 389, оп. 1, ед. хр. 5, л. 298об.–300об., 304об.–305. Падрабязней пра зборнік дагавораў у складзе 5-й кнігі запісаў Літоўскай метрыкі гл.: Бережков Н. Г. Литовская метрика как исторический источник. Ч. 1: О первоначальном составе книг Литовской метрики по 1522 год. Москва – Ленинград, 1946. С. 94–95; LM. Kn. 5. 1993. P. 25–26 (уводзіны Э. Банёніса да падрыхтаванай ім публікацыі другой паловы кнігі).

[3] У Варшаве да 1747 г. Я. Храпавіцкім і Я. Шадурскім быў складзены вопіс кніг Літоўскай метрыкі (загінуў у 1944 г.). У канцы XVIII ст. пад час пераплёту пятай кнігі запісаў Літоўскай метрыкі (XVI ст.) да яе пачатку было падкладзена некалькі аркушаў, на якіх быў напісаны рэестр яе актаў, складзены яшчэ ў 1746 г., можа быць, тымі самымі архівістамі. У тым ліку ў ім былі згаданы літоўска-навасільскія граматы 1447 (1442?), 1448 і 1459 г. (Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej // Archeion. T. 8. Warszawa, 1930. S. 31–32; LM. Kn. 5. 1993. P. 6, 26–27; LM. Kn. 5. 2012. P. 35–36).

[4] Цяпер захоўваецца ў AGAD. Metryka Litewska. Transkrypcje. Ks. 192. Акты, якія нас цікавяць, напісаны на с. 507–509, 515–516.

[5] У лацінскім перакладзе граматы 1447 (1442?) г. ёсць падзагаловак, якога не было ў арыгінале граматы: ён упершыню з’явіўся толькі ў пятай кнізе запісаў Літоўскай метрыкі ў канцы XVI в.

Літоўскай метрыкі былі перавезены ў Санкт-Пецярбург, дзе трапілі ў Імператарскі кабінет і надоўга сталі недаступнымі для шырокага кола даследчыкаў. Варшаўскія кнігі-копіі XVIII ст. апынуліся ў Берліне, але ў пачатку XIX ст. былі вернуты ў Польшчу[6]. У 1821–1822 г. К. Бусэ зрабіў з іх спісы вялікага корпуса актаў для калекцыі графа М. Румянцава. У новай копіі змяшчаліся і літоўска-навасільскія граматы, якія нас цікавяць[7].

Не ўсе літоўска-навасільскія граматы, якія існавалі да канца праўлення Казіміра IV, увайшлі ў склад Літоўскай метрыкі. Некаторыя з іх у XVII ст. з архіва вялікіх князёў

Гэтыя абставіны дазваляюць надзейна вызначыць, што лацінскія пераклады рабіліся менавіта з Літоўскай метрыкі. Таксама можна заўважыць, што ў кнізе-копіі XVI ст. у паручальнай грамаце князя Фёдара Львовіча 1448 г. яго зяць князь Іван Андрэевіч Мажайскі спачатку памылкова названы Андрэем Іванавічам. Але ў лацінскім перакладзе і ў публікацыі П. Муханава гэтай памылкі няма. Відаць, яна была выпраўлена пры складанні варшаўскай копіі Літоўскай метрыкі XVIII ст., якой карыстаўся П. Муханаў. Значыць, якраз варшаўская копія Літоўскай метрыкі была выкарыстана і А. Нарушэвічам, які з 1781 г. узначальваў групу перапісчыкаў тэкстаў архіўных дакументаў, занятую пошукам і капіяваннем гістарычных крыніц для складання "Гісторыі польскага народа" (LM. Kn. 5. 1993. P. 10, 332). У сувязі з гэтым можна думаць, што і пераклады на латынь грамат князя Фёдара Львовіча, якія нас цікавяць, былі зроблены ў канцы XVIII ст., прычым не з рукапісу пятай кнігі запісаў Літоўскай метрыкі XVI ст., а з яе варшаўскай копіі XVIII ст. У такім выглядзе яны і трапілі ў так званыя "тэкі" (папкі) Нарушэвіча (Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie. Rkps 18: Teki Naruszewicza, t. 18, nr 30, s. 133–134; nr 51, s. 215–216). У адной з папак Нарушэвіча грамата 1447 (1442?) г. захавалася як на старабеларускай мове ў польскай транслітарацыі, так і ў перакладзе на латынь: Katalog rękopisów Biblioteki Zakładu Nar. im. Ossolińskich. T. 1. Lwów, 1881. S. 324. Цяперашняе месца захавання: Львівська національна наукова бібліотека України ім. В. Стефаника. Ф. 5, оп. 1, спр. 171, л. 1–2 об.).

6 LM. Kn. 5. 1993. P. 6–7, 10; Сборник Муханова. Москва, 1836. Примечания. С. XXVI.

7 Описание русских и славянских рукописей Румянцевского музеума, составленное Александром Востоковым. С.-Петербург, 1842. С. 135, 136. Сучаснае месца захоўвання: ОР РГБ. Ф. 256, ед. хр. 74, ч. 3, л. 65–74.

літоўскіх трапілі ў архіў князёў Радзівілаў, а потым былі згаданы ў яго вопісах канца XVII – XVIII ст.[8]. Літоўска-навасільскія граматы апынуліся не толькі ў літоўскіх і польскіх, але і ў расійскіх архівах. Так, на мяжы XVIII–XIX ст. па матэрыялах, што захоўваліся ў Маскоўскім архіве Калегіі замежных спраў, з падобнымі дакументамі быў знаёмы М. Бантыш-Каменскі. У 1801 г. ён апісаў цікавы нам літоўска-варатынскі дагавор 1483 г., а ў 1813 г. паўтарыў гэтае апісанне[9]. Дагавор 1483 г. меркавалася выдаць у другой частцы "Збору дзяржаўных грамат і дагавораў". З гэтай мэтай па просьбе графа М. Румянцава ў 1815 г. А. Маліноўскі пасылаў яму арыгінал граматы, аднак у лік публікаваных актаў яна не была ўключана і ў 1817 г. вернута назад[10].

8 Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy // Archeion. T. 9. Warszawa, 1931. S. 6; Rowell S. C. Išdavystė ar paprasti nesutarimai? Kazimieras Jogailaitis ir Lietuvos diduomenė 1440–1481 metais // Lietuvos valstybė XII–XVIII a. Vilnius, 1997. P. 72; Латушкін А. М. Рэестр дзяржаўнага архіва Вялікага Княства Літоўскага ад 26 лістапада 1623 г. і яго значэнне для рэканструкцыі складу комплексу арыгіналаў актаў канца XIV – пачатку XVII ст. // Беларускі археаграфічны штогоднік (далей – БАШ). Вып. 18. Мінск, 2017. С. 262, № 74, 75; Латушкін А. М. Аб гісторыі ўключэння грамат і актаў дзяржаўнага архіва Вялікага Княства Літоўскага ў склад архіва Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў у другой палове XVII ст. // БАШ. Вып. 16. Мінск, 2015. С. 306, № 34; Латушкін А. М. Акты XV ст. з дзяржаўнага архіва Вялікага княства Літоўскага ў калекцыі расійскага археографа П. А. Муханава (1797–1871) // БАШ. Вып. 18. Мінск, 2017. С. 116; Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie. Rkps 817. S. 207. Выказваем шчырую ўдзячнасць А. Латушкіну і Д. Лісейчыкаву за дапамогу з найноўшымі працамі па гісторыі дзяржаўнага архіва ВКЛ.

9 РГАДА. Ф. 79, оп. 3, л. 2; ОР РГБ. Ф. 68 (Генеральны штаб), ед. хр. 301, л. 2об. Таксама М. Бантышу-Каменскому было вядома пра дагаворныя адносіны Казіміра IV з князямі навасільскага дому з пасольскіх кніг маскоўска-літоўскіх дыпламатычных зносін (Бантыш-Каменский Н. Н. Переписка между Россиею и Польшею по 1700 год, составленная по дипломатическим бумагам, управлявшим московским архивом коллегии иностранных дел Н. Н. Бантыш-Каменским. Ч. 1: 1487–1584. Москва, 1862. С. 7, 12).

10 СГГД. Ч. 5. Москва, 1894. С. XIX.

У 30-я гады XIX ст. П. Муханаў, які служыў у Царстве Польскім, выпісаў з варшаўскай копіі Літоўскай метрыкі канца XVIII ст. значную колькасць актаў. У 1836 г. выйшаў яго “Зборнік”, дзе ўпершыню былі апублікаваны (у адваротнай кірылічнай транслітарацыі) два “листа перемирных” 1447 (1442?) і 1459 г. князёў навасільскага дому з вялікім князем літоўскім Казімірам, а таксама прысяжны “запіс” князя Фёдара Варатынскага аб трыманні ім горада Казельска ў намесніцтве і яго ж паручны “запіс” за свайго зяця князя Івана Мажайскага 1448 г.[11]. У 1846 г. протаіерэй І. Грыгаровіч выдаў тыя ж акты па спісе канца XVI ст. і дадаў да іх публікацыю літоўска-варатынскага дагавора 1483 г. са збору Маскоўскага галоўнага архіва Міністэрства замежных спраў[12].

Згаданыя граматы не раз перавыдаваліся. У 1847–1848 г. дагавор 1447 (1442?) г. і прысяжная грамата 1448 г. былі надрукаваны М. Маліноўскім у перакладзе на польскую мову (па выданні І. Грыгаровіча)[13]. У 1866 г. граматы 1447 (1442?), 1448, 1459 г. выйшлі ў другім выданні “Зборніка” П. Муханава[14]. Лацінскія пераклады грамат 1447 (1442?) і 1448 г. са збору А. Нарушэвіча былі выдадзены ў 1876 г. пад рэдакцыяй Ю. Шуйскага[15]. Потым у 1950 г. па спісе канца XVI ст. граматы 1447 (1442?), 1448 і 1459 г. выдаваліся Л. Чарапніным у “Духоўных

[11] Сборник Муханова. Москва, 1836. № 4–6 . С. 4–6; № 9. С. 11–12.

[12] АЗР. Т. 1. № 41. С. 55–56; № 48. С. 61; № 49. С. 61–62; № 63. С. 77–78. № 80. С. 100–101. На паседжанні імператарскай Археаграфічнай камісіі 18 верасня 1839 г. прат. І. І. Грыгаровіч спецыяльна адзначыў грамату 1483 г. у ліку найбольш цікавых «актаў літоўска-польскіх» Маскоўскага галоўнага архіва Міністэрства замежных спраў, атрыманых ад кіраўніка архіва князя М. А. Абаленскага (Протоколы заседаний Археографической комиссии. Вып. 1: 1835–1840 г. С.-Петербург, 1885. С. 488–489).

[13] Wapowski B. Dzieje Korony Polskiéj i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535 / przetł. M. Malinowski. Wilno, 1847. T. 2. S. 490–492; Wilno, 1848. T. 3. S. 50–51.

[14] Сборник Муханова. Изд. 2-е. Москва, 1866. № 4–6. С. 4–6; № 9. С. 11–12.

[15] CESXV. T. 1. Pr. 2. № 8. S. 13–14; № 27. S. 35; № 28. S. 35–36.

і дагаворных граматах”[16]. Адтуль у 1997 і 2005 г. яны былі перадрукаваны А. Цапковым[17]. У складзе пятай кнігі запісаў Літоўскай метрыкі (па спісе канца XVI ст.) яны выдаваліся ў 1993 г. Э. Банёнісам[18], а потым у 2012 г. А. Балюлісам, А. Дубонісам і Д. Антанавічусам[19]. Граматы з упамінаннем пра варатынскіх князёў (1448 і 1483 г.) у сярэдзіне XX ст. былі выпісаны з выдання І. Грыгаровіча варатынскім па паходжанні краязнаўцам А. Баталіным, а пасля яго смерці (1965 г.) у такім выглядзе апублікаваны ў 1995 г.[20].

У публікацыі 1931 г. Я. Якубоўскі ўказаў яшчэ на адзін літоўска-навасільскі дагавор, які раней захоўваўся ў Нясвіжскім архіве князёў Радзівілаў (цяпер захоўваецца ў Галоўным архіве старадаўніх актаў (AGAD) у Варшаве), аднак няправільна назваў яго дату 26.01.1485 г.[21] замест правільнай – 26.01.1481 г. Пра яго таксама было паведамлена ў даведніку AGAD 1975 г. пад рэдакцыяй Я. Карвасіньскай[22]. Доўгі час шырокаму колу чытачоў ён не быў вядомы. Аднак у 2008–2010 г. на яго звярнулі ўвагу адразу некалькі беларускіх і расійскіх даследчыкаў. У ліпені 2008 г. з дагаворам у AGAD працаваў А. Ліцкевіч

16 ДДГ. № 39. С. 117–118; № 49. С. 149; № 50. С. 149–150; № 60. С. 192–193.

17 Писцовые книги Рязанского края XVI–XVII вв. Т. 1. Вып. 2. Русские грамоты / подг. А. И. Цепков. [Рязань, 1997]. № 101–104. С. 639–643; Свод письменных источников по истории Рязанского края XIV–XVII вв. Т. 1. Рязань, 2005. № 20. С. 170–172; № 28. С. 222–224.

18 LM. Kn. 5. 1993. № 130. P. 247–248; № 131. P. 248; № 132. P. 248–249; № 137. P. 254–255.

19 LM. Kn. 5. 2012. № 535. P. 352–353; № 536. P. 353–354; № 537. P. 354; № 542. P. 359–360.

20 Баталин А. М. Город Воротынск и князья Воротынские в истории России. Калуга, 1995. С. 24–26, 66–67.

21 Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy. S. 6, 15; Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie. Rkps. 817. S. 207.

22 Archiwum główne akt dawnych w Warszawie. Przewodnik po zespołach. I. Archiwa dawnej Rzeczypospolitej / opac. zbior. pod red. J. Karwasińskiej. Warszawa, 1975. S. 50.

і прывёў звесткі пра яго ў публікацыі 2009 г.[23]. Незалежна ад яго ў артыкуле, напісаным у траўні 2009 г., здадзеным у друк у траўні 2010 г. і апублікаваным у канцы таго ж года, Р. Бяспалаў заўважыў, што звесткі пасольскіх кніг маскоўска-літоўскіх дыпламатычных зносін паказваюць на існаванне гэтага дагавора[24]. У ліпені 2010 г. пра яго выяўленне ў AGAD Р. Бяспалаву паведаміў А. Казакоў, які неўзабаве і апублікаваў яго[25]. У канцы 2009 г. у AGAD з ім таксама працаваў С. Палехаў. Калі артыкул А. Казакова ўжо быў гатовы да друку, 8 лістапада 2010 г. А. Ліцкевіч апублікаваў гэтую грамату на сваім сайце ў сетцы інтэрнэт[26].

У выніку нават дагавор 1481 г. вытрымаў дзве публікацыі (адну друкаваную і адну электронную)[27]. Адзін раз апублікаваным паводле арыгіналу літоўска-навасільскім дагаворам застаецца толькі грамата 1483 г. Да цяперашняга часу публікацыя І. Грыгаровіча ўжо састарэла і не адпавядае патрабаванням сучаснай археаграфіі. Передрук выпіскі А. Баталіна з выдання І. Грыгаровіча наўрад ці можна назваць навуковай публікацыяй. Усё

[23] Ліцкевіч А. У. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum głównego akt dawnych у Варшаве // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мінск, 2009. Вып. 11. С. 7.

[24] Беспалов Р. А. К вопросу о терминах “верховские князья” и “Верховские княжества” // Проблемы славяноведения: сб. научных статей и материалов. Брянск, 2010. Вып. 12. С. 34. На той момант Р. А. Бяспалавым не ўлічвалася магчымасць існавання яшчэ аднаго літоўска-адоеўскага дагавора, які мог быць заключаны ў 1491 г.

[25] Казакоў А. У. Невядомае даканчанне караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра і князя Навасільскага і Адоеўскага Міхаіла Іванавіча 1481 г. // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы. Мінск, 2010. Вып. 3. С. 291–300; AGAD. Zbiór dokumentów pergaminowych. № 7364.

[26] Гісторыя Беларусі IX–XVIII стагоддзяў. Першакрыніцы. [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://starbel.by/dok/d127.htm (спасылка праверана 20.10.2018 г.).

[27] Публікацыя А. Ліцкевіча выканана паводле мікрафільма. Апошні радок граматы быў часткова закрыты пергаменам. А. Казакоў і С. Палехаў працавалі з арыгіналам.

гэта сведчыць пра неабходнасць новага выдання граматы 1483 г.

Літоўска-навасільскія дагаворы 1427–1491 г. складзены ў адным фармуляры і цесна звязаны паміж сабой. Яны падзяляюцца на дзве галіны: літоўска-адоеўскую і літоўска-варатынскую, пра якія мы скажам далей. З літоўска-варатынскімі граматамі звязаны прысяжныя граматы варатынскіх князёў Казіміру IV аб трыманні імі горада Казельск у намесніцтве. Акрамя граматы 1448 г. існуе яе аналаг 1488 г. Доўгі час грамата 1488 г. была вядомая толькі па апісаннях архіўных сховішчаў[28]. На жаль, Э. Банёніс, які працаваў з арыгіналам гэтай граматы, не паведаміў пра яе ў сваіх публікацыях. Нядаўна С. Палехаву ўдалося вывучыць арыгінал дакумента ў фондзе грамат П. Муханова, на які яго ўвагу ветліва звярнуў А. Кузьмін (яму аўтары гэтых радкоў выказваюць шчырую падзяку)[29]. Дзякуючы гэтаму з’явілася магчымасць нарэшце апублікаваць грамату.

Для таго каб лепш разумець гісторыю літоўска-варатынскіх грамат 1483 і 1488 г., коратка разгледзім гісторыю ўсяго комплексу згаданых літоўска-навасільскіх грамат.

## Дагаворныя і прысяжныя граматы у літоўска-навасільскіх адносінах 1427–1493 г.

Яшчэ ў маскоўска-разанскім даканчанні 1402 г. абвяшчалася, што навасільскі князь – “адзін чалавек” з вялікім князем маскоўскім Васілём I, гэта значыць

[28] Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy. S. 6, 8–9, 17; Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie. Rkps 817. S. 207; Отчет Московского Публичного и Румянцевского музеев за 1866 год. Москва, 1898. С. 58; Кузьмин А. В. Архивные материалы и рукописные книги XIII–XX вв. Отдела рукописей РГБ по истории и культуре Белоруссии (предварительный обзор) // Грани русского Средневековья: сб. статей к 90-летию со дня рождения Юрия Георгиевича Алексеева. Москва, 2016. С. 112.

[29] ОР РГБ. Ф. 191 (П. А. Муханов), ед. хр. 102.

яго саюзнік[30]. Таксама 1 студзеня 1425 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт пісаў вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна Паўлю фон Русдорфу, што "князь Адоева – гэта чалавек вялікага князя маскоўскага"[31]. Сітуацыя змянілася пасля смерці Васіля I († 27 лютага 1425 г.). У канцы ліпеня – пачатку жніўня 1427 г., калі Вітаўт ехаў праз Навасільска-Адоеўскую зямлю, князі навасільскага дому прысягнулі яму ў вернасці і заключылі з ім дагавор аб сваёй службе Літве[32]. З боку навасільскіх князёў быў заключаны адзін калектыўны дагавор. На чале іх стаяў вялікі князь Юрый Рамановіч Навасільскі і Адоеўскі, з ім былі яго сыны (Іван і Сямён), варатынскія пляменнікі (Васіль і Фёдар Львовічы), а таксама, верагодна, бялёўскія ўнучатыя пляменнікі (Фёдар і Васіль Міхайлавічы)[33].

Навасільскія князі служылі Літве са сваёй спрадвечнай вотчынай Навасільска-Адоеўскай зямлёй, якая павінна была захавацца за імі і ў выпадку скасавання дагавора. Напэўна, яшчэ ў літоўска-навасільскім дагаворы 1427 г. змяшчаўся артыкул аб магчымасці яго падаўжэння пасля смерці контрагентаў. У гэтай сувязі ўсе наступныя літоўска-навасільскія дагаворы заключаліся па "Вітаўтавым даканчанні".

[30] ДДГ. №19. С. 53–54; Трактоўку тэрміна "*один человек*" гл.: Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам. Т. 2. С.-Петербург, 1902. Стб. 617–618; СРЯ. Вып. 12. Москва, 1987. С. 283.

[31] У арыгінале: "herczog von Odoiow ist des grosfurstes von Moskouwen man" (CEV. № 1181. S. 688). У сувязі з гэтым можна прыгадаць і рускі тэрмін "*один человек*", і цырымонію амажу, у час якой васал даваў абяцанне быць "чалавекам" сеньёра. Можна таксама зазначыць, што ва ўмовах стабілізацыі тытула вялікага князя літоўскага, у тым ліку ў яго нямецкай форме "grosfurste von Littouwen", якая адбылася якраз пры Вітаўту, тытул "herczog" стаў азначаць кіраўніка яўна больш нізкага рангу.

[32] CEV. №1298. S. 779.

[33] Беспалов Р. А. Реконструкция докончания Витовта с князьями новосильского дома 1427 года // Очерки феодальной России. Вып. 18. Москва – С.-Петербург, 2015. С. 12–19.

Фармуляр літоўска-навасільскіх дагавораў быў падрабязна разгледжаны Р. Бяспалавым раней[34]. Яны ўяўлялі сабой прысяжна-дагаворныя граматы тэрытарыяльна "суверэнных"[35] навасільскіх князёў, якія мелі спрадвечную родавую вотчыну, захоўвалі самастойныя адносіны з Ардой, але пры гэтым ішлі на службу да больш моцнага князя-сюзерэна. Дагаворы насілі двухбаковы характар, пры іх заключэнні складаліся дзве аналагічныя граматы: адна з боку навасільскіх князёў і адна з боку іх сюзерэна. Абодва бакі (контрагенты) здзяйснялі працэдуру хроснага цалавання "на том на всем" і абавязваліся выконваць умовы дагавора.

Пасля смерці Вітаўта князі навасільскага дому прысягнулі на вернасць вялікаму князю літоўскаму Свідрыгайлу, які ў сваім лісце ад 22 чэрвеня 1432 г. паведамляў вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна: "...мы не хочам хаваць, што вялікія князі адоеўскія, браты, учора прыбылі да нас з рознымі дарамі, жадаючы і асабліва настойліва просячы, каб мы зрабілі ласку быць ім літасцівым гаспадаром і заступнікам, пад прысягай кляліся служыць нам вечна"[36]. Трактоўка гэтай звесткі ўскладнена тым,

[34] Беспалов Р. А. Реконструкция докончания Витовта с князьями новосильского дома 1427 года. С. 12–48.

[35] Тэрмін "суверэнны" тут выкарыстоўваецца ўмоўна, бо ён сам узнік толькі ў XVI ст. Падрабязней гл.: Михайлова Ю. А. О некоторых направлениях в современной медиевистике и их значимости для изучения Древней Руси // Средневековая Русь. Вып. 12. Москва, 2016.

[36] "…wir nicht vorbergen wellen, das die grosfurste von Odoyow gebrudere seynt no gestern czu uns komen mit manchfeldigen goben, begerende und sundirlich bethende, das wir ir genediger herre und beschirmer sein gerucheten, bey dem eyde globinde, uns czu dinen czu ewigen czeithen" (GStAPK, OBA 6138). Ліст датаваны: "am sontag infra octavas Corporis Christi, anno Domini etc. tricesimo secundo" – "у нядзелю тыдня [свята] Цела Хрыстовага, у год [ад Нараджэння] Божага і інш. трыццаць другі". У публікацыі твора А. Кацэбу на нямецкай мове князі, якія прысягнулі Свідрыгайлу, названы: "die Grosfürste von Odoyow, Gebrüdere", і гэта даволі дакладная цытата з арыгінала. Пры падрыхтоўцы ж рускамоўнага выдання калежскі асэсар Несцяровіч пераклаў па-іншаму: "великие князья Одоевския, родные братья", што істотна змяняе арыгінал (Kotzebue A. Switrigail.

што да таго часу тытул "адоеўскі" яшчэ не ператварыўся ў прозвішча і належаў не толькі нашчадкам князя Юрыя Рамановіча. З запусценнем Навасіля, да пачатку XV ст., Адоеў стаў новай сталіцай. У Цвярскім зборніку пад 1407 г. Адоеў згаданы як горад "Навасільскай зямлі"[37]. У крыніцах пад 1424 г. Юрый Раманавіч названы "адоеўскім князем"[38]. У лісце ж Вітаўта ад 14 жніўня 1427 г. – "вялікім князем навасільскім" з "Адоеўскай зямлі"[39]. Так два першапачаткова розныя геаграфічныя тэрміны ў шэрагу выпадкаў сталі падмяняць адзін аднаго ў якасці сінонімаў, але разам з тым ператварыліся ў адну складана-састаўную назву: "Навасільская і Адоеўская зямля". Тая ж метамарфоза адлюстравалася і ў тытулах мясцовых князёў. У гэтай сувязі імя "адоеўскіх", як і імя "навасільскіх", магло выкарыстоўвацца ў якасці агульнага родавага тытула, што абазначаў сукупнасць удзельных князёў адоеўскіх, варатынскіх і бялёўскіх. Таксама гэтыя князі сталі насіць складана-састаўныя тытулы, у якіх адбівалася права на агульную родавую маёмасць у складзе Навасільскай і Адоеўскай зямлі і права на ўласны надзел. Так, вотчыннік Варатынска князь Леў Раманавіч з крыніц вядомы пад тытулам "навасільскага"[40]; яго сын князь Фёдар Львовіч – пад тытуламі "навасільскага

Ein Beytrag zu den Geschichten von Litthauen, Rußland, Polen, Preussen. Leipzig, 1820. S. 75; Коцебу А. Свитригайло, великий князь Литовский, или дополнение к историям Литовской, Российской, Польской и Прусской. С.-Петербург, 1835. С. 127). Нядаўна тэкст ліста быў апублікаваны, але са шматлікімі недакладнасцямі: Cimpeanu L. Anul 1432: începutul conflictului dintre Ilie vodă şi Ştefan vodă, fiii lui Alexandru cel Bun. Documente inedite din arhiva Ordinului Teuton // Studii şi Materiale de Istorie Medie. Vol. XXXIII. București, 2015. P. 174–176.

37 ПСРЛ. Т. 15. Москва, 2000. Стб. 477; ПСРЛ. Т. 25. Москва, 2004. С. 236.

38 CEV. № 1181. S. 688; ПСРЛ. Т. 27. Москва, 2007. С. 100.

39 CEV. № 1298. S. 779.

40 Филарет, архиепископ. Историко-статистическое описание Черниговской епархии. Кн. 5. Чернигов, 1874. С. 44; Поменник Введенської церкви в Ближних Печерах Киево-Печерської Лаври / упор. та вступ. стаття Олексія Кузьмука // Лаврський альманах. Київ, 2007. Вип. 18. С. 19; ДРВ. Ч. 6. С. 447.

і адоеўскага" або "варатынскага"[41]; дзеці апошняга – пад тытуламі "навасільскіх і адоеўскіх і варатынскіх"[42] або проста "варатынскіх"[43]. У лісце ад 14 жніўня 1427 г. Вітаўт згадваў сыноў і ўдаву князя Льва Раманавіча з тытулам "von Wrotynsk etc."[44], дзе слова *etc.* (*et cetera*) паказвае на скарачэнне складана-састаўнога тытула варатынскіх князёў. З іх дакладна князь Васіль Львовіч пайшоў на службу да Свідрыгайлы і потым у снежні 1432 г. загінуў у бітве пры Ашмяне[45]. Таму варта меркаваць, што ў лісце Свідрыгайлы ад 22 чэрвеня 1432 г. пад імем "адоеўскіх" маглі мецца на ўвазе і варатынскія князі.

М. Кром справядліва заўважыў, што з пэўнага часу дагаворы ўдзельных варатынскіх і ўдзельных адоеўскіх князёў з Літвой сталі заключацца незалежна адзін ад аднаго, прычым кожная галіна прымала пад увагу толькі свае папярэднія даканчанні[46]. У лісце Свідрыгайлы "вялікія князі адоеўскія, браты" названы ў множным ліку. Гэта значыць, у адрозненне ад сітуацыі 1427 г., на 1432 г. у родзе навасільскіх ужо быў не адзін, а, па меншай меры, два "вялікія князі". Напэўна, на гэты час вялікага князя Юрыя Рамановіча не было сярод жывых, і паўстала практыка заключэння двух літоўска-навасільскіх дагавораў наступным пакаленнем навасільскіх князёў. Так "Вітаўтава даканчанне" распалася на дзве галіны. Пазней сямейства варатынскіх князёў стала заключаць дагаворы з Літвой асобна ад сямейства адоеўскіх і бялёўскіх князёў. Літоўска-варатынская галіна была прадстаўлена дагаворамі 1432, 1447 (1442?), 1483 г.; літоўска-адоеўская – дагаворамі 1432, 1459, 1481 г., можа быць яшчэ і 1491 г. Дагаворы 1427, 1432, 1491 г. да нашых дзён не дайшлі або, ва ўсякім разе, пакуль не былі выяўлены (схема 1).

41 LM. Kn. 5. 1993. № 130–132. P. 247–249; ДДГ. № 39. С. 117–118; № 49. С. 149; № 50. С. 149–150; LM. Kn. 3. P. 37, 39.
42 АЗР. Т. 1. № 80. С. 100–101; гл. публікацыю ніжэй (№ 1).
43 СИРИО. Т. 35. С. 20, 21, 35 і інш.
44 CEV. № 1298. S. 779.
45 РИИР. Вып. 2. С. 43.
46 Кром М. М. Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV – первой трети XVI в. Москва, 2010. С. 49–51.




**Схема 1.** Літоўска-навасільскія граматы 1427–1491 г.

Пасля паразы ад Жыгімонта пад Вількамірам у верасні 1435 г. Свідрыгайла не меў улады на большай частцы тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і страціў сваіх навасільскіх слуг. Магчыма, яны не заключалі ніякіх дагавораў аб службе вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту, супраць якога ваявалі на баку Свідрыгайлы. Напэўна, яны аднавілі свой саюз з Масквой. Так, у тэксце пасольскіх прамоў Івана III канца XV ст. захавалася пасведчанне аб службе князёў Фёдара (Львовіча) Варатынскага, Івана і Сямёна (Юр'евічаў) Адоеўскіх і бялёўскіх князёў Васілю II яшчэ ў часы панавання Казіміра[47]. Толькі пры Казіміру навасільскія князі зноў сталі аднаўляць адносіны з Літвой па "Вітаўтавым даканчанні".

У літоўска-варатынскім дагаворы ад 20 лютага 1447 (1442?) г. літоўскі бок прадстаўляў Казімір. Яго адзіным контрагентам быў князь Фёдар Львовіч Варатынскі, які ў дагаворы названы з тытулам "навасільскага і

[47] СИРИО. Т. 35. С. 51, 62.

адоеўскага”[48]. З літоўскай службай князя Фёдара Варатынскага звязана гісторыя пераходу горада Казельска з яго валасцямі ў літоўскае падданства. З пачатку XV ст. Казельск стаў уласнасцю вялікіх маскоўскіх князёў, якія, зрэшты, не валодалі ім непасрэдна, а сталі перадаваць яго ў валоданне сваёй “брацііˮ. У 1445 г. Казельск з валасцямі быў аддадзены князю Івану Андрэевічу Мажайскаму. У 1447 г. той вымушаны быў фармальна адступіцца ад Казельска на карысць Васіля II. Аднак у пачатку 1448 г. мажайскі князь у выніку змовы са сваім цесцем князем Фёдарам Варатынскім перадаў Казельск у склад Літвы[49]. Казімір IV аддаў Казельск свайму варатынскаму слугу ў намесніцтва і ў сувязі з гэтым 5 лютага 1448 г. атрымаў ад яго прысяжную грамату. Па ёй князь Фёдар Львовіч абавязаўся служыць Казіміру разам з горадам Казельскам і выконваць прысягу паводле таго, як “перъво сего его м(ило)*с*ти записа*л*ся и целовалъ честны*и* крестъ”[50]. Гэта значыць, ён спасылаўся на сваё “даканчанне” з Казімірам 1447 (1442?) г.

Верагодна, пры заключэнні паміж Масквой і Літвой “вечнага даканчання” 1449 г. контрагентамі была складзена “грамота особная о Козелску”, па якой горад прызначаўся “на обыск”. Гэта значыць, меркавалася разбіральніцтва, каму ён павінен належаць[51]. Аднак, нягледзячы на дамаганні маскоўскага боку, на наступныя чатыры дзесяцігоддзі Казельск замацаваўся за Літвой.

Князь Фёдар Львовіч быў жывы яшчэ ўвосень 1480 г., “коли царь (Ахмат. – *Заўвага аўт.*) былъ на Угре”[52]. Да восені 1482 г. ён памёр[53], таму дагавор 1447 (1442?) г.

[48] ДДГ. № 39. С. 117–118; LM. Kn. 5. 1993. № 130. P. 247–248; LM. Kn. 5. 2012. № 535. P. 352–353.

[49] Гл.: Беспалов Р. А. Козельск в XV веке: очерк политической истории // Калужский край – доблестный щит земли русской. Калуга, 2014. С. 27–30.

[50] ДДГ. № 39. С. 117–118; LM. Kn. 5. 1993. № 131. P. 248; LM. Kn. 5. 2012. № 536. P. 353–354.

[51] СИРИО. Т. 35. С. 48, 51, 119, 120.

[52] СИРИО. Т. 35. С. 136.

[53] Верагодна, у час паходу варатынскіх князёў для абароны Кіеўскай зямлі ад татараў восенню 1482 г. імя князя Фёдара Варатынскага было ўнесена ў сінодзік Кіева-Пячэрскай лаўры (Каманин И.

вынікала аднавіць. У літоўска-варатынскім дагаворы ад 10 красавіка 1483 г. контрагентамі Казіміра IV сталі: князі Дзмітрый і Сямён Фёдаравічы, а таксама іх пляменнік князь Іван Міхайлавіч[54]. У новым дагаворы гэтыя князі тытулаваліся “навасільскімі і адоеўскімі і варатынскімі”[55].

У літоўска-адоеўскім дагаворы ад 21 красавіка 1459 г. літоўскі бок таксама прадстаўляў Казімір IV. Яго контрагентамі былі князь Іван Юр’евіч Адоеўскі з пляменнікамі – князямі Фёдарам і Васілём Міхайлавічамі Бялёўскімі[56]. Князь Іван Юр’евіч быў жывы яшчэ 14 сакавіка 1477 г.[57]. Да пачатку 1481 г. яго самога і яго бялёўскіх пляменнікаў ужо не было сярод жывых. У гэтай сувязі дагавор 1459 г. вынікала аднавіць. У літоўска-адоеўскім дагаворы ад 26 студзеня 1481 г. контрагентамі Казіміра IV выступалі: князі Міхаіл і Фёдар Іванавічы Адоеўскія і іх пляменнік князь Іван Васільевіч Бялёўскі[58]. Родныя браты апошняга князі Андрэй і Васіль Васільевічы, мабыць, яшчэ былі няпоўнагадовымі, таму не маглі

Сообщение послов Киевской земли королю Сигизмунду I о Киевской земле и киевском замке, около 1520 г. // Сб. статей и материалов по истории Юго-Западной России, изд. Киевской комиссией для разбора древних актов. Вып. 2. Киев, 1916. С. 6; Голубев С. Т. Древний помянник Киево-Печерской лавры (конца XV и начала XVI столетия) // Чтения в Историческом обществе Нестора летописца. Киев, 1892. Кн. 6. Приложение. С. 31).

[54] Старэйшы сын князя Фёдара Варатынскага – князь Міхаіл Фёдаравіч памёр яшчэ пры жыцці Пафнуція Бароўскага, г. зн. да 1 траўня 1477 г. (гл.: Древнерусские патерики. Киево-Печерский патерик. Волоколамский патерик / изд. подг. Л. А. Ольшевская и С. Н. Травников. Москва, 1999. С. 99–100, 204–205; Беспалов Р. А. О «напрасной» смерти князя Михаила Федоровича Воротынского // Вестник церковной истории. 2017. № 3–4 (47–48). С. 279–298).

[55] АЗР. Т. 1. № 80. С. 100–101; гл. дадзеную публікацыю.

[56] ДДГ. № 60. С. 192–193; LM. Kn. 5. 1993. № 137. P. 254–255; LM. Kn. 5. 2012. № 542. P. 359–360.

[57] Леонид (Кавелин), архимандрит. Описание лихвинского Покровского Доброго мужского монастыря // ЧОИДР. Москва, 1875. Кн. 4. V. Смесь. С. 106–107.

[58] Казакоў А. У. Невядомае даканчанне караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра і князя Навасільскага і Адоеўскага Міхаіла Іванавіча 1481 г. С. 298–300.

быць непасрэднымі ўдзельнікамі новай дамовы з каралём Казімірам IV. Верагодна, за іх павінен быў цалаваць крыж іх старэйшы брат князь Іван Васільевіч Бялёўскі[59].

Такім чынам, да пачатку 1480-х г. на літоўскай службе знаходзілася большасць князёў навасільскага дому, якія мелі адпаведныя дагаворы з Казімірам IV. На маскоўскай службе былі толькі дзеці загінулага яшчэ ў 1473 г. князя Сямёна Юр'евіча Адоеўскага: Іван, Васіль і Пётр Сямёнавічы (схема 2)[60].

У сярэдзіне 1480-х г., на фоне абвастрэння маскоўска-літоўскіх адносін, варатынскія і бялёўскія князі сталі пераходзіць на бок Івана III[61]. Да сярэдзіны жніўня 1487 г. князь Іван Міхайлавіч Варатынскі (Перамышльскі), мабыць, ужо некалькі месяцаў знаходзіўся на маскоўскай службе. Ён пасылаў да Казіміра IV свайго чалавека з тым, каб скласці з сябе прысягу і адмовіцца ад далейшага

[59] У 1481 г. князь Іван Васільевіч Бялёўскі і сам быў малады, бо памёр толькі ў 1522/23 (7031) г. (ДРВ. Ч. 20. С. 21); князь Андрэй Васільевіч апошні раз упамінаецца пад 1515/16 (7024) г., дата яго смерці невядомая (Разрядная книга 1475–1598 гг. Москва, 1966. С. 58); князь Васіль Васільевіч памёр каля 1542/43 (7051) г. (Белевская вивлиофика. Собрание древних памятников об истории Белева и Белевского уезда. Т. 2 / изд. Н. А. Елагиным. Москва, 1858. С. 141, 143).

[60] ПСРЛ. Т. 18. Москва, 2007. С. 247; СИРИО. Т. 35. С. 3, 50. Яшчэ А. Зімін называў Сямёна Юр'евіча "*князем-изгоем*" (Зимин А. А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV – первой трети XVI вв. Москва, 1988. С. 133). Услед за ім А. Антонаў таксама выказаў меркаванне, што вотчыну князя Сямёна Юр'евіча адабралі адоеўскія Іванавічы (Антонов А. В. К истории удела князей Одоевских // Русский дипломатарий. Вып. 7. Москва, 2001. С. 263). Але, па словах Івана III, князь Сямён Адоеўскі служыў яму са сваёй вотчынай (СИРИО. Т. 35. С. 51, 62), а пасля яго смерці ягоныя дзеці ўспадкавалі яго палову Адоева (СИРИО. Т. 35. С. 59).

[61] У вядомых летапісах у звестках пра пераход навасільскіх князёў на маскоўскую службу ёсць істотныя памылкі, як у храналогіі пераходаў, так і ў імёнах князёў. Звесткі, якія нас цікавяць, рэканструююцца на аснове дакументаў пра маскоўска-літоўскія дыпламатычныя зносіны.




**Схема 2.** Князі навасільскага дому канца XIV – пачатку XVI ст.

выканання дагавора 1483 г.[62]. Да пачатку 1488 г. на маскоўскай службе ўжо некаторы час знаходзіўся князь Іван Васільевіч Бялёўскі[63]. Па словах літоўскага гаспадара, ён уцёк з літоўскай службы, "челом не ударивши"[64]. Гэта значыць, адмовіўся ад выканання дагавора 1481 г. без паведамлення каралю. Казімір IV заяўляў, што гэтыя князі далі яму "даканчанні" і прысягі, каб служыць Вялікаму Княству Літоўскаму неадступна. Потым на свае абавязацельствы пазабываліся, але ён іх з "даканчанняў" і прысяг не выпускае[65].

Няма яснасці, хто пасля смерці князя Фёдара Львовіча некалькі гадоў быў казельскім намеснікам. У 1520 г.

[62] СИРИО. Т. 35. С. 3, 4–5, 7–8.
[63] СИРИО. Т. 35. С. 8.
[64] СИРИО. Т. 35. С. 58.
[65] СИРИО. Т. 35. С. 47–48.

кіеўскія паслы ўспаміналі, што ўвосень 1482 г. буйное літоўскае войска прыходзіла абараняць Кіеўскую зямлю ад нападу крымскіх татараў. У ім былі не толькі “kniaz Worotyński” і “kniaz Odojewski”, але і нейкі “kniaz Kozielski”[66]. Да таго часу сапраўдных казельских князёў даўно не існавала. У Казельску намеснічаў нейкі іншы князь. Толькі 16 сакавіка 1488 г. пасаду казельскага намесніка афіцыйна заняў князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі[67]. Гэты крок Казіміра IV, мабыць, быў выкліканы неабходнасцю ўмацаваць ваенны патэнцыял старэйшых варатынскіх князёў, у той час як некаторыя князі навасільскага дому (Іван Варатынскі і Іван Бялёўскі) перакінуліся на маскоўскую службу. Аднак адпадзенне земляў ад Літвы прадоўжылася.

Да снежня 1489 г. на маскоўскую службу перайшоў князь Дзмітрый Варатынскі. Прычым не толькі са сваёй вотчынай, але яшчэ і з захопленай ім доляй яго брата князя Сямёна Варатынскага, які застаўся на службе Літве. У снежні 1489 г. князь Дзмітрый Фёдаравіч паслаў свайго чалавека да Казіміра IV, каб скласці з сябе прысягу, дадзеную па дагаворы 1483 г. Як і ў папярэднім выпадку, літоўскі гаспадар адказваў, што з “даканчання” і прысягі яго не выпускае[68]. Таксама Казімір IV пратэставаў супраць таго, што князь Дзмітрый захаваў за сабой горад Казельск. У адказ маскоўскі бок абгрунтаваў свае правы на Казельск па ранейшых маскоўска-літоўскіх дагаворах[69].

Да восені 1491 г. у родзе Адоеўскіх памёр старэйшы князь – Міхаіл Іванавіч[70]. У сувязі з гэтым у Адоеўскім

66 Каманин И. Сообщение послов Киевской земли… С. 6.

67 ОР РГБ. Ф. 191. № 102 (гл. дадатак, № 2).

68 СИРИО. Т. 35. С. 39–40, 47–48, 50–51.

69 СИРИО. Т. 35. С. 48, 51; Беспалов Р. А. Козельск в XV веке: очерк политической истории. С. 33.

70 Апошні раз князь Міхаіл Іванавіч Адоеўскі ўпамінаецца жывым у акце ад 28 кастрычніка 1488 г. (LM. Kn. 4. № 23.2. P. 81). Дакладна пра яго смерць можна меркаваць з літоўскага пасольства, складзенага 9 сакавіка 1492 г. У ім гаворыцца, што спадчыннікам адоеўскай вотчыны павінен быць князь Фёдар Іванавіч “по тому, какъ отец его и братъ его князь Михайло

удзеле адбылася спрэчка маскоўскіх слуг адоеўскіх Сямёнавічаў з літоўскім слугой князем Фёдарам Іванавічам Адоеўскім. Як толькі князь Фёдар Адоеўскі паехаў да Казіміра IV "по своим делам", адоеўскія Сямёнавічы захапілі яго казну і занялі яго вотчыну, якая складала палову Адоева. Пры гэтым князь Іван Сямёнавіч стаў прэтэндаваць на "большое" (старэйшае) княжанне ў Адоеве. Як ні стараўся Казімір IV абараніць правы свайго слугі, але зрабіць гэтага не ўдалося[71].

Магчыма, у канцы 1491 г. з князем Фёдарам Іванавічам Адоеўскім да Казіміра IV ездзіў і князь Андрэй Васільевіч Бялёўскі. У яго адсутнасць новы маскоўскі слуга князь Іван Васільевіч Бялёўскі заняў яго долю ("дольницу"), а таксама схапіў малодшага брата князя Васіля Васільевіча Бялёўскага і прывёў яго да крыжовага цалавання, каб той не служыў Літве[72]. Гэтыя сваяцкія захопы ў сямействе навасільскіх князёў адбыліся па загадзе Івана III, пра што той наўпрост паведамляў свайму саюзніку крымскаму

держали". Князя Міхаіла Іванавіча ўжо не было на свеце, калі яго малодшы брат князь Фёдар Адоеўскі прыязджаў да Казіміра IV "бити челомъ о своихъ делехъ". Казімір IV знаходзіўся ў Вялікім Княстве Літоўскім у лютым – красавіку 1490 г. і з верасня 1491 г. (Rutkowska G. Itinerarium króla Kazimierza Jagiellończyka 1440–1492. (Itineraria Jagiellonów. T. 1.) Warszawa, 2014. S. 350–352, 357–359). Аднак у пасольскіх прамовах да Івана III, складзеных да 20 кастрычніка 1491 г., пра князя Фёдара Адоеўскага ён яшчэ не згадваў, хоць, напэўна, ужо тады ўзаемадачыненні князя Фёдара са стрыечнымі братамі Сямёнавічамі былі напружаныя. Значыць, князь Фёдар Адоеўскі пабываў у караля з канца кастрычніка 1491 г. да пачатку студзеня 1492 г. Потым ён павінен быў паехаць у Адоеў, увайсці ў спрэчку з адоеўскімі Сямёнавічамі і на пачатак сакавіка 1492 г. вярнуцца да Казіміра IV (ці паслаць да яго свайго баярына). На паездку туды і назад спатрэбілася б не менш як паўтара – два месяцы, асабліва з улікам таго, што князь Фёдар Адоеўскі быў ужо сталым чалавекам. Факт нядаўняга захопу яго вотчыны пацвярджаюць словы Івана III, накіраваныя Менглі-Гірэю 20 сакавіка 1492 г. (СИРИО. Т. 41. С. 139–140).

[71] СИРИО. Т. 35. С. 57–58, 59, 65.

[72] СИРИО. Т. 35. С. 58–59.

хану Менглі-Гірэю ў пасольскіх прамовах, складзеных да 20 сакавіка 1492 г.[73].

Пасля смерці Казіміра IV († 7 чэрвеня 1492 г.) князь Сямён Фёдаравіч Варатынскі спрабаваў аднавіць літоўска-варатынскі дагавор 1483 г. з яго спадчыннікам Аляксандрам Казіміравічам, які быў узведзены на вялікае літоўскае княжанне не пазней за 27 ліпеня 1492 г. (верагодна, 26 ліпеня)[74]. Аднак да таго часу князь Сямён Фёдаравіч ужо быў пазбаўлены сваёй спрадвечнай вотчыны ў Навосільска-Адоеўскай зямлі, і заключэнне новага дагавора па "Вітаўтавым даканчанні" аказалася немагчымым. Верагодна, справа абмежавалася прысягай на вернасць Аляксандру Казіміравічу, якая была складзена па форме "запісаў" унутраных князёў Вялікага Княства Літоўскага і ўжо не адпавядала фармуляру ранейшых літоўска-навасільскіх дагавораў. На такіх умовах да канца 1492 г. князь Сямён Фёдаравіч адмовіўся служыць Літве. Ён перайшоў на маскоўскую службу, а ў пачатку 1493 г. разам з чарговым маскоўскім пасольствам выправіў да Аляксандра Казіміравіча свайго чалавека з граматай аб складанні з сябе крыжовага цалавання[75]. У тым жа пасольстве паведамлялася пра пераход на маскоўскую службу князёў Андрэя і Васіля Васільевічаў Бялёўскіх[76].

У сярэдзіне 1493 г. Аляксандр Казіміравіч адказваў Івану III, што тых князёў дзяды, бацькі і яны самі "докончали" з яго бацькам Казімірам, "записались и присягу дали", каб служыць Вялікаму Княству Літоўскаму неадступна, а пасля смерці Казіміра – служыць яго дзецям (спадчыннікам на літоўскім троне) і "иншого осподаря не искати", таму з прысягі іх не выпусціць[77]. Заява аб літоўскай службе дзядоў пералічаных князёў – памылковае

[73] СИРИО. Т. 41. С. 139–140.
[74] Пра дату інтранізацыі Аляксандра гл.: Papée F. Aleksander Jagiellończyk. Wyd. 2. Kraków, 1999. S. 12.
[75] Пасланне князя Сямёна Фёдаравіча Варатынскага так і не перадалі Аляксандру Казіміравічу (СИРИО. Т. 35. С. 80–81, 84–85).
[76] СИРИО. Т. 35. С. 81.
[77] СИРИО. Т. 35. С. 103.

запазычанне з літоўска-навасільскіх дагавораў, якія відавочна былі выкарыстаны для складання пасольскіх прамоў[78]. Яна цалкам справядлівая ў дачыненні да бацькоў: бацька князя Сямёна Варатынскага (князь Фёдар Львовіч) і бацька князёў Андрэя і Васіля Бялёўскіх (князь Васіль Міхайлавіч) сапраўды мелі дагаворы з Казімірам.

Выраз "они сами" (у множным ліку) цалкам дастасавальны да князя Сямёна Варатынскага. У частцы яго літоўскай службы літоўскі гаспадар мог спасылацца на літоўска-варатынскі дагавор 1483 г. Праўда, Аляксандр Казіміравіч хітраваў, бо спачатку сам парушыў яго ўмовы: князя Сямёна Фёдаравіча не паважаў – горада за службу яму не даў, за вотчыну яго не стаяў, баяраў яго не шанаваў, а галоўнае – у новае даканчанне яго не прыняў, што і стала прававой падставай для разрыву дамовы 1483 г.[79].

У тым выпадку, калі выраз "они сами" справядлівы і ў адносінах да бялёўскіх князёў, то сведчанне пра іх прысягу Казіміру па нейкім даканчанні прымушае думаць, што існаваў пакуль нявыяўлены ў архівах літоўска-адоеўскі дагавор, заключаны ў той час, калі ў Вільні яшчэ не было вядома пра страту гэтымі князямі сваіх спрадвечных вотчын. Пасля смерці князя Міхаіла Іванавіча Адоеўскага і ўцёкаў князя Івана Васільевіча Бялёўскага на маскоўскую службу князь Фёдар Іванавіч Адоеўскі і яго

[78] Ні дзед князя Сямёна Фёдаравіча (князь Леў Раманавіч), ні, відаць, дзед бялёўскіх князёў (князь Міхаіл Васільевіч) не служылі Казіміру і ўвогуле не служылі Літве. Але ў літоўска-навасільскіх дагаворах такія формулы былі. У дагаворы 1483 г. пералічаны варатынскія князі двух пакаленняў. Потым абагульнена гаворыцца, што Вітаўту служыў дзед іх і бацька іх. Меўся на ўвазе князь Фёдар Львовіч, што быў бацькам князям Дзмітрыю і Сямёну, а таксама дзедам князю Івану Міхайлавічу. У дагаворы 1481 г. пералічаны адоеўскія і бялёўскі князі двух пакаленняў. Затым абагульнена гаворыцца, што Вітаўту служыў дзед іх (у адзіночным ліку) і бацькі іх (у множным ліку). Пад дзедам меўся на ўвазе князь Юрый Раманавіч, які быў дзедам толькі князям Міхаілу і Фёдару Адоеўскім. Іх бацькам быў князь Іван Юр'евіч Адоеўскі. Бацькам жа князя Івана Бялёўскага быў Васіль Міхайлавіч Бялёўскі, які раней служыў Літве.

[79] СИРИО. Т. 35. С. 84.

пляменнікі князі Андрэй і Васіль Васільевічы Бялёўскія павінны былі стаць прадаўжальнікамі літоўска-адоеўскага дагавора 1481 г. Магчыма, у час сваёй паездкі напрыканцы 1491 г. князі Фёдар Адоеўскі і Андрэй Бялёўскі далі Казіміру IV крыжацалавальны запіс за сябе і за князя Васіля Бялёўскага. Верагодна, ён быў складзены па форме "Вітаўтавага даканчання" 1427 г. Так ці не, але на пачатак 1493 г. з удзельнікаў літоўска-адоеўскіх дагавораў на літоўскай службе застаўся толькі князь Фёдар Іванавіч Адоеўскі, які атрымаў у Смаленскім павеце горад Дарагабуж з валасцямі[80].

У лістападзе 1493 г. Аляксандр Казіміравіч з літоўскай Радай прынялі рашэнне аб вядзенні перамоваў аб міры з Масквой. Паслам быў дадзены наказ пра патрабаванні літоўскага боку і пра магчымыя саступкі Маскве. Між іншым ад Івана III патрабавалі, каб у новым маскоўска-літоўскім дагаворы Вялікае Княства Цвярское было пастаўлена гэтак жа, як і ў дагаворы 1449 г. Казіміра IV з Васілём II. Калі ж Іван III не захоча адмовіцца ад Цверы, то жадалі, каб ён адступіўся ад Казельска, мязецкіх (мяшчоўскіх) князёў і яшчэ ад шэрагу валасцей. Таксама патрабавалі, каб "kniazei nowosielskich wsich, kotoryie zdawna służyli k welikomu kniazstwu Litowskomu, a tych kniazei i z ich otczynami postupiłsia hosudaru naszomu, welikomu kniaziu Alexandru, po dawnomu. A iestli kniaż welikiy moskowskiy

80 Князь Фёдар Іванавіч Адоеўскі валодаў Дарагабужам яшчэ 17 сакавіка 1494 г. (СИРИО. Т. 35. С. 136, 141). Аднак 16 чэрвеня 1494 г. Дарагабуж быў передадзены іншаму ўладальніку (Акти Волинського воєводства кінця XV – XVI ст. (із зібрання Пергаментних документів Архіву головного актів давних у Варшаві) / Підг. до друку А. Блануци, Д. Ващука, Д. Вирського. Київ, 2014. № 2. С. 56–58). Не выключана, што ён памёр да таго часу. З лютага 1496 г. пераафармляліся таксама іншыя раней літоўскія ўладанні адоеўскіх Іванавічаў (РИБ. Т. 27. Стб. 650–653, 665–666; АЛМ. Т. 1. Вып. 1. №207. С. 81; № 238. С. 93; №245. С. 95; № 251. С. 97; АЛМ. Т. 1. Вып. 2. № 623. С. 103; LM. Kn. 6. № 122. P. 115; № 243. P. 168; № 477. P. 281). Пра яго канчыну ясна сказана ў прамовах пасольства ВКЛ, якое прыбыло ў Маскву 13 чэрвеня 1497 г. (СИРИО. Т. 35. С. 232).

k tomu ne wschoczet prystupiti, ino panowie posłowie maiut k tomu wiesti, aby tych kniazei postawleno podłuh staroho dokonczania otca ieho"[81]. У літоўска-маскоўскім дагаворы 1449 г. навасільскія князі не былі пазначаны відавочна, але, напэўна, меліся на ўвазе ў ліку іншых верхняокскіх князёў пад тэрмінам "ве*р*ховъстии князи"[82].

Лёс навасільскіх князёў вырашыўся на перамовах 30 студзеня 1494 г. Адносна іх далейшай службы літоўскім паслам так і не ўдалося дамагчыся ад Івана III ніякіх саступак[83]. Вярнуць ранейшы статус Цверы яны таксама не змаглі, як і не змаглі адстаяць правы літоўскага боку на Казельск[84]. Па маскоўска-літоўскім дагаворы ад 5 лютага 1494 г. усе навасільскія князі (акрамя князя Фёдара Іванавіча Адоеўскага) з іх вотчынамі былі замацаваны на маскоўскай службе. Таксама за Масквой быў замацаваны і Казельск[85].

## Архіўны лёс публікаваных літоўска-варатынскіх грамат 1483 і 1488 г.

Напэўна, менавіта ў сувязі з падзеямі 1487–1494 г. як мінімум два літоўска-навасільскія даканчанні апынуліся ў Маскве. Папярэдне можна выказаць здагадку пра два розныя шляхі іх з'яўлення ў маскоўскім велікакняскім

[81] LM. Kn. 5. 1993. № 27.3. P. 79.
[82] LM. Kn. 5. 1993. № 78.1. P. 133; № 136. P. 253; ДДГ. № 53. С. 162. Пра пералік князёў, якія маглі мецца на ўвазе пад тэрмінам "верховъстии князи" ў маскоўска-літоўскім дагаворы 1449 г., гл.: Беспалов Р. А. К вопросу о терминах "верховские князья" и "Верховские княжества". С. 25–60. Аўтар таксама выказаў гіпотэзу пра тое, што тэрмін «верховъстии князи» ў маскоўска-літоўскіх дыпламатычных адносінах упершыню з'явіўся ў дагаворы 1408 г., з якога перайшоў у дагавор 1449 г. (Беспалов Р. А. Гипотеза о появлении термина «верховскии князи» в московско-литовской дипломатии // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. Москва, 2017. № 4 (70). С. 42–52).
[83] СИРИО. Т. 35. С. 120.
[84] См.: СИРИО. Т. 35. С. 119, 120.
[85] LM. Kn. 5. 1993. № 78.2. P. 135; СИРИО. Т. 35. С. 126–127, 130; ДДГ. № 83. С. 330.

архіве: іх маглі даставіць літоўскія паслы, якія прыбылі ў Маскву для вядзення перамоваў аб міры на пачатку 1494 г., або яны былі атрыманы маскоўскім бокам ад саміх князёў навасільскага дому.

Як было паказана вышэй, пад час вайны 1487–1493 г. літоўскі бок не раз спасылаўся на літоўска-навасільскія дагаворы і нават цытаваў некаторыя іх палажэнні. За ўвесь гэты час літоўскі і маскоўскі бакі згадвалі толькі ўдзельныя тытулы князёў: “бялёўскія”, “варатынскія” і “адоеўскія”. На перамовах жа пра мір з Масквой літоўскі бок хацеў абмеркаваць статус “kniazei nowosielskich wsich”[86]. У маскоўскіх пасольскіх кнігах тэрмін “все новосильские князья” ўпершыню з’яўляецца менавіта на перамовах з Літвой пачатку 1494 г.[87]. Характэрна, што ён быў і ў літоўска-навасільскіх дагаворах, пра што ў першую чаргу было вядома літоўскаму боку і самім князям навасільскага дому. Адкуль жа трапілі ў Маскву літоўска-навасільскія дагаворы?

Хоць у складзе “старых докончаний” вялікіх князёў літоўскіх з сумежнымі дзяржавамі ў Літоўскую метрыку былі перапісаны толькі літоўска-навасільскія граматы 1447 (1442?), 1448 і 1459 г.[88], у адным з архіваў польска-літоўскіх манархаў (г. зн. у літоўскім велікакняскім або ў каронным) захоўваліся і пазнейшыя літоўска-навасільскія граматы. Згадка пра адну з іх ёсць у пашыраным выданні кнігі А. Гваньіні “Хроніка еўрапейскай Сарматыі”, выпушчанай у 1611 г. на польскай мове. У папярэдніх лацінамоўных выданнях такіх звестак няма. Інфармацыя, якая нас цікавіць, ёсць у трэцім раздзеле “Хроніка зямлі Рускай”, магчымым суаўтарам якога некаторыя даследчыкі называюць польскага паэта М. Пашкоўскага. Ён, апрача ўсяго, меў тэксты дакументаў з каралеўскай канцылярыі[89].

[86] LM. Kn. 5. 1993. № 27.3. P. 79.
[87] СИРИО. Т. 35. С. 120, 126, 130, 135–137.
[88] LM. Kn. 5. 1993. P. 244–259.
[89] Прохоренков И. А. Загадка соавтора “Хроники европейской Сарматии” Александра Гваньини (по поводу книги Михаила Курана “Marcin Paszkowski – poeta okolicznościowy i moralista z pierwszej połowy XVII wieku”) // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana. 2014. № 1. Январь – Июнь. С. 193–194, 198–202.

У прыватнасці, у хроніцы паведамляецца: “Князі Пронскія выводзяць свой пачатак ад тых жа рускіх князёў, што пацвярджаюць лісты паасобныя і лісты [якія знаходзяцца. – *Аўт.*] у казне найсвятлейшых іх міласцяў польскіх каралёў: а менавіта ліст князёў навасільскіх, адоеўскіх і варатынскіх, якія паддаліся каралю Казіміру, хочучы мець абарону ад вялікага князя маскоўскага, ад вялікага князя пронскага і ад вялікага князя пераяслаўскага”[90]. Тут няправільна перададзена сутнасць адпаведнага артыкула літоўска-навасільскіх дагавораў. У ім гаворыцца, што, знаходзячыся на літоўскай службе, навасільскія князі маглі мець “свой суд по старине” з вялікімі князямі: маскоўскімі, пераяслаўскімі і пронскімі. Зрэшты, пералік гэтых вялікіх князёў і іх тытулы перададзены ў адпаведнасці з фармулярам “Вітаўтавага даканчання”. У гэтай сувязі звернем увагу на тытул “князёў навасільскіх і адоеўскіх і варатынскіх” – ён змяшчаецца толькі ў дагаворы 1483 г. Таму не выключана, што аўтар дадзенага фрагмента (ці яго інфарматар) сапраўды бачыў дагавор 1483 г. у адным з архіваў польска-літоўскіх манархаў.

Яшчэ больш канкрэтная спасылка змяшчаецца ва “Урыўку пра пакаранне Слуцкіх князёў”, які захаваўся ў пазнейшых (XVIII ст.) рукапісах. У ім гаворыцца: “І кароль Казімір, каб астатнія князі не адпалі ад яго, звязаў іх прысягай, таксама атрымаўшы ад іх запісы, а менавіта ад князёў: Міхаіла Іванавіча, Фёдара (Іванавіча. – *Аўт.*), а таксама Івана Васільевіча навасільскіх і адоеўскіх (указанне на літоўска-адоеўскі дагавор 1481 г. – *Аўт.*); і Барыса Аляксандравіча Цвярскога, які быў унукам зяця[91]

[90] Gwagnin A. Kronika ziemie Ruskiey // Kronika Sarmacyey Europskiey, w którey się zamyka Królestwo Polskie ze wszystkiemi państwy, xięstwy y prowincyami swemi, tudzież też Wielkie Xięstwo Lithew., Ruskie, Pruskie, Żmudzkie, Inflantskie, Moskiewskie y część Tatarów. Ks. III. Kraków, 1611. S. 10–11; Гваньїні О. Хроніка європейської Сарматії / відп. ред. В. А. Смолій; упорядк. та пер. з польської о. Ю. Мицика. Київ, 2007. С. 408.

[91] У крыніцы: “nepos ex fratre” – літаральна “ўнукам брата”. Але князь Барыс Аляксандравіч Цвярской быў унукам зяця Вітаўта (Івана Міхайлавіча Цвярскога) і ўнукам сястры Вітаўта (Марыі Кейстутаўны).

Вітаўта (указанне на літоўска-цвярскі дагавор 1449 г. – *Аўт.*); Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага (указанне на прысяжную грамату варатынскага князя 1488 г. – *Аўт.*), гэтыя запісы цяпер знаходзяцца ў архіве Вялікага Княства Літоўскага"[92]. Характэрна, што тут літоўска-навасільскія граматы паказаны разам з літоўска-цвярскім дагаворам 1449 г. У гэтым плане падборка дакументаў падобная са складам "старых докончаний" з Літоўскай метрыкі.

Згодна з "Урыўкам пра пакаранне Слуцкіх князёў", у літоўскім велікакняскім архіве літоўска-навасільскія дагаворы былі прадстаўлены граматамі навасільскіх князёў, звернутымі да Казіміра IV. Таксама і з 15 дагавораў, што захоўваліся ў архіве Вялікага Княства Літоўскага і былі аб'яднаны іх перапісчыкам пад загалоўкам "старых докончаний", 12 грамат былі складзены з боку контрагентаў літоўскіх гаспадароў. Адпаведна, ад імя контрагентаў складалася іх засведчвальная частка, якая ўключала ўказанне на працэдуру крыжовага цалавання і змацавання граматы іх пячаткамі. Існавалі два асобнікі літоўска-малдаўскага дагавора 1442 г.: адзін з іх быў складзены з боку малдаўскага ваяводы Іллі 2 лютага, другі – з боку Казіміра 8 чэрвеня таго ж года і, мабыць, папросту не быў перададзены малдаўскаму боку. Дагаворы з Ноўгарадам і Псковам складзены ад імя Казіміра, аднак у іх засведчвальнай частцы працэдура крыжовага цалавання апісана і з боку літоўскага гаспадара, і з боку наўгародскіх і пскоўскіх паслоў[93]. Як бачым, літоўскаму боку было важна мець дагаворы, засведчаныя яго контрагентамі. У сваю чаргу, контрагенты Казіміра павінны былі атрымліваць на рукі дагаворы, складзеныя ад імя літоўскага гаспадара, змацаваныя яго крыжовым цалаваннем і яго пячаткай. З гэтага пункту гледжання неабходна ўважліва паглядзець на літоўска-навасільскія дагаворы, якія захоўваліся ў Маскве ў XVI ст.

[92] Rowell S. C. Išdavystė ar paprasti nesutarimai? P. 72.
[93] LM. Kn. 5. 1993. P. 244–259; LM. Kn. 5. 2012. P. 350–364.

Паводле вопісу Царскага архіва 1570–1575 г.[94], пры складанні якога быў выкарыстаны больш ранні вопіс, у скрыні 150 архіва знаходзілася: "грамота Казимера короля новосилскимъ князем̃ъ и одоевскимъ, какъ имъ королю служити и подати давати". Над гэтым запісам паміж радкоў напісана: "(70)74, августа въ 14 день взялъ государь къ себе"[95]. А. Зімін лічыў, што так у вопісе ўказана літоўска-адоеўская грамата 1459 г.[96]. Аднак яму не было вядома пра існаванне пазнейшых літоўска-адоеўскіх даканчанняў. Гэта мог быць дагавор 1481 г., які апісваў умовы літоўскай службы новага маскоўскага слугі князя Івана Васільевіча Бялёўскага.

Да жніўня 1566 г. указаны ў вопісе дакумент знаходзіўся, відавочна, не на сваім першапачатковым месцы. Як адзначыў А. Зімін, да канца 1520-х г. Дзяржаўны архіў складаўся з 80 скрынь, але пазней дакументы з гэтых скрынь маглі забіраць для патрэб тагачаснай палітыкі, а потым вяртаць, але змяшчаць ужо ў іншыя архіўныя комплексы. У скрыні 150 захоўваліся дакументы, складзеныя да 1512 г., якія датычыліся пераважна царкоўнага землеўладання. Аднак у такім выглядзе комплекс гэтай скрыні сфармаваўся, пэўна, да 1549–1551 г.[97]. Пасля таго як 14 жніўня 1566 г. літоўска-адоеўскае даканчанне было ўзята да Івана IV, яго далейшы лёс у расійскіх архівах невядомы, у вопісах XVII ст. яно не згадваецца.

Варта заўважыць, што апублікаванае А. Казаковым і А. Ліцкевічам літоўска-адоеўскае даканчанне 1481 г., якое

[94] На думку А. Зіміна, вопіс быў складзены дзякам Андрэем Васільевым (1561–1570), а пазней дапоўнены запісамі, што даходзяць да 1572 г. Самая позняя пазнака на палях рукапісу пра выманне з архіва адной са скрыняў адносіцца да 1574/75 г. (пра датаванне гл.: Описи царского архива XVI века и архива Посольского приказа 1614 года. С. 8–9; ГАР. Вып. 1. С. 25; Кучкин В. А. Договорные грамоты московских князей XIV века. Внешнеполитические договоры. Москва, 2003. С. 223. Спасылка 1).

[95] Описи царского архива XVI века и архива Посольского приказа 1614 года. С. 32; ГАР. Вып. 1. С. 70.

[96] ГАР. Вып. 2. С. 223, 355.

[97] ГАР. Вып. 1. С. 31–33; ГАР. Вып. 2. С. 249. Спасылка 1.

некалі захоўвалася ў архіве Вялікага Княства Літоўскага, складзена з боку двух адоеўскіх і бялёўскага князёў. У Маскве ж, мяркуючы па апісанні, апынуўся "противень", г. зн. аналагічная грамата, але складзеная з боку Казіміра IV. Верагодна, яна захоўвалася ў казне князя Фёдара Іванавіча Адоеўскага і магла быць захоплена яго стрыечнымі братамі адоеўскімі Сямёнавічамі ў канцы 1491 г., калі ён ездзіў да літоўскага гаспадара.

Літоўска-варатынскі договор 1483 г., які захаваўся, таксама складзены з боку Казіміра IV. У складзе Царскага архіва 1570–1575 гг. ён захоўваўся ў скрыні 54, у якой таксама знаходзіліся "грамоты великихъ князей старыхъ съ короли съ старыми". У кантэксце дакументаў 54-й скрыні ён быў нейкім дадаткам або дапаўненнем да маскоўска-літоўскіх дагавораў ці дакументаў дыпламатычных зносін. У архіўных апісаннях дадзенай граматы ёсць істотныя недакладнасці. Паводле вопісу Царскага архіва 1570–1575 г., гэта "грамота воротынскихъ князей съ Олександромъ королемъ". Над гэтым запісам паміж радкоў напісана: "(70)74, августа въ 8 день взялъ государь къ себе"[98]. На адваротным баку захаванай граматы ёсць архіўная пазнака: "Доко*н*ча*л*(ь)наꙗ грамота воротынских*х* кн(ѧ)*з*еи | с королем*м* с Олеѯан*д*рѡм" (XVI ст.). Потым больш позняя пазнака чорным чарнілам іншым почыркам: "6991-*г*(о) го*ду*". Дадзеныя апісанні ва ўсіх адносінах няслушныя. Па-першае, у варатынскіх княёў не было даканчанняў з Аляксандрам Казіміравічам. Па-другое, Аляксандр стаў польскім каралём толькі ў 1501 г., калі князёў Дзмітрыя і Сямёна Фёдаравічаў Варатынскіх, мабыць, ужо не было сярод жывых. Па-трэцяе, гэты дакумент складзены з боку караля, а не з боку варатынскіх князёў, г. зн. фармуляр архіўнай пазнакі таксама выбраны няўдала. Характэрна, што ў грамаце 1483 г., якая дайшла да нас, у тых месцах, дзе павінна было чытацца імя сюзерэна варатынскіх князёў, тэкст разам з пергаменам страчаны. Захаваўся толькі тытул – у адным месцы: "по*л*(ь)скии, великии кн(ѧ)зь ли*т*…"; у іншым

[98] Описи царского архива XVI века и архива Посольского приказа 1614 года. С. 24; ГАР. Вып. 1. С. 52.

месцы: “коро*л*(ь) по*л*(ь)ски*и* и велики*и* кн(а)зь лито*в*ски*и*”. Магчыма, гэтыя страты адбыліся яшчэ да складання згаданых архіўных апісанняў.

У жніўні 1566 г. літоўска-адоеўскі і літоўска-варатынскі дагаворы былі ўзяты з архіва Іванам IV разам з вялікім масівам іншых дакументаў. Можа быць, цікавасць да іх была звязана з новай апрычнай палітыкай Івана IV. Да таго часу літоўска-адоеўскія даканчанні ў значнай ступені страцілі сваю ранейшую актуальнасць, паколькі род адоеўскіх Іванавічаў звёўся яшчэ ў канцы XV ст., а род бялёўскіх князёў – у сярэдзіне XVI ст. У 1565 г. частка вотчын князёў навасільскага дому – Бялёў, Ліхвін і дзве часткі Перамышля – былі ўзяты ў апрычніну[99]. Потым менавіта ў жніўні 1566 г. значная частка Адоеўскага павета, якой на той час валодалі варатынскія князі, была далучана да апрычнага Бялёўскага павета[100]. У той жа час род варатынскіх князёў, хоць часам і падпадаў пад няміласць і страціў частку сваёй вотчыны, але працягваў існаванне і да таго часу займаў высокае становішча сярод шляхты Рускай дзяржавы[101]. Літоўска-варатынскі дагавор 1483 г. захоўваўся і далей.

На мяжы XVI–XVII ст. частка Царскага архіва лягла ў аснову архіва Пасольскага прыказа, куды і паступіла літоўска-варатынскае “даканчанне” 1483 г. Яно захоўвалася ў першай скрыні, якая, у сваю чаргу, знаходзілася “в болшой окованой коробье”. У архіўным вопісе 1614 г. захаваўся даволі дакладны запіс: “Грамота докончальная литовского Казимера короля с новасильскими князи, с воротынскими и с одоевскими, со князем Дмитреем з братьею,

[99] ПСРЛ. Т. 29. М., 2009. С. 344.

[100] Садиков П. А. Из истории опричнины XVI в. // Исторический архив. Москва – Ленинград, 1940. Вып. 3. С. 193–195; Шеков А. В. Об исторической географии Новосильско-Одоевского княжества в последней четверти XIV – начале XV в. // Куликовская битва в истории России. Тула, 2012. Вып. 2. С. 115, 118–120. Рис. 2.

[101] Гл.: Колычева Е. И. Судьба княжеского рода Воротынских в XVI в. // Человек XVI столетия: сб. статей. Москва, 2000. С. 117–127.

у ней печати посольские, писана в 6991-м году"[102]. Невядома, ці вызначаўся ўкладальнік вопісу 1614 г. добрай эрудыцыяй і быў вельмі ўважлівы (звярнуў увагу на год складання дамовы і пры гэтым ведаў храналогію праўлення літоўскіх гаспадароў), ці карыстаўся яшчэ больш раннім вопісам, чым вопіс Царскага архіва 1570–1575 г. Так ці інакш, з вядомых нам вопісаў ён склаў адзінае дакладнае апісанне літоўска-варатынскага дагавора 1483 г.

Пасля пажару, які адбыўся ў траўні 1626 г., захаванасць граматы моцна пагоршылася. У вопісе архіва Пасольскага прыказа 1626–1627 г.[103] быў зроблены запіс: "грамота на харатье ж, вверху строк и во всей грамоте писма не знать, потому что ростаело и грамоту излило воском, а назади подписано: докончалная грамота воротынских князей с королем Олександром, писана лета 6991-го году"[104]. Падобны запіс захаваўся ў вопісе архіва Пасольскага прыказа 1673 г.: "грамота на харатье, вверху строк и во всей грамоте письма не знать, потому что розтаело, а грамоту всю излило воском, а назади подписано: докончальная грамота воротынских князей с королем Александром; печать на красном шолку, попорчена"[105]. У адрозненне ад вопісу 1614 г. у вопісе 1673 г. на грамаце зафіксавана толькі адна пячатка.

У пачатку XVIII ст. пасля пераўтварэння Пасольскага прыказа грамата была перададзена ў Маскоўскі галоўны архіў Калегіі замежных спраў, які ў пачатку XIX ст. быў падпарадкаваны Міністэрству замежных спраў.

У вопісе М. Бантыша-Каменскага (у рэестры польскіх трактатаў) 1801 г. цікавае нам літоўска-варатынскае

[102] Описи царского архива XVI века и архива Посольского приказа 1614 г. С. 47; ДДГ. С. 445.

[103] Як слушна заўважыў У. А. Кучкін, указ аб разборы спраў у Пасольскім прыказе быў дадзены 25 снежня 1626 г. Заканчэнне гэтай працы варта датаваць 1627 годом (Кучкин В. А. Договорные грамоты московских князей XIV века. С. 119. Спасылка 3).

[104] Опись архива Посольского приказа 1626 года / под ред. С. О. Шмидта. Москва, 1977. Ч. 1. С. 84; ДДГ. С. 478.

[105] Опись архива Посольского приказа 1673 года / под ред. С. О. Шмидта. Москва, 1990. Ч. 1. С. 218.

даканчанне 1483 г. апісана наступным чынам: “Договор литовскаго великаго князя Александра с воротынскими князьями о вступлении их в его службу и о даче им в Литве маетностей во владение. Писан на паргамине по руски, за ветхостию и внутри продранными местами всего содержания знать не можно”[106]. Пячатка, напэўна, ужо была страчана. Падобны загаловак, напісаны падобным почыркам, мае справа, у якой захоўваецца грамата. Гэтую характарыстыку М. Бантыш-Каменскі амаль даслоўна паўтарыў у “Рэестры дагавораў і грамат еўрапейскіх і азіяцкіх двароў” за 1431–1724 г., складзеным у 1813 г.[107].

Да 1801 г. разам з граматай (арк. 2) захоўваўся яе спіс (арк. 1), зроблены, магчыма, у канцы XVIII ці пачатку XIX ст.[108]. Па ім можна меркаваць аб кепскім стане граматы на той момант і пра складанасці, якія ўзнікалі пры яе прачытанні. У першых двух радках амаль не чытаўся тытул адрасанта, у тым ліку з-за страты часткі пергамена. Потым не чыталіся не толькі прадраныя месцы, але і невялікія фрагменты тэксту ўнутры радкоў, некаторыя словы былі прачытаны няправільна. Ад радкоў 8–10 чытаўся толькі іх пачатак (каля трэці). Радок 11 не чытаўся зусім. У радках 13–16 нечытэльныя фрагменты былі значна меншыя і таксама размяшчаліся ў канцы. Затым не ўдавалася прачытаць асобныя словы ўнутры радкоў, некаторыя таксама чыталіся з памылкамі. У радках 21–27 да іх зноў дадаліся нечытэльныя фрагменты ў канцы. Страты пергамена ўнутры радкоў 1–2, 4–11 і 32, мабыць, былі тымі ж, якія засталіся і ў нашы дні.

У 1846 г. састарэласць граматы таксама адзначыў І. Грыгаровіч. Ён паведаміў, што яна захоўвалася ў Маскоўскім галоўным архіве Міністэрства замежных спраў, але яе дакладнае месца знаходжання не назваў[109]. У публікацыі яму ўдалося перадаць тэкст граматы значна лепш, чым гэта было зроблена ў спісе мяжы XVIII–XIX ст.

[106] РГАДА. Ф. 79, оп. 3, л. 2.
[107] ОР РГБ. Ф. 68 (Генеральный штаб), ед. хр. 301, л. 2об.
[108] РГАДА. Ф. 79, оп. 3, ед. хр. 2, л. 1.
[109] АЗР. Т. 1. № 80. С. 101.

Не выключана, што І. Грыгаровіч рэканструяваў частку тэксту на падставе літоўска-навасільскіх дагавораў 1447 (1442?) і 1459 г. Пры гэтым справядліва аднавіў складаныя для чытання месцы ў асноўным тэксце граматы. Аднак, напрыклад, унікальнае для падобных дакументаў імя трокскага ваяводы ім прачытана не было, хоць у нашы дні такая магчымасць ёсць. Словазлучэнні ў першых радках граматы “брат...”, “дяди...”, “а слу...” не адлюстраваны ў спісе мяжы XVIII–XIX ст., мабыць, з-за страты пергамену. Аднак І. Грыгаровіч без усялякіх тлумачэнняў аднавіў тэкст як “братаничь ихъ”, “дяди нашого” і “...служити” адпаведна. Таксама аднавіў некаторыя словы ў канцы радкоў, якія было складана разабраць. Былі ім дапушчаныя і больш сур’ёзныя недакладнасці, якія тычацца сэнсу тэксту. Так, у фразе “хто коли бꙋде*т* велики*м* кн(ѧ)з(е)м лито*в*ски*м* на Лито*в*ско*и* земли” ён прапусціў слова “лито*в*ски*м*” – так у грамаце 1459 г.[110]. Фразу “[в] доко*н*чаньи с тыми кн(ѧ)зи”, якая апісвае ўзаемаадносіны навасільскіх князёў з вялікімі князямі маскоўскімі, пераяслаўскімі і пронскімі, І. Грыгаровіч прачытаў наступным чынам: “въ докончаньи съ тыми великими князи” – так у грамаце 1459 г.[111].

У публікацыю духоўных і дагаворных грамат 1950 г., падрыхтаваную Л. Чарапніным, літоўска-варатынскі

[110] У дагаворах 1459 і 1481 г.: «хто бꙋдет великим кн(ѧ)з(е)м на Литовскои земли». У дагаворы 1447 (1442-?) г. гэтае месца выкладзена трохі іначай. На думку С. Палехава, у тэксце дагавора 1483 г. удакладненне «великим кн(ѧ)з(е)м литовским» магло з’явіцца ў сувязі з неаднаразовымі пад час праўлення Казіміра патрабаваннямі вяльможаў ВКЛ даць ім вялікага князя, які б не займаў адначасова польскі трон і ўвесь час знаходзіўся ў Літоўскай дзяржаве. Гэтае патрабаванне было ўлічана Казімірам у яго тэстаменце, згодна з якім яго пераемнікам на польскім стальцы стаў старэйшы сын Ян Ольбрахт, а на літоўскім – Аляксандр Ягайлавіч.

[111] Відаць, І. Грыгаровічу здавалася натуральным, што пералічаныя князі зноў названы вялікімі, як і ў навасільска-літоўскім даканчанні 1459 г. Аднак тое, што было натуральным для навасільскіх князёў, цалкам магло быць праігнаравана ў канцылярыі вялікага князя літоўскага, тым больш што яго адносіны з усходнімі суседзямі былі ў той час не найлепшымі.

дагавор 1483 г. не трапіў. Аднак потым пра яго месца знаходжання паведаміў у сваёй публікацыі 1978 г. А. Зімін: ЦГАДА (цяпер РГАДА), ф. 79, [воп. 3,] спр. 2[112]. Паводле рэестра выкарыстання, з 1959 да 2015 г. з граматай працавала больш як дзесяць гісторыкаў, у тым ліку супрацоўнікі архіва. Адзін з іх нават звяраў яе тэкст з публікацыяй І. Грыгаровіча (прозвішча неразборлівае, год не пазначаны; мяркуючы па почырку і чарніле запісу, гэта магло адбыцца ў 50-я ці 60-я гады). У 2003 г. грамата рэстаўравалася ва Усерасійскім мастацкім навукова-рэстаўрацыйным цэнтры імя І. Э. Грабара.

Цяпер здавальняльна чытаецца каля 80–85% тэксту граматы. У астатніх выпадках ён моцна выцвіў, магчыма, у выніку тэрмічнага або хімічнага ўздзеяння: на гэта паказвае дэфармацыя пергаменнага ліста, які да таго ж у многіх месцах забруджаны, асабліва ў верхняй частцы. Некаторыя перавагі перад магчымасцямі папярэднікаў даюць сучасныя тэхнічныя сродкі – ад чытання тэксту граматы ў святле ультрафіялетавай лямпы да апрацоўкі электроннай копіі высокага дазволу ў графічных рэдактарах.

Такім чынам, грамата 1483 года, якая публікуецца ніжэй, – гэта частка комплексу літоўска-навасільскіх дагавораў, пачатак якім паклала “Вітаўтава даканчанне” 1427 г. Мяркуючы па вывучаных крыніцах, комплекс складаў як мінімум 7 або 8 пар грамат-арыгіналаў, не лічачы іх спісаў. Усяго 14 ці 16 грамат, з якіх захаваліся толькі 4 граматы, для якіх экзэмпляры процілеглых бакоў (“противни”) былі страчаны. Грамата 1483 г. уяўляе сабой варатынскую галіну літоўска-навасільскіх дагавораў. Асобнік, што захоўваецца ў РГАДА, па форме з’яўляецца адзіным, які дайшоў да нас, узорам падобных даканчанняў, складзеным з боку літоўскага сюзерэна навасільскіх (у прыватнасці варатынскіх) князёў.

112 ГАР. Вып. 2. С. 223. Э. Банёніс памылкова ўказаў, што пад гэтай сігнатурай захоўваецца арыгінал крыжацалавальнай граматы князя Фёдара Львовіча каралю Казіміру 1448 г. у сувязі з перадачай варатынскаму князю Казельска (LM. Kn. 5. 1993. P. 332).

Раней адзін з аўтараў гэтых радкоў, Р. Бяспалаў, меркаваў, што грамата 1483 г., якая дайшла да нас, можа быць спісам з арыгінала[113]. Аднак вывучэнне граматы 1483 г. у РГАДА дазволіла С. Палехаву зрабіць выснову, што па сваім вонкавым выглядзе яна цалкам адпавядае арыгіналу: яна напісана на вялікім аркушы пергамену – дарагога матэрыялу; у ніжняй частцы аркуша і спецыяльным загіне, які з'яўляецца яго працягам, былі дзве адтуліны для пропуску шнура з шаўковых нітак, на якім была прывешана пячатка (што і адзначана ў вопісе архіва Пасольскага прыказа 1673 г.: "печать на красном шолку", г. зн. на шаўковых нітках; да цяперашняга часу захавалася правая адтуліна, а абрысы трыкутніка, утворанага ніткамі, можна аднавіць па страчаным фрагменце ў ніжняй частцы аркуша і загіне); нарэшце, практыцы афармлення арыгінальных дакументаў канцылярыі Казіміра адпавядае не толькі афармленне тэксту (у прыватнасці, інтытуляцыя напісана пасярэдзіне аркуша ў два радкі), але і напісанне літар[114]. Арыгіналам грамату 1483 г. лічыў таксама І. Грыгаровіч. Адсутнасць пазнак на адвароце граматы, характэрных для літоўскага велікакняскага архіва, лёгка было б растлумачыць тым, што яе інвентарызацыя ў дадзеным архіве не праводзілася. З улікам таго, што па форме гэта грамата Казіміра IV варатынскім князям і была прызначана для іх, варта меркаваць, што з 1483 г. яна

[113] Гэтая думка Р. Бяспалава, выказаная ў лісце да А. Казакова, была ў публікацыі апошняга (Казакоў А. У. Невядомае даканчанне караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра і князя Навасільскага і Адоеўскага Міхаіла Іванавіча 1481 г. С. 294).

[114] Так, пачатковы ініцыял "К" у інтытуляцыі Казіміра, мяркуючы па яго левай частцы, якая захавалася, быў напісаны так, як і ў арыгінальных граматах гэтага правіцеля 60–80-х гг., што дайшлі да нас (гл., напр.: РГАДА. Ф. 389, оп. 1, ед. хр. 583, л. 7, 8, 10, 16–16а, 40). Паводле назіранняў А. Грушы, якімі ён ласкава падзяліўся ў лісце С. Палехаву, почырк граматы 1483 г. – "ранні", г. зн. больш характэрны для грамат эпохі Казіміра, чым яго пераемніка Аляксандра. Аднак спецыяльнае вывучэнне почыркаў "рускага" аддзела велікакняскай канцылярыі Казіміра, у тым ліку параўнанне почыркаў граматы 1483 г. і іншых, застаецца справай будучыні.

захоўвалася зусім не ў літоўскім велікакняскім архіве, а ў архіве варатынскіх князёў (такім чынам, гэта ўнікальная часцінка таго архіва, якая дайшла да нашых дзён!) і была канфіскавана маскоўскім бокам пасля пераходу князёў на маскоўскую службу. Гэтая акцыя была вельмі актуальнай, бо пры заключэнні новых дагавораў аб службе Літве навасільскія князі спасылаліся на свае ранейшыя літоўска-навасільскія дагаворы, заключаныя па "Вітаўтавым даканчанні". Канфіскацыя падобных дакументаў пазбаўляла іх важнага дакументальнага сведчання ў іх магчымых зносінах з Літвой у будучыні, што было выгадна маскоўскаму боку. У гісторыі ёсць аналагічны прыклад. Пасля таго як зімой 1477–1478 г. Іван III канчаткова падпарадкаваў сабе Вялікі Ноўгарад і стаў там такім жа гасударам, "как и на Москве", ён загадаў забраць у наўгародцаў усе ранейшыя літоўска-наўгародскія дагаворы[115].

Разам з тым узнікаюць пытанні, на якія аўтары гэтых радкоў пакуль не могуць даць здавальняльнага адказу: калі арыгінал быў складзены ў Вільні ад імя Казіміра, то чаму ў вопісе архіва Пасольскага прыказа 1614 г. запісана, што да захаванага асобніка былі прывешаны "печати посольские"[116]? Чаму яны былі ўказаны ў множным ліку? У вопісе 1673 г. упамінаецца толькі адна і, мяркуючы па адтулінах на аркушы, да яго была прывешана толькі адна пячатка. Нарэшце, як у 1614 г. у Пасольскага прыказа атрымалася скласці дакладнае апісанне дадзенай граматы (ва ўсякім выпадку, яе тэкставай часткі), калі ўжо ў вопісе Царскага архіва 1570–1575 г. яе апісанне было няслушным?

Інакш склаўся лёс прысяжнай граматы князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага Казіміру аб трыманні горада

[115] ПСРЛ. Т. 25. Москва, 2004. С. 322.

[116] Описи царского архива XVI века и архива Посольского приказа 1614 года. С. 47; ДДГ. С. 445. Магчыма, да такой фармулёўкі складальніка вопісу падштурхнула знаёмая яму працэдура заключэння маскоўска-літовскіх даканчанняў канца XV – XVI ст.? (Гл.: Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės ir Maskvos valstybės sutartys. 1449–1556 metai. Šaltinių publikacija / Sudarė, parengė, vertė M. Sirutavičius. Kaunas, 2016. P. 24–43).

Казельска 1488 г. Хоць Казімір адначасова займаў польскі і літоўскі троны, грамата трапіла не ў каронны, а ў літоўскі вялікакняскі архіў, пра што сведчаць старабеларускія пазнакі на яе адвароце. Калі гэты архіў прысвоілі сабе Радзівілы[117], да іх перайшла і грамата 1488 г. Яна адзначалася ў інвентарах гэтага архіва XVII–XVIII ст., прычым часта згадвалася разам з літоўска-адоеўскім дагаворам 1481 г. Так, паводле аднаго з апісанняў канца XVIII ст., грамата 1488 г. захоўвалася ў 3-й частцы 4-га фасцыкула пад № 1: "List kniazia Dmitra Worotyńskiego, którym się zapisuje z zamkiem Kozielskim, onemu danym, królowi Kazimierzowi do Litwy, dany w Wilnie dnia 12 Marca, z pieczęcią małą" (у левым слупку прыводзіцца і гадавая дата – 6996/1488 г.)[118]. Па тых інвентарах грамата і была да гэтага часу вядомая гісторыкам[119]. Я. Якубоўскі, які прысвяціў спецыяльны артыкул гісторыі літоўскага вялікакняскага архіва, адзначыў, што яшчэ ў XVIII ст. грамата захоўвалася ў Радзівілаўскім архіве, а да моманту публікацыі артыкула яе там ужо не было[120].

[117] Гл. аб гэтым падрабязней: Латушкін А. М. Аб гісторыі ўключэння грамат і актаў… С. 292–309.

[118] Biblioteka XX. Czartoryskich. Rkps 817. S. 207. Таксама гл. у інвентарах 1623 і 1685 гг.: Латушкін А. М. Рэестр дзяржаўнага архіва Вялікага Княства Літоўскага ад 26 лістапада 1623 г. С. 262, № 74, 75; Ён жа. Аб гісторыі ўключэння грамат і актаў… С. 306, № 34; *Rowell S. C.* Išdavystė ar paprasti nesutarimai? P. 72.

[119] Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1: 1377–1499. Warszawa, 1930. S. 392; Кром М. М. Меж Русью и Литвой. С. 92; Шеков А. В. Верховские княжества. Середина XIII – середина XVI вв. Москва, 2012. С. 163. Гл. таксама наступную заўвагу.

[120] Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy. S. 17. Згодна з інвентаром 1755 г., грамата захоўвалася ў 4-м фасцыкуле 3-й скрынкі ("шуфляды") у якасці штукі 1, што адбілася ў архіўным пазначэнні на спецыяльнай наклейцы на адвароце граматы (пазнака № 3 паводле гэтай публікацыі). Гл.: AGAD. Archiwum Radziwiłłowskie. Dz. XXVII. Sygn. 29. S. 10. Аўтары шчыра дзякуюць д-ру Р. Янкоўскаму за магчымасць пазнаёміцца з гэтым інвентаром і за каштоўныя кансультацыі.

На самай справе, як высвятляецца, грамата не знікла бясследна. У 1866 г. П. Муханаў (1797–1871) перадаў яе ў дар Маскоўскаму Публічнаму і Румянцаўскаму музеям для далучэння да збору актаў, падораных ім тым самым музеям на год раней, разам з прысяжнай граматай кн. Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага 1401 г.[121]. Відавочна, абедзве граматы трапілі да П. Муханава з архіва Радзівілаў (паводле высновы А. Латушкіна, не з Нясвіжа, а з Няборава), як і дагаворы Вітаўта з Барысам Аляксандравічам Цвярскім 1427 г. і Казіміра з Ноўгарадам 1440-х г.[122], якія былі перададзены ім у збор Прыказа тайных спраў (цяпер захоўваюцца ў РГАДА)[123]. Напэўна, гэты дар быў прынесены прыкладна тады ж, паколькі члены Аддзялення рускай мовы і славеснасці Расійскай Акадэміі навук пазнаёміліся з арыгіналам літоўска-цвярскога дагавора ў канцы 1867 г.[124]. Калі і якім шляхам усе гэтыя граматы трапілі

[121] Отчет Московского Публичного и Румянцевского музеев за 1866 год. С. 58, 60; ОР РГБ. Ф. 191, ед. хр. 101, 102. Грамата князя Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага 1401 г. па арыгінале публікавалася у другім выданні “Сборника Муханова” 1866 г., адкуль, не адшукаўшы арыгінала, яе перадрукавалі У. Сэмковіч і С. Кутшэба (Сборник Муханова. Изд. 2-е. № 350. С. 622; Akta unji Polski z Litwą 1385–1781. Kraków, 1932. № 40. S. 41–42). У гэтых публікацыях тэкст граматы перададзены вельмі дакладна. Нядаўна грамату апублікаваў па арыгінале А. Латушкін, які звярнуў увагу таксама на яе архіўны лёс: Латушкін А. М. Акты XV ст. С. 114–127.

[122] Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy. S. 16; Латушкін А. М. Акты XV ст. С. 116–117.

[123] РГАДА. Ф. 27, оп. 1, ед. хр. 2, 3 (публікацыі гл.: ДДГ. № 23. С. 62–63; ГВНП. № 70. С. 115–116). На адвароце дагавора Казіміра з Ноўгарадам ёсць пазнакі, характэрныя для літоўскага велікакняскага і пазнейшага радзівілаўскага архіваў, – старабеларускім скорапісам і польскім пісьмом ранняга Новага часу, не адзначаныя ў згаданых публікацыях (гл.: РИБ. Т. 22: Дела Тайного приказа. Кн. 2. С.-Петербург, 1908. № II, III. Стб. 13–18). Аўтары выказваюць падзяку І. Анкудзінаву за спрыянне ў працы з наўгародска-літоўскім дагаворам.

[124] Извлечения из протоколов Отделения русского языка и словесности. Ноябрь и декабрь 1867 года // Сб. статей, читанных в Отделении русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. 2. С.-Петербург, 1868. С. XXVIII–XXXIX.

да П. Муханава? Пра іх выяўленне ён пісаў М. Пагодзіну з Варшавы 8 (20) ліпеня 1844 г.[125]: "Я продолжаю рыться в старине, отыскал кое-какие древности: в одной деревне, принадл[ежащей] жене, близ самого Бреста Литов[ского], в Грод[ненской] губ[ернии], нашел в старых бумагах грамоту на это имение, данн[ую] Александр[ом], вел[иким] к[нязем] Лит[овским] и кор[олем] Поль[ским], в 1505 году, писанную на руском языке, Жигимунта 1517 года на руском языке[126] и много других, все на пергаменте. Здесь нашел:

– Грам[оту] кн[язя] Дмитрия Воротынского 1487.

– Присяга кн[язя] Семена Дмитриевича Дрюцкого 1401 года.

– Вел[икого] кн[язя] Бориса Александровича Тверского, взявшего *любовь* таковоу[127] (!) с в[еликим] к[нязем] Витовтом 1421. Чудесное докончание на пергаментном листе…[128] с сохранившейся печатью.

– Перемирная грам[ота] кор[оля] Казимира с Новгородом (со владыкою Ефимом и с посад[ником] Федором Олисеевичем)[129]. Больш. …[130] с печат[ями] на пергам[енте].

Разумеется, все сии акты оригинальные".

З 1842 г. П. Муханаў займаў пасаду віцэ-прэзідэнта савета народнай асветы Царства Польскага[131], а ўжо з канца папярэдняга года знаходзіўся ў Варшаве[132] (да

[125] Арыгінал ліста: ОР РГБ. Ф. 231/II (М. П. Погодин), карт. 21, ед. хр. 73, л. 38–39 (цытата на арк. 39). Гэтая цытата з раскрыццём скарачэнняў і некаторымі пропускамі падаецца ў кн.: Барсуков Н. П. Жизнь и труды М. П. Погодина. Кн. 7. С.-Петербург, 1893. С. 207–208.

[126] Апошнія тры словы ўпісаны над радком.

[127] У арыгінале падкрэслена.

[128] Некалькі літар неразборлівыя.

[129] Далей некалькі знакаў неразборлівыя.

[130] Некалькі літар неразборлівыя.

[131] Сиверс А. А. Материалы к родословию Мухановых. С.-Петербург, 1910. С. 122; Чагин Г. В. Мухановы. С.-Петербург, 2007. С. 220.

[132] Гл. яго ліст М. П. Пагодзіну з Варшавы от 15 (27) снежня 1841 г.: ОР РГБ. Ф. 231/II, карт. 21, ед. хр. 73, л. 27–28.

гэтага ён служыў у Царстве Польскім у 1831–1834 г.[133], але наведваўся туды і пазней). Аднак несумненнае паходжанне грамат з Радзівілаўскага архіва прымушае ўсумніцца ў прыведзенай версіі іх выяўлення. Было б дзіўна, калі б найстаражытнейшыя пергаменныя граматы аб міжкняскіх адносінах, за якія калекцыянеры былі гатовыя плаціць вялікія грошы, раптам сталі нікому не патрэбнымі і апынуліся пахаванымі сярод такіх жа грамат у адным з маёнткаў жонкі П. Муханава[134]. Вядома, што ў рукі Муханава трапіў яшчэ па меншай меры адзін дакумент Радзівілаўскага архіва – тастамент гетмана Станіслава Жалкеўскага[135]. Звяртае на сябе ўвагу адбор названых дакументаў, якія трапілі да П. Муханова: пергаменныя граматы напісаны кірыліцай, на старабеларускай мове, што падкрэсліваў ён сам, тады як асоба Жалкеўскага была важная з прычыны яго сувязі з гісторыяй Расійскай дзяржавы. Напрошваецца здагадка, што П. Муханаў, заўзяты збіральнік старажытных рукапісаў, які шукаў іх нават у далёкім Парыжы[136], набыў некалькі дакументаў Радзівілаўскага

[133] Сиверс А. А. Указ. соч. С. 122; Чагин Г. В. Указ. соч. С. 212–216.

[134] П. Муханаў быў жанаты з Жазефінай Мастоўскай, дачкой вядомага польскага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча графа Тадэвуша Антуана Мастоўскага (у першым шлюбе была замужам за дыпламатам, баронам Паўлам Марэнгеймам). Вядома, што ёй належаў маёнтак Тархомін пад Варшавай (Сиверс А. А. Указ. соч. С. 124–125; Чагин Г. В. Указ. соч. С. 216). На жаль, не ўдалося ні ідэнтыфікаваць згаданы маёнтак жонкі П. Муханава, ні вызначыць сучаснае месца знаходжання грамат Аляксандра Ягелона 1505 г. і Жыгімонта Старога 1517 г.

[135] РГАДА. Ф. 170, оп. 1, ед. хр. 1; Записки гетмана Жолкевского о московской войне / изд. П. А. Муханов. Изд. 2-е. С.-Петербург, 1871. Стб. 278–279. Публікацыю гэтага дакумента гл.: "Всякий человек всегда должен помнить о превратности этой земной жизни". Завещание гетмана Станислава Жолкевского. 1606 г. / подг. Ю. М. Эскин, М. А. Яницкий // Исторический архив. 2016. № 3. С. 169–189.

[136] Барсуков Н. П. Александр Иванович Тургенев в его письмах. 1827–1845 гг. // Русская старина. Т. 34. С.-Петербург, 1882. С. 179; Сиверс А. А. Указ. соч. С. 125; Чагин Г. В. Указ. соч. С. 221–222.

лаўскага архіва, а ў лісце М. Пагодзіну выклаў прыгожую версію іх выяўлення. Пазней М. Пагодзін успамінаў, што П. Муханаў набыў мноства рускіх грамат (у тым ліку наўгародскіх) на пергамене з нейкай нагоды, пра якую нават яму не казаў[137]. Нескладана заўважыць, што набыты ў Варшаве рукапіс С. Жалкеўскага пра "Маскоўскую вайну" П. Муханаў апублікаваў у 1836 г., гэта значыць адразу пасля вяртання з Польшчы. Цвярскую і наўгародскую граматы ён друкаваў у тым жа 1836 г. у самым пачатку першага выдання свайго "Зборніка", аднак публікацыя была выканана па спісах са складу Літоўскай метрыкі[138]. Такім чынам, на той час іх арыгіналаў П. Муханаў яшчэ не меў. Друкаванне другога выдання "Зборніка" пачалося ўжо ў 1837 г., але было перапынена, а адноўлена і скончана толькі ў сярэдзіне 60-х г. Грамата кн. С. Друцкага была надрукавана ў другім выданні пасля ўсіх астатніх грамат, насуперак храналагічнаму парадку і ўжо пасля слова "Канец"[139]. У сувязі з гэтым можна думаць, што пералічаныя ў лісце да М. Пагодзіна граматы П. Муханаў набыў пазней, пасля сваёй службы ў Польшчы на пачатку 30-х г. XIX ст., а менавіта ў перыяд з 1837 г. да 8 (20) ліпеня 1844 г.[140].

Звесткі пра дар П. Муханава Маскоўскаму Румянцаўскаму і Публічнаму музеям былі апублікаваны яшчэ ў канцы XIX ст., але прайшлі міма ўвагі многіх гісторыкаў. Выключэннем стаў хіба што Э. Банёніс, які, паводле ліста выкарыстання граматы 1488 г., працаваў з ёю 19 кастрычніка 1987 г. пры падрыхтоўцы публікацыі другой часткі 5-й кнігі запісаў Літоўскай метрыкі. Вучоны

[137] У дадзеным выпадку М. П. Пагодзін не падаваў усяго пераліку гэтых грамат, але яго словы сведчаць пра нежаданне П. А. Муханава раскрываць абставіны іх набыцця (Погодин М. П. В память о Павле Александровиче Муханове. 1798–1871 // Русская старина. Т. 5. С.-Петербург, 1872. С. 339).

[138] Сборник Муханова. № 1, 3. С. 1–2, 3–4.

[139] Сборник Муханова. Изд. 2-е. № 350. С. 622.

[140] Прыведзеныя дадзеныя дазваляюць істотна ўдакладніць выснову А. Латушкіна, які лічыў, што П. А. Муханаў завалодаў граматамі 1401–1488 г. у перыяд паміж 1836 і 1866 гг. (Латушкін А. М. Акты XV ст. С. 117–121).

выканаў "апісанне знешніх атрыбутаў" граматы, аднак не адлюстраваў атрыманыя звесткі ў сваіх працах. У выніку дадзеная крыніца толькі цяпер уводзіцца ў навуковы зварот.

Польскім спецыялістам, якія працавалі ў першай трэці XX ст., гэтая грамата была вядомая па архіўных вопісах XVII–XVIII ст. У публікацыі Я. Якубоўскага (1931) яна датавана сакавіком 6996 г., але далей у дужках быў указаны 1483 год, што ўносіць блытаніну ў датаванне[141]. У арыгінале граматы стаіць 6996 г. 6-га індыкта, што адпавядае 1488 году.

Праблематычным стала і прачытанне дня месяца. Графічна ён адлюстраваны як "ƧI" пад цітлам. Архівісты Рэчы Паспалітай XVII–XVIII ст. успрымалі першы сімвал як звычайную двойку, а другі – як кірылічнае "I" ("і" дзесяцярычнае). Адсюль у вопісах польскіх архіваў, а потым у Я. Якубоўскага падаецца 12 сакавіка[142]. Расійскія архівісты сярэдзіны XIX ст. палічылі, што гэтыя літары абазначаюць "21". З-за гэтага ў справаздачы Маскоўскага Публічнага і Румянцаўскага музеяў, а затым і ў вопісе Аддзела рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі было пададзена 21 сакавіка[143]. На самай жа справе першы знак уяўляе сабой люстраную выяву літары "S". Прыклады падобнага напісання вядомыя ў датах грамат, напісаных у ВКЛ у канцы XIV–XV ст.[144]. Больш за тое, архівіст XVI–XVII ст. напісаў на адвароце граматы:

[141] Jakubowski J. Archiwum państwowe W. X. Litewskiego i jego losy. S. 8–9, 17.

[142] Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie. Rkps 817. S. 207.

[143] Отчет Московского Публичного и Румянцевского музеев за 1866 год. С. 58.

[144] Груша А. І. Беларуская кірылічная палеаграфія: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў гістарычнага факультэта. Мн., 2006. С. 35–37; прыклады ў граматах Вялікага Княства Літоўскага XIV–XV ст.: Biblioteka Polskiej Akademii Nauk i Polskiej Akademii Umiejętności w Krakowie. Rkps 2017, k. 20 (Трокі, 1398 ці 1409 ці 1420 г.); Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 147, воп. 2, спр. 178, арк. 430 (Луцк, 1458 г.); Latvijas Valsts Vēstures Arhīvs. F. 673, apr. 4, k. 19, l. 5, lp. 2 (Хажова, 1471 г.).

“в ле*т*(о) 6996 ма*р*(та) 16 де*н*(ь)» (пазнака 7), прычым усе яго шасцёркі-“S” чытаюцца адназначна.

На грамаце 1488 г. захавалася віслая васковая пячатка князя Дзмітрыя Варатынскага. Яна змешчана ў васковы каўчэжац, прывешаны да загіну пасярэдзіне аркуша на звітых шнурах з чырвоных шаўковых нітак. Выява на ёй не чытаецца; магчыма, гэта фігура чалавека. Падобным чынам афармлена пячатка на літоўска-адоеўскім дагаворы 1481 г., захаванасць якога крыху лепшая. На думку А. Казакова, гэта пячатка князя Міхаіла Адоеўскага з выявай чалавека, які стаіць[145]. Варта ўдакладніць, што на пячатцы 1481 г. уверсе – віньетка, пад ёй фігура ў поўны рост, мяркуецца, што ў яе ёсць крылы. У такім выпадку ў ёй можна бачыць архангела Міхаіла – патранальнага заступніка князя Міхаіла Адоеўскага. На пячатцы князя Івана Міхайлавіча Варатынскага 1587 г. бачым чалавека, які стаіць перад дрэвам[146]. Не выключана, што такім чынам паказаны біблейскі сюжэт казання Іаана Хрысціцеля пра набліжэнне царства нябеснага: “Усякае дрэва, якое не родзіць добрага плоду, ссякаюць і кідаюць у агонь” (Мц.: 3, 10)[147]. У сувязі з гэтым можна думаць, што на віслых пячатках князёў навасільскага дому часта адлюстроўваўся тэзайменны (патранальны) святы або архангел, што традыцыйна для афармлення рускіх пячатак яшчэ з дамангольскага часу. Зрэшты, маглі быць і выключэнні[148].

[145] Казакоў А. У. Невядомае даканчанне караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра і князя Навасільскага і Адоеўскага Міхаіла Іванавіча 1481 г. С. 294, 297.

[146] Сборник снимков с древних печатей, приложенных к грамотам и другим юридическим актам, хранящимся в Московском архиве министерства юстиции / сост. П. Иванов. Москва, 1858. Табл. VIII. № 134. С. 11.

[147] Пра распаўсюджанасць гэтага сюжэта на рускіх манетах гл.: Федоров-Давыдов Г. А. Монеты Московской Руси. Москва, 1981. С. 135–139.

[148] На грамаце архімандрыту Троіца-Сергіева манастыра Дыянісію 1613 г. ёсць дзве пячаткі: стольніка князя Івана Адоеўскага і ваяводы Грыгорыя Пушкіна. На адной з іх гусак з выгнутай назад шыяй, на другой – геральдычныя віньеткі (Сборник снимков с древних печатей… Табл. IX. № 8. С. 14).

Прысяжныя граматы або “запісы” варатынскіх князёў 1448 і 1488 г. аб трыманні імі горада Казельска ў якасці намеснікаў літоўскіх гаспадароў па сваёй форме былі аднабаковымі. Іх тэксты практычна цалкам супадаюць. У пачатку ідзе інтытуляцыя (адрасант – варатынскі князь) і інскрыпцыя (адрасат – Казімір), потым – нарацыя: выкладаюцца абставіны складання “запісу”: пра тое, што Казімір даў таму ці іншаму варатынскаму князю Казельск у намесніцтва, у сувязі з чым і ўзніклі гэтыя дакументы. У дыспазіцыі апісаны абавязкі варатынскага князя і правы “козличей”. Пасля ідуць карабарацыя (засведчвальная частка) і дата.

Грамата 1488 г., якую мы публікуем, з аднаго боку, – вынік складання літоўска-варатынскага дагавора 1483 г., на яго наўпрост спасылаюцца ў карабарацыі; з другога боку, яна складзена ў дакладнай адпаведнасці з фармулярам папярэдняй аналагічнай граматы 1448 г.

## Публікацыя літоўска-варатынскіх грамат 1483 і 1488 г.

Граматы публікуюцца па наступных правілах. Пры перадачы тэксту захоўваюцца літары, якія адсутнічаюць у сучасным алфавіце: “ѣ”, “ѡ”, “ꙋ”, “ѳ”, “ѧ”, “ꙗ”. Шырокае “е” перадаецца літарай “є”. Вынасныя літары друкуюцца курсівам. Прапушчаныя літары ў скарочаных словах прыўносяцца ў радок у круглых дужках з улікам вядомых выпадкаў поўнага напісання такіх слоў і асаблівасцяў пісьма пісцоў грамат. На канцы дзеясловаў у формах трэцяй асобы пасля “т” выноснай у круглых дужках друкуецца мяккі знак, што адпавядае поўнаму напісанню і адлюстроўвае асаблівасці фанетыкі старабеларускай мовы. У грамаце 1488 г. знакі ў выглядзе кропкі пасярэдзіне радка, якія выконвалі функцыю памежных сігналаў паміж словамі і фразамі, абазначаюцца зорачкай (*). У грамаце 1483 г. з-за яе дрэннай захаванасці гэтага зрабіць не ўдалося. Літары, якія абазначаюць лікі, замяняюцца на сучасныя (арабскія) лічбы. Канец радка пазначаецца вертыкальнай лініяй (|). Тэкст падзелены на словы, сказы і абзацы, уведзена сучасная пунктуацыя. Імёны ўласныя

пішуцца з вялікай літары. Страчаныя і рэканструяваныя фрагменты тэксту заключаюцца ў квадратныя дужкі, пры гэтым у заўвагах адзначаецца даўжыня і характар страты і агаворваюцца падставы рэканструкцыі. Месцы граматы 1483 г., якія ўдалося прачытаць толькі пры дапамозе ультрафіялетавай лямпы, не адзначаюцца. Фрагменты тэксту граматы 1483 г., якія цяпер не паддаюцца прачытанню, але былі надрукаваны І. Грыгаровічам, прапануюцца ў асноўным паводле яго публікацыі.

Публікацыі тэксту кожнай з грамат папярэднічае загаловак і археаграфічная легенда, якая змяшчае апісанне яе вонкавых прыкмет: паведамляюцца звесткі пра носьбіта тэксту, яго памеры (паказаны ў сантыметрах, па гадзіннікавай стрэлцы пачынаючы з верхняга краю), ступень яго захаванасці, пячаткі, паметкі, пра публікацыі і згадкі, а для граматы 1483 г. – пра квадраты, утвораныя лініямі згіну[149].

## Спіс скарачэнняў

АЗР. Т. 1. – Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 1. С.-Петербург, 1846.

ДДГ – Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV–XVI вв. Москва; Ленинград, 1950.

ДРВ. Ч. 6. – Древняя российская вивлиофика, содержащая в себе собрание древностей российских, до истории, географии и генеалогии российския касающихся / изд. Новиков Н. [И.] Ч. 6. Москва, 1788.

ДРВ. Ч. 20. – Древняя российская вивлиофика, содержащая в себе собрание древностей российских, до истории, географии и генеалогии российския касающихся / изд. Новиков Н. [И.] Ч. 20. Москва, 1791.

149 Падрабязней гл.: Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII–XVIII стст., перыяд Вялікага Княства Літоўскага) / аўт.-склад. А. І. Груша. Мінск, 2003. Тэрмін “квадрат” умоўны і выкарыстоўваецца з прычыны археаграфічнай традыцыі; на самай справе чатырохвугольнікі, утвораныя лініямі згіну пергаменнага аркуша, мелі больш складаную форму (гл.: Полоцкие грамоты XIII – начала XVI в. / подг. А. Л. Хорошкевич, С. В. Полехов, В. А. Воронин, А. И. Груша, А. А. Жлутко, Е. Р. Сквайрс, А. Г. Тюльпин. Москва, 2015. Т. 1. С. 36–37).

ГАР. Вып. 1–3. – Государственный архив России XVI столетия. Опыт реконструкции / подготовка текста и комментарии А. А. Зимина. Вып. 1–3. Москва, 1978.

ГВНП – Грамоты великого Новгорода и Пскова. Москва; Ленинград, 1949.

ОР РГБ – Отдел рукописей Российской государственной библиотеки.

ПСРЛ – Полное собрание русских летописей.

РГАДА – Российский государственный архив древних актов.

РИИР. Вып. 2. – Редкие источники по истории России. Вып. 2: Новые родословные книги XVI в. / подг. З. Н. Бочкарева, М. Е. Бычкова. Москва, 1977.

СГГД – Собрание государственных грамот и договоров.

СИРИО. Т. 35. – Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. (С 1487 по 1533 год) // Сборник Императорского русского исторического общества. Т. 35. С.-Петербург, 1892.

СИРИО. Т. 41. – Памятники дипломатических сношений Московскаго государства с Крымскою и Нагайскою Ордами и с Турцией. Т. I. (С 1474 по 1505 год, эпоха свержения монгольскаго ига в России) // Сборник Императорского русского исторического общества. Т. 41. С.-Петербург, 1884.

СРЯ – Словарь русского языка XI–XVII вв. Москва, (продолж. издание).

ЦГАДА – Центральный государственный архив древних актов.

ЧОИДР – Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете.

AGAD – Archiwum główne akt dawnych w Warszawie.

CESXV. T. 1. – Codex epistolaris saeculi decimi quinti. T. 1 / Collectus opera A. Sokołowski, J. Szujski. Crakoviae, 1876.

CEV – Codex epistolaris Vitoldi magni Ducis Lithuaniae 1376–1430 / Collectus opera A. Prochaska. Crakoviae, 1882.

GStAPK, OBA – Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz, XX. Hauptabteilung (Königsberger Archiv), Ordensbriefarchiv.

LM. Kn. 3. – Lietuvos metrika. Kniga Nr. 3 (1440–1498): Užrašymų knyga 3 / par. L. Anužytė, A. Baliulis. Vilnius, 1998.

LM. Kn. 4. – Lietuvos metrika. Knyga Nr. 4 (1479–1491): Užrašymų knyga 4 / par. L. Anužytė. Vilnius, 2004.

LM. Kn. 5. 1993. – Lietuvos metrika. Kniga Nr. 5 (1427–1506): Užrašymų knyga 5 / par. E. Banionis. Vilnius, 1993.

LM. Kn. 5. 2012. – Lietuvos metrika. Kniga Nr. 5 (1427–1506): Užrašymų knyga 5 / par. A. Baliulis, A. Dubonis, D. Antanavičius. Vilnius, 2012.

**1**

*1483 г. красавіка 10. Вільня. – Дагаворная грамата варатынскіх князёў Дзмітрыя і Сямёна Фёдаравічаў і іх пляменніка Івана Міхайлавіча з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам.*

*Грамата караля і вялікага князя Казіміра варатынскім князям*

РГАДА. Ф. 79, оп. 3, ед. хр. 2, л. 2. Пергамен, 32,0×39,1×31,7×42,4 (аркуш дэфармаваны і надарваны ў правай частцы – у кв. G і J; яго шырыня ў месцы размяшчэння радка тэксту, які [радок] ідзе за інтытуляцыяй, – 32,9 см). Ніжнюю частку аркуша складае загін вышынёй 8,5–8,7 см. Арыгінал – *A*.

*Карычневае чарніла розных адценняў. Старабеларускі скорапіс. Тэкст напісаны ў 32 радкі, з якіх першыя два радкі займае інтытуляцыя.*

*Палі: верхняе – 2,0–2,3; правае – 0,7–1,3 (без уліку дэфармаванай часткі аркуша); левае – 3,5–4,0. Адлегласць ад ніжняга радка да загіну – 4,5–4,6.*

*У загіне (кв. N) і аркушы пад апошнім радком тэксту (кв. K) былі зроблены па дзве авальныя адтуліны, праз якія быў прапушчаны шнур для прывешвання пячаткі (шнуры і пячатка не захаваліся). Левы край левай адтуліны знаходзіўся на адлегласці 13,1 см ад левага краю граматы, правы край правай адтуліны – на адлегласці 5,4 см ад левага краю левай адтуліны (вызначаюцца па краях страчанага фрагмента). Да цяперашняга часу трыкутны ўчастак пергамену, утвораны шнурам для мацавання пячаткі, страчаны – як на асноўным аркушы (трыкутнік накіраваны вяршыняй уніз), так і на загіне (трыкутнік накіраваны вяршыняй уверх).*

*У верхняй частцы аркуша (левая частка кв. B, левая верхняя частка кв. E) страчаны фрагменты, падобныя па форме і памерах да стратаў у ніжняй частцы аркуша. Відавочна, страта фрагментаў пергамену ў ніжняй і верхняй частках і дэфармацыя ў правай частцы адбыліся ў выніку захоўвання яго ў складзеным выглядзе, у месцы размяшчэння пячаткі – верагодна, пад тэрмічным уздзеяннем. У выніку былі страчаны фрагменты тэксту ў радках 1–2, 4–11, 32. Да цяперашняга часу страчаныя месцы і разрывы ў правай частцы аркуша пры рэстаўрацыі падклеены з адваротнага боку пергаменам.*

*Квадраты, утвораныя лініямі згіну (адварот): A=7,4×8×8,5×8; B=14,5×8,7×14,2×8; C=10,4×8,4×10,4×8,7; D=8,5×8×8,7×8,4; E=14,2×7,3×13,8×8; F=10,4×8×10,3×7,3; G=8,7×7,8×7,8×6,8; H=13,8×8,1×13,7×7,8; I=10,3×8,1×10×8,1; J=7,8×8,7×8,2×8,1; K=13,7×9×14×8,7; L=10×9,2×9,8×9; M=8,2×8,8×8,4×8,5; N=14×8,8×13,9×8,8; O=9,8×8,5×9,5×8,8.*

| | | |
|---|---|---|
| A | B | C |
| D | E | F |
| G | H | I |
| J | K<br>.... .... | L |
| M | .... ....<br>N | O |

Пазнакі: *1)* 2 *(фаліяцыя; на пярэднім баку, бліжэй да правага верхняга вугла, над словам* Дмитреи*; пр. аловак, XX ст.); 2)* Доко*н*ч*ал*(ь)наꙗ грамота воротынски*х* кн(ѧ)*з*еи | с короле*м* с Олеѯандрѡ*м (на адвароце, каля правага краю кв. H, зверху ўніз па вертыкалі, перпендыкулярна ў дачыненні да тэксту; моцна выцвілым карычн. чрнл.; магчыма, XVI ст.); 3)* 6991-*г*(о) год*у (на адвароце, каля правага краю кв. H, зверху ўніз па вертыкалі, як працяг пазнакі 2; чорным чрнл.; XVI–XVII ст.).*

Спісы: *Б*) РГАДА. Ф. 79, оп. 3, ед. хр. 2, л. 1об. (па *A*), канец XVIII – пач. XIX ст.

Публ.: а) АЗР. Т. 1. № 80. С. 100–101 (па *A*); б) Баталин А. М. Город Воротынск и князья Воротынские в истории России. Калуга, 1995. С. 66–67 (па *а*).

Заўвага. *У тых выпадках, калі чарніла моцна выцвіла, тэкст аднаўляецца без асаблівых тлумачэнняў, паколькі на забруджаным пергамене часам, асабліва ў верхняй частцы аркуша, відаць больш светлыя ў параўнанні з ім абрысы выцвілых літар. Тлумачэнні ў заўвагах робяцца толькі ў асабліва складаных або спрэчных выпадках. Месцы, якія не паддаюцца прачытанню, адзначаюцца квадратнымі дужкамі, па магчымасці аднаўляюцца (пры гэтым у заўвагах спецыяльна агаворваюцца падставы рэканструкцыі тэксту).*

**К**[азимир, Бож(ъ)ю м(и)л(о)стью корол(ь)][1] пол(ь)ские, великии кн(ѧ)зь лит(о) | [вскии][2], рускии, кн(ѧ)жа прус[кое, жомоитскии][3] и иных. |

**Ч**иним[4] знаменито сим нашим ли[сто]м[5], хто на него посмотрит(ь) [или][6] чтѹчи єго всълышит(ь). Били нам чолом кн(ѧ)зь Дмитреи, а брат єго кн(ѧ)зь Сем[е]н[7] | Ѳедоровичи Лвовича, а брат[анич их][8] кн(ѧ)зь Иван Михаилович новосил(ь)скии и ѡдоевскии и воротынскии, абыхмо их пожаловали, принѧли въ слѹж|бу, как и ѡтца их, по докончаю[9] дѧди [нашог(о)][10], великог(о) кн(ѧ)зѧ Витовта. И мы их пожаловали, в слѹжбѹ єсмо их принѧли, по докончанію дѧди нашог(о), | великого кн(ѧ)зѧ Витовта.

[11-]Так[...]хъ[-11]. Слѹжити им нам вѣрне во всем, безо всѧкое хитрости, и во всем им нас послѹшным быти[12]. А нам | их во ч(е)сти и в жалован(ь)и и в докончаньи [держати, как д]ѧдѧ[13] наш, великии кн(ѧ)зь Витовтъ, дер-

[1] *страта пергамену (45 мм); адноўл. па фармуляры*

[2] *страта пергамену (7 мм), адноўл. па правай ножцы літары* и *і фармуляры*

[3] *з-за страты і пашкоджання пергамену не чытаецца ў цэлым прыблізна 34 мм, адноўл. па вынасных літарах і фармуляры*

[4] *ініцыял* Ч *займае ў вышыню 2 радкі (18×5 мм)*

[5] *не чытаецца з-за пацёртасці на згіне (10 мм), адноўл. па фармуляры*

[6] *пергамен надарваны і пазней падклеены з адваротнага боку (не чытаецца – 10 мм); адноўл. па АЗР*

[7] *перадапошняя літара* е *не чытаецца, адноўл. па сэнсе*

[8] *страта пергамену (11 мм), адноўл. па правай палове цітлы надканчаткам слова і па сэнсе*

[9] *так у тэксце, павінна быць* докончан(ь)ю

[10] *страта пергамену (12 мм), адноўл. па сэнсе і правай палове цітлы ў канцы слова*

[11–11] *пачатак фрагмента ў квадратных дужках моцна выцвіў: на частцы пергамену, якая захавалася пасля слова* так *(агульная даўжыня – 10 мм), напісаны 2 літары (нрзб., 5 мм); заканчэнне – страта пергамену (8 мм, пры гэтым пергамен дэфармаваны); у АЗР ён адзначаны адпунктоўкай; з-за адсутнасці яго ў літоўска-навасільскіх даканчаннях 1447 (1442?), 1459 і 1481 г. дакладнай рэканструкцыі не паддаецца*

[12] *пасля* быти *над радком нейкі знак*

[13] *страта пергамену (35 мм), адноўл. па фармуляры і па сэнсе*

жал дѣда их и ѡтца[14] их. А полѣтноє им нам давати | по старинѣ.

А быти им по нашеи в[оли: с ким мы мирни, и]но[15] и им с тымъ мирным быти, [16-]а с кимъ[-16] мы немирни, ино и им с тым немирным | быти. А бороніти нам их ѡт всѧког(о), как [и своего. А без нашєи][17] [18-]воли им ни с ким не[-18] докончивати, а не пособлѧти никомꙋ.

А нѣшто, которыми дѣлы, | што Бог измыслит(ь) над нами, ино им и дѣ[тем их служит]и[19] нашим дѣтем, хто коли бꙋдет(ь) великим кн(ѧ)з(е)м литовским[20] на Литовскои земли. А што Бог [учини]|ть[21] над ними, ино дѣтем их, по их животе, слꙋ[жити к][22] Литовскои земли, нам, а по нашем животе, дѣтем нашим, хто бꙋдет(ь) на Великом кн(ѧ)зстве | Литовском г(оспо)д(а)р(е)мъ. А Боже того не даи, єстли [будетъ стала Бож(ъ)ѧ волѧ надъ нашими] дѣтми, не было бы наших дѣтеи[23], ино им и дѣтем ихъ | слꙋжити намѣсткꙋ нашомꙋ, хто бꙋдет(ь) г(о)с(по)д(а)р(е)мъ на Великом кн(ѧ)жстве Литовском.

А по которым дѣлом Бож(ъ)им надъ их дѣтми [ш]то[24] сѧ ста|нет(ь), не будет(ь) в них ѡтродка, ино земли их ѡт Великог(о) кн(ѧ)зства Литовского не ѡтстꙋпати[25]. А пакли хто сѧ ѡстанет(ь) по их животе детеи их, | и нам

[14] *над* а *цітла*

[15] *страта пергамену (35 мм), далей на захаванай частцы пергамену тэкст не чытаецца з-за яго забруджвання (17 мм); адноўл. па фармуляры і па сэнсе*

[16–16] *меркаванае прачытанне (37 мм)*

[17] *страта пергамену (29 мм), далей тэкст выцвіў, не чытаецца з-за забруджвання пергамену (10 мм); адноўл. па фармуляры і па сэнсе, а таксама па гіпатэтычна прачытаных літарах* шє *пасля разрыву*

[18–18] *меркаванае прачытанне (25 мм)*

[19] *страта пергамену (5 мм), далей текст выцвіў, не чытаецца з-за забруджвання пергамену (8 мм), далей страта пергамену (12 мм)*

[20] *меркаванае прачытанне слова, у АЗР прапушчана*

[21] *тэкст моцна выцвіў (каля 32 мм), адноўл. па сэнсе*

[22] *страта пергамену (13 мм)*

[23] *літары* е *і* ѣ *чытаюцца гіпатэтычна*

[24] *літара* ш *выцвіла, адноўл. па сэнсе*

[25] *далей нейкая літара (магчыма, закрэсленая* и*)*

их съ их ѡтчин не рꙋшати. А въ ѡтчинꙋ их, в земли и въ воды не встꙋпатисѧ, покол(ь) рꙋбѣжь Новосил(ь)скои и Ѡдоевскои и Воротынскои | земли, ѡпроч(ь) того, што издавна ѡттошло. А дѣтем нашим, хто бꙋдет(ь) г(о)с(по)д(а)р(е)мь на Великом кн(ѧ)жстве Литовском [по нашем][26] животе, дѣтеи | их не рꙋшати. А правдꙋ и записи такии ж их дѣтем дати. А хто не всхочет(ь) им правды и докончаньꙗ дати тако ж, а не всхочет(ь) их по то|мꙋ ж держати, как и мы, ино с них цѣлован(ь)е долов, а им волѧ.

А сꙋд и исправа нам давати чистъ ѡ всих дѣлех, без перевода. А съєхавсѧ сꙋдьѧм | нашим Великого кн(ѧ)зства Литовского съ их сꙋдьꙗми, сꙋдити, целовав кр(е)стъ, без всѧкоє хитрости, в правдꙋ, на ѡбе сторонѣ. А ѡ што | сопрꙋтсѧ судьи, ѡ которых дѣлех, [ино][27] положити им на нас и нехаи єдꙋть к нам, и кого мы ѡбвиним, то сꙋд(ь)ꙗм не надобѣ, а виноватыи | истець заплатит(ь).

А с великим кн(ѧ)з(е)мь московским, и с великим кн(ѧ)з(е)мь переславским, и с великим кн(ѧ)з(е)м пронским, хто ж будет(ь) тые [велики]|є[28] кн(ѧ)женьꙗ держати, с тыми им сꙋд имѣти по старинѣ. А чого межи себе не ꙋправѧт(ь), [в][29] докончаньи с тыми кн(ѧ)зи[30], [ино нам за то][31] | стоꙗти и ꙋправлѧти, коли тыє три великиє кн(ѧ)зи верхꙋ писаныє будꙋть с нами в докончаньи, или с нашим [сыномъ, или съ на]|шим[32] намѣстком, которыи бꙋдет(ь) после нас держати великоє кн(ѧ)жен(ь)є Литовскоє.

[26] *тэкст выцвіў (19 мм), адноўл. па сэнсе*

[27] *тэкст выцвіў (10 мм), адноўл. па сэнсе (таксама ў АЗР)*

[28] *пергамен зацемнены (22 мм)*

[29] *пергамен зацемнены (5 мм)*

[30] *у АЗР:* съ тыми великими князи, *як і ў грамаце 1459 г.; пад час чытання тэксту пры ультрафіялетовым святле слова* великими *не выяўлена*

[31] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 40 мм), адноўл. па фармуляры і па сэнсе, а таксама па* м *вынасной, якая чытаецца пры ультрафіялетавым святле*

[32] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 33 мм), адноўл. па сэнсе (таксама ў АЗР)*

А ѡ чо*м* коли сами межи себе кн(ѧ)зи [новосил] | ски*и*[33] и ѡдоевскии и вороты*н*скии сопрутсѧ, и и*м* положити на на*с*, и на*м* межи ни*х* то оуправити.

А на то*м* на все*м* [мы, Казимир][34], | коро*л*(ь) по*л*(ь)ски*и* и велики*и* кн(ѧ)зь лито*в*ски*и*, кр(е)*с*тъ ч(е)*с*тныи целовали и*м*. По сеи грамоте на*м* правити. А при то*м* были [панове рада на] | ша[35]: кн(ѧ)зь Андрѣи, бискꙋ*п* виле*н*ски*и*; а па*н* виле*н*ски*и*, староста жомои*т*ски*и*, па*н* [Ꙗ*н* Кезкгаилович; а воевода виле*н*скии][36], | па*н* Ѡлехно Судимонтови*ч*, ка*н*цлѣрь на*ш*; а воевода троцки*и*, па*н* Марти*н* Кгастовтови*ч*; а па*н* троцки*и*, намѣстни*к* новго | ро*д*скии, па*н* Михаило Монтовтови*ч*; а маршало*к* земски*и*, намѣстни*к* полоцки*и*, па*н* Богда*н* Андрѣєви*ч*; а [маршало*к* на*ш*, на] | мѣстни*к*[37] берестеиски*и*, па*н* Ꙗку*б* Немирови*ч*; а намѣстни*к* вите*б*ски*и*, па*н* Ива*н* Ильини*ч*; а маршало*к* на*ш*, намѣ[стни*к* лидскии][38], | па*н* Петра*ш*ко Пашкеви*ч*; а маршало*к* на*ш*, намѣстни*к* слони*м*ски*и*, па*н* Солта*н* Александрови*ч*; а маршало*к* на*ш*, па*н* Ст[ани] | сла*в*[39] Михаилови*ч*, и иныє панове наши[40].

[Псан у][41] Ви*л*(ь)ни, в лѣ*т*(о) 6991, м(е)*с*(ѧ)ца апри*л*(ѧ) 10 де*н*(ь), инди*к*(т) 1.

[33] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 21–25 мм), адноўл. па сэнсе і фармуляры (таксама ў АЗР)*

[34] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 32 мм), адноўл. па сэнсе*

[35] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 34 мм), адноўл. па сэнсе*

[36] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 105 мм), адноўл. па сэнсе*

[37] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 42 мм), адноўл. па сэнсе*

[38] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 35 мм), адноўл. па сэнсе*

[39] *пергамен дэфармаваны, тэкст зацемнены (да правага краю аркуша – 24 мм), адноўл. па сэнсе*

[40] *далей павялічаны прабел (16 мм)*

[41] *страта пергамену (26 мм)*

**2**

*1488 г. сакавіка 16. Вільня. – Прысяжная грамата кн. Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру аб трыманні горада Казельска*

ОР РГБ. Ф. 191, ед. хр. 102. Пергамен, [24,5]×[12,4]×24,1×12,5 см, у ніжняй частцы аркуша загін 24,7×5,6×24,1×5,4 см. Арыгінал – *А*.

*Пергамен тонкі, светла-жоўты. Цёмна-карычневае чарніла. Старабеларускі скарапіс. Тэкст напісаны ў 12 радкоў, з якіх 5 ніжніх прыкрыты загінам. Бо́льшая частка тэксту пакрыта светла-карычневай тлустай плямай, на якой у некаторых месцах праступае дробны белы налёт. Літары, не закранутыя ёю, значна выцвілі. Мяркуючы па тым, што палі граматы маюць больш светлы колер (натуральны колер пергамену), гэтае пакрыццё рабілася з мэтай прачытаць пабляклы тэкст.*

*Палі: верхняе – 1,1–1,6; левае – 2,1–2,2; правае – 2,1–2,3; вышыня радкоў – 0,15–0,2 см; адлегласць паміж лініямі радкоў – 0,5–0,8.*

*Да загіну пасярэдзіне аркуша на кручаных шнурах з чырвоных шаўковых нітак прывешана пячатка кн. Д. Ф. Варатынскага, адціснутая на зялёным, моцна пабляклым воску, у глыбокім васковым каўчэжцы натуральнага колеру (ад цёмна-карычневага да светла-жоўтага). Пячатка авальная, шырынёй 20 мм, вышынёй 25 мм, на ёй ледзь відаць лінейны кругавы абадок і невыразная выява (магчыма, чалавек, які ідзе). Шнуры працягнуты праз дзве адтуліны ў загіне, зробленыя вострым прадметам на вышыні 15 мм ад згіну. Каля ніжняга краю загіну яны сыходзяцца і пераплятаюцца, праходзяць скрозь каўчэжац і выходзяць з яго ў ніжняй частцы ў двух месцах – злева і справа. Верхні край граматы ў правай частцы некалькі разоў надарваны, адсутнічае правы верхні вугал. Ніжэй няроўны разрыў шырынёй да 14 мм, вышынёй да 21 мм, які закрывае некалькі літар у 4-м, 5-м і 6-м радках. У левым верхнім вуглу рваная адтуліна шырынёй 1,5 мм і вышынёй 3 мм. Каля левага краю загіну, які выступае за левы край асноўнай часткі аркуша, акуратная круглая адтуліна дыяметрам 0,5 мм (дэфект пергамену). У загіне правей адтулін для прывешвання пячаткі зверху ўніз з нахілам налева ідзе прамы тонкі разрыў даўжынёй 39 мм, па краях якога па 5 адтулін ад ніткі, якой*

*ён быў зашыты. Загін светлы, яго ніжняя частка пакрыта светла-карычневымі плямамі. Відаць сляды ад згінаў: двух вертыкальных і аднаго гарызантальнага (грамата захоўвалася ў складзеным выглядзе).*

Пазнакі на адвароце: *1)* 5 *(каля левага краю аркуша, знізу ўверх, карычн. чрнл.); 2)* List ks. Dmitra Worotynskiego, ktorym | sie zapisuie z zamkiem Kozielskiem, | *[*onemu*]* danym, słuzyc ks. Kazimierzowi *(правей пазнакі 1, зверху ўніз па вертыкалі, светла-карычн. чрнл.; нечытэльная частка адноўл. па пазнацы 9); 3)* Szuflada 3 | Fascykuł 4 | Sztuka 1 *(на прамавугольнай папяровай наклейцы памерам 5,5×2,4, правей пазнакі 2, знізу ўверх па вертыкалі, цёмна-карычн. чрнл., не пазней за 1755 г.); 4)* List kniazia Worotynskiego Dmitra, k *(правей пазнакі 3, знізу ўверх па вертыкалі, светла-карычн. чрнл.); 5)* 2 *(правей пазнакі 4, знізу ўверх па вертыкалі, чорным чрнл.; перададзена літарай* г*); 6)* № 4 *(правей пазнакі 5, зверху ўниз па вертыкалі, карычн. чрнл.); 7)* в ле*т*(о) 6996 ма*р*(та) 17 де*н*(ь) *(правей пазнакі 6, зверху ўніз па вертыкалі, цёмна-карычн. чрнл., поч. XVI–XVII ст.); 8)* Ли*ст* кн(ѧ)зѧ *[…]* | *[…]* ѡ*т* коро*л*(ѧ) … *(правей пазнакі 7, зверху ўніз па вертыкалі, светла-шэрым чрнл., поч. канца XV–XVI ст.; лявей зверху ўниз па вертыкалі яшчэ адзін радок, нрзб., старабеларускім пісьмом, відаць цітла); 9)* List kniazia Dmitra Worotynskiego, kto|rym zapisuie z zamkiem Kozielskim, one|mu danym, krolowi Kazimierzowi do Litwy | do Wilna. Roku 6996 *(правей пазнакі 8, знізу ўверх па вертыкалі, цёмна-карычн. і чорным чрнл., поч. XVIII–XIX ст.); 10)* od Stworzenia swiata, czyli | r. 1487 *(у працяг апошняга радка пазнакі 9, знізу ўверх па вертыкалі, чорным чрнл., сціслым поч. XIX ст.); 11)* 5 *(ніжэй пазнакі 10, знізу ўверх па вертыкалі, карычн. чрнл.); 12)* Litera C. Szuflada 2. Sztuka 6 *(правей пазнакі 11, знізу ўверх па вертыкалі, светла-карычн. чрнл.; лічба* 6 *напісана лявей дзіркі ў правым верхнім вуглу граматы).*

Се ꙗзъ, кн(ѧ)зь Дмитреи Ѳе*д*ѡрови*ч* Воротыньскии*, записываю*с*(ѧ) г(о)*с*(по)д(а)рю своємꙋ | Казимирꙋ, коро*л*(ю) польско*м*(у)* и велико*м*(у) кн(ѧ)зю литовъско*м*(у) и ины*х*.

Што мѧ пожалова*л* | коро*л*(ь) польскии*, дал ми горо*д* Козлескъ* съ своєє рꙋ*к*(и) держа*т*(и)[42] в намѣстни*ц*ство*, | и ꙗ имаю то*т* горо*д* держати* на г(о)*с*(по)д(а)рѧ своєго,

[42] *левая палова* ж *значна выцвіла*

на корола, к Велик[о*м*(у) кн(ѧ)]женью[1] | Литовъско*м*(у)*. А не подати *м*(и) того перво реченого* города Козел[ь] ск[а ни]комꙋ[2], | толко г(о)*с*(по)д(а)рю своємꙋ, королю польско*м*(у)*, к Велико*м*(у) кн(ѧ)женью Литовъско*м*(у)*.

А [б]оѧро*м*[3] | козельски*м*, и землено*м*, и мѣстичо*м*, и вси*м* козличо*м* єздить къ г(о)*с*(по)д(а)рю наш*о**м*(у) Козими | рꙋ[4], королю польско*м*(у), к велико*м*(у) кн(ѧ)зю литовъско*м*(у)*, ѡ чомъ бꙋ*д*(е)ть имъ надобѣ*.

А се*с*(ь)*[5] | мои запи*с* имаю держа*т*(и) г(о)*с*(по)д(а)рю своємꙋ, королю польско*м*(у), велико*м*(у) кн(ѧ)зю литовъ | ско*м*(у) безо льсти* и безъ хитрости*, по томꙋ целованью*, ка*к* єсми перво сего | єго м(и)л(о)*с*ти записа*л*сѧ* и целова*л* честныи кр(е)*с*тъ[6].

А псан ꙋ Вилнѣ, в лѣ*т*(о) 6900* | 96, м(е)*с*(ѧ)ца ма*р*та 16[7] д(е)нь, инь*д*(и)кта* 6*.

1 *дзірка ў пергамене даўжынёй 12 мм, адноўл. па сэнсе і па фармуляры граматы 1448 г.; над* ж *– цітла*

2 ь *выцвіў, адноўл. па сэнсе;* а ни *– дзірка ў пергамене даўжынёй 9 мм, адноўл. па нижняй частцы хваста* а *і па сэнсе;* ꙋ *значна выцвіла*

3 *на* б *дзірка ў пергамене даўжынёй 4 мм, адноўл. па сэнсе; літары* ром *значна выцвілі*

4 *так у ркп., літары* ими *значна выцвілі*

5 с *выносная значна выцвіла*

6 *далей посярод радка 2 кропкі одна за адной*

7 ѕ*, якая перадае лічбу 6, напісана ў люстраным адбітку (г), інакш, чым у астатніх выпадках у гэтай грамаце*

# The history of the treaties between the Grand Duchy of Lithuania and the principality of Vorotynsk (1427–1491) and the Lithuanian-Vorotynsk documents of 1483 and 1488

**Roman A. Bespalov, Sergey V. Polekhov**

The article includes an edition of two documents concerning the relations of Vorotynsk princes with Casimir Jagiellon (Kazimierz IV Jagiellończyk), grand duke of Lithuania (1440–1492) and king of Poland (1447–1492). The edition is accompanied with a study on the history of the Lithuanian-Vorotynsk treaties in the 15th century and the archival history of the published documents. The first of them, the treaty with the princes Dmitry Fedorovich, Ivan Fedorovich and Ivan Mikhailovich of Novosil, Odoyev and Vorotynsk issued by Casimir in 1483, originates from the archive of the Vorotynsk princes who entered the service of grand duke Ivan III of Moscow and was thereafter taken to his archive (nowadays preserved in the Russian State Archive of Ancient Acts in Moscow). Reading the document in ultraviolet rays allowed to reconstruct its text more precisely than in the mid-19th century first edition. The second document, concering prince Dmitry Fedorovich Vorotynsky's oath to serve Casimir with the town of Kozelsk in 1488, was kept at first in the state archive of the Grand Duchy of Lithuania, in the 17th century it was taken with other documents by the Radziwiłł family, and in the 19th century acquired by the Russian official and historian Pavel Mukhanov who granted it to the Moscow Public and Rumyantsev Museum (nowadays in his collection in the manuscript department of the Russian State Library in Moscow). It was hitherto known to historians only from the short mentions in the Radziwiłłs' archival inventories. Both documents are edited according to modern principles elaborated by the Belarusian historian Aliaksandr Hruša.

# Беларусы – студэнты і выкладчыкі Кіева-Магілянскай Акадэміі

## Юрый Мыцык

Перш за ўсё скажам, што аналізуем звесткі пра жыхароў абшару, які размяшчаецца на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У XVII–XVIII ст. межы Беларусі адрозніваліся ад сучасных. Так, Смаленшчына, этнічна беларуская зямля, знаходзілася ў Рэчы Паспалітай, а потым была заваявана Маскоўскай дзяржавай. Часткі Берасцейшчыны і Гомельшчыны – лімітрофныя зоны паміж Украінай і Беларуссю, а Віленшчына – гэта і Беларусь, і Літва.

Як ні дзіўна, але такі важны сюжэт, як беларусы ў гісторыі Кіева-Магілянскай Акадэміі (далей КМА), не даследаваўся ўвогуле. Праўда, пры вывучэнні дзейнасці асобных фігур, накшталт Сімяона Полацкага, гаварылася пра іх навучанне ў КМА, ёсць і адпаведныя звесткі ў біяграфічных даведніках, але да гэтага часу няма абагульняльнай працы. У нашым артыкуле закранаецца гэтае пытанне, хоць мы выдатна разумеем, што ён няпоўны перш за ўсё з-за недахопу крыніц. Больш-менш падрабязныя спісы студэнтаў захаваліся толькі з сярэдзіны XVIII ст., і то яны ахопліваюць пераважна паповічаў з левабярэжнай Гетманшчыны[1]. Пра выхадцаў іншых станаў з іншых земляў маем толькі фрагментарныя звесткі. Намаганнямі вялікага калектыву аўтараў (некалькі дзясяткаў чалавек) у сучасным Нацыянальным універсітэце "Кіева-Магілянская акадэмія" створаны фундаментальны даведнік пра студэнтаў, выкладчыкаў і дабрачынцаў

[1] Національна бібліотека України ім. В. І. Вернадського (далей НБУВ). Інститут рукописів (далей ІР). Ф. 160. № 172.

КМА[2]. У ім знаходзім біяграфічныя звесткі пра выдатных царкоўных, культурных і палітычных дзеячоў, што паходзілі з Беларусі. Не разглядаем тут тых выпускнікоў КМА, якія працавалі ў Беларусі, а паходзілі з Украіны, напрыклад Феадосій Васілевіч-Баеўскі, Міхаіл Казачынскі, Георгій Каніскі, Давід Нашчынскі, Іосіф Аранскі ды іншыя[3].

Такім чынам, несумненна беларусамі былі кіеўскія мітрапаліты Сільвестр Косаў і Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі[4], епіскап мсціслаўскі, аршанскі і магілёўскі; рэктар КМА Іосіф Канановіч-Гарбацкі; архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры Інакенцій Гізель; пісьменнік Сімяон Полацкі; гетман Украіны Піліп Орлік; князь Багдан Статкевіч, паплечнік Багдана Хмяльніцкага, палкавы суддзя Беларускага палка; дыпламат Сілуян Мужылоўскі, сын праваслаўнага палеміста Андрэя Мужылоўскага. Магчыма, яго сваякамі былі выхаванцы КМА манах Анатоль Мужылоўскі з акружэння св. Пятра Магілы; а. Рыгор Мужылоўскі, які жыў у часы Руіны; Дыянісій Мужылоўскі, што скончыў КМА ў 1727 і быў выкладчыкам у 1741/42 г. Адзначым, што пераважная большасць з названых асоб былі не толькі дзеячамі праваслаўнай царквы, але і педагогамі, пісьменнікамі, перакладчыкамі, багасловамі, філосафамі, гісторыкамі, дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі і да т. п. Магчыма, многія выхаванцы КМА, месца нараджэння якіх невядома, асабліва тыя, што потым працавалі ў Беларусі, маглі быць беларусамі.

На некаторых менш вядомых постацях варта спыніцца падрабязней. Гэта два браты Валчанскія (яшчэ адзін, верагодна, быў толькі сваяком). Першы – Іосіф Валчанскі (памёр у 1745 г.) скончыў поўны курс КМА ў 1710 г. і застаўся

[2] Києво-Могилянська Академія в іменах XVII–XVIII ст. Енциклопедичне видання. Київ, 2001. 734 с.

[3] Можна ўспомніць той факт, што князь Крыштаф Радзівіл звяртаўся да кіеўскага мітрапаліта Іова Барэцкага з просьбай даць выкладчыкаў для створанага калегіума ў Слуцку.

[4] У прыватнасці пра двух мітрапалітаў нам даводзілася пісаць і друкаваць некаторыя іх творы: о. Юрій Мицик. Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ, 2018. Т. 2. С. 253–266; митрополит Дмитрій (Рудюк), протоієрей Юрій Мицик. Київські митрополити XVII–XVIII ст. Київ, 2018; Сильвестр Косов. Патерик. Київ, 2007.

выкладаць у ёй граматыку і філасофію, у 1721–1727 г. стаў яе прэфектам, потым (1721–1727) рэктарам і архімандрытам брацкага Богаяўленскага манастыра, архімандрытам Пустынна-Мікольскага манастыра ў Кіеве. У 1734 г. высвечаны на епіскапа мсціслаўскага, аршанскага, магілёўскага, а з 1742 г. стаў архіепіскапам маскоўскім і ўладзімірскім. Вызначыўся як аўтар курсаў філасофіі і багаслоўя, удзельнічаў у перакладзе Бібліі. Яго брат Еранім (памёр у 1754 г. у Магілёве) пасля заканчэння КМА (да 1720 г.) і прыняцця манаскага пострыгу стаў ігуменам Свята-Духаўскага манастыра ў Вільні, а пасля ад'езду брата ў Маскву – мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім епіскапам. Трэці Ваўчанскі – Пракоп (памёр у 1783 г. у Слуцку) вучыўся з КМА ў 1748–1750 г., пасля яе заканчэння стаў манахам і выкладчыкам КМА. Вызначыўся як прапаведнік, стаў ігуменам кіеўскага Кірылаўскага манастыра, а з 1763 г. да смерці быў архімандрытам Свята-Троіцкага манастыра ў Слуцку[5].

Сваякамі былі і Яўлевічы, што паходзілі з мяшчанскай сям'і Магілёва. Першы – Тамаш (памёр не пазней як у 1647 г.), відавочна, вучыўся ў Замойскай акадэміі (1622–1623), потым – у Кракаўскай акадэміі (1625). Вярнуўся ў Магілёў, а неўзабаве стаў выкладчыкам Кіеўскай брацкай школы (паміж 1625 і 1628 г.) і яе рэктарам (1628–1632). Пасля зліцця брацкай і лаўрскай школ звесткі пра яго знікаюць. Тамаш Яўлевіч быў паэтам, выдаў у Кракаве ў 1625 г. польскамоўную паэму "Лабірынт", прысвечаную новастворанаму Магілёўскаму брацтву. У гэтым творы ён выказаў важныя думкі з заклікам да міру, асветы, а ў канцы змясціў заклік да ўкраінцаў і беларусаў: "Вы ж, знакамітыя славяне, расплюшчвайце вочы, да апекі навукі рабіцеся ахвочыя…". Яго пляменнік Ігнацій (свецкае імя Іван; 1619 – год смерці невядомы) вучыўся ў Кіеўскай брацкай школе, дзе рэктарам быў яго дзядзька, у 1632 г. вярнуўся з дзядзькам у родны край, там вучыўся ў брацкай школе Магілёва. У 1636 г. працягнуў вучобу ў КМА і стаў настаўнікам дзяцей князя Багдана Статкевіча. У 1638 г. ён зноў вучыўся ў КМА і скончыў поўны яе курс, адначасова стварыў невялікую школу, у якой і

[5] Тамсама. С. 123–124.

выкладаў. Вярнуўся ў Беларусь, адкуль выправіўся ў Замойскую акадэмію (1643), потым зноў слухаў курс філасофіі ў КМА (у праф. І. Гізеля). 31.08.1647 г. прыняў манаскі пострыг, у 1656 г. стаў ігуменам брацкага манастыра ў Магілёве, а ў 1660 г. – архімандрытам Богаяўленскага брацкага манастыра ў Полацку. Цікава, што на маскоўскім саборы 1666–1667 г. ён абараняў апальнага патрыярха Нікана[6].

Антоній Ілляшэвіч (?–1755) вучыўся ў КМА, пасля яе заканчэння ў пачатку 30-х г. XVIII ст. выкладаў у школе пры Аляксандра-Неўскай лаўры, быў духоўнікам Балтыйскага флоту (1734). У 1739 г. прыняў манаскі пострыг, стаў архімандрытам Новаспаскага манастыра ў Маскве (1741). Сінод прызначыў яго пратэктарам маскоўскай друкарні, і ён актыўна запрашаў на працу ў ёй спецыялістаў з Украіны і Беларусі. 25 траўня 1748 г. высвечаны на епіскапа вяцкага і велікапермскага, актыўна займаўся прапаведніцкай і місіянерскай дзейнасцю, змагаўся з эпідэміямі, будаваў цэрквы, у якіх улічваў архітэктурныя традыцыі мясцовага насельніцтва[7].

Данііл Натток-Міхайлоўскі (Мірдамскі; 1755–1821) паходзіў з сям'і святара. Адукацыю атрымаў у КМА і стаў яе выкладчыкам, прыняў манаскі пострыг. З 1786 г. – ігумен лебядзінскага Свята-Мікольскага манастыра, з 1796 г. – старшы ігумен віленскіх манастыроў і рэктар Мінскай семінарыі. У 1797 г. стаў архімандрытам Свята-Духава манастыра ў Вільні, у 1800 г. – Назарэт-Багародзіцкага манастыра ў Нежыне, у 1801 г. – Свята-Троіцкага манастыра ў Камянцы-Падольскім. У 1806 г. высвечаны на епіскапа валынскага і житомірскага, у 1813 г. пераведзены на епіскапскую кафедру ў Магілёве, а 2 сакавіка 1816 г. высвечаны на архіепіскапа беларускага і магілёўскага.

Іван Невяроўскі (1774–?) нарадзіўся ў Слуцку ў сям'і святара. У 1790–1796 г. вучыўся ў КМА, быў выкладчыкам нямецкай мовы ў ёй.

Сільвестр Чарніцкі (памёр у 1706 г. у Смаленску) паходзіў з Полацка, дзе і атрымаў пачатковую адукацыю.

[6] Тамсама. С. 201.
[7] Тамсама. С. 239, 386–387.

Працягнуў навучанне ў КМА, а пасля яе заканчэння паехаў у Маскву, стаў архімандрытам Звенігародскага Савіна-Старажоўскага манастыра Маскоўскай епархіі (каля 1673 г.). Абапіраючыся на выхаванцаў КМА, заняўся перакладамі, выпраўленнем і выданнем кніг (захаваўся яго пераклад з італьянскай "Касмаграфіі"). Удзельнік царкоўных сабораў 1665–1666 і 1678 г., каранацыі цароў Фёдара Аляксеевіча (1676), Івана і Пятра Аляксеевічаў (1682). 23 сакавіка 1699 г. высвечаны на мітрапаліта смаленскага і чарнігаўскага.

Што да, так бы мовіць, шараговых студэнтаў КМА, то ёсць фрагментарныя зыходныя звесткі. У згаданым намі фундаментальным рукапісе спісы пачынаюцца з 1736/37 навучальнага года, але да сярэдзіны XVIII ст. яны асабліва няпоўныя. Тым не менш тут знаходзім запіс пра 29-гадовага Міхаіла Сакоўскага з Вільні, сына паспалітага, г. зн. селяніна. У класе паэтыкі вучыўся 14-гадовы паповіч Якаў Ціхановіч са Слуцка, а ў класе граматыкі 20-гадовы Аляксей Байкоўскі з Берасця[8].

У значна меншым па аб'ёме рукапісе (больш за 100 аркушаў) ёсць спісы студэнтаў, якія прысягалі царыцы Лізавеце (на жаль, тут не пазначаецца горад, з якога паходзіў студэнт)[9]. Але ўсё ж можна выказаць здагадку, што студэнт Рыгор Лаеўскі (ён згадваецца таксама ў спісе студэнтаў класа аналогіі 1759/60 г.) паходзіў менавіта з Лоева. Бо вядомыя выпадкі, калі "магілянцам" давалі іншыя, больш высакародныя (на думку настаўнікаў КМА) прозвішчы, што заканчваліся на *-скі*, пры гэтым часта за аснову бралі назву горада, з якога паходзіў студэнт. У адным дакуменце названа 19 прозвішчаў студэнтаў з указаннем узросту, горада ці вёскі, з якіх паходзілі, кіеўскі фарпост, праз які прыбывалі ў КМА, клас. Тут падаваліся звесткі пра студэнтаў, што прыбылі з-за межаў тагачаснай Расійскай імперыі. Той спіс быў складзены не раней за сярэдзіну красавіка 1743 г., а пададзены ў кіеўскую губернскую канцылярыю 16 траўня 1745 г. па старым стылі. У пераважнай большасці выпадкаў гэта ўкраінцы – выхадцы з

[8] НБУВ. ІР. Ф. 160, № 306, арк. 3, 5зв., 10зв.
[9] Тамсама. № 306.

розных гарадоў і вёсак Правабярэжнай і Заходняй Украіны. Пазначалася, што яны "родам з Польшчы", бо тагачасная мяжа паміж Расійскай імперыяй і Рэччу Паспалітай праходзіла па Дняпры. Гэтак жа падаваліся звесткі пра беларусаў. Такім чынам, тут знаходзім згадкі пра 11-гадовага Аляксея Стаяновіча з Пінска, сына паспалітага, які 5 траўня 1743 г. прыбыў у Кіеў праз Саракашыцкі фарпост, а таксама 17-гадовага Стэфана Бельскага з Оршы, сына паспалітага, які 26 красавіка 1743 г. прыбыў у Кіеў праз Лоеўскі фарпост.

У іншым спісе студэнтаў, што прысягалі Лізавеце, знаходзім такіх беларусаў: Амяллян Уладзімірскі са Слуцка, Пракоп Каласоўскі з Магілёва (абодва класа граматыкі) і Стэфан Ваўчанскі з Мсціслава (клас аналогіі). Асабліва цікавая справа студэнта Еліферыя (Віктара) Пігулеўскага, сына ўніяцкага святара Івана з сяла Грабя[10] Мазырскага павета 1780 г. (Між іншым, гэтае прозвішча па мужу мела вядомы гісторык-візантыст і ўсходазнавец Н. Пігулеўская / Сцябніцкая; 1894–1970.) Дакументы гэтай справы прыводзім у дадатку. Вядома, у прыватнасці, што Пігулеўскі выправіўся ў Кіеў для вывучэння латыні, скарыстаўшыся тым, што група паломнікаў ішла праз Грабі да святыняў Кіева, і прыбыў з імі ў горад праз Межыгорскі фарпост. Адзначым: Пігулеўскі перайшоў тут з уніі ў праваслаўную веру. Асабліва цікава тое, што 27 (16) ліпеня 1780 г. Пігулеўскі прысягаў царыцы Кацярыне II і яе сыну Паўлу, але тэкст прысягі чамусьці падпісаў "по ево прошению канцелярской сын Иван Мачихин". Здаецца, такім чынам Пігулеўскі ўхіляўся ад прысягі царыцы. Тут можна ўспомніць, як пасля Пераяслаўскай Рады 1654 г. многія кіяўляне пад час прысягі цару Аляксею называліся не сваімі імёнамі, што рабіла прысягу несапраўднай.

Такім чынам, гэтыя лаканічныя звесткі ўсё ж даюць уяўленне пра дастаткова ажыўленыя ўкраінска-беларускія культурныя і царкоўныя сувязі ў XVII–XVIII ст. Спадзяемся, што далейшыя архіўныя пошукі прынясуць новыя факты пра сувязь Беларусі з Кіева-Магілянскай акадэміяй.

[10] Сёння гэта Грабаў Петрыкаўскага раёна (*Рэд.*).

# Дадаткі

**№ 1**

**1780, чэрвеня 10. – с. Грабя. – Пашпарт Яна Пігулеўскага.**

Ignacy Ipohorski Lenkiewicz, sęndzia grodzki mozyrski, starosta hrabnicki.

Wszem wobec i kazdemu z osobna, komu o tym wiedzieć nałeży czyniu wiadomo tym poświadczającym pismem j.mć. księdzu Janowi Pihułewskiemu, prezbiterowi cerkwi hrabnickiej dekanatu Mozyrskiego, danym na to, iż uwolnił syna swojego na imie Wiktorego Pihułewskiego do Kijowa dla tentowania służby i nauk, któremu aby wiara wszędy była dana, niniejszym przyświadczam paszportem na dowód czego ręką własną przy wyciśnieniu zwykłej mej pieczęci podpisuję się.

Datt w Hrabiu 1780 r[ok]u junij 10 dnia.

Ignacy Ipohor[ski] Lenkiewicz, sęndzia gr[odzki] moz[yrski] st[aros]ta hrabnicki, m[anu] p[ropria].

*(Нацыянальная бібліятэка Украіны ім. У. Вярнадскага* (далей НБУВ). *ІР. Ф. 160, № 306, арк. 5. Арыгінал, падпісаны ўласнаручна Лянкевічам і завераны пячаткай)*

**№ 2**

**1780, да 24 (13) ліпеня. – “Данашэнне”–просьба Еліферыя Пігулеўскага.**

Всесвітлійшая державнійшая великая гдрыня императрица Екатерина Алексіевна, самодержица всероссийская гдрыня всемилостивійшая

Доносит вышедшей из заграницы полской уроженец Елиферий Пигулевский, а о чем мое прошение тому слідуют пункты:

**1**

Родился я, именнованный, за границею повіту Мозырского в селі Грабях владіния полского шляхтича Ленківича от тамошнего униатского священника Ивана Пигулевского и матери Марьи. Я по дозволінию родителей своих отпущен в Киев для обучения латынского языка и з данным мні от означенного Лінкевича на полском диалекте свидетілством

и с идущими в Киев сего 780-го года для богомолья людми чрез Межигорский форпост з данным на всех нас из оного форпоста билітом пропущены в Киев и оные, побыв малое время, возвратились обратно за границу, а я для означенной науки остался с данным от означенного Лінкевича свидітелством, кое при сем прилагаю и по желанию моему присоединен я к православноя греческого исповідания вері в Киево-Братском училищном мнстырі

К сему доношению (*гэтыя тры словы напісаны іншай рукой. – Ю. М.*)

И дабы высочайшим вашого императорского величества указом повеліно было к обыкновенной присягі привесть, а на временное пребывание для обучения в Киевской Академии латынского язика из оной губернской канцелярии дать мне билет въмісто вышеписанного.

Всемилостивійшая государыня прошу вашого императорского величества о сем моем прошении решение учинить июля __ дня 1780 году к поданию надлежит в киевскую губернскую канцелярию; сие доношение писал рейтарской сын Самсон Федоров: полского уроженца Елиферия Пигулевского по ево прошению малороссиянин Григорей Прокопович руку приложил.

*(НБУВ. ІР. Ф. 160, № 306, арк. 7. Арыгінал. Уверсе дакумента напісана: "Подано июля 13 д. 1780 году")*

**№ 3**

**1780, ліпеня 25 (14). "Вызначэнне" кіеўскай губернскай канцылярыі па Еліферыю Пігулеўскім.**

Копія.

1780-го года июля 13 дня по указу ея императорского величества киевская губернская канцелярия по доношению вышедшаго из заграницы полского уроженца Елиферия Пигулевского, в котором обявлено, что родился он за границею повету Мозырского в селе Грабях, владении полского шляхтича Ленкевича, от тамошняго униятского священика Ивана Пигулевского и матери Марьи и по дозволению родителей ево отпущен в Киев для обучения латынского

язика и з данным ему от означенного Ленкевича на полском диалекте свидетельством и с идущими в Киев чрез Межигорский фарпост з данным на всех их из оного фарпоста билетом пропущены в Киев и оные, побыв малое время, возвратились обратно за границу, а он для означенной науки остался с данным от означенного Ленкевича свидетельством, кое при том приложил, и по желанию ево присоединен он в Киево-Братском училищном мнстыре к православной греческого исповедания вере и просит, чтоб ево принят и к обыкновенной присяге привесть и на временное пребывание для обучения в Киевской Академии латынского язика дат ему билет. По указу из правительствующаго сената от 17 июля 1766 года велено приходящих на временное пребывание сербов и протчих иностранцев и присяге приводить по обыкновенной генеральной форме. Приказали: в силу онаго правительствующагго сената указа означенного полского уроженца Елиферия Пигулевского на временное здесь в Киеве пребывание для обучения в Киевской академии принять и к присяге привесть и о том дать ему билет; с дачи ж онаго билета указные печатные пошлины двадцять пять копеек с четвертью да за воск две копейки под смотрением порутчика Шевырина приняв, записать к подлежащим зборам в приход и о том проходчику регистратору Золотареву дать указ.

Подлинное определение подписали:
Иван Маскатинъев
Иван Корб
Съкрепил в должности секретаря коллежский
регистратор Андрей Луценков.
Подписан 14 д. июля 1780 года.

*(НБУВ. ІР. Ф 160, № 306, арк. 8. Тагачасная копія)*

**№ 4**
**1780, ліпеня 27 (16). Кіеў. Клятва Е. Пігулеўскага (рэгест).**

Друкаваны тэкст прысягі Кацярыне II і яе сыну Паўлу, ад імя Е. Пігулеўскага “по ево прошению канцелярской сын

Иван Мачихин, подписался 1780 июля 16 дня". Да прысягі прыводзіў святар Феадосіеўскай царквы Арсень Крынюскі (?) у прысутнасці канцылярыста Мікіты Антонава.

*(НБУВ. ІР. Ф. 160, №. 306, арк. 9. Арыгінал)*

**№ 5**
**1780, ліпеня 28 (17). "Білет" Е. Пігулеўскага (рэгест).**

У гэтым дакуменце паўтараюцца звесткі пра Пігулеўскага, якія былі ў яго "данашэнні" і канцылярскім "вызначэнні".

*(НБУВ. ІР. Ф. 160, № 306, арк. 16. Тагачасная копія)*

**№ 6**
**1780, ліпеня 28 (17). Указ па выплаце Е. Пігулеўскім пошліны за "білет" (рэгест).**

*(НБУВ. ІР. Ф. 160, № 306, арк. 16. Тагачасная копія)*

# Парафіяльная хроніка Ішчальнскага касцёла

## Кірыл Сыцько

### Уводныя заўвагі

Хронікі рымска-каталіцкіх парафій XX ст. у Беларусі – унікальны від гістарычных крыніц, не даследаваны айчыннымі гісторыкамі. Гэтыя дакументы ўяўляюць сабой мікрагістарычныя творы, у якіх у храналагічнай паслядоўнасці апісваецца гісторыя парафіі ад моманту фундуша на касцёл да моманту, сучаснага храністу. Асноўнымі крыніцамі для стварэння падобных гістарычных крыніц, як паказвае аналіз большасці з іх, былі дакументы мясцовага касцельнага архіва.

Варта адзначыць, што ў першай палове XIX ст. існавалі гістарычныя матэрыялы, фармуляр якіх падпісваўся як “Kronika parafialna…”, аднак іх нельга адносіць да віду хронік і летапісаў па той прычыне, што яны не адпавядаюць ніводнай фармальнай прыкмеце, уласцівай хронікам, і з’яўляюцца не чым іншым, як польскамоўным варыянтам кліравых ведамасцяў. Прыкладам такіх ведамасцяў можна назваць дакументы з Ружанстоцкага[1] і Ялоўскага[2] касцёлаў.

Ідэі вядзення рымска-каталіцкіх парафіяльных хронік на тэрыторыі Расійскай імперыі пачалі выказвацца прадстаўнікамі святарства і касцельнымі гісторыкамі даволі позна – у першае дзесяцігоддзе XX ст. Аргументацыяй неабходнасці складання падобных гістарычных крыніц называлі

[1] VU Biblioteka. Rankraśćiu skyrius. F. 4. A. 2855.
[2] VU Biblioteka. Rankraśćiu skyrius. F. 4. A. 2912.

магчымую страту дакументаў парафіяльных архіваў у час войнаў і стыхійных бедстваў, працу на карысць гістарычнай навукі, адлюстраванне важнасці касцёла ў жыцці грамадства і шмат іншага. У прыклад прыводзіліся традыцыі Прусіі і Аўстрыі, а менавіта хронікі парафій у Лінцы і Санкт-Пёльтэне. Крыніцы ў названых гарадах былі не толькі гістарычным наратывам, але і юрыдычным актам, які выкарыстоўваўся пад час біскупскіх візітацый і маёмасных спрэчак у якасці важкага аргумента праваты касцёла[3].

У 1925 г. на старонках рэлігійных часопісаў з'явіліся заклікі да біскупаў аб неабходнасці стварэння Дэкрэтаў, якія абавязвалі б пробашчаў усіх парафій весці хроніку. Прычынай называлася тое, што масавае стварэнне такіх гістарычных крыніц так і не было распачата. У якасці прыкладу прыводзілася выдадзенае ў 1828 г. распараджэнне Прымаса Польшчы арцыбіскупа Тэафіла Валіцкага аб неабходнасці летапісання ў парафіях Гнёзненска-Познаньскага арцыбіскупства, якое на той момант знаходзілася на тэрыторыі, што адышла ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай да Прусіі[4].

Спробу прымусіць ксяндзоў да стварэння манаграфічных прац здзейсніў у 1930-я гады арцыбіскуп віленскі кс. Рамуальд Ялбжыкоўскі, які прасіў прафесійных гісторыкаў стварыць макет для натавання касцельнай гісторыі. Тая спроба, па словах сучасніка падзей кс. Фларыяна Няверы, не мела поспеху – святары ў розных мясцовасцях адмаўляліся ствараць хронікі, аргументуючы гэта недастатковай кваліфікацыяй, адсутнасцю часу і матэрыялу і г. д.[5]. Як вынік, падобныя гістарычныя крыніцы на тэрыторыі Беларусі ствараліся даволі спарадычна. Адзін з яскравых прыкладаў парафіяльных хронік – "Kronika", створаная ў Ішчальне[6]. Дакумент уяўляе сабой апісанне ў

[3] P. K. Kronika parafialna // Homiletyka. 1900. T. 5. S. 627.
[4] x. S. B. O ważności założenia i prowadzenia kroniki parafjalnej // Wiadomości Pasterskie: dodatek do Miesięcznika Kościelnego. 1925. Nr. 2. S. 4.
[5] Niewiero F. Historia kościoła parafialnego w Żyrmunach. Lida, 1939. S. 3.
[6] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 3С, воп. 2, спр. 1.

храналагічнай паслядоўнасці гісторыі мясцовасцяў, якія ўваходзілі ў склад Ішчальнскай парафіі з 1515 г., калі старастам Эйшышак Андрэем Давойнам быў зроблены фундуш на пабудову касцёла.

Гістарычная крыніца была выяўлена аўтарам пад час археаграфічных экспедыцый і на сённяшні момант у выглядзе фотакопіі захоўваецца ў Цэнтральным навуковым архіве Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Названы дакумент уяўляе сабой сшытак на 44 старонкі, не атрыбутаваны аўтарам і датай стварэння. Атрыбуцыя хронікі Ішчальнскай парафіі датай магчыма па ўскосных прыкметах. Так, у тэксце пазначана "…у бягучым годзе адкрыты малочны каапeратыў у Кемянах…". Названая арганізацыя зарэгістравана ў каапeратыўным рэестры ў Вільні 22 лістапада 1932 г., запіс № 716[7]. Такім чынам, дата стварэння парафіяльнай хронікі Ішчальны – 1932 год.

Як паказвае аналіз захаваных парафіяльных хронік у Польшчы і Беларусі, іх стваралі ксяндзы-пробашчы ці вікарыі касцёлаў. Паводле тэксту крыніцы, пачынаючы з 1861 г. вікарыя ў парафіі не было, а почырк дзейнага на той момант пробашча кс. Баляслава Красадомскага не супадае з почыркам аўтара дакумента. Вядома, што пад час I сусветнай вайны немцы занялі, а пасля знішчылі плябанію, і кс. Красадомскі некаторы час жыў ва ўладальніка маёнтка Ішчальна Юзэфа Ляськовіча (памёр у 1937 г.), які займаўся складаннем мікрагістарычных наратываў[8]. Архіў Ішчальнскай парафіі разам з рэлігійнымі апаратамі быў таксама часова перавезены пробашчам Святатраецкага касцёла да Ю. Ляськовіча, адпаведна, магчымым аўтарам тэкста можна назваць яго.

Аналіз тэксту на прадмет дакладнасці звестак, якія ў ім утрымліваюцца, паказвае, што аўтар хронікі прыводзіць як рэальныя гістарычныя факты, так і легендарныя. Так, паводле 224-й кнігі Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага, Андрэй Давойна сапраўды быў падкаморыем надворным і

[7] Ogłoszenia // Poradnik Społdielni. 1933. Nr. 2. S. 30.
[8] Aftanazy R. Ziemia Lidzka z Romanem Aftanazym. Iszczołno // Ziemia Lidzka. 1998. Nr. 34. S. 41.

дзяржаўцам Эйшышак у першай трэці XVI ст.[9]. Кс. Вацлаў Драб, які згадваецца ў тэксце як дзейсны пробашч парафіі ў Красным, служыў там з 1921 да 1938 г.[10]. Кс. Павел Бекіш, пазначаны як "цяперашні школьны прэфект у Вільні", працаваў на пасадзе прэфекта віленскіх школ № 6 і 9, гандлёвай і вячэрняй школ з 1926 да 1941 г.[11]. Паводле згадак у тэксце, на момант напісання парафіяльнай хронікі дзейнічала жаночая заводская школа ў Ішчальне. Гэтая ўстанова адукацыі была адчынена ў 1924 г. і працавала пад кіраўніцтвам Марыі Ляськовіч да 1939 г.[12]. Скапулярый[13], пра які гаворыцца ў тэксце, паводле кнігі ўліку сяброў арганізацыі, створаны 27 ліпеня 1926 г., пачаў дзейнічаць з 15 лютага 1927 г.[14]. У сваю чаргу, некаторыя звесткі маюць недакладны характар. Напрыклад, аўтар паводле народных паданняў апісвае гісторыю перамогі ў 1812 г. рускіх войскаў, узначаленых "палкоўнікам Навінкам", над французамі ў лесе побач са Шчучынскім трактам. Пасля той перамогі, паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, месца бою атрымала назву "Навінка". Прыведзеная інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. Так, у апісанні Ішчальнскай парафіі за 1784 г., складзеным кс. Станіславам Лазіньскім, побач са Шчучынскім трактам згадваецца

[9] Lazutka S., Vilkonite I. [par.] Lietuvos Metrika. Kn. 224 (1522–1530). Vilnius, 1997. P. 229.

[10] Маракоў Л. У. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансекраваныя і свецкія асобы Беларусі. 1917–1964. Мінск, 2009. С. 156–157.

[11] Krahel T. Ksiądz Pawel Bekicz // W Służbie Miłosierdzia. 2007. Nr. 6. Zasób elektroniczny. Tryb dostępy https://opoka.org.pl/biblioteka/T/TH/THO/pawel_bekisz.html

[12] Bojarska S. Szkoła zawodowa żeńska w Iszczołnie // Ziemia Lidzka. 1937. Nr. 8. S. 91.

[13] *Скапулярый* – два звязаныя вяроўкай простакутныя кавалкі тканіны з выявамі святых і нанесенымі на іх малітвамі, якія насіліся ў знак прыняцця асабістага зароку. У міжваеннай Рэчы Паспалітай дзейнічаў міранскі рух, сэнс якога быў у выкананні зарокаў і нашэнні гэтага прадмета пад вопраткай. Як вынік, супольнасці названага руху ў парафіях таксама называліся скапулярыямі.

[14] ЦНА НАН Беларусі. Ф. 3С, воп. 2, спр. 31, арк. 1–1адв.

мясцовасць у сасновым лесе, названая “Навіной”[15], якую можна ідэнтыфікаваць як “Навінку” з парафіяльнай хронікі. Спалучэнне звестак, якія маюць верагодную глебу, з легендарнымі ўспамінамі жыхароў пра мясцовасць робяць гістарычную крыніцу ўнікальным дакументам, што адлюстроўвае як мікрагістарычныя звесткі пра Ішчальнскія ваколіцы, так і ўспрыманне сваёй гісторыі мясцовымі жыхарамі.

Парафіяльная хроніка Ішчальны складаецца з некалькіх раздзелаў. У першым (“Opis parafji Iszczołnskiej”) прыводзіцца апісанне фундушаў і фундатараў касцёла, бенефіцыі, зменаў у памерах зямельных надзелаў. Другі раздзел гістарычнай крыніцы мае назву “Szkic historyczny parafji” і змяшчае звесткі пра біскупаў, якія візітавалі парафію, успаміны жыхароў, а таксама звесткі пра абрады, забабоны, вядомыя пахаванні, эпідэміі і стыхійныя бедствы, што адбываліся ў гэтых мясцовасцях.

У трэцім раздзеле, які атрымаў назву “Wykaz miejscowości parafji Iszczołnskiej. Dane z roku 1930”, прыводзяцца ўсе населеныя пункты, жыхары якіх былі парафіянамі Ішчальнскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы па стане на 1930 г. з пазначэннем колькасці душ; даты заснавання вёскі, мястэчка, калоніі, асады; адлегласці ад пошты і чыгункі. Чацвёрты раздзел “Opis Kościoła” – падрабязнае апісанне будынка, а таксама ўсіх абразоў, алтароў, фрэсак, якія знаходзіліся ў касцёле на момант, сучасны храністу. У гэтым жа раздзеле змешчаны падраздзел, дзе прыводзяцца ўсе гістарычныя крыніцы, што захоўваліся ў Ішчальнскай парафіі па стане на 1930-я гады.

Адзін з найбольш інфармацыйных раздзелаў хронікі – пяты (“Życiorysy Księży Proboszczów”), у якім падаюцца біяграфічныя звесткі пра кожнага ксяндза-пробашча Святатраецкага касцёла. Варта адзначыць крыху агіяграфічны стыль апісання – святары заўсёды пазбаўлены негатыўных рысаў. У гэты ж раздзел уключаны падраздзел з пералікам усіх вікарыяў да 1861 г. Апошняя частка

[15] Рыбак А. Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Ішчалнская // Лідскі Летапісец. 2013. № 61. С. 30.

хронікі Ішчальнскай парафіі – допіс пра славутых парафіян.

Дакумент публікуецца на мове арыгінала. Пад час падрыхтоўкі гістарычнай крыніцы было вырашана не друкаваць фрагменты хронікі, якія змяшчаюць апісанне касцельнага будынка і яго аздабленне фрэскамі, фігурамі, абразамі, а таксама маргіналіі, дапісаныя пазней іншым почыркам. Прычына гэтага – наяўнасць скарочаных апісанняў касцёла і культавых прадметаў у раздзеле “Szkic historyczny parafji”.

Прапушчаны тэкст адзначаны шматкроп’ем у фігурных дужках {…}. Асаблівасці мовы аўтара, яго пунктуацыі і арфаграфіі перадаюцца без зменаў. Напрыклад, не рэдагуюцца такія варыянты напісання слоў, як *parafja, plebanja* і г. д. Цвёрдае *z*‘перадаецца як *ż*. Відавочныя памылкі выпраўлены без унясення ў тэкст заўваг. Скароты раскрываюцца, прапушчаныя літары прыўносяцца ў радок і перадаюцца ў квадратных дужках [ ]. У выпадку згадкі ў хроніцы прозвішчаў гістарычных асоб там, дзе гэта магчыма, у квадратных дужках [ ] прыводзяцца іх імёны.

## Парафіяльная хроніка
## Ішчальнскай парафіі

### *Opis parafji Iszczołnskiej*

Parafja Iszczołnska powstała w 1515[16] roku. W tym roku Andrzej Dowoyno starosta Eyszyski, podkomorzy nadworny J[ego] K[rólewskiej] M[ości], ufundował kościół drewniany w Iszczołnie pod wezwaniem Trójcy Świętej i Bożego Ciała. Dokumentów tyczących się erekcji archiwum parafialne nie posiada. Dane historyczne wzięte są z inwentarzy z XVIII wieku i z rejestru dokumentów parafji Iszczołnskiej znajdującego się w archiwum Uniwersytety Stefana Batorego w Wilnie.

P[an] Starosta Ejszyski wznosząc kościół, wyznaczył na jego utrzymanie fundusz z majętności dziedzicznej Iszczołny z obowiązkiem odprawiania 3 Mszy Św[iętych] na tydzień. Według aktu funduszowego z dnia 30 Kwietnia roku 1515 dwór Iszczołnski obowiązany był dostarczać corocznie dla kościoła dziesięcinę z łanów swoich, od poddanych po ½ beczki żyta z włóki, stertę siana, rybę trzy razy na tydzień, oraz miód i wosk. Akt funduszowy z roku 1515 nadawał dla Kościoła grunta o obszarze 4 włoki i morgów 12, sadzawkę wyżej stawu dworskiego i sianożję przy tych gruntach.

Stanisław Dowoyno wojewoda Połocki aktem z dnia[17] października 1582 r.[18] daje dla Kościoła 3 wioski: Jawoyszkowicze (późniejsze Jawoszowce – Jałoszowcze) Taczewicze (dziś nieznane) i Gruniki (Gierniki), folwark koło Kościoła i łączkę Kruliezą przy karczmie w miasteczku Iszczołna. Pozatem p[an] Stanisław Dowoyno utworzył fundusz pieniężny na utrzymanie 3 księży do pomocy Proboszczowi (wikarjusza, magistra i kolegi). Poddani obowiązani byli dawać na rzecz Kościoła od włoki 20 groszy, beczkę żyta i owsa, po kurze jednym i jajec 20 a wzamian za te świadczenia Proboszcz miał obowiązek odprawiać za nich 3 Msze Św[ięte] na tydzień

[16] На палі вынесена пазнака *1496*

[17] Слова выпраўлена аўтарам тэксту. Першапачаткова было напісана *dnei*

[18] Год прастаўлены простым алоўкам

(jedną za grzechy, druga za dusze rodziców, trecie o pięciu ranach Pana Jezusa). Późniejszy właściciel Iszcołny, p[an] Filip Limont dokonał w roku 1637 wydzielenia gruntów i poddanych kościelnych, nadanych funduszem z roku 1515 i z roku 1573[19]. Według aktu z 15 grudnia 1637 roku, otrzymał Kościół około 4 włoki w pobliżu Iszczołny, oraz dziewięciu poddanych we wsi Maciowcach, Juciowcach i Jałoszowcach t[o] j[est] wymiar określony funduszem z roku 1515. W roku 1594 uczyniła ówczesna właścicielka Iszczołny, Barbara z Sołomenskich Limontowa, fundusz na organistę. Fundusz tej potwierdził Mikołaj Limont w roku 1618. Późniejszy właściciel Iszczołny, książę [Andrzej] Wisniowiecki, skasował go, spiż ego jak wieczyści swą majętność. Frąckiewicze nabywając Iszczołnę pozszerzyli w dalszym ciągu beneficium kościelne. P[an] Kazimierz Frąckiewicz, podskarbi nadworny litewski testamentem z roku 1694 nadał dla kościoła grunt t[ak] zw[ane] Gotorowszczyznę i jednego poddanego z włoki ziemi we wsi Maciowcach z obowiązkiem odprawiania co drugi tydzień wieczystej Mszy Św[iętei] za jego duszę. O ileby Proboszcz Iszczołnski nie chciał przyjąć Gotorowszczyzny miał otrzymać 500 zł[otych]. Z początkiem wieku XVIII Krzysztof Owsiany, stolnik litewski zobowiązał się płacić na kościół Iszczołnski po 40 flosenów[20] rocznie ze swej majętności Wołczyny. Zobowiązanie swe poparł dokumentem złożonym na ręce plebana iszczołnskiego w roku 1720. Nie wiadomo, na jakiej podstawie dokument bew został skasowany w połowie XVIII wieku[21]. Z biegiem czasu fundusze kościelne nieustannie się kurczyły. Nie wiadomo w jakim czasie zaprzestał dwór iszczołnski płacie dziesięcinę dla kościoła. Jako rekompensatę za swe zobowiązania opłacał jeszcze do roku 1780 10 talarów bitych rocznie i dawał nieco wosku na potrzeby kościelne. Od roku 1780 ustały i te świadczenia. Zamknięto nawet we młynie dworskim zastrzeżony funduszem, przemiał dla zboża plebańskiego. Fundusz nakładał na kościół znaczny ciężar,

[19] Год прастаўлены простым алоўкам

[20] Аўтар меў на ўвазе не *flo**s**enow*, а *flo**r**enow*

[21] Простым алоўкам намаляваны сімвалы ў выглядзе стрэл і паўмесяцаў

a mianowicie, musiano odprawiać wrocznie z tego tytułu 52 mszy śpiewanych i 104 mszy czytanych. Sprawę funduszu załatwiono polubownie w roku 1788. Dwór Iszczołnski zobowiązał się wszcząć corocznie na kościół 150 zł[o]t[ych] i 20 f[untów] wosku, oraz wolny przemiał we młynie dworskim w dzień Św[iętego] Jerzego. Układ ten zatwierdził ks[iądz] Biskup [Ignacy Jakub] Massalski. W epoce nierządu przed upadkiem Rzeczpospolitej ucierpiały majętności kościelne nadszarpięłe przez sąsiadów. Za ks[iędza] [Jerzy] Mrozowskiego w latach 1730 –1750 rozrzucił dwór Zołudzki kopce graniczne w zaścianku graniczącym z gruntami Kukieriskiemi zagarnął gwałtem część ziemi kościelnej. W tym czasie we wsi Maciowcach uszczuplił grunta kościelne ekonom wasiliski. Mimo protestów nie odzyskano zagarniętej ziemi. Przed konfiskatą majętności kościelne według inwentarza z roku 1820 obejmowały: 1) folwark, którego obszar wynosił 4 włoki, 26 m[or]g, 16 prstów ziemi ornej, 22 m[or]g 10 prstów łąk, 8 morg pastwisk i innych, 3 włoki lasu 2) Grunta czynszowe we wsi Jałoszowcach. 9 wlok, 5 morg, 10 prstów, w Juciowcach – 9 włok, w Maciowcach 5 włok. W sumie grunta kościelne wynosiły około 29 włok. Poddani obowiązani byli odrabiać po 3 dni w tygodniu od włoki, płacić 3 zł[otyh] czynszu, oraz pełnić straż nocną przy kościele. Majątek kościelny został skonfiskowany przez rząd rosyjski w roku 1844. Zostawiono wówczas dla kościoła tylko 33 dziesięciny. Z obszaru tego odsądził Wiktor Pławski pop cerkwi[22] Dzikuskiej w roku 1880 jedną dziesięcinę i 1600 sążni. Ziemię tę zaraz po wojnie w roku 1921 rząd rozparcelował wraz z gruntami cerkiewnemi. Dziś beneficjum Iszczołnskie według pomiarów z roku 1928 przeprowadzonych przez inżyniera Cz[esława] Jankowskiego obejmuje łącznie 41 ha, 1382[23] m² ziemi, 2 tej ornej 20 ha, 420 m², łąk 14 ha 5067 m², lasu 1 ha 2969 m², 4 ha 2925 m² innych. Na tę ziemię składa się z dawnej ziemi plebańskiej część Gotorowszczyzny nadanej przez [Kazimierza] Frąckiewicza, ziemia plebańska położona w dawnem

[22] Выпраўлена аўтарам тэксту. Першапачаткова было напісана ўзятае ў дужкі і закрэсленае *czerkwi*

[23] Перад *1382* стаіць узятая аўтарам у дужкі *(5)*

Паўстае пытанне: навошта паглыбляцца ў гэтыя канфлікты і скандалы? Якое дачыненне яны маюць да праблематыкі даследавання? Аўтар лічыць, што непасрэднае. Паводле А. Чарнякевіча, "асабістае жыццё беларускага грамадскага дзеяча і палітыка з'яўлялася не менш важным матывам яго учынкаў, чым уласна ідэалогія" (243).

З гэтым можна пагадзіцца, бо меркаванні сучаснікаў сапраўды дапамагаюць зразумець палітыка як чалавека, больш даведацца пра яго характар, тэмперамент, інтэлектуальныя здольнасці і г. д. Усё гэта спрыяе выяўленню матываў паводзінаў, без чаго нельга прэтэндаваць на рэканструкцыю гістарычнага працэсу. Але калі гісторык абапіраецца пераважна на ўспаміны і ліставанне, то ён павінен быць максімальна асцярожным, каб не трапіць у палон гэтых крыніц. Магчыма, некаторыя аўтары напоўненых эмоцыямі тэкстаў пазней шкадавалі пра напісанае.

Крытычны падыход таксама павінен дамінаваць пад час аналізу меркаванняў польскіх і літоўскіх аналітыкаў або нямецкіх ці расійскіх палітыкаў адносна беларускага руху і яго ўдзельнікаў. Погляд звонку прадстаўнікоў бакоў, зацікаўленых у паразе беларускага праекта, не можа быць аб'ектыўным. Варта і ў гэтых меркаваннях шукаць унутраныя матывы, а не ўспрымаць іх як адлюстраванне беларускай рэчаіснасці. Часам такія крыніцы больш распавядаюць пра рэчаіснасць палітычнага жыцця нашых суседзяў і іх адносіны да БНР, чым пра беларускі рух. Да таго ж даследчыкі добра ведаюць, якія вялікія намаганні яны прыкладалі для расколу і аслаблення гэтага руху.

Таксама трэба адзначыць шматлікія недакладнасці ў даведкавым апараце першага раздзела. Даволі часта спасылка на цытату з пэўнага выдання ўтрымлівае спіс некалькіх публікацый, у якім складана адшукаць сапраўдную крыніцу цытавання (напр., спасылкі 3 і 5 на с. 8–9 і інш.). У некаторых выпадках спасылка не адпавядае цытаце. Так, цытаванне тэксту Антона Луцкевіча (14) суправаджаецца спасылкай на энцыклапедыю Бракгаўза і Эфрона, а ацэнкі дзейнасці беларускіх арганізацый з дакладной запіскі Дэпартамента паліцыі (1908) – спасылкай на А. Смаленчука (?).

Наогул, для першага раздзела характэрна фрагментарнасць у асвятленні пазначанай праблемы. Магчыма, згаданыя спісы літаратуры ў спасылках якраз павінны былі кампенсаваць адсутнасць цэльнага тэксту.

Далейшая структура кнігі грунтуецца на характарыстыцы ўрадаў БНР, уключна з апошнім урадам Аляксандра Цвікевіча, дзейнасць якога завяршылася Берлінскай канферэнцыяй і прызнаннем савецкага Мінска цэнтрам беларускага палітычнага і культурнага жыцця. У кожным раздзеле ёсць кароткія біяграмы беларускіх палітыкаў.

Пры гэтым аналіз дзейнасці першых урадаў БНР носіць пераважна крытычны характар. Характарызуючы "кабінеты" Язэпа Варонкі, Рамана Скірмунта, Янкі Серады і Антона Луцкевіча, аўтар шмат у чым ідзе шляхам Дароты Міхалюк[5], пры гэтым уводзячы ў навуковае жыццё новыя гістарычныя крыніцы. У прыватнасці, гэта дакументы з фондаў Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва (ф. 582), Архіва найноўшых дакументаў (Варшава), Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі ды інш. Таксама гісторык абапіраўся на апублікаваныя даследаванні апошніх гадоў, сярод якіх вылучаецца кніга Тамаша Блашчака[6]. Але галоўнай крыніцай для аўтара застаецца вядомы зборнік дакументаў па гісторыі БНР, падрыхтаваны Сяргеем Шупам[7]. Трэба адзначыць факталагічную насычанасць тэксту і дынамізм у асвятленні падзей, якія на самай справе пакідаюць уражанне, што гісторыя прыспешыла свой ход.

Маю асаблівую ўвагу прыцягнуў раздзел, прысвечаны ўраду Рамана Скірмунта ("Благие намерения: правительство Романа Скирмунта"). Цэнтральнае месца ў ім заняло

[5] Michaluk D. Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, 2010. Гл. таксама: Міхалюк Д. Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці / нав. рэд. С. Рудовіч; пер. з польск. А. Пілецкі. Смаленск, 2015.

[6] Błaszczak T. Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940. Toruń, 2012.

[7] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1: у 2 кн. / уклад. С. Шупа. Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998.

апісанне канфлікту “старога” ўрада Я. Варонкі з новым. Яго можна разглядаць як прэлюдыю да свайго роду “беларуска-беларускай вайны” ў асяродку дзеячоў БНР, якая абвастралася па меры пагаршэння пазіцый Рэспублікі.

На гэтым эпізодзе варта спыніцца і крыху дапоўніць аўтара. Нагадаю, што ў ліпені 1918 г. пасля стварэння ўрада Рамана Скірмунта[8] Язэп Варонка адмовіўся выконваць рашэнне Рады БНР. Ён заявіў, што не будзе перадаваць ні архіваў, ні пячаткі новаму ўраду, і распачаў прапагандысцкую вайну па яго дыскрэдытацыі. Грамадскасць пераконвалі ў незаконнасці “буржуазнага” ўрада, а нямецкую адміністрацыю – у “польскасці” Скірмунта і яго міністраў.

Трэба прызнаць, што “бунт” сацыялістаў не быў цалкам самастойным. Знойдзеныя ў архівах Варшавы і Берліна дакументы дазваляюць сцвярджаць, што нямецкая адміністрацыя выканала важную ролю ў распальванні ўнутрыбеларускага канфлікту. Так, ужо на наступны дзень пасля прыняцця Радай БНР Дэкларацыі новага ўрада і зацвярджэння яго складу камандуючы 10-й нямецкай арміяй генерал Эрык Фалькенгайн напісаў ліст Раману Скірмунту, адрасаваны не кіраўніку ўрада, а… “землеўласніку”. У лісце падкрэслівалася, што ўся ўлада на акупаванай тэрыторыі належыць нямецкай адміністрацыі, а існаванне іншых уладных арганізацый недапушчальнае[9]. Нямецкая цэнзура забараніла публікацыю Дэкларацыі ўрада Скірмунта. Аніводная беларуская газета нават не згадала пра гэты важны дакумент. Толькі з-за недагляду цэнзараў яго пераказ быў змешчаны на старонках польскай газеты “Dziennik Miński”[10].

[8] Народным сакратаром фінансаў ва ўрадзе Скірмунта быў прызначаны Станіслаў Хжанстоўскі (Stanisław Chrząstovski), які да пачатку чэрвеня ўзначальваў Гарадскі магістрат Мінска. А. Чарнякевіч чамусьці называе яго “С. Хржаноўскім” (с. 83–84).

[9] Archiwum Akt Nowych. Przedstawicielstwo Rady Regencyjnej w Berlinie. Sygn. 473, k. 43.

[10] Dziennik Miński. 1918. 11 lipca.

Ніколі раней дзяржаўніцкія прэтэнзіі беларускіх палітыкаў не сустракалі такой адкрытай варожасці з боку нямецкіх уладаў. Яны не хацелі мець справу з моцным і ўплывовым беларускім урадам, і гэта падштурхнула сацыялістаў да актыўных дзеянняў. У Мінску паўстала сітуацыя "двоеўраднасці". Яна закончылася 20 ліпеня прыездам з Вільні Івана Луцкевіча, які здолеў знайсці кампраміс. Урады Скірмунта і Варонкі ішлі ў адстаўку, а ў Мінску пачалося фармаванне ўрада на чале з Іванам Серадой. Гэта абярнулася надзвычай моцнай кампраметацыяй усяго праекта БНР. А ўрад Серады ў гісторыі БНР нічым сябе не праявіў. А. Чарнякевіч ахарактарызаваў яго як "картачны домік" (100).

Гісторыя "двоеўраднасці" яскрава сведчыць пра вялікую адмоўную ролю міжасабовых і міжгрупавых канфліктаў у гісторыі БНР. Таксама яна ўказвае на значэнне "чужых" уплываў у распальванні "беларуска-беларускай вайны".

Характарыстыка дзейнасці ўрада Антона Луцкевіча (Рада міністраў БНР) суправаджаецца грунтоўным аналізам польска-беларускіх дачыненняў і палітыкі польскага ўрада. Адносна апошняй аўтар перакананы ў адсутнасці адзінага стратэгічнага курса польскага ўрада ў 1918–1919 г. Паводле А. Чарнякевіча, гэтая палітыка пры "бліжэйшым разглядзе аказваецца ланцугом разнародных, не даведзеных да канца мерапрыемстваў і не да канца прадуманых крокаў, якія часцей вялі да малапрадказальных вынікаў. Іх рэальныя наступствы часта праяўляліся пазней і ў цалкам новых абставінах" (135).

Пры гэтым аўтар прытрымліваецца пашыранай канцэпцыі двух галоўных кірункаў знешняй палітыкі Польшчы адносна далучэння земляў былога Вялікага Княства Літоўскага – праз інкарпарацыю (Раман Дмоўскі) і праз федэрацыю (Юзаф Пілсудскі) (133). Аднак тэкст кнігі не пераконвае ў сур'ёзнасці федэралісцкай канцэпцыі Ю. Пілсудскага. Насамрэч усе польскія палітыкі разглядалі ўсходнія землі былой Рэчы Паспалітай як тэрыторыю польскага дамінавання. Яны толькі па-рознаму ацэньвалі магчымасці адроджанай Польскай дзяржавы…

Аўтар шмат увагі аддае расколу ў Радзе БНР (снежань 1919 г.) і ўзнікненню Найвышэйшай Рады (Я. Лёсік) і Народнай Рады (П. Крэчэўскі). Даследчык высока ацаніў дзейнасць Найвышэйшай Рады па стварэнні "беларускага П'емонта" і пагадзіўся з думкай Аркадзя Смоліча, што якраз вынікі гэтай дзейнасці прымусілі бальшавікоў лічыцца з беларускім рухам (163).

У наступных раздзелах А. Чарнякевіч ахарактарызаваў дзейнасць Народнай Рады, Беларускага палітычнага камітэта (Вячаслаў Адамовіч-старэйшы), Беларускага дзяржаўнага камітэта (Антон Луцкевіч), урадаў Вацлава Ластоўскага (1919–1922) і Аляксандра Цвікевіча (1923–1925). У кнізе знайшлі адлюстраванне палескі паход атрада С. Балаховіча, падзеі Слуцкага паўстання і антыпольская партызанка беларускіх эсэраў, дыпламатычныя намаганні ўрада Ластоўскага ў Прыбалтыцы і Польшчы, спробы паразумення з савецкай Расіяй, падпісанне ў Рызе прэлімінарнай мірнай дамовы (12 кастрычніка 1920 г.), стварэнне "Сярэдняй Літвы", дзейнасць дыпламатычнага прадстаўніцтва БНР у Коўне, удзел беларускай дэлегацыі ў Генуэзскай канферэнцыі (1922), роля савецкай дыпламатыі і спецслужбаў у арганізацыі і правядзенні Берлінскай канферэнцыі (1925) ды інш.

Кніга Андрэя Чарнякевіча ў факталагічным плане працягвае даследаванне Дароты Міхалюк і значна паглыбляе нашы веды па гісторыі дзейнасці ўрадаў БНР ў 1920–1925 г., асабліва ў галіне беларуска-польскіх палітычных дачыненняў.

У выніку паўстала шырокая панарама гісторыі змагання за незалежнасць БНР, напоўненая не толькі падзеямі, але і асобамі палітыкаў першага і другога шэрагаў. Палітычныя рэаліі аўтар ацэньвае даволі крытычна: "БНР прайграла барацьбу за ўладу"; "БНР як палітычны інстытут засталася толькі праектам"; "Беларуская Народная Рэспубліка як рэальная дзяржава з усімі класічнымі атрыбутамі дзяржаўнасці да канца не сфармавалася" (292–293). Пры гэтым "трыумфам нацыянальнай ідэі" даследчык лічыць сам факт абвяшчэння незалежнасці і сцвярджае, што ён стаў пачаткам "новага раздзела ў гісторыі беларускага народа" (293).

Многія прыведзеныя аўтарам факты выклікаюць горыч і расчараванне, прымушаюць убачыць у "нацыянальных героях" жывых людзей з часам непамернымі амбіцыямі, выкрываюць палітычны авантурызм ці паказваюць, як пад сцягам барацьбы за беларускія інтарэсы вырашаліся пэўныя асабістыя задачы або задачы разведак суседніх краін. Апошняе ўзмацнялі палітычныя няўдачы, а таксама імкненне дзеячоў савецкай Расіі, Польшчы, Літвы раскалоць і аслабіць беларускі рух. Аўтарскі наратыў спрыяе роздуму пра лёс Беларусі ў XX ст. і прымушае задумацца пра адказнасць за яго ўласных палітыкаў, у тым ліку тых, што належаць да нацыянальнай эліты.

Крытычная рэфлексія аўтара збольшага датычыла аналізу БНР як узору і сімвала беларускай дзяржаўнасці, якім яна застаецца ў рамках нацыянальнага міфа. Кніга звяртае ўвагу на адсутнасць адзінства ў беларускім руху і значэнне ўнутраных канфліктаў у няўдачы беларускага праекта. Аднак у заключэнні кнігі ("Вместо эпилога") гэта чамусьці не знайшло свайго адлюстравання.

Атрымалася "неюбілейная", але важная для беларускай гістарыяграфіі кніга, якая, між іншым, сведчыць, што вернасць традыцыі павінна спалучацца з крытычным поглядам на яе. "Падарожжа" Андрэя Чарнякевіча – пэўны выклік "рамантычнаму" дыскурсу беларускай гістарыяграфіі і міфу пра Адраджэнне. Міфы патрэбныя, калі гаворка ідзе пра адукацыю і выхаванне або пра калектыўную памяць. Але ў сітуацыі навуковага даследавання яны моцна абмяжоўваюць магчымасці назірання і аналізу і не спрыяюць развіццю навукі. Затое крытыка даміноўнага дыскурсу можа быць захапляльным, хоць і небяспечным падарожжам у мінулае.

### Сяргей Шупа: вяртанне ў рамантычны дыскурс?

"Архіўны раман" Сяргея Шупы не паддаецца акадэмічнаму рэцэнзаванню. Гэта зборнік кароткіх замалёвак ("фрагмэнтаў") з гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, літаратурны пераказ гістарычных дакументаў пераважна

віленскай часткі архіва БНР. Тыя ж дакументы, якія сталі падставай пэўнай крытыкі нацыянальнага міфа ў кнізе А. Чарнякевіча, для С. Шупы застаюцца падмуркам размовы пра "цуд" беларускага палітычнага Адраджэння. Менавіта так ён ацэньвае гісторыю БНР (261). Дарэчы, многія апісаныя аўтарам падзеі супярэчаць пафасу, характэрнаму для "рамантычнага" дыскурсу, але для Сяргея Шупы яны не сталі падставай для спробы пераасэнсавання як гісторыі БНР, так і вобразаў яе галоўных герояў.

Спалучэнне ў "фрагмэнтах" вызначальных для гісторыі падзей з замалёўкамі, якія распавядаюць пра штодзённасць беларускага асяродку ў Мінску ў 1918 г., стварае надзвычай цікавую панараму краёвага жыцця, уводзіць чытача ў самыя розныя кантэксты таго часу і спрыяе пагружэнню ў гісторыю беларускага "цуда". Так, публікацыя Устаўных грамат спалучаецца з гісторыяй веставога Беларускай Вайсковай Рады хлопчыка Апанаса Юхневіча або са "змаганнем" за друкавальную машынку "Ундэрвуд № 3", якое разгарнулася паміж Радай БНР і Беларускай вучнёўскай грамадой. Мікрагісторыя (напрыклад, апісанне рызыкоўнага падарожжа дыпламатычнага кур'ера Аўгінні Аляксюк ва Украіну ў пошуках урада УНР) перамяжоўваецца замалёўкамі са сферы "вялікай палітыкі", якія датычаць стаўлення да беларускай дзяржаўнасці нямецкай акупацыйнай адміністрацыі, бальшавікоў ды іх апанентаў з манархічнага лагера, а таксама польскіх, літоўскіх, украінскіх ды іншых палітыкаў. "Фрагмэнты", датычныя дзейнасці Рады БНР і яе ўрадаў, суседнічаюць з шматлікімі гісторыямі міжасабовых канфліктаў у беларускім асяродку.

Сяргей Шупа таксама намаляваў партрэты дзеячоў беларускага руху (Антон Луцкевіч, Язэп Варонка, Раман Скірмунт, Вацлаў Ластоўскі, Сцяпан Некрашэвіч, Яўген Ладноў, Пётр Крэчэўскі, Аляксандр Цвікевіч, Ян Чарапук ды інш.), якія зусім не нагадваюць "манументы з бронзы". Адзін з галоўных герояў кнігі – Антон Луцкевіч. Яго сыход з пасады старшыні Рады народных міністраў БНР аўтар ахарактарызаваў як канец "эпохі Вялікага Стылю беларускай палітыкі" (167).

Гэтая ацэнка зазнала крытыку ў рэцэнзіі Антона Лявіцкага на старонках "Нашай Нівы"[11]. Маўляў, трэба было ўлічваць беларускую спецыфіку, а не арыентавацца на суседзяў. Адпаведна галоўнай задачай павінен быў стаць не пошук знешняга саюзніка, а ўмацаванне ўласных сіл і кансалідацыя беларускага руху, магчыма, з дапамогай рэвалюцыйных і сацыялістычных лозунгаў.

Наконт важнасці кансалідацыі няма чаго спрачацца… Але якія шляхі вялі да яе ў той час? Ва ўмовах вайны і падзеленасці Беларусі лініяй фронту немагчыма было працягваць культурніцкую палітыку "Нашай Нівы". Краёвая ідэя, прыхільнасць да якой беларускія палітыкі дэманстравалі ў перадваенныя гады, не вытрымлівала канкурэнцыі з нацыянальнымі ідэямі літоўцаў і палякаў[12]. Зрабіць акцэнт на сацыяльны (сацыялістычны) чыннік фармавання нацыі азначала рызыкаваць самім беларускім рухам, які мог растварыцца ў шэрагу папулярных агульнарасійскіх сацыялістычных і сацыял-дэмакратычных партый. Пры ўсёй слабасці беларускага этнацэнтрызму толькі ён заставаўся апірышчам змагання за Беларусь. Адначасна палітычны поспех Літвы сведчыў пра неабходнасць моцнага і надзейнага еўрапейскага саюзніка. Менавіта да гэтага імкнулася кіраўніцтва беларускага руху, а не толькі адзін Антон Луцкевіч. Уласныя сілы ў той момант няшмат значылі. Здаецца, ва Украіне за незалежнасць змагалася агулам каля 200 тыс. чал., але адсутнасць палітычнага партнёра абярнулася тым самым вынікам, што і для беларусаў. Украінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (як і БССР!) была створана бальшавікамі з мэтай ніколі не дапусціць незалежнасці Украіны.

"Архіўны раман", магчыма, не прадугледжвае крытычных адносін аўтара да гістарычных дакументаў, але

[11] Гісторык: Як і Луцкевічы ў БНР, апазіцыя 2000-х празмерную ўвагу надавала замежным кантактам, а не пошуку кампрамісу ўнутры нацыі [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=212449. Дата доступу: 21. 11. 2018.

[12] Гл, напр.: Смалянчук А. Краёвая ідэя ў беларускай гісторыі. Мінск, 2017.

некаторыя аўтарскія тэзісы прымушаюць усё ж падумаць пра важнасць крытыкі крыніц. Напрыклад, гэта датычыць параўнання кааптацыі сяброў Мінскага Беларускага прадстаўніцтва ў склад Рады БНР у красавіку 1918 г. з "мінай у будынку БНР, якая ня раз яшчэ выбухне" (60). Насамрэч гэтая кааптацыя была яркім прыкладам кансалідацыі беларускага руху, надзвычай важнай у той момант. Дарэчы, якраз Антон Луцкевіч непасрэдна спрычыніўся да гэтага.

Пры цытаванні справаздач з паседжанняў Рады БНР лета – восені 1918 г. аўтар "забыўся" пра тое, што іх аўтарам быў "левы сацыяліст" і паланафоб Язэп Варонка, які літаральна навязваў грамадскасці Мінска і Беларусі (а таксама будучым гісторыкам!) уласны погляд на падзеі жыцця і дзейнасці Рады БНР і яе ўрадаў. Таксама не выглядае абгрунтаваным тлумачэнне прыезду Антона Луцкевіча ў Варшаву 1 верасня 1919 г. і яго затрымкі ў сталіцы Польшчы як прадуманай польскай інтрыгі з мэтай выцягнуць Луцкевіча з Парыжа (137). На самай справе беларуская дэлегацыя на Парыжскай канферэнцыі не ўяўляла сабой сур'ёзнай палітычнай сілы, а Антон Луцкевіч у той час імкнуўся да паразумення з польскай дэлегацыяй.

"Фрагмэнты" Сяргея Шупы ствараюць панарамную карціну беларускага "цуда" ў інтэр'еры нямецкай акупацыі і барацьбы за Беларусь розных палітычных сіл як у Мінску, так і па-за межамі беларускай зямлі. Збольшага гэта цалкам пазітыўная карціна, нават калі аўтар распавядае пра разгон Усебеларускага з'езда або канфлікт паміж Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім. Пры гэтым у "Пасляслоўі" ён прызнаўся, што пад час працы ў архіве часам хацелася плакаць над дакументамі, бо гісторыя БНР выглядала надзвычай змрочна і безнадзейна (257).

Напрыканцы аўтар заклікаў са спагадай і ўдзячнасцю ўспомніць усіх беларускіх палітыкаў – "добрых і злых, разважлівых і апантаных, шчырых і хітрых, адукаваных і непісьменных, сяброў і супернікаў". У 1918 г. ідэя беларускай незалежнасці не мела шансаў, "але тыя людзі верылі ў цуд. І гэты цуд адбыўся" (261).

Аўтарскія высновы яшчэ раз прымушаюць задумацца пра матывы дзейнасці беларускіх палітыкаў. Насуперак імкненню А. Чарнякевіча да пэўнага прагматычна-рацыянальнага іх тлумачэння, прысутнасць нацыянальнага рамантызму відавочная на ўсіх этапах беларускага Адраджэння, у тым ліку на пачатку 1990-х. А ў 1917–1918 г. рамантызм датычыў не толькі моладзі, апантанай сацыялістычнай ідэалогіяй, але і людзей іншага складу ды іншай культуры. Напрыклад, ён відавочны ў тым нацыянальна-палітычным выбары, які зрабіў Раман Скірмунт, калі далучыўся да беларускага руху.

"Падарожжы" Андрэя Чарнякевіча і Сяргея Шупы дэманструюць не толькі магчымасці розных падыходаў да аналізу гісторыі беларускага Адраджэння і БНР. Адначасна гэта роздум пра шляхі да беларускай нацыі, якія не страціў актуальнасці…

# Юбілейная пастараль: крок у даследаванні гісторыі БНР ці бег на месцы?*

**Андрэй Чарнякевіч**

Калектыўная навуковая манаграфія звычайна прадугледжвае акумуляцыю дасягненняў асобных даследчыкаў і сыходзіць з дыялектычнага ўяўлення пра пераўтварэнне колькасці ў якасць дзеля эфектыўнай рэалізацыі нейкай агульнай мэты. Часам, аднак, калектыўная манаграфія нівелюе саму асобу навукоўца, перакладаючы на яе аўтараў адказнасць за тыя ці іншыя высновы, якія на самай справе яны, магчыма, і не падзяляюць, – калектыўную адказнасць.

Сярод выданняў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за апошнія гады можна вылучыць некалькі публікацый, якія былі створаны паводле агульнага алгарытму: актуальная праблема, прычым звычайна яе актуальнасць разглядаецца не ў навуковым, а ў ідэалагічным разуменні; сукупнасць гісторыкаў, звычайна пад кіраўніцтвам асобы з ліку акадэмічнай наменклатуры; ананімныя раздзелы, дзе не пазначаны іх аўтары; дакументы, значная частка якіх – перадрук з ранейшых выданняў; ананімныя, зноў жа, уводзіны і заключэнне, дзе мовай савецкай прапаганды чытача перасцерагаюць ад “кожнай спробы фальсіфікацыі айчыннай гісторыі”[1].

* Беларуская Народная Рэспубліка – крок да незалежнасці: да 100-годдзя абвяшчэння: гістарычны нарыс / А. А. КАВАЛЕНЯ [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. Мінск: Беларус. навука, 2018. 157 с.

[1] Рижский мир в судьбе белорусского народа. 1921–1953 гг.: в 2 кн. Кн. 1 / НАН Беларуси, Ин-т истории / редкол.: А. А. Коваленя и др. Минск: Беларус. навука, 2014. С. 21.

Разгорнутую рэцэнзію на адно з такіх выданняў пад назвай "Польшча – Беларусь (1921–1953)" у свой час надрукаваў былы дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў Польскай акадэміі навук прафесар Войцех Матэрскі. Ён перш за ўсе падкрэсліваў анахранізм падобнай працы, якая адпавядае, на думку польскага даследчыка, "стандартам савецкай навукі" сярэдзіны мінулага стагоддзя[2]. На жаль, сама рэцэнзія, як падаецца, не знайшла больш шырокага водгуку ні сярод аўтараў кнігі, ні наогул сярод айчынных гісторыкаў, чарговы раз пацвердзіўшы тэзіс аб тым, што "беларуская гістарыяграфія функцыянуе ў спецыфічных палітычных умовах"[3].

Спецыфіку гэтых умоў дакладна апісаў у працы "Гісторыкі і ўлада" нямецкі даследчык Райнэр Ліндер[4]. Ён жа вызначыў і галоўную асаблівасць публікацый, падобных на згаданыя: "Для інстытуцыянальнай гісторыі беларускай гістарычнай навукі вельмі істотнае, доўгатэрміновае значэнне мела тое, што Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР альбо гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта дзейнічалі ў адпаведнасці з палітычнымі дырэктывамі часу альбо, здаралася, іх апярэджвалі..."[5]. Уласна таму іх змест кажа значна больш пра сучасную палітычную кан'юнктуру, чым пра саму гістарычную ці гістарыяграфічную праблему. Рэцэнзаванае выданне Інстытута гісторыі "Беларуская Народная Рэспубліка – крок да незалежнасці", прымеркаванае да стагоддзя абвяшчэння БНР, не стала ў гэтым сэнсе выключэннем (гл. с. 135).

[2] Матэрскі В. Да стандартаў савецкай эпохі? // Беларускі Гістарычны Агляд. Інтэрнэт версія. Электронны рэсурс. Рэжым доступу: http://www.belhistory.eu/vojcex-materski-da-standartau-saveckaj-epohi/ Дата доступу: 18.9.2018.

[3] Матэрскі В. Да стандартаў савецкай эпохі?

[4] Ліднэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. / пер. з ням. Л. Баршчэўскі; нав. рэд. Г. Сагановіч. Выд. 2. С.-Пецярбург, 2005.

[5] Ліднэр Р. Гісторыкі і ўлада... С. 481.

У межах рэцэнзіі мы не ставілі перад сабой мэты прааналізаваць агулам вынікі гэтай падзеі, тым больш што ў доўгатэрміновым вымярэнні яны могуць падавацца зусім іншымі. Дастаткова згадаць, што на працягу некалькіх месяцаў напярэдадні святкавання Дня Незалежнасці – 25 сакавіка – у публічнай прасторы з'явіўся шэраг публікацый і выступленняў, змест якіх сведчыў пра спробу з боку беларускіх дзяржаўных інстытуцый разбіць манаполію палітычных апанентаў на "спадчыну" БНР. Найбольш знакавым у гэтым сэнсе стаў выступ членакарэспандэнта Акадэміі навук, старшыні Парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Ігара Марзалюка пад час канферэнцыі ў Інстытуце гісторыі, які падкрэсліў, што "з 1925 года БССР дэ-юрэ з'яўляецца прамым і легітымным правапераемнікам урада БНР"[6]! Прыкладна тады ж дырэктар Інстытута і адзін з аўтараў разгляданай кнігі В. Даніловіч агучыў тэзіс: "Мы павінны пазбягаць усеагульнага ганьбавання і ўсеагульнага ўзвялічвання дзеячаў БНР. Мы глядзім на БНР аб'ектыўна"[7]!

У саміх этапах вывучэння Беларускай Народнай Рэспублікі прасочваюцца пэўныя храналагічныя рамкі, наўпрост звязаныя з той ці іншай палітычнай кан'юнктурай. Варта адзначыць, што на тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі пра гісторыю БНР доўгі час фактычна нічога не было надрукавана, за выключэннем публікацый на старонках перыядычных выданняў, а большая частка прысвечаных ёй кніг, як ні парадаксальна, з'явілася за мяжой. Першымі яе біёграфамі былі самі "бацькі-заснавальнікі", пры гэтым іх галоўнай задачай было данесці ўласна факт існавання рэспублікі і, па магчымасці, пазначыць сваё месца ў яе стварэнні. Разам з тым, самі гэтыя публікацыі выканалі надзвычай важную ролю ў фармаванні нашага ўяўлення пра гісторыю

[6] Электронны рэсурс. Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=206294&lang=ru Дата доступу: 18.9.2018.

[7] Электронны рэсурс. Рэжым доступу: https://nn.by/?c=ar&i=206552&lang=ru Дата доступу: 18.9.2018.

станаўлення ідэі беларускай незалежнасці, вызначыўшы канон ва "ўяўленні" самой БНР[8].

У айчыннай гістарычнай навуцы гэтая тэма з самага пачатку разглядалася скрозь прызму ідэалагічнай барацьбы з буржуазным нацыяналізмам. З іншага боку, найбольш значныя абагульняльня працы з аналізам беларускага нацыянальнага руху з'явіліся ў колах, якія знаходзіліся да гэтага руху ў прамой канкурэнцыі або былі зацікаўлены ў выкарыстанні яго ў сваіх інтарэсах. У нейкім сэнсе гэткімі былі працы, напісаныя з пазіцыі "савецкіх" беларусаў А. Бурбіса, А. Вазілы, З. Жылуновіча,

[8] Варонка Я. Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции. Ковно, 1919; Ён жа. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году: Кароткі агляд. Коўна. Выд-ва Міністэрства беларускіх справаў, 1920; Грыб Т. Выбранае. Мінск, 2017; Доўнар-Запольскі М. Асновы дзяржаўнасьці Беларусі. Городно, 1919; Захарка В. Галоўныя моманты беларускага руху (урывак) // Спадчына. 1997. № 5. С. 3–17; Ён жа. П. А. Кречевский // Вестник Социалистической Лиги Нового Востока. 1928. Май. № 1. С. 8–10; Езовитов К. Белорусы и поляки: Документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 гг. Ковна: Изд. им. Ф. Скорыны, 1919; Ён жа. Абвяшчэньне БНР // Наша слова. 19.3.2008. № 12 (851); Ён жа. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада // Крывіч. 1924. № 1 (7). С. 37–45; 1925. № 9. С. 80–93; Ён жа. Освобождение Минска: Записки коменданта // Варта. 1918. № 1. С. 36–38; Ён жа. [Кангрэсавец] Да гісторыі распаду Беларускае Народнае Рэспублікі // Беларуская школа ў Латвіі. 1933. № 7 (24). С. 289–291; Краўцоў М. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі // Спадчына. 1998. № 1. С. 75–126; Крэчэўскі П. Мандаты БНР. Даклад, чытаны ў Беларускім Студэнцкім Клюбе ў Празе 16 студзеня 1926 г. // Спадчына. 1993. № 1. С. 2–10; Ладнов Е. Огнём и мечём, голодом и болезнями. Варшава: Изд. бел. комитета, 1922; Лекцыя Аляксандра Цьвікевіча "Беларускі нацыянальны рух" і дыскусія пасьля яе, што адбылася ва "Украінскай хаце ў Празе" вясной 1925 // Спадчына. 2002. № 5-6. С. 104–110; Луцкевіч А. 25 марца 1918 году (З маіх успамінаў) // Спадчына. 1997. № 1. С. 10–15; Смоліч А. Незалежнасьць // Спадчына. 1997. № 2. С. 3–6; Цвикевич А. Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики. Киев, 1918; Ён жа. [А. Галынец]. Чатыры гады (1918–25.3.1922) // Спадчына. 1996. № 3. С. 124–148.

Е. Канчара, Ф. Турука, А. Чарвякова[9]. Іншы характэрны прыклад – "Кароткі нарыс беларускага пытаньня" – аб'ёмны аналітычны матэрыял для службовага карыстання, які з'явіўся ў нетрах польскага Генштаба і на старонках якога барацьба за незалежную беларускую дзяржаву знайшла самае падрабязнае апісанне[10]. Нарэшце, яшчэ адно грунтоўнае даследаванне, створанае ў нечым з падобнымі мэтамі, – кніга Ойгена фон Энгельгарта "Weiss-Ruthenien"[11].

У пасляваенны перыяд БНР-аўская тэматыка ў першую чаргу трывала прапісалася ў даследаваннях эміграцыйных аўтараў, якія працягнулі працу па стварэнні нацыянальнага пантэона, распачатую яшчэ беларускімі палітыкамі старэйшага пакалення[12]. Акрамя таго, выходзілі працы саветолагаў, для якіх перыяд абвяшчэння

[9] Бурбіс А. [Стары Пиліп]. Кароткі агляд беларускага нацыянальнага-рэвалюцыйнага руху // Веснік Нар. Камісарыята Асветы СРРБ. 1921. № 1. С. 4–9; Вазилло А. Речь, произнесённая на I-м Всебелорусском съезде / пред. Е. Канчера. Петроград, 1918; Жылуновіч З. Ад кастрычніка 1917 да лютага 1918 г. // Полымя. 1924. № 2. С. 163–173; Ён жа. Два бакі беларускага руху // Полымя. 1923. № 3-4. С. 69–74; Ігнатоўскі У. Камуністычная партыя Беларусі і беларускае пытанне // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі культурнага і рэвалюцыйнага руху / пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, з дап. А. Смоліча, С. Некрашэвіча, Я. Пятровіча. Менск, 1924; Канчер Е. Белорусский вопрос: сб. статей. Петроград, 1919; Турук Ф. Белорусское движение. Очерк национального и революционного движения белорусов. Москва, 1921; Чарвякоў А. "…Я ніколі не быў ворагам": выбраныя артыкулы і прамовы. Успаміны сучаснікаў. Мінск, 1992.

[10] Кароткі нарыс беларускага пытаньня / рэд. А. Вашкевіч, А. Пашкевіч, А. Чарнякевіч. Мінск, 2009.

[11] Engelhardt E. Weißruthenien: Volk und Land. Berlin – Amsterdam – Prag – Wien, 1943.

[12] Пануцэвіч В. Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918–1919 гадах // Бацькаўшчына. 1964. № 5-6; Весялкоўскі Ю. Беларусь у першай сусьветнай вайне: гістарычны нарыс. Беласток – Лёндан, 1996; Запруднік Я. БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай // Беларус. 1970. № 157. С. 2; Ён жа. Устаўныя Граматы БНР // Запісы БІНіМ. Нью-Ёрк. 1975. Кн. 13. С. 87–98.

незалежнасці Беларусі ўяўляўся цікавай, аднак маларэалістычнай альтэрнатывай Савецкай Беларусі[13].

У савецкай гістарыяграфіі ў гэты ж перыяд ішоў складаны працэс па "рэгенерацыі" навуковых ведаў, якія дэградавалі да ўзроўню таталітарнай ідэалогіі ў папярэднюю эпоху. Разам з крытыкай "буржуазных фальсіфікатараў" і "нацыяналістаў" у даследаваннях А. Грыцкевіча, М. Сташкевіча, І. Коўкеля, В. Круталевіча, І. Ігнаценкі робіцца спроба адысці ад ранейшых ідэалагічных схем або, прынамсі, змякчыць іх суцэльна негатыўны характар[14]. Ужо на пачатку 1990-х гадоў некаторыя з іх паспрабуюць адаптаваць у той ці іншай ступені, часам – вельмі кардынальна, свае тэксты да змены палітычнай кан'юнктуры[15].

Характэрна, што сапраўдны "прарыў" у даследаванні гісторыі БНР і беларускага нацыянальнага руху наогул

[13] Vakar N. P. Belorussia. The Making of Nation. Cambridge, Massachusetts, 1956.

[14] Ковкель И., Сташкевич Н. Почему не состоялась БНР? (Из истории политического банкротства националистической контрреволюции в Белоруссии. 1918–1925 гг.). Минск, 1980; Сташкевич Н. Приговор революции: Крушение антисоветского движения в Белоруссии (1917–1925). Минск, 1985; Ён жа. Не отступая от уроков правды: О классовой сущности БНР // Перестройка и межнациональные отношения. Минск, 1989. С. 170–190; Грыцкевіч А. Вакол "слуцкага паўстання": Барацьба з контррэвалюцыяй у Беларусі ў апошні перыяд грамадзянскай вайны. Мінск, 1987; Круталевич В. Рождение Белорусской Советской Республики: На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 – декабрь 1918 г. Минск, 1975.

[15] Напрыклад: Круталевич В. История Беларуси: становление национальной державности (1917–1922 гг.). Минск, 2003; Коўкель І. Спробы нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі. Першы Усебеларускі з'езд і яго рашэнні // Шлях да ўзаемнасці – Droga ku wzajemności: матэр. XIV міжнар. навук. канф., 26–27 кастр. 2006 г. / пад. рэд. С. Мусіенкі, І. Крэня. Гродна, 2007. С. 214–225; Сташкевич Н. Белорусская народная республика (БНР): характер и пределы ее суверенитета // Беларуская дзяржаўнасць: вопыт XX стагоддзя. Мінск, 2004. С. 11–17; Грыцкевіч А. Выбранае. Мінск, 2012; Ігнаценка І. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі: асаблівасці і вынікі. Мінск, 1995.

адбыўся перш за ўсё дзякуючы працам польскіх гісторыкаў. Прычым можна гаварыць пра некалькі пакаленняў даследчыкаў. Сёння польская гістарыяграфія шмат у чым працягвае захоўваць пазіцыі лідара ў вывучэнні гісторыі БНР, пра што сведчаць працы А. Латышонка, Я. Мірановіча, Д. Міхалюк, Т. Блашчака, Ё. Героўскай-Калаўр[16]. Для літоўскіх і ўкраінскіх гісторыкаў тэма БНР уяўляе цікавасць асабліва ў кантэксце незалежнасці іх дзяржаў[17]. З англамоўных варта прыгадаць кнігу Пэра Рудлінга "Узлёт і падзенне беларускага нацыяналізму"[18].

З перыядам незалежнасці Беларусі надышоў і новы этап у вывучэнні гісторыі БНР. У выніку асобныя аспекты яе дзейнасці аказаліся даследаванымі даволі ўсебакова, а іншыя так і засталіся акрэсленымі толькі пункцірам[19].

[16] Латышонак А. Жаўнеры БНР. Беласток – Вільня, 2009; Міранові Я. Найноўшая гісторыя Беларусі. С.-Пецярбург, 2003; Міхалюк Д. Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920 гг.: Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Смаленск, 2015; Błaszczak T. Białorusini w Respublice Litewskiej 1918–1940. Rozpraw doktorska. Toruń, 2012; Gierowska-Kałłaur J. Stanisław Bułak-Bałachowicz. Postać, która mogła połączyć narody byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego, a jednak ich nie połączyła // Acta Baltico-Slavica. Vol. 41. 2017. S. 77–155.

[17] Гімжаўскас Э. Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы ў 1915–1923 гг. Беласток – Вільня, 2012.

[18] Rudling P. A. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931. University of Pittsburgh Rress, Pittsburgh, 2015.

[19] Агееў А., Пушкін І. Фарміраванне і дзейнасць Магілеўскага беларускага камітэта (1917–1918 гг.). Магілёў, 2017; Багалейша С. Беларуска-літоўскія ўзаемаадносіны ў 1915–1924 гг. Аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 2006; Бароўская В. Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг. Мінск, 2017; Глушакова Н. Дзейнасць беларускіх эсэраў у Радзе БНР (1918–1924) // Гуманітарна-эканамічны веснік. 1997. № 4. С. 29–35; Дубік С. Палітычныя адносіны паміж урадам БНР і Літоўскай Тарыбай. 1918–1919 гг. Дзейнасць Міністэрства Беларускіх Спраў // Славянскі свет: міжэтнічныя адносіны на мяжы трэцяга тысячагоддзя: зб. матэр. Міжнар. навук.-практ. канф. студэнтаў і аспірантаў ВНУ, 16–17 ліст. 2001 г. Брэст, 2001. С. 196–207; Конан У. Сімвал бацькаўшчыны: БНР у кантэксце нацыянальнай ідэі // ЛіМ. 19.3.1993. № 12. С. 3, 14–15; Космач Г. Германский фактор в политике БНР в 1918 году // Германский и славянский миры: взаимодействие,

Разам з тым з'явіліся і яе новыя крытыкі, якія адначасова выступаюць адэптамі так званага "заходнерусізму" і савецкай гістарыяграфіі[20]. Варта згадаць і апублікаваныя за гэтыя гады зборнікі архіўных дакументаў, прысвечаныя дзейнасці БНР, пад рэдакцыяй С. Шупы, В. Сакалоўскага, А. Сідарэвіча, В. Ляхоўскага ды інш.[21].

Ужо ў самым пачатку кнігі "Беларуская Народная Рэспубліка – крок да незалежнасці..." можна прачытаць, што

конфликты, диалоги культур: (История, уроки, опыт, современность). Матер. междунар. научно-теор. конф. 6–7 дек. 2001 г. Витебск. 2001. С. 74–84; Кукса А. На пути к самоопределению народов Беларуси и Украины в 1917–1918 гг. Минск, 2012; Кулевіч І. Беларускі нацыянальны рух (1902–1925): гістарыяграфія праблемы. Гродна, 2007; Ладысеў У., Брыгадзін П. На пераломе эпох: Станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917–1920). Мінск, 1999; Лазько Р., Кротаў А., Мязга М. Беларусь у еўрапейскай палітыцы. 1918–1925 гг.: нарысы. Гомель: ГДУ, 2003; Лебедзева В. Пуцявінамі змагання і пакутаў: Палута Бадунова. Мінск, 2004; Ляхоўскі У. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. Беласток – Вільня, 2010; Мазец В. Беларуская Народная Рэспубліка: Абвяшчэнне і дзейнасць (1918 год). Аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук. Мінск, 1995; Паўлава Т. Асноўныя напрамкі знешнепалітычнай дзейнасці БНР у 1918–1920 гг. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T. 15. Białystok, 2001. S. 76–85; Рудовіч С. Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 г. Мінск, 2001; Сідарэвіч А. Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта // ARCHE-Пачатак. 2008. № 4. С. 108–126; Юхо Я. Беларускія ўрады 1918–1921 г. і іх паўнамоцтвы // БГЧ. 1993. № 4. С. 63–68; і інш.

[20] Гигин В. Бумажная республика. Из истории БНР 1918 года // Нёман. 2005. № 2. С. 141–154; Гронский А. Проблема белорусского национализма в начале XX века // Управление общественными и экономическими системами. 2008. № 1. С. 1–32; Ліцкевіч А. Беларуская віртуальная рэспубліка // Беларуская думка. 2008. № 3. С. 68–73; Резник А. К вопросу о государственности БНР, или Так была ли БНР государством? Минск, 2002.

[21] Архівы Беларускай народнай рэспублікі. Кн. 1. Т. 1, 2. Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998; Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991): зб. дак. і матэр.: у 4 т.; Сакалоўскі У. Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925) // ARCHE-Пачатак. 2009. № 3. С. 7–328; Слуцкі збройны чын у дакумэнтах і ўспамінах / укл., падрыхт. тэкстаў, іл., аўт. заўв., камент., паказ. А. Гесь, У. Ляхоўскі, У. Міхнюк; прадм. У. Ляхоўскага. 2-е выд. Мінск, 2006.

"ў прадстаўленым нарысе на аснове навейшых публікацый айчыннай і замежнай гістарыяграфіі, прыцягнення шырокага кола дакументальных крыніц асвятляецца адна з важнейшых старонак дзяржаўнага будаўніцтва...". Аднак з пералічаных ва ўводзінах да "Нарыса" імён, якія падаюцца без спасылак на літаратуру, выбудоўваецца вельмі вузкае, у літаральным сэнсе – "акадэмічнае" кола даследчыкаў, куды, праўда, увайшлі і самі аўтары працы. Замест гістарыяграфічнага агляда "Нарыс" абмяжоўваецца агульнай згадкай пра тое, што "айчынныя даследчыкі за гады суверэннага развіцця шмат зрабілі дзеля аб'ектыўнай рэканструкцыі падзей станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці" (4–5).

Затое пры больш уважлівым знаёмстве са зместам рэцэнзаванай кнігі "навейшыя публікацыі" ператвараюцца ў працу С. Рудовіча "Час выбару", 2001 года выдання (5 спасылак), кнігі Ф. Турука (2 спасылкі), Е. Канчара (3), У. Ладысева і П. Брыгадзіна (3), А. Ціхамірава (2), М. Смальянінава "Революционное движение солдатских масс на Западном фронте..." 1981 года ды некалькі артыкулаў саміх аўтараў, выдадзеных у сярэдзіне 1990-х. У выніку "навейшымі публікацыямі" аказаліся калектыўная манаграфія "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці" пад рэдакцыяй А. Кавалені, што ўбачыла свет у 2011 г., кніга Д. Міхалюк, на якую ў тэксце толькі адна спасылка, ды "Новы Запавет" 2017 года выдання.

Першы раздзел кнігі "Беларускія палітычныя партыі і ідэя дзяржаўнасці" пачынаецца са сцвярджэння, што Першая сусветная вайна, а таксама лютаўская і кастрычніцкая рэвалюцыі ў Расіі "аказалі велізарны ўплыў на ход сусветнага развіцця" і "змянілі геапалітычную карту Еўропы". Пры гэтым, паводле аўтараў, сярод еўрапейскіх народаў, якія ў той час "рэалізавалі сваю нацыянальную дзяржаўнасць", апынуліся харваты, славакі і македонцы (6). Аднак калі тэзіс пра тое, што "лютаўская рэвалюцыя дала імпульс беларускаму нацыянальнаму руху" і "стварыла магчымасці для палітычнага афармлення... і выспявання ідэі нацыянальнага самавызначэння", не выклікае сумнення, зразумець, чаму аўтары *поўнасцю*

праігнаравалі ўвесь папярэдні перыяд яго развіцця, у тым ліку фармаванне беларускага асяродка на тэрыторыі нямецкай акупацыі (16), даволі цяжка.

Асаблівы дысананс стварае параўнанне зместу гэтай часткі кнігі з яе ж заключэннем, дзе сцвярджаецца літаральна наступнае: “На жаль, сусветная супольнасць не адмовілася ад тэрарызму, узброеных канфліктаў, рэвалюцый і войнаў. Наадварот, сёння ў розных частках свету новыя палітідэолагі і паліттэхнолагі актыўна навязваюць ідэі так званых каляровых рэвалюцый. Гісторыя пераканаўча сведчыць, што ідэі палітычных абнаўленцаў не здольны пазбавіць людзей ад праблем. Яны толькі перарываюць, адкідваюць назад аб’ектыўны працэс развіцця грамадства і памнажаюць трагедыі народаў…” (135).

Далей пасля невялічкага раздзела “Першы Усебеларускі з’езд 1917 г.” публікуецца стэнаграма самога з’езда (удвая большая за раздзел; перадрук з “Беларускага гістарычнага часопіса” за 1993 г.), падаецца яна наогул без каментароў.

Найбольш цікавы, навукова абгрунтаваны, насычаны архіўнымі крыніцамі трэці раздзел “Абвяшчэнне БНР – гістарычны выбар нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння”, які завяршаецца наступнай высновай: “Ва ўмовах германскай акупацыі Рада БНР і Народны Сакратарыят з’яўляліся па-сутнасці адзіным беларускім цэнтрам, які актыўна дзейнічаў і спрабаваў наколькі гэта было магчыма бараніць інтарэсы беларусаў на міжнароднай арэне” (107). Ананімны аўтар раздзела адкрыта палемізуе з гісторыкам Вадзімам Гігіным, паводле якога дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, у адрозненне ад савецкага беларускага нацыянальнага камісарыята, фактычна нічым не праявілі сябе на ніве беларускай школьнай справы, затармазілі працэс стварэння “беларускай суверэннай рэспублікі – БССР” і ўвогуле выявілі сваю “несамавітасць, няслушнасць, карумпаванасць, а таксама выкарысталі ідэю БНР у асабістых мэтах”[22]. У гэтым сэнсе аўтары кнігі (ці, можа, больш

[22] Гигин В. Бумажная республика: из истории БНР 1918 г. // Нёман. 2005. № 2. С. 141–154.

дакладна, ананімны аўтар гэтай часткі) значна больш радыкальна адыходзяць ад прапанаванай яшчэ дзесяць гадоў таму, пад час чарговай ідэалагічнай “адлігі”, формулы пра тое, што “БНР – адзін з этапаў супярэчлівага працэсу суверэнізацыі беларускай нацыі”[23]. На жаль, храналагічна трэцяя частка ахоплівае толькі 1918 год…

Два апошнія раздзелы (“БНР – фактар развіцця дзяржаваўтваральных працэсаў у Беларусі” і “Крызіс Рады і ўрада БНР”) падаюцца хутчэй скарочаным канспектам лекцыі, багата праілюстраваным здымкамі савецкіх дакументаў (дванаццаць супраць чатырох здымкаў БНРаўскіх дакументаў): пратаколамі паседжання ЦБ КП(б)Б, пастановай Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага камітэта, маніфеста аб стварэнні ССРБ і г. д. Само ж пытанне легітымнасці рашэнняў Берлінскай канферэнцыі пра роспуск беларускага ўрада і пераемнасці традыцыі БНР пазнейшымі эміграцыйнымі структурамі ў кнізе поўнасцю праігнаравана. Хацелася б звярнуць увагу, што выкарыстанне выданнем Нацыянальнай акадэміі навук здымкаў з інтэрнэт-старонкі газеты “Камсамольская праўда”, прычым з захаваннем аўтарскага знака, наўрад ці дадае кнізе “акадэмічнасці” (121).

Зноў жа, галоўнае, як падаецца, не сам змест раздзелаў, а прапанаваная напрыканцы выснова, якая літаральна паўтарае агучаны І. Марзалюком тэзіс: “…І БНР, і ССРБ з’яўляліся лагічным вынікам развіцця беларускага нацыянальнага руху і беларускай дзяржаўнасці. Гэта з’явы аднаго парадку, якія ў выніку прывёў да сучаснай незалежнай Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым, нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці, гісторыя пераканаўча сведчыць аб паспяховасці выбару на карысць рэалізацыі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці на савецкай аснове” (119). Гэта асабліва кідаецца ў вочы, калі параўнаць разгляданае выданне з кнігай “Польшча – Беларусь (1921–1953)”, дзе, між іншым, сцвярджалася, што пасля Першай сусветнай вайны “БНР як дзяржава не адбылася”

[23] БНР: поверх барьеров // Советская Белоруссия (Беларусь сегодня). 22.3.2008.

і толькі Савецкая Беларусь стала "прэцэдэнтам стварэння палітыка-тэрытарыяльнай адзінкі з атрыбутамі беларускай дзяржаўнасці"[24].

Вельмі красамоўна ў гэтым сэнсе выглядае змешчаная ў дадатку да кнігі "Храналогія падзей", пададзеная ў межах паміж 1917 і 1925 гадамі. Пачынаецца яна з даты "перамогі лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе", а заканчваецца т. зв. Берлінскай канферэнцыяй. Прычым уласна да дзейнасці БНР за ўвесь перыяд 1919 г. адносіцца толькі раскол Рады; за 1920 г. – падпісанне дамовы паміж урадамі БНР і Літоўскай Рэспублікі; за 1922 г. – удзел дэлегацыі БНР у працы Генуэзскай канферэнцыі… Большасць жа прыведзеных падзей звязаны хутчэй з дзейнасцю органаў савецкай улады.

Апошні абзац кнігі варты таго, каб працытаваць яго амаль поўнасцю: "Сёння архіактуальнай задачай з'яўляецца процістаянне экстрэмізму ва ўсіх яго праявах. Важна актыўна пашыраць у грамадскай свядомасці ідэі дабра, братэрства, справядлівасці, асабліва ў асяроддзі падрастаючага пакалення, каб пазбавіць экстрэмізм сацыяльнай падтрымкі. У грамадстве патрэбна настойліва ўкараняць усведамленне таго, што прыгажосць, дабрыня і закон здольны выратаваць цывілізацыю ад пагружэння ў бяздзейнасць, заганы і разбурэнне. Неабходна таксама рабіць усё магчымае, каб не згубіць і ўмацаваць здабыты на мяжы XX–XXI стагоддзяў Беларуссю дзяржаўны суверэнітэт, пра які марылі многія пакаленні лепшых прадстаўнікоў беларускага народу" (135).

У чаканні чарговага юбілею – стагоддзя абвяшчэння Савецкай Беларусі – міжволі ўзнікае пытанне, якім чынам калектыў Інстытута гісторыі здолее ўвасобіць тэзісы пра "прыгожасць і дабрыню" ў наступным выданні, прысвечаным, верагодна, гэтай падзеі…

[24] Цыт. паводле: Матэрскі В. Да стандартаў савецкай эпохі?

# Украінскае казацтва, Масква і суперніцтва за Беларусь у кнізе расійскай даследчыцы*

**Генадзь Сагановіч**

Расійскую даследчыцу з Санкт-Пецярбурга Таццяну Таіраву-Якаўлеву гісторыкі ўжо ведаюць па цэлым шэрагу ранейшых прац па гісторыі раннемадэрнай Украіны[1]. Яе новая кніга, прысвечаная пачаткам інкарпарацыі Украіны ў склад Расійскай дзяржавы, як адзначана ва ўступе, стала натуральным працягам ранейшых распрацовак, у пэўным сэнсе вырасла з папярэдніх ведаў і ранейшага даследчыцкага вопыту. Гэтым разам яна паставіла за мэту разабрацца з тым, у якім сацыяльна-эканамічным стане знаходзілася казацкая Украіна на пачатку гэтага працэсу, г. зн. перад Пераяслаўскай радай 1654 г., затым як вырашаліся пытанні адміністрацыйнага і падатковага кіравання ўкраінскімі землямі і ўрэшце – звярнуцца да супярэчнасцяў паміж маскоўскімі ўладамі і казакамі з-за падпарадкавання тэрыторый паўднёва-ўсходняй Беларусі (с. 7).

Пастаўленым мэтам падпарадкавана і структура кнігі, якая складаецца з чатырох раздзелаў. У першым

* ТАИРОВА-ЯКОВЛЕВА, ТАТЬЯНА. Инкорпорация: Россия и Украина после Переяславской рады (1654–1658). Київ: “Кліо”, 2017. 320 с.

[1] Гл.: Яковлева Т. Гетьманщина в другій половині 50-х років століття: причини і початок Руїни. Київ, 1998; яна ж. Руїна Гетьманщини: від Переяславської ради-2 до Андрусівської угоди (1659–1667 рр.). Київ, 2003; Таирова-Яковлева Т. Иван Мазепа и Российская империя. История “предательства”. Москва, 2011; яна ж. Гетманы Украины. С.-Петербург, 2011.

(“Взаимное непонимание”, 9–42) апісваецца розніца стандартаў палітычнай культуры элітаў Расіі і Украіны, што прычынілася да непаразуменняў паміж бакамі, у другім (“Украинское гетманство к 1654 г.: социально-экономическое положение”, 43–74) – сацыяльна-эканамічныя рэаліі ў казацкай Украіне і іх змены пасля паўстання, у трэцім (“Вопрос о воеводах: административная власть и налоги”, 75–180) разглядаюцца спробы царскага ўрада ўвесці ваяводскае кіраванне і падатковую сістэму на тэрыторыі казацкай Украіны, а чацвёрты (“Соперничество за Белоруссию”, 181–309) прысвечаны падзеям 1654–1658 г. на землях Беларусі, дзе сутыкнуліся інтарэсы маскоўскіх уладаў і Запарожскага войска. Праўда, знаёмства з тэкстам працы пераконвае, што яе апошні раздзел – гэта асобная, слаба інтэграваная частка манаграфіі, якая мала ўзгадняецца з асноўнай мэтай працы (калі такой лічыць вывучэнне згаданай інкарпарацыі казацкай Украіны). Пра адасобленасць апошняга раздзела сведчыць і кароткае заключэнне (310), у якім сцісла абагульнена толькі тое, што тэматызавана ў раздзелах 1, 2 і 3.

Асноўным корпусам крыніц, на якіх базуецца даследаванне (прынамсі першыя тры раздзелы), сталі дакументы з фондаў Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў (Масква), многія з якіх яшчэ не былі ўведзены ў навуковы зварот. Рукапісныя крыніцы значна дапоўнены актавым матэрыялам апублікаваных зборнікаў, так што ў гэтых адносінах манаграфія (за выключэннем часткі пра Беларусь, пра якую будзе сказана ніжэй) пакідае вельмі добрае ўражанне. А вось наконт літаратуры прадмета такога не скажаш. На жаль, Т. Таірава-Якаўлева пакінула па-за ўвагай мноства прац сваіх папярэднікаў, якія маюць адносіны да тэмы, і наогул адмовілася ад агляду гістарыяграфіі. Хоць яна піша пра свядомую ўстаноўку не кранаць знешнюю палітыку казацкай дзяржавы (7), а ў раздзеле пра “беларускае пытанне” кажа пра намер згадваць толькі галоўныя выданні і спасылацца на працы толькі “по мере необходимой полемики” (184), такія агаворкі не апраўдваюць фактычна адвольнага выбару публікацый пры ігнараванні вялікай колькасці важных

пазіцый рэлевантнай літаратуры. Без ведання бягучай палітычнай сітуацыі і ўліку галоўных падзей проста немагчыма адэкватна апісваць і тлумачыць паводзіны розных бакоў супрацьстаяння, таму неразумна было пакідаць па-за ўвагай агульнапалітычны кантэкст і дыпламатыю. У гэтай сувязі можна толькі пашкадаваць, што нявыкарыстанымі засталіся многія працы багатага даробку ўкраінскіх гісторыкаў, у прыватнасці даследаванні Ю. Мыцыка, В. Смолія і В. Сцепанкова (з публікацый апошніх улічана толькі кніга пра Б. Хмяльніцкага), Я. Федарука, Т. Чухліба і В. Шчарбака і інш. Пытанняў, закранутых у кнізе, у той ці іншай ступені датычаць і працы шэрагу сучасных польскіх вучоных, найперш даследаванні К. Бабатыньскага, Я. Дамброўскага, К. Касажэцкага, П. Кроля, М. Матвіюва, М. Нагельскага і А. Рахубы. Што да "беларускага пытання", то тут карыснымі былі б некалькі даўніх, але яшчэ актуальных публікацый: гэта артыкулы Л. Акіншэвіча і Д. Пахілевіча пра казацтва ў Беларусі[2], а таксама працы В. Мялешкі і М. Ткачова[3]. А з больш новых даследаванняў важна было б улічыць кнігу А. Латышонка, у якой шмат увагі аддадзена менавіта падзеям на землях Паўднёва-Усходняй Беларусі ў 1654–1656 г. і асобна разгледжана дзейнасць Канстанціна Паклонскага, Івана Залатарэнкі ды Івана Нячая[4].

[2] Паколькі беларуская гістарыяграфія для расійскай даследчыцы, як выглядае, найменш вядомая, падаю поўныя назвы згаданых публікацый: Акіншэвіч Л. Казацтва на Беларусі (гістарычна-юрыдычны аспект) // Полымя. 1927. № 1. С. 172–190; Похилевич Д. Белорусское козачество // Наукові записки Львівського держ. ун-ту ім. І. Франка. Сер. історична. 1957. Т. 43. Вып. 6. С. 145–172.

[3] Мялешка В. Грамадзянская вайна на Беларусі // Profesor Henryk Łowmiański – życie i dzieło / Materiały z sesji naukowej poświęconej dziesiątej rocznicy śmierci uczonego / red. A. Kijas, K. Pietkiewicz. Poznań, 1994. S. 135–154; Ткачоў М. Замкі і людзі. Мінск, 1991.

[4] Łatyszonek O. Od Rusinów Białych do Białorusinów. U źródeł białoruskiej idei narodowej. Białystok, 2006. S. 199–233. Тое ж у беларускім перакладзе: Латышонак А. Нацыянальнасць – Беларус. Менск, 2009. С. 237–266.

І апошняе, каб скончыць з гістарыяграфіяй: наўрад ці карэктна папракаць ранейшых гісторыкаў у тым, што яны не аддалі ўвагі пэўным аспектам або сюжэтам (182), калі тыя проста не мелі такіх магчымасцяў або і не ставілі перад сабой падобных мэтаў. Напрыклад, даследчыца часта палемізуе з Амяльянам Тэрлецкім, востра крытыкуючы яго артыкул “Козаки на Білій Руси в 1654–1656 р.” (201, 212, 228, 235–236 і інш.), але ж варта ўлічваць, што згаданая публікацыя была напісана шаснаццацігадовым аўтарам яшчэ ў канцы XIX ст.! Падобна з Юзафам Можы: гісторык прысвяціў кнігу вызначэнню дэмаграфічных стратаў Літвы і Беларусі ў перыяд войнаў з 1648 па 1667 г., сціслы ж агляд ваенных дзеянняў у яго выконвае толькі ролю ўводзін у тэму асноўнага даследавання, таму не варта закідаць яму, што прапусціў падзеі першага года гетманства Выгоўскага (301) і да т. п.

Асобная ўвага ў кнізе аддадзена прычынам, з-за якіх адразу пасля заключэння Пераяслаўскай дамовы ўзніклі сур’ёзныя, і ў многім непераадольныя непаразуменні паміж царскай Расіяй і казацкай Украінай. Хоць у гістарыяграфіі пра згаданыя непаразуменні нямала напісана, Т. Таірава-Якаўлева ўпершыню разглядае іх як асобнае пытанне і, паслядоўна аналізуючы розныя аспекты адрозненняў, шмат праясняе. Як паказана ў даследаванні, традыцыі палітычнай культуры, сацыяльны ўклад і нават мова на сярэдзіну XVII ст. паміж Украінай і Масквой ужо так адрозніваліся, што ад самага пачатку абодва бакі мелі розныя погляды на пераход украінскіх земляў пад “высокую руку” цара Аляксея Міхайлавіча. Украінскія эліты арыентаваліся на мадэль адносін, характэрную для Рэчы Паспалітай, і мелі на ўвазе пратэктарат, тады як царскі ўрад – падданства, “вечнае халопства”. Таму тыя канкрэтныя крокі, праз якія Масква імкнулася ажыццявіць інкарпарацыю, – ваяводскае кіраванне, збор падаткаў і стварэнне рэестра казакоў, нягледзячы на некалькі спробаў (у кнізе падрабязна разгледжана кожная з іх), заставаліся нерэалізаванымі і праз чатыры гады пасля Пераяслаўскай дамовы. Казацкая старшына ўпарта працівілася такім захадам, а для маскоўскіх уладаў

з 1654 г. прыярытэтам было не страціць Запарожскае войска як моцнага паплечніка ў пачатай вайне супраць Рэчы Паспалітай. Даследчыца высвятляе, што толькі пасля смерці Хмяльніцкага ў 1658 г. новы гетман Іван Выгоўскі таемна пагадзіўся на ўвядзенне ўлады царскіх ваяводаў і стварэнне рэестраў, спадзеючыся дзякуючы гэтаму атрымаць падтрымку Масквы, умацаваць сваю ўладу і вырашыць праблему ўнутранай смуты. Аднак Выгоўскі паспеў сам разбіць палкі казакоў, якія паўсталі, што і перашкодзіла ажыццявіць дамову, – сцвярджае Т. Таірава-Якаўлева (171–178). Пасля гэтага палітычная сітуацыя радыкальна змянілася і да наступнай спробы інкарпараваць казацкую Украіну дайшло ў зусім іншых умовах у 1659 годзе, які выходзіць за храналагічныя рамкі працы.

Пры ўсёй саліднасці даследавання названыя раздзелы не пазбаўлены рознага роду недапрацовак. Найперш адзначым недахопы тэрміналагічнага кшталту, характэрныя, зрэшты, для ўсёй кнігі. Так, гаворачы пра жыхароў Расіі і казацкай Украіны, даследчыца выкарыстоўвае сучасныя нацыянальныя азначэнні, затое для Рэчы Паспалітай пакідае тэрміны дакументаў царскай канцылярыі ці казацкага гетманату, у якіх усе неправаслаўныя называліся звычайна “палякамі” ці “ляхамі”. У выніку ў вайне, якую аўтарка па савецкай і расійскай традыцыі называе “руска-польскай”, на тэрыторыі даўняй Рэчы Паспалітай дзейнічаюць рускія, палякі, украінцы, часам літоўцы (71–73, 92, 100, 109, 177, 257 і інш.), і практычна няма беларусаў. У гетмана ВКЛ Януша Радзівіла толькі “литовская армия” (71, 188–189 і інш.), якую б’е “русское” і “украинское войско” (195 і інш.). Але ўсё ж найчасцей тут фігуруюць “поляки” – без усялякіх удакладненняў зместу гэтага тэрміна, у выніку ўзнікае нямала блытаніны, асабліва ў раздзеле пра Беларусь. Тут і на Пінск у 1648 г. нападаюць “польские полководцы” (187), і ў Магілёве дварамі валодаюць “поляки” (243), і ў Старым Быхаве сядзіць, аказваецца, “польский гарнизон” (280), а на с. 290 чытаем, што “поляки опасались присягать царю в Литве” (!?). Гэта прыклад скрайне некарэктнай тэрміналогіі ў дачыненні да Рэчы Паспалітай наогул і ВКЛ у

прыватнасці. Падобныя тэрміналагічныя клішэ не могуць адпавядаць адэкватнаму апісанню мінулага. Наадварот, яны вядуць да яўнага скажэння гістарычнай рэчаіснасці нашай часткі Еўропы, таму практыка іх выкарыстання не раз справядліва крытыкавалася ў сучаснай акадэмічнай гістарыяграфіі[5].

Не дапамагае высвятляць пастаўленыя пытанні і выкарыстанне т. зв. модных тэрмінаў без азначэння іх канкрэтнага зместу. Відаць, самым таямнічым словам, якое дужа часта ўсплывае на старонках кнігі, можна лічыць “менталітэт”. Без усялякага азначэння тэрміна то сцвярджаецца, што ўкраінская эліта “унаследовала менталитет ВКЛ и Речи Посполитой” (15), але пры гэтым “менталитет ВКЛ доминировал среди населения (усяго? – *Г. С.*) Украины” (11), то што ў гэтым славутым “менталитете ВКЛ” уся шляхта была роўная (282), і да т. п. Другім падобным па загадкавасці тэрмінам стала “геапалітычная абстаноўка”, спасылкай на якую аўтарка тлумачыць ход многіх падзей (277, 282, 283 і інш.). Баюся, што для шырокага чытача апеляцыі да геапалітыкі мала што тлумачаць.

З перспектывы сучаснай гістарычнай навукі выглядае дзіўна, што ў складаным пытанні выяўлення прычын казацкіх паўстанняў сярэдзіны XVII ст. даследчыца цалкам давярае аўтару летапісу Самавідца: “Початок и причина войни Хмельницкого ест едино от ляхов на православие гонение и козаком отягощение” (11). Выходзіць, даследчыца салідарызуецца з пазіцыяй аднаго з заангажаваных бакоў. А як жа элементарная крытыка крыніц? Гэта пры тым, што ў самым пачатку кнігі гаворыцца пра важнасць “понимания основополагающих явлений”, якое з’яўляецца “залогом объективной оценки событий” і нават дазваляе адкрыць іх унутраныя механізмы і логіку (10), у чым можна бачыць прыхільнасць аўтаркі да пазітывісцкай парадыгмы, якая абавязкова прадугледжвае этап крытыкі крыніц. Цікава, што далей, абапіраючыся на выказванні

[5] Гл. напрыклад: Федорук Я. Віленський договір 1656 року: Східноєвропейська криза і Україна у середині XVII ст. Київ, 2011. С. 9–10.

прадстаўнікоў казацкіх эліт, Т. Таірава-Якаўлева сама паказвае, што канфлікт з палякамі быў усё ж не толькі з-за веры (гл. с. 142).

У тлумачэнні ўзнятых пытанняў нярэдка сустракаюцца ідэалізацыі, спрашчэнні, непаслядоўнасці. Напрыклад, даследчыца сцвярджае, што лідарамі казацкіх паўстанняў рухала "стремление получить возможность управления своей страной" (34). Мякка кажучы, сумнеўна, каб у асяроддзі казацкіх эліт ужо была настолькі высокая палітычная свядомасць і панавала адна матывацыя. Т. Таірава-Якаўлева адмаўляе наяўнасць нацыянальнай і нават этнічнай самасвядомасці ў чалавека XVII ст. (21), але інтэрпрэтацыя многіх фактаў быццам прадугледжвае яе існаванне ў тую эпоху: складваецца ўражанне, што казацкія эліты кіраваліся ўкраінскімі нацыянальнымі інтарэсамі. Аргументацыя некаторых тэзісаў часам выглядае яўна недастатковай. Так, калі характарызаваць стаўленне да ўвядзення маскоўскіх ваявод у казацкай Украіне па грамадскім меркаванні ("общественное мнение"), то адзінай спасылкі на пазіцыю ігумена аднаго з манастыроў (173) не можа быць дастаткова. Бо такім спосабам можна абгрунтоўваць што заўгодна.

Выглядае, што Т. Таірава-Якаўлева не да канца разабралася з некаторымі рэаліямі, пра якія гаворыцца ў кнізе. Інакш як можна супрацьпастаўляць ВКЛ і Рэч Паспалітую (11, 13, 14)? Рэч Паспалітая ў манаграфіі, здаецца, часцей атаесамляецца з адным Польскім Каралеўствам. Няясна, як аўтарка разумее Люблінскую унію 1569 г., калі піша, што на момант паўстання Хмяльніцкага Украіна "уже почти триста лет" знаходзілася ў складзе ВКЛ (11). Напэўна, такое магло з'явіцца толькі па няўважлівасці, як і тлумачэнне выкарыстанага І. Нячаем тэрміна "пановане": даследчыца неаднаразова сцвярджае, што маскоўскі бок няправільна перакладаў значэнне гэтага слова як "государствование", а ў сапраўднасці па-ўкраінску, маўляў, пад ім разумелі "управление" (106, 254–255, 263). Але ж тут маем справу з празрыстай семантыкай: "панаваць" – быць "панам", г. зн. уладарыць. І ў старабеларускай мове слова "панованне" ("пнованье") мела

менавіта такое значэнне[6]. Не думаю, што на землях Украіны з гэтым словам звязваўся іншы сэнс. Даводзіцца прызнаць, што і пераклад з польскай мовы тэрміна "wolność" як "права", а не як "свабода" (14), таксама некарэктны.

Натуральна, для беларускага гісторыка і чытача найбольшую цікавасць маюць сюжэты, звязаныя з падзеямі на землях Беларусі, таму асноўную ўвагу прысвецім апошняй частцы кнігі – "Соперничеству за Белоруссию", якая займае амаль палову яе аб'ёму.

У пачатку раздзела, падзеленага на дзве часткі, лагічна разглядаецца перадгісторыя праблемы, дзе аўтарка звяртаецца да пашырэння паўстання на чале з Багданам Хмяльніцкім на землі Беларусі ў 1648–1651 г. (185–189). Далей прасочваюцца падзеі пачатку вайны (1654–1655) і дачыненні з царом наказнога казацкага гетмана І. Залатарэнкі, якія ўскладніліся пасля з'яўлення палкоўніка К. Паклонскага. Даследчыца дэталёва апісвае, як увосень 1654 г. абвастрылася суперніцтва маскоўскай адміністрацыі і палка Залатарэнкі за кантроль над Магілёўскім паветам, пакінуць які той усяляк адмаўляўся. У другой частцы падрабязна выкладзена далейшае развіццё ўзаемаадносін казакоў, што імкнуліся кантраляваць паўднёва-ўсходнюю Беларусь, з царскай уладай, мясцовай шляхтай і сялянамі ў 1657–1658 г., г. зн. пад час Віленскага замірэння, калі імі з Чавусаў кіраваў "беларускі палкоўнік" І. Нячай, які праводзіў адносна Беларусі палітыку Б. Хмяльніцкага. Звяртаючыся да сутнасці гэтай палітыкі, Т. Таірава-Якаўлева прыйшла да высновы, што казацкі гетман імкнуўся зрабіць паўднёва-ўсходнія раёны Беларусі часткай украінскага гетманату і актывізаваў гэтыя намаганні ў апошні год жыцця, дасягнуўшы ў беларускай палітыцы найбольшых поспехаў, якімі даследчыца лічыць авалоданне Старым Быхавам, урэгуляванне адносін Нячая са шляхтай Навагрудскага ваяводства і спробу падпарадкаваць Пінскі павет (278–288).

[6] Гл.: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 23 / пад рэд. А. Булыкі. Мінск, 2003. С. 429–431.

Калі ў папярэдніх раздзелах Т. Таірава-Якаўлева выкарыстоўвала мноства новых архіўных матэрыялаў, дык тут пра адносіны паміж Канстанцінам Паклонскім, Іванам Залатарэнкам, а потым Іванам Нячаем ды прадстаўнікамі царскай улады яна піша пераважна на падставе апублікаваных дакументаў[7]. Паколькі да названых падзей не раз звярталіся ранейшыя гісторыкі (пра іх аўтарка, на жаль, калі і згадвае, то рэдка, аспрэчваючы іх асобныя погляды), якія выкарыстоўвалі тыя ж самыя дакументы, то ў гэтым раздзеле абазнаны чытач знойдзе намнога менш новага, чым у папярэдніх. Хутчэй можна сказаць, што ў кнізе прапанавана новая, канкурэнцыйная інтэрпрэтацыя вядомых падзей. Магчыма, больш паслядоўная, чым папярэднія, аднак з пункту гледжання абгрунтаванасці яна далёкая ад дасканаласці. І вось чаму.

Ад сціслага агляду падзей паўстання Б. Хмяльніцкага ў паветах ВКЛ, ясная рэч, і не чакалася грунтоўнасці, але ён, на жаль, на некалькіх старонках утрымлівае столькі спрашчэнняў, недакладнасцяў і памылак, што можа быць ацэнены як найслабейшы параграф кнігі. У прыватнасці, тут сцвярджаецца, што казакі ў 1648 г. захапілі Слуцк і Стары Быхаў (187), чаго ў сапраўднасці ніколі не было! Гаворыцца, што казакі кантралявалі (!) землі ВКЛ да Слоніма, Наваградка і Мінска, што насельніцтва паўднёвай Беларусі толькі актыўна падтрымлівала казакоў, бачачы ў іх "освободителей религии" (189), і да т. п. Гэта вельмі спрошчанае, шаблоннае трактаванне тых складаных падзей, характэрнае для савецкай гістарыяграфіі. Атрымліваецца, калі ў адносінах да Украіны даследчыца імкнецца абвяргаць шаблоны савецкага гісторыяпісання, то ў тлумачэнні падзей на тэрыторыі Беларусі цалкам іх паўтарае. Шкада, што яна абмежавалася тут толькі старой, савецкай літаратурай прадмета. З новых публікацый, у тым ліку з прац беларускіх гісторыкаў, звяртацца да якіх аўтарка, відаць, не палічыла патрэбным, можна

[7] Гэта галоўным чынам адпаведныя тамы "Актов, относящихся к истории Южной и Западной России" (АЮЗР) і "Актов Виленской археографической комиссии" (АВАК).

было б больш даведацца пра падзеі тых гадоў на землях Беларусі, дзе мясцовыя жыхары не толькі падтрымлівалі казакоў, але змагаліся і на баку Януша Радзівіла[8].

У гэтым раздзеле замест пажаданай для даследчыка нейтральнасці выразней заўважаецца схільнасць да фаварызавання сваіх герояў, якімі для Т. Таіравай-Якаўлевай сталі казакі з іх лідарамі, і асіметрычнай ацэнкі тых, хто быў супраць іх. Вось некаторыя прыклады такіх кантрасных характарыстык.

Казакі І. Залатарэнкі, што занялі паўднёва-ўсходнія раёны Беларусі, паўстаюць у самым пазітыўным вобразе – параўнальна і з царскімі ратнікамі, і з мясцовымі жыхарамі. Калі шляхта і сяляне Беларусі "только жаловались" на новую ўладу, то ўкраінскія казакі не баяліся ўступаць у канфлікт з маскоўскімі ваяводамі (224). У адрозненне ад мясцовай шляхты, яны "кровью защищают Могилевский уезд" (243), "проливают кровь" за беларускія землі, таму, маўляў, і патрабаванне цара пакінуць Магілёўшчыну несправядлівае (260). Даследчыца звяртае ўвагу на незадаволенасць жыхароў Беларусі дзеяннямі царскіх войскаў і ўладай іх ваяводаў, але абмінае такія прыклады ў адносінах да казакоў. Аўтарка даводзіць, што беларускія сяляне ахвотна пісалася ў казакі, актыўна далучаліся да палка І. Нячая, а звесткі пра факты выкарыстання сілы для іх "паказачвання" схільная лічыць або непраўдзівымі, або неістотнымі (290–291, 295–296). Словам, украінскія казакі "вызваляюць" праваслаўнае насельніцтва Беларусі (202), абараняюць манастыры (236) і г. д. Але ў тых жа крыніцах, якія цытуюцца ў кнізе, пры жаданні можна знайсці сведчанні таго, як казакі І. Залатарэнкі рабавалі

[8] Пар.: Сагановіч Г. Хмяльніччына і землі Беларусі // Studia Białorutenistyczne. Т. 1 (2007). С. 119–126; Чаропка С. Адносіны насельніцтва Беларусі да казакоў падчас вайны 1648–1651 гг. // Славянский мир и славянские культуры в Европе и мире: место и значимость в развитии цивилизаций и культур: История, уроки, опыт, современность: Материалы междунар. науч.-практ. конф. / гл. ред. В. А. Космач. Ч. 1. Витебск, 2002. С. 97–99; ён жа. Казацка-сялянская вайна ў Беларусі, 1648–1651 гг.: аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 2009.

праваслаўныя манастыры на Беларускім Падняпроўі (напрыклад, Баркулабаўскі і Буйніцкі), як яны вывозілі з Беларусі да сябе палонных і да т. п. Цікава, што нават прыведзеныя ў кнізе нараканні цара на жорсткасць казакоў Залатарэнкі, якія палілі пасяленні, забівалі жанчын і дзяцей, аўтарка пракаментавала вельмі своеасабліва: "Это было нормой ведения войны эпохи раннего Нового времени". І дадала, што так рабілі ўсе, а скаргі царскіх ваявод на "зверствы" казакоў (так, слова ўжыта ў двукоссі!) мелі, маўляў, адну мэту – дыскрэдытаваць казакоў у барацьбе за ўладу над захопленай тэрыторыяй (238).

Што да "нормы", то варта нагадаць пра існаванне ўжо ў тыя часы тэндэнцыі падпарадкоўваць усё больш прафесійныя арміі вайсковай дысцыпліне, хоць на практыцы абыходжанне войска з цывільным насельніцтвам у розных краінах магло адрозніваецца. У ВКЛ найманае войска, а з канца XVI ст. і шляхецкае рушанне падпарадкоўваліся спецыяльна выдаваным гетманскім артыкулам, у якіх сурова забаранялася прафанаванне і пусташэнне цэркваў, рабаванні і знішчэнні, здзек з простага люду і да т. п.[9]. Ніякіх падобных дакументаў мы не сустракаем з маскоўскага ці казацкага боку. Вядома, цар выдаваў ахоўныя граматы некаторым беларускім гарадам, але пры гэтым загадваў сваім ваяводам "места… воевать села и деревни, и хлеб и сено жечь, и людей побивать и в полон имать".

Старонні падыход яшчэ выразней заўважны ў характарызаванні галоўных герояў, найперш Івана Залатарэнкі і яго суперніка Канстанціна Паклонскага. На старонках кнігі Паклонскі – гэта наогул "авантюрист, преследовавший собственные корыстные цели", які адно скардзіцца на Залатарэнку, але многія яго скаргі на наказнога гетмана "вообще безосновательны" (202, 204, 229). Ён панікуе, выпрошвае ў цара ўзнагароды, а казакі Залатарэнкі тым

[9] Пар.: Janusza Radziwiłła hetmana polnego W. Ks. Litewskiego artykuły wojskowe // Kutrzeba St. Polskie ustawy i artykuły wojskowe od XV do XVIII wieku. Kraków, 1937. S. 261, 263. Падрабязна гл.: Łopatecki K. Organizacja, prawo i dyscyplina w polskim i litewskim pospolitym ruszeniu (do poiowy XVII w.). Białystok, 2013. S. 203–233.

часам "спокойно готовятся" да чарговай ваеннай кампаніі (226–227). Захапіўшыся Залатарэнкам, Т. Таірава-Якаўлева выказвае здзіўленне, што Януш Радзівіл у адным са сваіх пасланняў назваў таго "добрым юнаком и добрым человеком" (282), як быццам гэта прыніжальная характарыстыка. Але, па-першае, цытаваны дакумент – пераклад на афіцыйную мову царскай канцылярыі з польскай, і мы не ведаем, як было ў арыгінале. А па-другое, у тым жа пасланні Радзівіл адзначае і іншыя, выразна пазітыўныя якасці наказнога гетмана: піша, "имеешь добрый разум и военный" і інш.[10].

Асобнай увагі заслугоўвае тэзіс пра рэлігійны характар вайны 1654–1667 г. Абапіраючыся на працу Сяргея Лабачова "Патриарх Никон" (СПб., 2003), Т. Таірава-Якаўлева сцвярджае, што тая вайна пачыналася як "рэлігійная", і падкрэслівае, што менавіта такі тэрмін выкарыстоўвалі сучаснікі (26–27, 183, 216, 310 і інш.). У гэтым кантэксце аўтарка крытыкуе мой погляд на згаданую вайну як на дзеянні прагматычнага характару, указаўшы, праўда, толькі на тое, што я называў «русские войска "агрессором"» (183). Сапраўды, у маёй даўняй навукова-папулярнай кнізе царскія войскі фігуравалі як акупанты[11]. Па-ранейшаму лічу, што гэта была ваенная агрэсія і акупацыя, – мы з Беларусі і не можам трактаваць дзеянні арміі цара Аляксея Міхайлавіча інакш. "Вызваленчы" характар ёй, як і іншым экспансіяністцкім войнам расійскіх цароў, пачалі прыпісваць у савецкай гістарыяграфіі з часоў Сталіна, калі сцвярджалася ідэя гістарычнага адзінства ўсходнеславянскіх народаў і да т. п. Мы ўжо ведаем Т. Таіраву-Якаўлеву як крытыка падобных міфаў у трактаванні гісторыі Украіны. Але пра землі Беларусі чытаем, што яны ў гады той вайны былі "освобождены русскими войсками" (258). Складана зразумець. Выходзіць, даследчыца непаслядоўная і на мінулае Беларусі глядзіць з перспектывы вялікадзяржаўніцкай расійскай гістарыяграфіі. У гэтай сувязі не можа не трывожыць адна з заключных

[10] АЮЗР. Т. 14. № 17. С. 547.
[11] Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654–1667 г. Мінск, 1994.

заўваг Т. Таіравай-Якаўлевай: у падсумаванні апошняга раздзела яна сцвярджае, што вынік суперніцтва Масквы і ўкраінскага казацтва за беларускія землі быў “весьма плачевный”, бо іх страцілі абодва бакі, і ажно да канца XVIII ст. Беларусь засталася ў складзе Рэчы Паспалітай (309). Атрымліваецца, калі б нехта з названых супернікаў не страціў занятыя землі Беларусі, то было б лепш? Але каму? Такія спекулятыўныя і далёкасяжныя развагі наўрад ці да твару гісторыкам-даследчыкам.

Наконт рэлігійнага характару вайны мушу сказаць, што прыведзеныя ў кнізе довады не пераконваюць. Факт актыўнага выкарыстання рэлігіі як аргумента ў агітацыі насельніцтва Беларусі на свой бок перад агрэсіяй і на пачатку ўварвання ў ВКЛ (1654 г.) добра вядомы, у гістарыяграфіі пра гэта шмат пісалася, але ж падобная аргументацыя назіралася і ў войнах XVI ст. Ці сапраўды рэлігія была асноўнай прычынай вайны? Ці ў гэтым сэнсе вайна 1654–1667 г. параўнальная з рэлігійнымі войнамі XVI ст. у Еўропе або з Трыццацігадовай вайной? Мне здаецца, што не. На практыцы тут лёс мясцовых жыхароў ад пачатку вайны залежаў не столькі ад канфесійнай прыналежнасці, колькі ад таго, прымалі яны новую ўладу ці супрацоўляліся. Зрэшты, Т. Таірава-Якаўлева далей сама на прыкладах паказвае, што праваслаўная вера, як і этнічнае паходжанне, не аберагала ад палону і гвалту (196, 200). Цар жа, як вядома, адразу пасля захопу Вільні пісаў, што збіраецца ісці “к Оршаве”, а далей і на Кракаў. Хіба і там можна было “вызваляць” праваслаўных хрысціян? З іншага боку, ад восені 1655 г. царскі ўрад абяцаў свабоднае спавяданне сваёй рэлігіі ўсім магнатам і шляхце занятых паветаў ВКЛ, якія прысягнуць Аляксею Міхайлавічу[12]. Так што вера была справай другараднай, а галоўнай – прызнанне царскай улады.

Сама палітыка маскоўскага ўрада да насельніцтва занятай Беларусі, у тым ліку да вызнаўцаў хрысціянства

[12] Заборовский Л. В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655–1656). Документы, исследования. Москва, 1994. С. 56, 70 і наст.

заходняга абраду, не вызначалася стабільнасцю. І стаўленне мясцовых жыхароў да новых уладаў ад пачатку істотна рознілася, змяняючыся затым у залежнасці ад вопыту перажыванай вайны. Хапала як прыкладаў вітання цара хлебам-соллю, так і ўпартай абароны сваіх гарадоў ды партызанскай барацьбы супраць царскіх ратнікаў. Пазіцыю мясцовага насельніцтва звычайна вызначала найперш актуальная ваенная сітуацыя. Хоць на пачатку вайны ў многіх гарадах Беларусі з праваслаўных жыхароў утварыліся прамаскоўскія партыі (што можна лічыць вынікам эфектыўнай прапаганды), сама прыналежнасць да праваслаўнай ці каталіцкай царквы ўсё ж не вызначала лініі падзелу на “сваіх” і “чужых”[13]. Вядома мноства фактаў панічных уцёкаў праваслаўных вернікаў і нават духавенства ад царскага войска далёка на захад[14]. Усё гэта не хочуць улічваць адэпты ідэі пра “вызваленне” Беларусі ад “палякаў”.

Крыху спрошчаным выглядае прэзентаванне Багдана Хмяльніцкага як пратэктара праваслаўя на тэрыторыі ВКЛ і яго супрацьпастаўленне Янушу Радзівілу, з якім у казацкага гетмана, як сцвярджае Т. Таірава-Якаўлева, існавалі “даўнія рахункі” (189). Па-першае, хацелася б звярнуць увагу на факты, якія не зусім укладваюцца ў такую схему. Зрэшты, аўтарка сама згадала той універсал казацкага гетмана з ліпеня 1657 г., якім шляхце Пінскага

[13] Падрабязней гл.: Бабятыньскі К. Адносіны жыхароў ВКЛ да маскоўскага войска ў 1654–1655 г. // БГА. Т. 14 (2007). С. 55–60 і наст.; Касажэцкі К. Стаўленне шляхты ВКЛ да шведскага і маскоўскага панавання ў 1655–1656 г. // БГА. Т. 15 (2008). С. 175–208; Сагановіч Г. Стаўленне насельніцтва Беларусі да расійскай арміі ў XVII ст. // Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты: матэрыялы міжнар. канф. / рэд. А. Лагвінец, Т. Чуліцкая. Варшава, 2013. С. 32–38.

[14] Гл. прыклады: Гардзееў М. “Под час небеспеченства од Москвы…” (актавая кніга полацкага магістрату за 1656–1657 гг. як крыніца па вывучэнні вайны 1654–1667 гг.) // БГА. Т. 6 (1999). С. 202–221; Sahanowicz H. Wychodźcy z Wielkiego Księstwa Litewskiego w Prusach 1656 r. // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. T. IX. Poznań, 2003. S. 244.

павета гарантавалася спавяданне хрысціянства заходняга абраду. Што да Януша Радзівіла, то хоць у савецкай гістарыяграфіі яго называлі "душыцелем беларускага народа", у дачыненні да праваслаўных ён не вызначаўся ніякімі дыскрымінацыйнымі дзеяннямі. Хутчэй працягваў тую канфесійную палітыку, якую праводзілі яго продкі па кальвінскай лініі, у прыватнасці яго бацька Крыштаф Радзівіл, які падтрымліваў праваслаўных і меў прыязныя адносіны з запарожскімі казакамі[15]. Сапраўды, казацкае паўстанне ў 1649 г. Я. Радзівіл падаўляў жорстка, аднак яго пазіцыя была па-свойму справядлівай: загадзя абвяшчаў, што карае толькі саміх рэбеліянтаў, а тым, хто адмовіцца ад удзелу ў бунце, гарантуе недатыкальнасць. На папрокі Б. Хмяльніцкага аб пакаранні "людзей нявінных хрысціянскай нашай веры" з Бабруйска адказаў, што "нявінных хрысціян грэцкай рэлігіі тое не датычыла, а толькі герштаў, якіх паны і сама чэрнь выдала"[16]. У 1652–53 г. Януш Радзівіл неаднаразова спрабаваў адгаварыць караля ад працягу вайны супраць Хмяльніцкага, імкнучыся памірыць казакоў з уладамі Рэчы Паспалітай, ды і пасля Пераяслаўскай рады не кідаў сваіх пасярэдніцкіх намаганняў[17]. Магчыма, аўтарка не заўважыла, што ў гады вайны Януш Радзівіл таксама выступаў з дэкларацыямі ў абарону праваслаўнай веры. Нават у цытаваным у кнізе пасланні да Залатарэнкі (1655) ён выкрываў палітыку царскага ўрада, які толькі прыкрыўся лозунгам абароны праваслаўнай Русі, на справе ж яе "ни во что изгубил" і, заклікаючы таго парваць з Масквой і вярнуцца на бок Рэчы Паспалітай, абяцаў, што пасля прымірэння

[15] Wisner H. Rozróżnieni w wierze. Szkice z dziejów Rzeczypospolitej schyłku XVI i połowy XVII wieku. Warszawa, 1982. S. 120–122. Пар.: Degiel R. Protestanci i prawosławni. Patronat wyznaniowy Radziwiłłów birżańskich nad Cerkwią prawosławną w księstwie słuckim w XVII wieku. Warszawa, 2000.

[16] Ліст Я. Радзівіла да Б. Хмяльніцкага. Бабруйск, 19.02.1649. PAN, Kraków. Nr. 1017. K. 51.

[17] Гл.: Matwijów M. Próba mediacji hetmana litewskiego Janusza Radziwiłła w konflikcie poslko-kozackim w latach 1653–1655 // Wrocławskie Studia Wschodnie. T. 5 (2001). S. 9–32.

“уже вечный и неразорваный покой будет при всяких волностях, как всей вере православной и народу тому, також и всему Войску Запорожскому”[18].

Паколькі некалькі палемічных заўваг даследчыцы скіравана і ў мой адрас, то выкарыстаю магчымасць, каб адказаць і ясней патлумачыць уласныя пазіцыі. Спачатку наконт К. Паклонскага, якога я, па словах даследчыцы, залічыў у каталікі (191). Напэўна, Т. Таірава-Якаўлева недастаткова ўважліва знаёмілася з маёй кнігай, бо там нідзе не сцвярджаецца, што той быў каталіком. Гаворыцца толькі, што з канфесійнай арыентацыяй Паклонскага яшчэ варта разбірацца, бо пазней, у дакументах 1655 г., ён фігураваў як Вацлаў Канстанцін – пад двума імёнамі, а гэта было характэрна для каталікоў. Аднак яго першапачатковая прыналежнасць да праваслаўнай веры мной не адмаўлялася: у кнізе ясна сказана і пра паходжанне Паклонскага з праваслаўнага роду, і пра яго ролю як лідара праваслаўнай шляхты[19].

Далей, шмат пішучы пра паказачванне беларускіх сялян, аўтарка папракае мяне ў тым, што я неабгрунтавана лічу паказачванне партызанскім рухам (270). Але ў маёй кнізе партызаны не атаясамляліся з тымі жыхарамі, якія “казачыліся” і далучаліся да ўкраінскіх казакоў. Партызанамі там названы аддзелы самаабароны, якія ў маскоўскіх дакументах звычайна фігуравалі пад азначэннем “шышы”[20]. Яны з’яўляліся з першых месяцаў вайны, прычым у тых раёнах, дзе казакоў тады і не было – у Полацкім, Віцебскім, Мсціслаўскім і Смаленскім ваяводствах[21].

Трэба сказаць, што ў кнізе, акрамя адзначаных недахопаў ці спрэчных момантаў, сустракаецца нямала недарэчных памылак, якія сведчаць або пра дрэннае веданне

18 АЮЗР. Т. 14. № 17. С. 547.

19 Сагановіч Г. Невядомая вайна. С. 20, 142.

20 Партызанамі шышоў называў і А. Мальцаў. Гл.: Мальцев А. Н. “Шиши” на Смоленщине и в Белоруссии в середине XVII в. // Новое о прошлом нашей страны. Памяти академика М. Н. Тихомирова. Москва, 1967. С. 277–280.

21 Гл.: Сагановіч Г. Невядомая вайна. С. 75–76.

рэалій ВКЛ і Беларусі ў прыватнасці, або пра банальную няўважлівасць. Прывяду найбольш характэрныя. Вось, напрыклад, пішацца, што па Статуце ВКЛ 1529 г. шляхта ўдзельнічала ў выбарах суддзяў (14), але тады яшчэ не было шляхецкіх судоў! Сказана таксама, што ў ВКЛ у сялян адабралі права звяртацца ў суды (12), але ў якія? Бо ў некаторых архівах ёсць сялянскія справы, і застаецца таямніцай, які ж заканадаўчы акт аўтарка мела на ўвазе. Нельга ў адносінах да Украіны аднолькава трактаваць II і III Статуты ВКЛ (12), паколькі пасля ўключэння ўкраінскіх ваяводстваў у склад Кароны там захоўваў сілу толькі першы. Пад канец раздзела зноў сцвярджаецца, што казакі яшчэ ў 1648 г. захапілі Стары Быхаў (278), але ў сапраўднасці гэтага не было. Наадварот, пад Старым Быхавам яны тады былі разбітыя. Сказана таксама, што ўвосень 1656 г. Б. Хмяльніцкі браў пад абарону радзівілаўскі Слуцк, якому “грозила опасность от войск Павла Яна Сапеги” (276). Тут нейкая недарэчнасць. На справе згаданым універсалам Хмяльніцкі браў пад пратэкцыю ўладанне Багуслава Радзівіла ад казацкіх аддзелаў: ён сурова забараняў казакам Запарожскага войска хадзіць пад Слуцк, чыніць там якія-небудзь крыўды і спусташэнні. Урэшце пра “мешчаніна” на царскай службе: у кнізе гаворыцца, як нейкі “мещанин Давыд Захарьевич Протасов” служыў у ваяводы Васіля Шарамецьева і ў 1656 г. скардзіўся цару на тое, што яго сяляне, у тым ліку быццам і з беларускіх уладанняў, уцякалі да нежынскага палкоўніка (251). Паколькі ў Маскоўскай дзяржаве не было мяшчан, то мяне зацікавіла гэтая скарга. Аказалася, у цытаваным дакуменце гаворыцца не пра мешчаніна, а пра “мецнянина” (!) Пратасава, і да Беларусі гэтае паведамленне не мае непасрэдных адносін[22]. Урэшце, чытача здзівіць і нейкі “Валакаламскі павет” у Наваградскім ваяводстве (292).

Пералічаныя памылкі сведчаць, што выданню не хапіла дбайнага навуковага рэдактара. Магчыма, ад уважлівага рэдагавання выйграў бы і стыль, сама манера выкладання. А то спакойны навуковы разбор часам пераходзіць

[22] АЮЗР. Т. 3. 1861. С. 513.

у заангажаваны аповед з выкарыстаннем публіцыстычнай лексікі, а працяглых цытат з дакументаў XVII ст. і асобных сведчанняў часам так многа, што яны ажно замінаюць сачыць за логікай і ўяўляць агульную карціну таго, што адбывалася.

У цэлым жа новую кнігу Т. Таіравай-Якаўлевай можна лічыць важным унёскам у далейшую распрацоўку складанага комплексу праблем гісторыі казацкай Украіны і яе ўзаемаадносін з расійскай дзяржавай у XVII–XVIII ст. Дапаўняючы і ўдакладняючы ўжо наяўныя веды, гэтая цікавая праца вопытнай даследчыцы прапануе шэраг новых трактовак тых непаразуменняў і канфліктаў, што рэгулярна адбываліся паміж Маскоўскай дзяржавай і казацкай Украінай у перыяд ад першага дагавора аб царскай пратэкцыі да яго разрыву ў 1658 г. Праўда, непрыемнай нечаканасцю сталі некаторыя выказванні Т. Таіравай-Якаўлевай пра мінулае Беларусі, якія выдаюць жывучасць велікадзяржаўніцкіх поглядаў, – хоць тэзіс аб “братніх народах” і сама ідэя аб этнічным і праваслаўным адзінстве рускага і ўкраінскага народаў у кнізе абвяргаецца. Наогул прафесійная і грамадзянская мужнасць расійскай даследчыцы, якая адважылася адкрыта выступіць супраць шэрагу імперскіх ідэалагем, уласцівых расійскай гістарыяграфіі, не можа не выклікаць павагі. Такая кніга несумненна паслужыць на карысць гістарычнай навуцы.

# OKOŃ, JAN. Wychowanie do społeczeństwa. W teatrach szkolnych jezuitów w Rzeczypospolitej obojga narodów. Kraków: Collegium Columbinum, 2018. 500 s.

Прафесар Ян Окань – адзін з найлепшых знаўцаў езуіцкага тэатра Рэчы Паспалітай. Ужо ў 1970 г. ён выдаў грунтоўную працу пра тэатральныя праграмы і абстракты (*sumariuszy*) спектакляў, пастаўленых у калегіумах езуітаў Рэчы Паспалітай XVII ст.[1], у якой, апрача дакладнага аналізу праграм і агульнай характарыстыкі езуіцкага тэатра, змясціў каталог праграм і тэкстаў пастановак, пералічыў звесткі пра спектаклі, што адбыліся ва ўсіх гэтых навучальных установах абодвух правінцый цягам стагоддзя. Трэба звярнуць увагу, што гэтая праца была зроблена яшчэ перад публікацыяй вядомай бібліяграфіі езуіцкіх праграм, выдадзенай у 1976 г. пад рэдакцыяй Уладзіслава Каратая, Ядвігі Швэдоўскай і Магдалены Шыманьскай[2]. Пасля гэтага аўтар шмат працаваў над даследаваннем езуіцкага тэатра, звяртаючы ўвагу на ідэалогію спектакляў, іх фармальныя асаблівасці, спецыфіку функцыянавання тэатра ў студэнцкіх установах, выдаваў творы езуіцкіх аўтараў[3].

У сваёй апошняй публікацыі аўтар паставіў мэту сістэматызаваць веды пра ўсе тэатральныя пастаноўкі езуітаў, што адбыліся ў Рэчы Паспалітай, гэтым разам абапіраючыся на іх ідэйны змест і ролю ў выхаванні моладзі. У сувязі з тым, што даследаванне ахоплівае ўсе землі

1 Okoń J. Dramat i teatr szkolny. Sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1970.

2 Dramat staropolski od początków do powstania sceny narodowej. Bibliografia. T. 2: Programy drukiem wydane do r. 1765. Cz. 1: Programy teatru jezuickiego / opr. Władysław Korotaj, Jadwiga Szwedowska, Magdalena Szymańska. Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk, 1976.

3 Сярод асноўных прац апошніх гадоў можна назваць: Okoń J. Na scenach jezuickich w dawnej Polsce. Warszawa, 2006; Świat teatru – świat wartości. Wychowanie obywatelskie w teatrze szkolnym jezuitów w Rzeczypospolitej XVI–XVIII w., księga zbiorowa pod red. Jana Okonia. Kraków, 2017.

Рэчы Паспалітай, яно таксама ўключае калегіумы, што знаходзіліся ў Літоўскай правінцыі Ордэна, у тым ліку на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Аналіз пастановак з гэтых калегіумаў, а таксама паказ становішча ва ўсёй краіне, робяць кнігу вельмі актуальнай для беларускага чытача[4].

Тытул працы падкрэслівае, што галоўным прадметам аналізу стаў змест тэатральных пастановак і іх уплыў на выхаванне моладзі. Сапраўды, аўтар вельмі шырока разумее выхаванне і ўключае як грамадзянскі, маральны, рэлігійны аспекты, так і больш сціслую перадачу ведаў – навучанне гісторыі, паэтыцы, музычнай культуры, урэшце, самому тэатральнаму мастацтву. Розным гэтым аспектам прысвечаны асобныя часткі працы.

Кніга мае разбудаваную структуру і складаецца з шасці частак, кожная з якіх падзяляецца на раздзелы і падраздзелы, а таксама мае дадатак з артыкулам Ванды Рашкоўскай пра тэатр піяраў (“Pijarska scena okazjonalna. Uwarunkowania retoryczne społecznego przekazu w teatrach pijarskich i jezuickich”, 419–438) і тэкстамі (і перакладамі) некалькіх тэатральных праграм (439–459). Раздзелы працы прысвечаны агульным пытанням гісторыі адукацыі і культуры Рэчы Паспалітай, а таксама ўключаюць вывучэнне канкрэтных прыкладаў – асобных калегіумаў, аўтараў ці пастановак. Больш агульная праблематыка чаргуецца з дэталёвымі даследаваннямі, якія дазваляюць рабіць далейшыя высновы і служаць аргументамі выказаных тэзісаў. Гэтае чаргаванне ўзбагачае тэкст і робіць яго больш цікавым для чытання, праўда, часам за кошт празрыстасці структуры нарацыі. З гэтай прычыны, відаць, некаторыя ідэі і прыклады ў кнізе паўтараюцца (пар. 33–34 і 173, або 52 і 63).

Тэмы частак кнігі вельмі разнапланавыя. На самым пачатку аўтар распавядае пра феномен езуіцкага тэатра і яго рэвалюцыйную ролю ў змене сістэмы адукацыі ў Еўропе (ад хатняй да школьнай). Сцвярджаецца, што менавіта

[4] Нагадаем, што да гэтага часу ў класічнага даследавання Т. Б. Блінавай па езуіцкай адукацыі (2002) з’явілася толькі некалькі паслядоўнікаў, сярод якіх у першую чаргу варта згадаць Уладзіміра Ляўшука, аўтара манаграфіі “Организационные аспекты образовательной модели иезуитского коллегиума” (Гродно, 2010).

прывабнасць тэатральных пастановак прыцягнула моладзь у школы і забяспечыла фінансавую падтрымку мецэнатаў, што было спецыфікай Рэчы Паспалітай, асабліва ВКЛ (29 і далей). Першая частка кнігі прысвечана праблемам распаўсюджання лацінскай і польскай моў у культуры Рэчы Паспалітай і асабліва ВКЛ (43–65), а таксама выкладанню гісторыі ў школах і пастаноўкам спектакляў на гістарычную тэматыку (67–82). Другая частка знаёміць з некалькімі асобамі, былымі выхаванцамі езуіцкіх школ – Самуэлем Твардоўскім са Скшыпны (канец 1595 – 1661), Мацеем Казімірам Сарбеўскім (1595–1640), Янам Хрызастомам Паскам (перад 1636 – 1701). Трэцяя і чацвёртая часткі прысвечаны маральнаму і рэлігійнаму выхаванню студэнтаў. Пятая – музычнаму і танцавальнаму складнікам спектакляў. Шостая зноў змяшчае *case studies* – на гэты раз яны прысвечаны Яну Дантышку (357–371) і Клеменсу Яніцкаму (373–379).

Вельмі важна, што кніга паказвае езуіцкі тэатр у больш шырокім кантэксце: культура Рэчы Паспалітай і Еўропы, гісторыя езуіцкай адукацыі і адукацыі ўвогуле, палітычная і сацыяльная гісторыя Рэчы Паспалітай. Перад чытачом паўстае карціна грамадства Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага. Аўтар не вылучае культуру нашага рэгіёна з еўрапейскага кантэксту, што абсалютна апраўдана з пункту гледжання функцыянавання езуіцкага Ордэна. Прыкладам для гэтага можа служыць аналіз прысутнасці матыву бітвы пад Венай (1683), калі войска Святой Лігі пад камандаваннем Яна III Сабескага перамагло войска Асманскай імперыі, у спектаклях езуітаў і іншых школ, у Рэчы Паспалітай і іншых краінах (91–134). Асобна аўтар аналізуе спосаб падачы бітвы ў нямецкіх школах (117–123) і нават прыводзіць тэкст абстракта пастаноўкі ў Кёльне ў 1684 г. (131–133). На гэтым прыкладзе аўтар паказвае, як фармавалася прапаганда ўлады ў еўрапейскім і айчынным кантэксце. Іншым прыкладам можа быць пералік пастановак, прысвечаных св. Станіславу Костку, здзейсненых у езуіцкіх калегіумах Еўропы, у якім фігуруюць Пінск і Вільня разам з Парыжам і Грацам (304–306).

Яшчэ адна важная асаблівасць кнігі заключаецца ў тым, што аўтар у пэўнай меры даследуе культуру моладзі Рэчы

Паспалітай, працэс уваходжання яе ў грамадства. Героям *case studies* кнігі ў пераважнай большасці не больш за 25 гадоў. Я асабліва звяртаю ўвагу на гэты аспект, бо гісторыя дзяцінства і дарастання ў ВКЛ пакуль даследаваліся ў вельмі абмежаванай ступені, звычайна ў кантэксце адукацыі, дзе акцэнт ставіўся на інстытуты або калектыў выкладчыкаў, а не на рэцыпіентаў сістэмы выхавання. Окань жа, аналізуючы, напрыклад, біяграфію Крыштафа Завішы (1666–1721), паказвае: усяго праз некалькі гадоў пасля заканчэння Віленскай акадэміі, у 1688 г., юнак выдаў раманс "Miłość bez odmiany mocna jako śmierć", што сведчыць пра чытацкія зацікаўленні студэнцкай моладзі і папулярнасць падобных тэкстаў. Сам Крыштаф ва ўспамінах падкрэсліваў ролю прафесара паэзіі ў яго выхаванні (227). Варта таксама адзначыць, што і выкладчыкі акадэміі, якіх згадвае Окань, у момант выкладання часта былі маладымі людзьмі, свежымі выпускнікамі акадэмій (189).

Аналізуючы тэатр, аўтар выкарыстоўвае разнапланавыя крыніцы. Асабліва прыемна, што шмат інфармацыі ён бярэ з хронік і гісторый калегіумаў і рэзідэнцый. У гэтым кантэксце таксама варта адзначыць ініцыятыву стварэння спіса крыніц, якімі карысталіся езуіты пры падрыхтоўцы тэатральных пастановак (141–167). Пры параўнанні гэтага спіса з інвентарамі бібліятэк калегіумаў складаецца дастаткова выразная карціна чытацкіх прыярытэтаў выкладчыкаў і навучэнцаў езуіцкіх школ. Гэта вялікая праца была зроблена разам з Яаннай Акунёвай, часткова на падставе матэрыялаў Кларынды Кальмы і Катажыны Гары. Аўтар папярэджвае, што публікуе незакончаную версію працы, і гэтым, напэўна, можна растлумачыць наяўнасць некаторых арфаграфічных памылак і абдрукаў.

У кантэкст рэлігійнага выхавання аўтар уключае нечаканы матыў праяў лібертынізму ў культуры Рэчы Паспалітай і прысутнасць герояў-каханкаў на езуіцкіх сцэнах. Гаворка ідзе пра пастаноўку "Антытэмій, або Смерць грэшніка" ("Antithemius seu Mors peccatoris"), што адбылася ў Познані ў 1618 г. Адным з грахоў Антытэмія было "спакушэнне мілымі шэптамі" (223). На прыкладзе гэтай пастаноўкі аўтар паказвае, наколькі распаўсюджаным

быў матыў каханка ў тэатры Рэчы Паспалітай. Каханкам звычайна быў Парыс, ён параўноўваецца з Дон Жуанам і Казановай еўрапейскіх сцэн (231–232).

Варта згадаць праблему пашырэння лацінскай і польскай моў, якую закранае аўтар (51–65). Лаціну ён разглядае ў кантэксце фармавання шляхецкай рэспубліканскай культуры (55) і падкрэслівае ролю езуіцкай адукацыі ў распаўсюджанні абедзвюх моў. Окань, як і можна было спадзявацца, выкладае гэтую праблематыку з польскай перспектывы, падкрэсліваючы раннюю паланізацыю грамадства ВКЛ. Дзіўна, але ён ніяк не адзначае прысутнасць “простай” мовы ў пастаноўках ці дыялектныя асаблівасці тэкстаў. Так, напрыклад, у хроніцы віленскай акадэміі за 1705 г. пра пастаноўку з нагоды прыезду Пятра I сказана, што яна зроблена “w języku miejscowym”. Окань лічыць, што яна падрыхтавана “nie po litewsku czy białorusku, lecz po polsku” (56), кажучы пры аказіі пра ўплыў польскай мовы на Масковію. Аўтар спыняецца на дуалізме польскай і лацінскай моў, праводзячы паралелі з пазнейшымі перыядамі, цытуючы Міцкевіча (51) і Мілаша (64). Ніяк не згадваюцца інтэрлюдыі з элементамі “простай” мовы, так добра вядомыя беларускаму чытачу. Магчыма, з пункту гледжання статыстыкі гэтыя тэксты і праўда мелі невялікае значэнне, аднак такі спосаб апісання сітуацыі, на мой погляд, заклікае да дыскусіі беларускіх даследчыкаў.

Кніга змяшчае вялікую колькасць інфармацыі пра калегіумы, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Вядома, аўтар разглядае далёка не ўсе выпадкі, але ён прыводзіць цікавыя прыклады і робіць надзвычай важны аналіз культурнага кантэксту Рэчы Паспалітай і Еўропы. На жаль, праца не мае індэксаў, таму цяжка сказаць дакладна, якую яе долю займае аналіз літоўскай правінцыі Ордэна. Індэксы, вядома, таксама значна палегчылі б працу з кнігай даследчыкам. Дзіўна, што ў выданні няма бібліяграфіі. Тым не менш, разгледжаная кніга – вельмі важнае падсумаванне ведаў пра езуіцкі тэатр, надзвычай істотнае для беларускага чытача.

Варшава – Горадня *Ганна Паўлоўская*

## После грозы: 1812 год в исторической памяти России и Европы: сб. ст. / под ред. Д. А. СДВИЖКОВА. Москва: Кучково поле, 2015. 384 с., 8 ил.

За два стагоддзі паўстала даволі значная гістарыяграфія, прысвечаная гісторыі вайны 1812 г. Цікавасць да той вайны з боку гісторыкаў, літаратараў, публіцыстаў, асоб, якія на аматарскім узроўні захапляліся войнамі, праявілася амаль адразу пасля заканчэння ваенных дзеянняў і не спадала да нашага часу, асабліва ж яна абудзілася ў сувязі з 200-гадовым юбілеем тых падзей. Хоць гістарыяграфія была значная, даследчыкі разглядалі ў асноўным ваенныя дзеянні ў храналагічнай паслядоўнасці, размяшчэнне і перадыслакацыю войскаў супрацьлеглых бакоў, тактычнае і стратэгічнае манеўраванне, займаліся падрабязным апісаннем ваенных аперацый і асобных баёў або асоб, якія ў іх удзельнічалі. У савецкі час, нягледзячы на цікавасць да падзей вайны 1812 г., гэтая праблематыка распрацоўвалася менш актыўна. І ўсё ж за апошнія дваццаць восем гадоў расійскімі даследчыкамі не толькі была надрукавана даволі вялікая колькасць работ пра вайну 1812 г. і замежны паход рускай арміі, але і абаронены шэраг кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый па гістарыяграфіі гэтай вайны.

У зборнік, да якога мы звярнуліся, увайшлі матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, арганізаванай у 2012 г. Нямецкім гістарычным інстытутам у Маскве. Аўтары зборніка былі не толькі з Расіі, але і з Беларусі, Нямеччыны, Францыі, ЗША і Фінляндыі. Аўтар уступнага артыкула "Европейский юбилей" Дзяніс Сдвіжкоў ахарактарызаваў змешчаныя ў томе артыкулы і адзначыў, што "лейтмотивом отгремевшего юбилея стала именно контекстуализация Русской кампании 1812 года в европейской и даже глобальной истории" і што «юбилей 2012 года показал, что история 1812 года или, точнее, "эпоха 1812 года" очевидным образом не укладывается в национальный растр и превратилась в международное исследовательское поле» (8, 9). Праўда, у міжнароднае даследчыцкае поле

для гісторыкаў гэтая эпохаператварылася яшчэ 200 гадоў таму, і ўжо да стогадовага юбілею, у 1912 г., існавала вялікая гістарыяграфія, якая была не толькі расійскай.

Увагу беларускіх гісторыкаў найперш можа прыцягнуць артыкул выкладчыцы БДУ Маргарыты Фабрыкант «“Лошадьми, людьми и соломой”: Деромантизация войны 1812 года в белорусском историческом нарративе» (183–205). Яна выказала нічым не абгрунтаваную думку, што “война 1812 года остается фактически неосвоенной в белорусской историографии” (183). Калі б аўтар знайшла час зазірнуць у Нацыянальную бібліятэку Беларусі і прагледзець электронны каталог па тэме, яна ўбачыла б, наколькі гэтая тэматыка распрацоўвалася яшчэ да юбілею ў 2012 г.[1]. А вось далейшыя развражанні аўтара:

[1] Мазинг Г. Ю., Ерусалимчик Л. Ф. Березина, год 1812-й. Минск, 1991; Несцярчук Л. М. Баявыя дзеянні 3-й Заходняй рускай арміі ў Айчынную вайну 1812 года на тэрыторыі Беларусі: дыс. … канд. гістар. навук: 070002. Мінск, 1996; Толеренок С. В. Создание французскими оккупационными властями государственных структур ВКЛ (1812 год). Минск, 1998; Французская рэвалюцыя і лёсы свету. Мінск, 1999; Ерашэвіч А. Палітычныя праекты адраджэння Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага ў палітыцы расійскага царызму напярэдадні вайны 1812 г. // Гістарычны альманах. Т. 6. Гародня, 2002. С. 84–96; Лукашевич А. М. Проекты восстановления Речи Посполитой и Великого княжества Литовского и их место в военно-стратегическом планировании Российской империи (1810–1812 гг.) // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе. Минск, 2002. С. 46–59; Французска-руская вайна 1812 г.: еўрапейскія дыскурсы і беларускі погляд. Мінск, 2003; Сокольницкий М. “Исполнено по высочайшему повелению…”. Минск, 2003; Ерашэвіч А. У. Уплыў напалеонаўскіх войнаў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі (1799–1815 гг.): дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 2003; Литвиновская Ю. И. Беларусь в войне 1812 года: Социально-экономический аспект: дис. … канд. ист. наук. Минск, 2004; Лукашэвіч А. М. Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г. Мінск, 2004; Груцо И. А. Судьба московских трофеев Наполеона в Отечественной войне 1812 года. Минск, 2004; Лякин В. Мозырь в 1812 году: Историческая хроника. Минск, 2005; Швед В. В., Данскіх С. У. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. Гродна, 2006; Ерашэвіч А. У. Вайна 1812 г. і Беларусь // Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца

“В таком случае возникает вопрос: что же препятствует войне 1812 года встать в белорусском историческом нарративе в один ряд с, казалось бы, содержательно и структурно близкими, если не аналогичными событиями восстания Тадеуша Костюшко 1794 года, восстания 1830–1831 годов и так называемого восстания Константина Калиновского 1863–1864 годов, после которых через период русификации и фигуру народовольца Игната Гриневицкого совершается нарративный переход к националистическим движениям и персоналиям новейшей истории? На этом фоне можно было бы предположить, что война 1812 года станет такой же ареной споров между сторонниками прорусской и прозападной версий белорусской национальной идентичности и, соответственно, белорусской истории. Однако и этого, за редкими и скорее полемическими исключениями, применительно к текстам о войне 1812 года не наблюдается” (184–185). Не ведаю, якія тэксты аўтар мела на ўвазе. Калі падручнікі, выдадзеныя ў розны час, то гэта не іх праблема. Трэба помніць: нягледзячы на тое, што падручнікі рыхтуюць да выдання аўтары – спецыялісты па адным ці шэрагу перыядаў, яны не могуць быць аднолькава добра дасведчаныя ва ўсім. А спрэчкі пра вайну 1812 г. былі і

XVIII – пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы. Мінск, 2006; Самович А. Л. Военнопленные наполеоновских войн в западных губерниях России. Минск, 2008; Лякин В. А. Гроза двенадцатого года над Полесьем. Минск, 2009; Лукашевич А. М. Белорусские земли как вероятный театр военных действий. Изучение, инженерная и топографическая подготовка (70-е гг. XVIII в. – 1812 г.). Минск, 2010; Груцо И. А. Сокровища Наполеона. Минск, 2010; Філатава А., Смяховіч М. Пытанне дзяржаўнасці ў геапалітычных працэсах і грамадскім жыцці беларуска-літоўскіх зямель (канец XVIII – сярэдзіна 60-х гадоў XIX ст.) // Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст. Мінск, 2011. С. 196–226; Філатава А. М., Яноўская В. В. Беларускія землі ў палітычных падзеях канца XVIII – XIX ст.: калейдаскоп гістарыяграфічных контраверсій // На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы. Мінск, 2011. С. 106–139; Лукашевич А. Памятники и памятные места 1812 года в Беларуси. Минск, 2012 і інш.

ў савецкія часы, і асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі. Яны знайшлі адлюстраванне ў шматлікіх артыкулах, рознага роду канферэнцыях, як у Беларусі, так і за яе межамі.

У 90-я гады XX ст. у беларускай гістарыяграфіі, з аднаго боку, яшчэ быў моцны ўплыў савецкай традыцыі, бо некаторая частка гісторыкаў – і яны мелі на гэта права – прытрымліваліся поглядаў, якія склаліся за іх навуковае і выкладчыцкае жыццё ў СССР. Менавіта такімі працамі і былі падручнікі па “Гісторыі Беларусі” пад рэдакцыяй Я. Новіка і Г. Марцуля, а таксама аўтарства Я. Трашчанка. Таксама была зроблена спроба адысці ад традыцыйнай савецкай гістарыяграфіі, бо іншыя аўтары хацелі паказаць больш цікава, неяк па-новаму гэтую праблему ў адносінах да Беларусі і яе народа – да іх можна аднесці працу З. Шыбекі і навукова-папулярную працу Г. Сагановіча і У. Арлова, да якіх звярнулася М. Фабрыкант. Існаванне розных пунктаў гледжання, розных канцэпцый у гісторыі не перашкаджае адно аднаму. Можна пагадзіцца з думкамі М. Фабрыкант адносна назвы *Беларусь* (193), што яна была геаграфічнай, а не дзяржаўнай, і ўключала ў сябе тэрыторыю Віцебшчыны і Магілёўшчыны, таму можна даследаваць беларуска-літоўскія губерні Расійскай імперыі, падабаецца гэта нацыянальна заангажаваным гісторыкам ці не, але гэта нюансы навуковай працы гісторыка.

Вайна 1812 г. як гістарычная праблема застаецца актуальнай і выклікае дыскусіі. Мяняюцца часы і падыходы да праблемы, але па-ранейшаму на ацэнку гэтай вайны ўплываюць як аб’ектыўныя, так і суб’ектыўныя матывы. Сярод новых прац, разам са змястоўнымі даследаваннямі і дэманстрацыяй новых падыходаў, сустракаюцца і дылетанцкія публікацыі, аўтары якіх не цікавяцца ні архіўнымі, ні друкаванымі крыніцамі.

Мінск *Алена Філатава*

# СТУРЕЙКО, СТЕПАН. Беспокойные камни. 9 эссе о новом измерении архитектурного наследия. Гродно: “ЮрСаПринт”, 2017. 288 с.

Новая кніга Сцяпана Стурэйкі, культурнага антраполага і доктара гуманітарных навук у галіне этналогіі, выкладчыка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, а сёння яшчэ і старшыні Беларускага камітэта ІКАМОС, прысвечана, як бачым, “турботным камяням”. Пра што ўвогуле ідзе гаворка? Што гэта за камяні, з якімі так шмат турбот: у дзяржавы, у навукоўцаў з розных гуманітарных сфер, у грамадскіх актывістаў і проста ў звычайных грамадзян? І яны не толькі турботныя, яны канфліктагенныя – вакол іх час ад часу ўзнікаюць канфлікты: экспертаў з дзяржавай, грамадскіх актывістаў з тымі ды іншымі, і г. д.

Аўтар такім чынам уяўляе сабе спадчыну, дакладней архітэктурную спадчыну, а мэта гэтай публікацыі – “показать и отрефлексировать феномен наследования и всех производных от него”. Пры гэтым у яго няма жадання “просто описывать или критиковать текущие процессы. Скорее, их хотелось бы взломать, вывести на повестку дня новое социальное измерение наследия” (5). Даволі амбіцыйная задача, улічваючы, што перад намі толькі кніга эсэ, аднак, трэба думаць, з прэтэнзіяй на крытычны аналіз.

У любым выпадку аўтар хоча правакаваць, выклікаць дыскусію, і трэба сказаць, яму гэта ўдалося. Прынамсі, дыскусіі час ад часу ўзнікаюць калі не вакол самой кнігі, то вакол выказванняў спадара Стурэйкі ў рэчышчы дадзенага даследавання ў сродках масавай інфармацыі і сацсетках.

Каму адрасавана гэтае выданне? Відаць, усё тым жа экспертам, чыноўнікам, грамадскім актывістам, якія або прафесійна, або з прычыны іх грамадскага і інтэлектуальнага інтарэсу займаюцца аховай культурнай спадчыны. Менавіта яны тыя самыя “акторы”, якія ў той ці іншай ступені адказныя за прыняцце рашэнняў як у дачыненні да спадчыны ў цэлым (у сэнсе выпрацоўкі спецыяльнай

палітыкі), так і да асобных яе аб'ектаў. Адсюль і канфлікты, калі сутыкаюцца розныя інтарэсы. Спадар Стурэйка справядліва заўважае, што сёння на гэтай ніве з'явіўся новы актор, які ўсё больш гучна заяўляе пра сябе не толькі як назіральнік і спажывец, а як паўнавартасны ўладальнік і, магчыма, кіраўнік ці адзін з тых, хто павінен прымаць кіраўнічыя рашэнні. Так, аўтар адзначае: "...если раньше охрана памятников была прерогативой мобилизующего необходимые ресурсы государства, сегодня наоборот – граждане забирают у чиновников и экспертов права на управление и извлечение из наследия всевозможной пользы". Далей падкрэслівае, што ў гэтай кнізе ён адназначна на баку супольнасцяў. Зрэшты, што гэта за супольнасці? Гэта паняцце, эквівалентнае паняццю "грамадства" ці толькі тым грамадзянам, якія імкнуцца перахапіць у чыноўнікаў іх права кіраваць спадчынай? Спадар Стурэйка часта аперуе гэтым тэрмінам у кнізе, але раскрывае яго значэнне толькі ў апошнім эсэ "Замкі і людзі", абапіраючыся на меркаванне В. Мацкевіча і Т. Вадалажскай, выкладзенае імі ў публікацыі "Станаўленне і развіццё супольнасцей"[1]. Такім чынам, пад супольнасцямі разумеюцца "аб'яднанні, якія маюць волю і магчымасці для самастойнага рашэння пытанняў арганізацыі і ўладкавання жыцця, г. зн. у першую чаргу як самаарганізоўныя аб'яднанні" (251).

Між тым, канцэпт супольнасці ў дачыненні да спадчыны выглядае намнога складаней, чым у азначанай дэфініцыі. У розных выпадках гэта тэрытарыяльныя аб'яднанні людзей, часам – грамадства цалкам; у адносінах да нематэрыяльнай культурнай спадчыны гэта носьбіты той спадчыны і адначасова больш вялікія калектывы людзей (не заўсёды аб'яднанні), якія звязаны з ёю калі не наўпрост, то ўскосна ці толькі тэрытарыяльна.

Адказнасць грамадства за сваю спадчыну – не зусім новая ідэя, яна была прадэкларавана яшчэ ў XIX ст. у кантэксце фармавання нацыянальных дзяржаў, потым

[1] Водолажская Т., Мацкевич В. Становление и развитие сообществ. Минск, 2007. С. 66.

была прапісана ў нацыянальным заканадаўстве многіх краін, а з утварэннем пасля II Сусветнай вайны такіх міжнародных арганізацый, як ААН і ЮНЕСКА – у міжнародных актах. Тым не менш, інструментарый для рэалізацыі гэтай насамрэч дэмакратычнай ідэі распрацаваны толькі ў наш час, як вынік выяўлення, аналізу і асэнсавання так званых "лепшых практык" кіравання спадчынай. Але і гэтыя методыкі не догма.

*Дык хто ўрэшце адказны за прыродную і культурную спадчыну?* Гэтае пытанне – краевугольны камень даследавання С. Стурэйкі (яго эсэістыкі). Яно хвалюе яго і як вучонага, і як выкладчыка, і як грамадскую асобу. Пад крытыку падпадаюць усе магчымыя стэйкхолдэры ці актары: бюракраты, якія ў сваёй дзейнасці кіруюцца "не столько порывами патриотизма или утонченным вкусом, сколько распорядком рабочего дня и должностными инструкциями" (82), эксперты[2] (гісторыкі, археолагі, спецыялісты па ахове спадчыны), якія часта, па меркаванні аўтара, перавышаюць сваю долю адказнасці за помнікі, маніпулююць грамадскай думкай і ўплываюць на рашэнні, бо добраахвотна ўсклалі на сябе адказнасць за "историческую материю перед мифическими потомками" (18). Не могуць у поўнай меры раздзяліць гэтую адказнасць і грамадскія актывісты, праваахоўныя дзеянні якіх С. Стурэйка падрабязна даследуе ў 4-м эсэ (на мой погляд, вельмі цікавая ў навуковым і практычным сэнсе спроба параўнальнага аналізу грамадскіх рухаў у абарону спадчыны двух вельмі падобных па тыпалогіі гарадоў – Горадні і Львова). Аўтар на падставе свайго досведу і досведу сацыёлагаў Санкт-Пецярбурга і Амстэрдама лічыць, што ўрэшце такія "градозащитные проекты обречены на неудачу" (102). Тады хто ж сапраўды не проста адказны за спадчыну, але і можа рэалізаваць гэтае сваё права на яе карысць? Супольнасці? Але і тут сп. Стурэйка не ўпэўнены, бо супольнасці "не всегда

2 Выключэнне, на думку аўтара, сярод экспертаў складаюць рэстаўратары-праекціроўшчыкі, дзейнасці якіх замінаюць усе: і бюракраты, і астатнія эксперты, асабліва археолагі (146), што «"сжимают" идеал реставратора до реально возможного» (143).

действуют в режиме сохранения” (20). Найбольш распаўсюджаны прыклад у сусветнай і лакальнай практыках – некарэктнае (з пункту гледжання аховы спадчыны) абыходжанне некаторых мясцовых супольнасцяў з аб’ектамі сакральнай ці рэлігійнай спадчыны.

Такім чынам, не спрабуйце знайсці ў кнізе прамога і разгорнутага адказу на гэтае ключавое пытанне пра адказнасць, бо яго проста няма; аўтар толькі ставіць пытанне, але не дае на яго адказу, магчыма, таму, што жанр эсэістыкі не абавязвае яго гэта рабіць, або таму, што тэарэтычны дыскурс спадчыны яшчэ не да канца сфармаваны і знаходзіцца ў развіцці, а пакуль усе пытанні адрасаваны, як прызнаецца сам аўтар, будучым даследчыкам у галіне heritage studies (36).

Тым не менш, праблема адказнасці за спадчыну, натуральна, хвалюе не толькі Сцяпана Стурэйку. Гэта эвалюцыйнае пытанне, якое развіваецца адначасова з развіццём самой канцэпцыі спадчыны як на тэарэтычным, так і на інстытуцыянальным узроўні. У сваёй кнізе сп. Стурэйка даволі падрабязна даследуе эвалюцыю канцэпту і матрыцу дыскурсу (а лепей – дыскурсаў) спадчыны, як яны актуалізаваны ў прадстаўнікоў розных школ (ад “папулізму” і “эсэнсіялізму” да “прыватызму” і “камерцыялізму”) у межах бінарнай дыскусіі аб аўтэнтычнасці, іманентнай каштоўнасці спадчыны і яе рыначнай вартасці. Пры гэтым, аднак, як заўважае амерыканскі даследчык і ўрбаніст Крыстафер Козел, застаецца незразумелым, як гэтыя ідэі паўплывалі на палітычныя спрэчкі і прыняцце канкрэтных мер па ахове. “Нягледзячы на тое, што шэраг вучоных актыўна абмяркоўваюць крытычны і рэфлексіўны паварот у ахове гістарычнай спадчыны, многія яе практыкі і распрацоўшчыкі па-ранейшаму знаходзяцца па-за рамкамі дэфініцый, праграм і традыцыйных падыходаў”[3].

Такім чынам, у агульным дыскурсе спадчыны тэарэтычны і інстытуцыянальна-функцыянальны ўзроўні

[3] Koziol C. Historic Preservation Ideology: A Critical Mapping of Contemporary Heritage Policy Discourse // Preservation Education and Research. 2008. Vol. 1. P. 84.

могуць узаемадзейнічаць і ўплываць адзін на аднаго, а могуць развівацца рознымі шляхамі.

Стварыўшы "культ спадчыны", чалавецтва стварыла і сацыяльны інстытут спадчыны, а таксама цалкам рэальную, наяўную тут і цяпер, сістэму кіравання спадчынай, якая відавочна базуецца на прынцыпах і догмах, што існуюць у канкрэтным грамадстве (нацыянальнай дзяржаве, рэгіёне і г. д.). У час II сусветнай вайны былі загублены не толькі мільёны чалавечых жыццяў, каласальныя страты панеслі і культурныя каштоўнасці. Тады стала зразумела, што неабходна міжнародная сістэма аховы спадчыны, якая і была створана ў рамках ААН і ЮНЕСКА. Утварэнне міжнароднай сістэмы аховы спадчыны пры ўсіх яе недахопах – гэта ўсё ж такі найвялікшае дасягненне чалавецтва, якое не толькі сцвердзіла і ўвасобіла на практыцы ідэю агульначалавечага значэння спадчыны і калектыўнай адказнасці за яе, але адначасова ўзвяло на п'едэстал прынцып культурнай разнастайнасці і ўнікальнасці культурных набыткаў асобных супольнасцяў у глабальным свеце. Стварэнне інстытута спадчыны і інструментаў кіравання ёю С. Стурэйка называе "менеджарскімі рэвалюцыямі". Цалкам яго адносіны да гэтых падзей цяжка вызначыць на старонках кнігі, аднак іх наўрад ці можна назваць станоўчымі, зыходзячы з наступных аўтарскіх канатацый: "При этом сам аппарат управления – тягучая смесь власти и регламентации – будучи институциализированным, сам накапливает внутреннюю инерцию, осознает собственный интерес и не всегда делает то, ради чего задумывался" (гэта пра кіраванне ўвогуле, не прывязана да канкрэтнай дзяржавы) або: "Так светлая идея сохранения была рационализирована и превращена в производственный процесс" (82).

За гэтым відавочна праглядаецца гэтакая грэблівасць тэарэтыка-вучонага і выкладчыка ў адносінах да рэальнай практыкі і да тых, хто яе ажыццяўляе, а на думку сп. Стурэйкі – хутчэй вульгарызуе "светлыя ідэі", спрабуючы іх матэрыялізаваць.

Як жа быць у такім разе з праблемай адказнасці, якая, як мы вышэй адзначылі, надзвычай хвалюе аўтара? Праўда, ён не можа знайсці на яе адназначнага адказу,

падрабязна аналізуючы моцныя і слабыя бакі кожнага з магчымых актораў, але не знаходзячы ўрэшце дастойнага, нягледзячы на свае асаблівыя сімпатыі да супольнасцяў.

Ісціна, як водзіцца, дзесьці пасярэдзіне, а менавіта ва ўзаемадзеянні, у інтэграцыі як унутры самога інстытута спадчыны, розных яе відаў, так і ў падзеле адказнасці паміж рознымі стэйкхолдэрамі. Кагнітыўная эвалюцыя канцэпту спадчыны ўрэшце прывяла да з'яўлення ідэі "інтэгратыўнай кансервацыі". У 1986 г. Бернар Філдэн сфармуляваў паняцце "захаванне спадчыны" наступным чынам: "Захаванне – гэта дынамічнае кіраванне працэсамі з мэтай памяншэння хуткасці распаду… Захаванне патрабуе інтэграцыі ўсіх магчымых дзеянняў на сацыяльна-эканамічным, юрыдычным і культурным узроўнях"[4]. Гэтая парадыгма сёння лягла ў аснову ўсіх міжнародных канвенцый і заканадаўчых актаў у галіне аховы спадчыны, у тым ліку такіх апошніх еўрапейскіх канвенцый, як Прынцыпы Валеты, ландшафтная канвенцыя, канвенцыя Фару і інш.

У сучасным свеце паняцце "спадчына" зведала значныя змены: ад асобных помнікаў-аб'ектаў да гістарычных гарадоў, культурных ландшафтаў і цэлых культурных рэгіёнаў. Змяніліся акцэнты і сама філасофія кансервацыі, якая разумеецца ў больш шырокім сэнсе як захаванне помнікаў разам з навакольным прыродным і культурным атачэннем. Такім чынам, інтэграцыйная кансервацыя – гэта кіраванне зменамі дзеля захавання значэння і сэнсаў спадчыны. Гэта добра распрацаваны навуковы прафесійны дыскурс і адначасова практычны інструмент па захаванні і кіраванні прыроднай і культурнай спадчынай. Яго тэарэтычныя карані ляжаць у аснове сфармуляванай Пьера Газола італьянскай канцэпцыі кансервацыі, якая склала ядро Еўрапейскай хартыі архітэктурнай спадчыны (1975), а таксама ў аснове шведскай канцэпцыі, якая выкладаецца ва ўніверсітэтах і рэалізуецца ў дзяржаўнай палітыцы гэтай краіны. У апошнія гады паняцце

[4] Fielden B. Conservation of Historic Buildings. 3d ed. Oxford, 2003. P. 30.

"інтэграцыйнай кансервацыі" ўсё часцей сустракаецца пад тэрмінам "устойлівая інтэграцыйная кансервацыя" (Sustainable Integrated Conservation, SIC), што ў практычным сэнсе накіравана на інтэграцыю намаганняў па захаванні спадчыны: ад агульнага планавання ўсіх працэсаў да кіравання. Яна садзейнічае ўстойліваму развіццю рэгіёнаў шляхам адаптацыі культурнай спадчыны да працэсаў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця, да навакольнага асяроддзя і накіравана на паляпшэнне якасці жыцця мясцовых супольнасцяў.

Дзіўна, што сп. Стурэйка ў сваёй кнізе праігнараваў гэты дыскурс, які многае тлумачыць у разуменні сучасных працэсаў у дачыненні да спадчыны, у тым ліку раскрывае тэндэнцыі міжнароднай палітыкі і, што асабліва важна, дае больш чым недвухсэнсоўны адказ на пытанне "хто адказны за спадчыну".

У рэчышчы інтэграцыйнага падыходу больш выразнай становіцца і роля супольнасцяў у працэсе захавання спадчыны, а таксама іх далучэнне да працэсу прыняцця рашэнняў у дачыненні да сваіх каштоўнасцяў. У кнізе С. Стурэйкі, які, як ён сам зазначае, "на баку супольнасцяў", тым не менш, прысутнічае некаторая разгубленасць, калі гаворка заходзіць пра інструментарый: як далучыць мясцовыя супольнасці (і грамадства ў цэлым) да ўдзелу ў палітыцы захавання спадчыны, а галоўнае, як не толькі абудзіць іх інтарэс, але і забяспечыць актыўную прысутнасць. Канвенцыя Фару (Рамачная Канвенцыя Савета Еўропы аб значэнні культурнай спадчыны для грамадства[5]) – пра яе згадвае аўтар на старонках кнігі (90) – уводзіць паняцце "супольнасць спадчыны", якое характарызуе людзей, аб'яднаных на платформе прызнання каштоўнасці культурнай спадчыны і якія хацелі б, у межах свайго грамадскага жыцця, захаваць і перадаць яе будучым пакаленням. У кнізе С. Стурэйкі пазначана, што

[5] The Framework Convention on the Value of Cultural Heritage for Society (Faro Convention, 2005) [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.coe.int/t/dg4/cultureheritage/heritage/Identities/default_en.asp#

з выхадам гэтай Канвенцыі "ўпершыню было не проста задэкларавана, але і абаронена права супольнасцяў на ўдзел у кіраванні спадчынай", што, аднак, не зусім дакладна, бо яшчэ раней удзел супольнасцяў у прыняцці рашэнняў і кіраванні аб'ектамі спадчыны зафіксаваны ў Аперацыйным кіраўніцтве Канвенцыі ЮНЕСКА аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны (1972), а для Канвенцыі аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны (2003) гэта ўвогуле асноватворны прынцып[6].

Між тым, значэнне Канвенцыі Фару не толькі ў тым, што яна абараняе права супольнасцяў быць "актыўна" адказнымі за сваю спадчыну, але найперш у тым, што яна дае выразны кірунак, як узмацніць "партысіпацыйную" ролю мясцовых супольнасцяў і ўключыць іх у працэсы рэвіталізацыі, выкарыстоўваючы каштоўнасныя і функцыянальныя рэсурсы спадчыны. Супольнасць спадчыны – гэта не нейкая новая супольнасць, а тая, якая ўсвядоміла сябе ў ролі адказнага за спадчыну гульца (актора). Інтэграцыя грамадства ў працэсы захавання спадчыны, натуральна, – доўгі і складаны працэс, які мае на мэце не толькі змену стратэгій кіравання, але і змену ментальных установак (арт. 5 Канвенцыі Фару). На гэтым падмурку, дарэчы, засноўваецца і сучасная канцэпцыя цыклаў спадчыны Саймана Тэрлі, якія неабходна прайсці грамадству (асобным супольнасцям) для таго, каб спадчына стала часткай іх будучыні: праз усведамленне каштоўнасці спадчыны да жадання захоўваць яе; ад жадання захоўваць – да ўдзелу ў працэсах захавання, ад удзелу – да ўсведамлення захавання як сэнсу жыцця[7].

Практыкі часта не паспяваюць за развіццём навуковай думкі і міжнароднымі заканадаўчымі ініцыятывамі. Зрэшты, механізм імплементацыі Канвенцый ЮНЕСКА і іншых міжнародных актаў, пад якімі падпісваецца тая ці іншая дзяржава, накіраваны на паступовую ліквідацыю гэтага

[6] Канвенцыя аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны (ЮНЕСКА, 2003) [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.livingheritage.by/unesco/konventsiya-2003/

[7] Thurley S. Into the future. Our stategy for 2005–2010 // Conservation Bulletin [English Heritage]. 2005. P. 49.

дысбалансу. У беларускім кантэксце, на які ўвесь час абапіраецца аўтар кнігі “Турботныя камяні”, на жаль, сапраўды, назіраецца відавочная адсталасць ад міжнародных тэндэнцый і працэсаў, як на канцэптуальным узроўні, так і ў рэчышчы рэальных практык. Гэта выразна праглядаецца, як справядліва адзначае і сам сп. Стурэйка, у крызісе нацыянальнай рэстаўрацыйнай школы (якая, магчыма, яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення) і ў сістэме кіравання спадчынай, а таксама на заканадаўчым узроўні (у Кодэксе аб культуры Беларусі, які базуецца на класічнай парадыгме аховы спадчыны, інтэграцыйны кантэкст не адлюстраваны нават на ўзроўні паняццевага апарату: няма паняццяў “супольнасць”, “культурны ландшафт”, “гістарычны горад” і г. д., як і не пазначаны ўдзел грамадства ў працэсе кіравання культурнай спадчынай) .

Кніга С. Стурэйкі закранае шмат разнастайных кантэкстаў, прыхаваных або яўных. Сам аўтар часта адрасуе іх на разгляд будучым даследчыкам, правакуе, задае пытанні і пакідае без адказу. А часам яго выказванні выглядаюць па меншай меры спрэчнымі: “А как же архитектура? Все дело в том, что нет никакого особого архитектурного наследия, есть наследие как таковое…” (6) ці “памятников становится слишком много…”, «“культурное наследие” по большому счету является синонимом слова “памятник”» (45) і г. д.

І ўсё ж, па вялікім рахунку, кніга С. Стурэйкі – вельмі карысная, хоць і досыць дыскусійная праца. Аднак на абсалютна зачышчаным полі нацыянальнага дыскурсу спадчыны (хочацца верыць, што ён існуе як самастойная з’ява, хай сабе і на эмпірычным узроўні), пры поўнай адсутнасці крытычнага аналізу ў гэтай сферы, разгледжаная кніга відавочна можа стаць платформай як для вузка прафесійных, так і для крос-культурных дэбатаў. Аўтар не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі, ён абраў для сябе літаратурна-крытычны жанр эсэ; можна пагаджацца з аўтарскай пазіцыяй або не, але гэтая праца ўжо заняла сваё месца ў агульным кнігазборы па праблематыцы спадчыны.

Мінск *Ала Сташкевіч*

# KOLENOVSKÁ, DANIELA; PLAVEC, MICHAL. Běloruská emigrace v meziválečném Československu: Studie a dokumenty. Sociopolitický aspekt. Praha, 2017. 287 s.

Напрыканцы 2017 г. у выдавецтве Карлавага ўніверсітэта ў Празе выйшла калектыўная манаграфія Даніэлы Каленоўскай і Міхала Плавеца пад назвай "Беларуская эміграцыя ў міжваеннай Чэхаславакіі: Даследаванні і дакументы. Сацыяпалітычны аспект".

Чэшскія навукоўцы і раней выяўлялі цікавасць да розных аспектаў беларускай прысутнасці ў міжваеннай Чэхаславакіі[1]. Асобнай увагі заслугоўваюць грунтоўныя артыкулы Д. Каленоўскай[2] і М. Плавеца[3], напісаныя перадусім на чэшскім архіўным матэрыяле. Акрамя таго, агульны агляд дзейнасці беларускай палітычнай эміграцыі ў Чэхаславакіі ў 1920–1940-я гады быў зроблены ў кнігах па гісторыі Беларусі, якія выйшлі па-чэшску[4].

[1] Сокалава Ф. Ларыса Геніюш і Прага: некалькі штрыхоў да гісторыі беларускай эміграцыі ў Чэхіі // Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый", Мінск, 21–25 мая, 4–7 снежня 2000 г. / уклад. Т. Пятровіч; рэд. кал.: А. Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш]. Мінск, 2001. С. 285–291; Sokolová F. Z memoárů Larysy Henijuš // Kde je domov: sborník k životnimu jubileu Raisy Machatkové. Praha, 2002. S. 215–217; Vacek J. Běloruské kulturní stopy zanechané v českem prostředí v první poloviné 20. Století // České vědomi Bělarusi / Věra Lenděrová (ed.), Jiří Marvan (ed.), Michal Vašíček. Praha, 2013. S. 122–127; Kolenovská D. Ceske snahi o porozumeni Beloruska mezi vědou a politikou // Sbornik Narodniho muzea v Praze. Rada – Historie. 2015. 69 (1-2). S. 25–31.

[2] Kolenovská D. Běloruská emigrace v Československu (1918–1939) // Soudobé dějiny. 2007. № 1. S. 78–93.

[3] Plavec M. Opatrné přešlapování: první kontakty československé a běloruské vlády 1918–1925 // Cesty k národnímu obrození: běloruský a český model: sborník přispěvkú z konference konané 4.–6.7.2006 v Praze / ed. A. Ivanova, J. Tuček. Praha, 2006. S. 361–372.

[4] Řezník M. Bělorusko. Praha, 2003; Plavec M. Česko-běloruské vztahy od dob nejstarších až po současnost // Dějiny Běloruska / Hienadź Sahanovič, Zachar Šybieka, Praha, 2006. S. 224–242.

Варта адзначыць, што ў чэшскай гістарыяграфіі склалася значная традыцыя вывучэння рускай і ўкраінскай эміграцыі ў міжваеннай Чэхаславакіі. Па гэтай тэме існуе вялікі даробак у выглядзе шэрагу канферэнцый, манаграфій, артыкулаў і зборнікаў дакументаў. Можна нават гаварыць пра дастатковую вывучанасць гэтай тэмы. Да беларускай жа эміграцыі ў міжваеннай Чэхаславакіі ў чэшскіх вучоных, як было паказана вышэй, інтарэс невялікі. Артыкулы па гэтай тэме публікуюцца зрэдку. Таму выхад у свет калектыўнай манаграфіі Д. Каленоўскай і М. Плавеца трэба лічыць сапраўды важнай падзеяй у чэшскай беларусістыцы і этапнай з'явай у даследаванні беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі паміж дзвюма сусветнымі войнамі.

Трэба адзначыць, што некаторыя беларускія даследчыкі ўжо паспрабавалі асэнсаваць падрыхтаванае Д. Каленоўскай і М. Плавецам выданне. У красавіку 2018 г. літаратуразнаўца М. Трус апублікаваў рэцэнзію на гэтую манаграфію[5].

Кніга Д. Каленоўскай і М. Плавеца складаецца з трох частак. Першыя дзве – гэта артыкулы ўкладальнікаў выдання, трэцяя – публікацыя дакументаў з чэшскіх архіўных сховішчаў. Пасля дакументальнай часткі ў якасці дадаткаў прыведзены формы (беларуская, чэшская таго часу, англійская, польская) напісання прозвішчаў і імён беларусаў, якія згадваюцца ў кнізе (236–240), выбраная бібліяграфія (241–242), іменны паказальнік з кароткімі звесткамі пра асоб (243–268), паказальнік геаграфічных назваў (269–272), фотаздымкі (274–287). Навуковымі рэцэнзентамі выдання выступілі доктар гісторыі Алена Маркава і магістр Францішка Сокалава.

Манаграфія пачынаецца з матэрыялу Д. Каленоўскай, які мае назву "Праект незалежнай Беларусі і міжваенная Чэхаславакія" (15–69)[6]. Артыкул складаецца з наступных частак: 1) міжнародныя ўзаемасувязі, 2) пазіцыя Чэхаславакіі, 3) беларусы ў Празе, 4) беларусы ў Чэхаславакіі пасля абвяшчэння беларусізацыі, 5) заняпад, 6) заключэнне.

[5] Трус М. Беларускія таямніцы чэшскіх архіваў // Полымя. 2018. № 4. С. 122–127.

[6] Гэты артыкул – дапрацаваная версія артыкула Д. Каленоўскай "Běloruská emigrace v Československu (1918–1939)", надрукаванага ў 2007 г. у часопісе "Soudobé dějiny".

Аўтар пачынае разгляд праблемы з агляду крыніц і гістарыяграфіі пытання. Наступная частка тэксту Д. Каленоўскай прысвечана развіццю беларускага нацыянальнага руху з канца XIX ст. да 1923 г. У цэнтры ўвагі аўтара знаходзіцца ў першую чаргу дзейнасць структур Беларускай Народнай Рэспублікі. Далей аўтар разбірае пазіцыю лідараў Чэхаславакіі (у прыватнасці, прэзідэнта Т. Г. Масарыка і міністра замежных спраў Э. Бенеша) адносна рэалізацыі беларускай дзяржаўнасці ў форме БНР. Тут Д. Каленоўска вельмі падрабязна аналізуе сустрэчу А. Луцкевіча з Т. Г. Масарыкам у красавіку 1919 г., апісвае арганізацыйнае афармленне беларусаў у Чэхаславакіі, спробы стварэння беларускіх вайсковых фармаванняў на тэрыторыі ЧСР.

Пішучы пра беларусаў у Празе, Д. Каленоўска закранае такія праблемы, як колькасць беларусаў у міжваеннай ЧСР; палітычныя погляды беларускіх эмігрантаў; стварэнне Беларускай грамады ў Празе і змест яе дзейнасці (атрыманне стыпендый, арганізацыя пераезду, уладкаванне студэнтаў, кантроль за навучальным працэсам і інш.); выданне часопісаў “Беларускі студэнт” і “Перавясла”; развіццё сакольскага руху сярод беларускіх студэнтаў у ЧСР; разглядае беларускую праблематыку на старонках чэхаславацкага друку; аналізуе анкетаванне сярод студэнтаў-эмігрантаў, праведзенае Чэхаславацкім чырвоным крыжам у 1924 г.; прасочвае працэс стварэння Беларускай рады ў Празе і Крывіцкага (Беларускага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны ў Празе, Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый; вызначае ўплыў Берлінскай канферэнцыі на беларускую Прагу.

Наступная частка тэксту Д. Каленоўскай, якая храналагічна адносіцца да другой паловы 1920-х г., мае назву “Беларусы ў ЧСР пасля абвяшчэння беларусізацыі”. У гэтай частцы разглядаюцца такія сюжэты, як выданне часопіса “Замежная Беларусь” і палітычныя погляды П. Крэчэўскага; дзейнасць беларуска-ўкраінскіх арганізацый у ЧСР; стварэнне і дзейнасць Саюза студэнтаў – грамадзян БССР; праца А. Чэрнага, З. Нэедлага і Я. Ляцкага па папулярызацыі беларускай культуры ў ЧСР; вывучэнне Беларусі ў пражскім Нямецкім універсітэце; дзейнасць беларускай дыяспары ў кірунку папулярызацыі беларускай культуры

ў ЧСР; беларусы ў Сацыялістычнай Лізе Новага Усходу; акадэмічныя дасягненні беларускіх студэнтаў; пражскі перыяд жыцця дзеяча беларускай эміграцыі І. Ермачэнкі.

Аўтар таксама звяртае ўвагу на дзейнасць чэхаславацкіх беларусаў у 1930-я г. Д. Каленоўска паказвае, як паўплывала на становішча беларусаў у ЧСР савецка-чэхаславацкае зближэнне. Акрамя таго, значная ўвага аддаецца аналізу ідэалагічнай пераарыентацыі і развіццю пранямецкіх настрояў сярод часткі беларускіх эмігрантаў у ЧСР у другой палове 1930-х г. Завяршаецца артыкул тэзісам пра "непаспяховасць чэхаславацкай часткі беларускага эміграцыйнага праекта" (69).

У матэрыяле М. Плавеца "Беларусы ў Чэхіі і Маравіі і чэхаславацкая палітыка ў 1921–1946 г."[7] (70–109) можна вылучыць чатыры часткі: 1) беларускія арганізацыі ў Першай рэспубліцы; 2) беларускае пытанне ў чэхаславацкім парламенце; 3) беларускае пытанне на перамовах пра стварэнне чэхаславацка-польскай федэрацыі падчас Другой сусветнай вайны; 4) беларусы ў Пратэктараце Чэхіі і Маравіі.

Характарызуючы дзейнасць беларускіх арганізацый у Першай рэспубліцы, М. Плавец абмяжоўваецца згадкамі толькі пра чатыры арганізацыі: Беларускую грамаду ў Празе, Беларускую раду ў Празе, Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый, Саюз студэнтаў маларосаў і беларусаў "Адзінства рускай культуры". Далей аўтар высвятляе, якое месца займала "беларускае пытанне" ў палітычным жыцці Чэхаславакіі і як часта яно гучала ў чэхаславацкім парламенце. М. Плавец прыводзіць вялікую цытату з выступлення Э. Бенеша перад чэхаславацкімі дэпутатамі ў кастрычніку 1919 г., дзе міністр замежных спраў ЧСР адназначна выказваўся за "адбудову вялікай, дэмакратычнай і канфедэратыўнай Расіі" (76). Акрамя таго, аўтар паказвае, як апазіцыйныя

[7] Гэты артыкул – дапрацаваная версія артыкула М. Плавеца "Opatrné přešlapování: první kontakty československé a běloruské vlády 1918–1925", надрукаванага ў зборніку дакладаў "Cesty k národnímu obrození: běloruský a český model" па выніках канферэнцыі, якая ладзілася ў Празе ў 2006 г.

камуністычныя і судэтанямецкія дэпутаты і сенатары чэхаславацкага парламента, крытыкуючы кампрамісную афіцыйную пазіцыю Прагі ў адносінах да Варшавы, у сваіх выступленнях распавядалі пра асіміляцыйную палітыку палякаў у адносінах да беларусаў у Польшчы.

Наступны цікавы сюжэт, які падрабязна разглядае М. Плавец, прысвечаны разгляду "беларускага пытання" (у першую чаргу беларуска-польскай мяжы) на чэхаславацка-польскіх і чэхаславацка-савецкіх перамовах пад час Другой сусветнай вайны. Далей чэшскі даследчык падрабязна характарызуе дзейнасць беларусаў у Пратэктараце Чэхіі і Маравіі. Тут М. Плавец аналізуе ініцыятывы І. Ермачэнкі, В. Захаркі і іншых пражскіх беларусаў у кантэксце агульнага супрацоўніцтва беларускіх эмігрантаў з нацысцкай Германіяй у час Другой сусветнай вайны, раскрывае пытанні, звязаныя з дзейнасцю некаторых беларускіх пранямецкіх ваенных фармаванняў на тэрыторыі Чэхіі ў красавіку і траўні 1945 г., а таксама з падрыхтоўкай членаў Саюза беларускай моладзі ў Апаве (Opava) і Хэбе (Cheb) у якасці памочнікаў Люфтваффэ і СС. Завяршае свой тэкст М. Плавец абазначэннем вельмі важнай праблемы, а менавіта супрацоўніцтва некаторых чэхаславацкіх беларусаў у пасляваенны час з органамі дзяржаўнай бяспекі ЧСР.

Бачыцца, што найбольшую цікавасць для беларускіх даследчыкаў гэтай тэмы ўяўляе трэцяя, самая вялікая частка манаграфіі (110–235). Гэта 89 дакументаў з чэшскіх архіваў. Большая частка апублікаваных матэрыялаў упершыню ўводзіцца ў навуковы зварот. Пададзены дакументы з архіва Акадэміі навук Чэшскай рэспублікі, архіва горада Прагі, архіва Канцылярыі прэзідэнта рэспублікі, архіва Міністэрства замежных спраў Чэшскай рэспублікі, архіва інстытута Т. Г. Масарыка Акадэміі навук Чэшскай рэспублікі, архіва Карлавага ўніверсітэта ў Празе, Нацыянальнага архіва Чэшскай рэспублікі, Літаратурнага архіва Музея нацыянальнага пісьменства.

Такім чынам, укладальнікі выдання правялі грунтоўную эўрыстычную працу ў 8 чэшскіх архівах і выявілі цэлы шэраг дакументаў, якія маюць дачыненне да прысутнасці беларусаў у Чэхаславакіі ў першай палове ХХ ст.

Самы ранні з апублікаваных дакументаў датуецца 22 студзеня 1919 г., апошні – 4 лістапада 1950 г. Усе дакументы публікуюцца на чэшскай мове (калі арыгінал парусску ці па-французску, то ён друкуецца ў перакладзе на чэшскую мову) у храналагічнай паслядоўнасці. Семдзесят шэсць апублікаваных дакументаў ахопліваюць перыяд з 1919 да 1930 г., дзевяць дакументаў адносяцца да 1931–1945 г., а тры дакументы датуюцца 1950-м годам.

У зборнік трапілі дакументы, складзеныя беларускімі палітыкамі (А. Луцкевічам, П. Крэчэўскім, М. Вяршыніным і інш.) і беларускімі арганізацыямі ў ЧСР (Беларускай грамадой у Празе, Беларускай радай у Празе, Аб'яднаннем беларускіх студэнцкіх арганізацый і інш.), а таксама чэхаславацкімі палітыкамі (Т. Г. Масарыкам, У. Радзімскім і інш.) і арганізацыямі (Пражскім паліцэйскім упраўленнем, Краёвым палітычным упраўленнем Прагі, Міністэрствам унутраных спраў ЧСР і інш.).

Змешчаныя дакументы адлюстроўваюць розныя аспекты дзейнасці беларусаў у Чэхаславакіі: рэгістрацыя беларускіх арганізацый і ўстаноў (у прыватнасці, надрукаваны статуты Беларускай грамады ў Празе, Беларускай Рады ў Празе, Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, Саюза студэнтаў маларосаў і беларусаў "Адзінства рускай культуры"); арганізацыі пераезду беларускай моладзі на навучанне ў ЧСР (перапіска паміж МЗС ЧСР і старшынёй Беларускай грамады ў Празе М. Вяршыніным па гэтым пытанні); здабыццё стыпендый для беларусаў і просьбы ў фінансаванні беларускіх арганізацый і ўстаноў (напрыклад, зварот рэдакцыі часопіса "Беларускі студэнт" аб выдзяленні сродкаў на друк у МЗС ЧСР; просьбы М. Вяршыніна аб наданні стыпендый беларусам, якія прыехалі ў Прагу нелегальна); палітычнае жыццё беларускіх эмігрантаў вачыма чэхаславацкіх органаў нагляду (у зборніку надрукаваны паліцэйскія справаздачы з паседжанняў розных беларускіх арганізацый у Празе); беларуска-чэхаславацкія навуковыя кантакты (напрыклад, лісты беларусаў М. Вяршыніна, М. Ільяшэвіча, А. Луцкевіча, Ф. Грышкевіча рэдактару часопіса "Slovanský přehled" А. Чэрнаму) і інш.

На нашу думку, акрамя іншага, беларускіх даследчыкаў павінны зацікавіць наступныя матэрыялы дакументальнай часткі манаграфіі: погляд Т. Г. Масарыка на беларускае пытанне пад час Парыжскай мірнай канферэнцыі, які ён сфармуляваў пасля сустрэчы ў Празе 29 красавіка 1919 г. са старшынёй Рады БНР А. Луцкевічам (дакумент № 2); звароты беларускай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі да чэхаславацкай дэлегацыі з просьбай аб падтрымцы будавання агульнага заходняга антыбальшавіцкага фронту і стварэння на тэрыторыі ЧСР беларускіх нацыянальных вайсковых фарміраванняў з ліку ваеннапалонных беларусаў (дакументы №№ 3, 4, 6, 7); паліцэйская справаздача і іншыя дакументы пра працу Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі, якая адбылася 26–29 верасня 1921 г. у Празе (дакументы №№ 14, 16, 17); пераход сямі “беларускіх стыпендыятаў” з Чэшска-ўкраінскага камітэта па аказанні дапамогі ўкраінскім і беларускім студэнтам у Камітэт па забеспячэнні адукацыі рускіх студэнтаў у ЧСР у 1922 г. (дакументы №№ 25, 26, 27); лісты працаўнікоў прадстаўніцтва ЧСР у Польшчы ў МЗС ЧСР з інфармацыяй пра дзейнасць беларускіх арганізацый у Польшчы (дакументы №№ 9, 10, 13, 37, 81); спіс удзельнікаў беларускай дэлегацыі з ЧСР, якія павінны былі прыняць удзел у Берлінскай беларускай канферэнцыі 1925 г. (дакумент № 53); інфармацыя пра стан Беларускага загранічнага архіва ў Празе (дакументы №№ 84, 85, 86).

Разам з тым хацелася б зрабіць і некаторыя заўвагі да манаграфіі Д. Каленоўскай і М. Плавеца, якія, аднак, не ўплываюць на безумоўна станоўчае агульнае ўражанне ад прачытанага.

У тэксце Д. Каленоўскай сустракаюцца факталагічныя памылкі. Так, у лістападзе 1927 г. старшынёй Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый быў выбраны не А. Клімовіч (46), а В. Лаўскі. Крывіцкае (Беларускае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны не мела адносін да выдання зборніка “Замежная Беларусь” (50). Прасавецкія беларускія студэнты арганізавалі Саюз студэнтаў – грамадзян БССР не ў лістападзе 1926 г. (52),

а раней, яшчэ вясной 1925 г. як філіял Саюза студэнтаў – грамадзян УССР. Афіцыйна ж чэхаславацкія ўлады статут Саюза студэнтаў – грамадзян БССР зацвердзілі 23 чэрвеня 1926 г. Д. Каленоўска памылкова напісала Яўген (52), а не Яўхім Карскі. Я. Станкевіч не выкладаў беларусазнаўства ва Украінскім вышэйшым педагагічным інстытуце імя М. Драгаманава (56) (пра гэта толькі вяліся перамовы). М. Ільяшэвіч памёр у 1934 г., а ў кнізе гаворыцца, што ён пасля вайны быў арыштаваны савецкімі органамі ў Чэхаславакіі (66). Другі Усебеларускі з'езд у акупаваным нацыстамі Мінску адбыўся не ў 1943 (67), а ў 1944 г.

Даніэла Каленоўска лічыць, што беларускія пражскія арганізацыі часткова капіявалі багатую палітычную палітру рускіх і ўкраінскіх эміграцкіх арганізацый (50). На нашу думку, палітыка-ідэалагічны падзел сярод чэхаславацкіх беларусаў адпавядаў хутчэй палітычнай палітры беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

Сярод супольных беларуска-ўкраінскіх арганізацый у тэксце Д. Каленоўскай не былі згаданы арганізацыя моладзі сацыялістычных поглядаў "Вольная грамада" (прадстаўнік беларускага боку ў арганізацыі – група эсэраў на чале з Т. Грыбам) і Украінска-беларускі саюз у Браціславе. Акрамя таго, Д. Каленоўска літаральна пару сказаў напісала пра Аб'яднанне беларускіх паступовых студэнтаў, а ў 1923 – першай палове 1924 г. гэта была вельмі ўплывовая арганізацыя і асноўны палітычны апанент Беларускага сялянскага саюза ў Празе. Тое самае адносіцца і да Беларускага навуковага кабінета ў Празе і Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. Пра іх дзейнасць сказана занадта мала. Незразумела, чаму Д. Каленоўска, распавядаючы пра дзейнасць прасавецкіх беларускіх студэнтаў у Празе, прааналізавала змест часопіса "Наш прамень", але не згадала часопіс "Прамень", які выдалі годам раней гэтыя самыя студэнты.

Асноўнай крыніцай для напісання тэксту Д. Каленоўскай сталі ў першую чаргу дакументы з чэшскіх архіваў, а таксама кніжныя і дакументальныя зборы

Славянскай бібліятэкі ў Празе. У гэтым, з аднаго боку, вялікая вартасць і значнасць працы Д. Каленоўскай, а з іншага – і крыніца недахопаў, названых вышэй, бо для максімальна поўнага раскрыцця тэмы неабходна таксама і выкарыстанне матэрыялаў з беларускіх (Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва), літоўскіх (Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Літвы) і расійскіх архіваў (Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі). Да таго ж, важная крыніца па разгляданай тэме – віленскія беларускія перыядычныя выданні 1920–1930-х гадоў.

Што тычыцца метадалагічных недахопаў, то ў гэтым плане Д. Каленоўска, разглядаючы беларускую дыяспару ў Чэхаславакіі, параўноўвае яе дзейнасць з рускай і ўкраінскай, робячы акцэнт на антысавецкіх ініцыятывах чэхаславацкіх беларусаў. На нашу думку, гэта не зусім правільна, бо крыніца фармавання беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі карэнным чынам адрознівалася ад рускай. У Прагу ехала пераважна моладзь з Заходняй Беларусі. Тыя беларускія юнакі і дзяўчаты, якія не мелі магчымасці трапіць у польскія ВНУ, і склалі нацыянальна актыўнае ядро беларускай дыяспары ў ЧСР, для якой у 1920-я г. была характэрна ў першую чаргу антыпольскасць, а ўжо пасля антысавецкасць (якая напоўніцу праявілася толькі ў 1930-я г.). Такім чынам, аналізуючы дзейнасць чэхаславацкіх беларусаў у 1920-я г., немагчыма пакінуць па-за ўвагай іх антыпольскія ініцыятывы.

У тэксце М. Плавеца, які называецца “Беларусы ў Чэхіі і Маравіі і чэхаславацкая палітыка ў 1921–1946 г.”, непасрэдна дзейнасці беларускіх арганізацый у ЧСР у 1920–1930-я г. прысвечана толькі 5 старонак з 40-старонкавага тэксту. Напэўна, аўтар не хацеў, каб ягоная інфармацыя перагукалася з тэкстам Д. Каленоўскай. На іншых 12 старонках свайго матэрыялу М. Плавэц распавядае пра тое, як пад час Другой сусветнай вайны чэхаславацкі эміграцыйны ўрад, ведучы перамовы з палякамі і СССР, ставіўся да праблемы вызначэння беларуска-польскай мяжы і прыналежнасці беларускіх тэрыторый, што паводле Рыжскага міру 1921 г. былі перададзены Польшчы. Тэма,

безумоўна, вельмі цікавая, але, на нашу думку, яна не зусім упісваецца ў агульную праблематыку манаграфіі. Пэўны недахоп аповеду М. Плавеца пра беларусаў у Пратэктарацe Чэхіі і Маравіі – абмежаванасць выкарыстанай крыніцазнаўчай базы. Для максімальна поўнага і глыбокага разумення тых працэсаў, якія адбываліся сярод чэхаславацкіх беларусаў пасля Мюнхенскай змовы (верасень 1938 г.), патрэбны грунтоўны аналіз захаваных і расцярушаных па розных краінах крыніц, а менавіта фондаў Нацыянальнага архіва Чэшскай Рэспублікі (на дакументы гэтага архіва М. Плавец спасылаецца), Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (№ 908 – асабісты фонд І. Ермачэнкі) і Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (№ Р5875 – асабісты фонд І. Ермачэнкі)[8].

Нягледзячы на тое, што калектыўная манаграфія Д. Каленоўскай і М. Плавеца напісана па-чэшску і адрасавана перадусім чэшскаму чытачу, хочацца верыць, што яна не застанецца па-за ўвагай беларускіх даследчыкаў. Дакументы, упершыню ўведзеныя ў навуковы зварот у гэтым выданні, павінны быць прааналізаваны айчыннымі гісторыкамі. Гэта дазволіць па-іншаму паглядзець на некаторыя аспекты дзейнасці не толькі беларускай дыяспары ў міжваеннай Чэхаславакіі, але і беларускага нацыянальнага руху першай паловы XX ст.

Мінск *Андрэй Буча*

[8] У асабістым фондзе І. Ермачэнкі, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі, вялікую вартасць для даследавання дадзенай тэмы ўяўляюць матэрыялы спраў 11, 21, 27 і 31. М. Плавец у сваім тэксце спасылаецца толькі на справу № 27 названага фонду. Да гэтага часу па-за ўвагай даследчыкаў застаюцца матэрыялы справы № 31, у якой захоўваюцца заявы беларускіх эмігрантаў аб уступленні ў шэрагі Беларускага камітэта самапомачы ў Празе.

Classics and Communism. Greek and Latin behind the Iron Curtain, eds. GYÖRGY KARSAI, GÁBOR KLANICZAY, DAVID MOVRIN and ELŻBIETA OLECHOWSKA. Ljubljana, Budapest, Warsaw: Ljubljana University Press, Faculty of Arts; Collegium Budapest Institute for Advanced Study, and the Faculty of "Artes Liberales", University of Warsaw, 2013. 576 p.

Classics and Class. Greek and Latin Classics and Communism at School, eds. DAVID MOVRIN and ELŻBIETA OLECHOWSKA. Warsaw, Ljubljana: Faculty of "Artes Liberales", University of Warsaw; Ljubljana University Press, Faculty of Arts, 2016. 572 p.

У 2013 і 2016 г. у Будапешце, Варшаве і Любляне выйшлі два зборныя тамы артыкулаў, прысвечаных гісторыі класічнай філалогіі ў краінах савецкага блока. Гэтыя даследаванні – вынік гранта "Gnôthi seauton! Classics and Communism: The History of the Studies on Antiquity in the Context of the Local Classical Tradition in the Socialist Countries 1944/45–1989/90", рэалізаванага праз Калегіум Будапешт у 2009–2010 г. пры ўдзеле вядучых навуковых асяродкаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Рэдактарамі зборнікаў сталі венгры класічны філолаг Дзьёрдзь Каршай і гісторык-медыявіст Габар Кланіцай, філолагікласікі са Славеніі і Польшчы Дэвід Моўрын і Альжбета Аляхоўская, якія заангажавалі выдатных прадстаўнікоў дысцыпліны з розных краін. Названыя зборнікі – выключныя паводле глабальнасці падыходу, шырыні геаграфічнага абсягу і сістэмнасці ў пастаноўцы пытанняў (да выдання рыхтуецца таксама трэці том, прысвечаны савецкай тэатральнай культуры, звязанай з антычнасцю). У геаграфічным плане зборнікі ахопліваюць многія краіны ўсходняга блока: Венгрыю, Чэхаславакію, Югаславію (Славенію, Сербію, Боснію і Герцагавіну, Харватыю), Польшчу,

ГДР, Балгарыю, Румынію; Савецкі Саюз (РСФСР, Літву, Украіну); камуністычныя колы Вялікабрытаніі, а таксама апісваюць трансатлантычныя сувязі. Хоць ні ў адным з гэтых тамоў не прадстаўлена непасрэдна Беларусь (што звязана, напэўна, з адсутнасцю выкладання класічнай філалогіі ў БССР на ўніверсітэцкім узроўні), аднак наяўныя звесткі падаюцца вельмі важнымі для асэнсавання кантэксту, у якім існавала рэспубліка, а таксама даюць інфармацыю пра ўстановы, дзе вучыліся і нашы суайчыннікі. "Classics and Communism" прысвечана лёсам філолагаў-класікаў, "Classics and Class" накіравана на асвятленне гісторыі класічнай адукацыі, закранаюцца праблемы яе развіцця ў сучасным свеце, апісваюцца філолагі і настаўнікі. Артыкулы напісаны на англійскай мове, хоць даклад знакамітага неалацініста Вільфрэда Штроха гучаў на канферэнцыі ў Любляне ў 2013 г. на лаціне ("Classics and Class": 113).

Праблема лёсу класічнай філалогіі і асобаў, з ёю звязаных, пачала прыцягваць увагу даследчыкаў адразу пасля распаду Савецкага Саюза, а навукоўцы ў першую чаргу прыкладалі намаганні для рэабілітацыі і асвятлення імёнаў, забытых у савецкі перыяд[1]. Важнасць даследавання гісторыі менавіта гэтай дысцыпліны абумоўлена яе выключным становішчам у Еўропе XIX – пачатку XX ст. і яе амаль поўным знікненнем ва Усходняй Еўропе адразу пасля кастрычніцкай рэвалюцыі, сто гадоў таму. Тое ж тычыцца і Беларусі, дзе вывучэнне старажытных моў стала падмуркам школьнай адукацыі яшчэ ў XVI ст. з узнікненнем езуіцкіх калегіумаў, было пашырана ў гімназіях у часы Расійскай імперыі, працягвала функцыянаваць у Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Аднак у Савецкай Беларусі выкладанне класічнай філалогіі на ўніверсітэцкім узроўні спынілася – у СССР яно захавалася толькі ў Маскве, Ленінградзе, Львове, Вільнюсе і ў пэўны перыяд

[1] Напрыклад: Коржева К. П "Наша античность" в понимании А. И. Пиотровского // Античность и общечеловеческие ценности: сб. тезисов докладов, сообщений и методических рекомендаций членов казахстанской группы Всесоюзной ассоциации антиковедов. Вып. 1. Алма-Ата, 1990. С. 23–30.

у Тбілісі. Тым не менш гісторыя Старажытнага свету выкладалася на ўсіх гістарычных факультэтах, рабіліся пераклады старажытных аўтараў на беларускую мову, выпускнікоў класічных аддзяленняў накіроўвалі на працу ў БССР, працягваліся даследаванні і ў нашай рэспубліцы. Пра разуменне важнасці антычнай старажытнасці для Беларусі сведчыць хоць бы праца Браніслава Тарашкевіча над перакладам "Іліяды" і звесткі пра тое, што ён здолеў скончыць поўны пераклад у вязніцы ў Бронках[2]. Таму лёс беларускай класічнай філалогіі яшчэ патрабуе дакладнага і падрабязнага даследавання, а разгляданыя тамы могуць быць падставай для пачатку гэтай працы.

"Classics and Communism" акрамя ўласна класічных філолагаў разглядае грамадскіх і навуковых дзеячоў, звязаных з класікай часткова, але важных з гістарычнага пункту гледжання – напрыклад, Ёзаф Мурал піша пра вядомага чэшскага філосафа, аднаго са спікераў Хартыі'77, Яна Патачку (107–128).

Як трапна заўважыла Ніна Брагінская ў "Classics and Class", апісанне лёсу вучоных са свайго навуковага асяроддзя, "у адрозненне ад паэтаў і мастакоў, часта непасрэдна базуецца на агіяграфіях", і яны падаюцца ў выглядзе мучанікаў і святых (41). Датычыць гэта і многіх артыкулаў аналізаваных тамоў. З іншага ж боку, такое апісанне дае магчымасць паказаць асобу настаўніка, дарагога для аўтараў даследавання, з той перспектывы, з якой гэтую асобу маглі бачыць толькі блізкія вучні. Так, Ежы Аксер знаёміць са сваім мэтрам Казімежам Куманецкім, прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта ("Classics and Communism": 187–212), і Стэфаніяй Святлоўскай, настаўніцай лацінскай і грэчаскай моў у гімназіі Тадэвуша Рэйтана ("Classics and Class": 329–336); Аляксандр Гаўрылаў – з вядомым маскоўскім неалацiністам Якавам

[2] Тэкст поўнага перакладу дагэтуль не знойдзены. Пераклады фрагментаў першай песні надрукаваны ў "Беларускім звоне" яшчэ ў 1922 г. (за 11 і 25 сакавіка). Пераклад 22-й песні змешчаны ў часопісе "Полымя рэвалюцыі" ў 1935 г. (№ 3). Пар.: Тарашкевіч Б. Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады / укл., уступ, камент. А. Ліса. Мінск, 1991.

Бароўскім (“Classics and Communism”: 19–36); пра знакамітага венгерскага рэлігіязнаўцу Кароя Керэньі піша яго дачка, класічны філолаг, Карнэлія Іслер-Керэньі (“Classics and Communism”: 45–54). Важную працу ў другім томе правёў Уладзімір Файер, які распытаў многіх сучасных філолагаў пра іх настаўнікаў і склаў архіў інтэрв’ю (“Classics and Class”: 65–74).

Важна таксама, што ў артыкулах ёсць інфармацыя пра асобаў іншага кшталту. Напрыклад, Дзьёрдзь Каршай апісвае Яноша Шаркады, які быў агентам дзяржбяспекі пад імем Вільмаса Шарандзі (“Classics and Communism”: 71[3]–106). Альжбета Аляхоўская апавядае пра “беспартыйнага марксіста” Браніслава Біліньскага і яго кар’ерны ўздым, на вяршыні якога ён, аднак, здолеў зрабіць шмат карыснага для калег (“Classics and Communism”: 213–236). Здаецца, аўтары імкнуліся паказаць падобныя постаці без пагарды, акцэнтуючы тое, наколькі паламаным было жыццё асоб праз абставіны, у якіх яны апынуліся і з якімі не мелі сіл справіцца.

Агульны тон артыкулаў падкрэслівае, што савецкая сістэма была знішчальнай і неспрыяльнай стыхіяй, якая руйнавала звычайны ход жыцця чалавека і навуковай дысцыпліны. Тут хочацца заўважыць, што класічная філалогія перажывала крызіс функцыянавання ў XX ст. ва ўсім свеце, незалежна ад ступені дэмакратычнасці краін і выбранай ідэалогіі, гэта згадваюць і некаторыя даследчыкі ў названых выданнях. Працытуем Любара Кісучана: “Па праўдзе, гэтае павольнае выкараненне класікі ў 70-я і 80-я [у Чэхіі] было выклікана больш тэхнакратычным спосабам мыслення, чым камуністычнай ідэалогіяй, і ішло за трэндам, які не быў абмежаваны камуністычнымі дзяржавамі ўсходняга блока” (“Classics and Class”: 110). Быць можа, нават існаванне класічнай філалогіі ў *a priori* складаных варунках забяспечыла яе выжыванне, бо вучоныя ясна разумелі блізкую небяспеку і рабілі ўсё, каб яе адцясніць.

[3] У змесце памылкова пададзена, што артыкул пачынаецца на с. 61 (Classics and Communism, vi).

Для беларускага чытача найбольш карыснымі, напэўна, будуць артыкулы, прысвечаныя савецкім рэспублікам і Польшчы, бо яны закранаюць асобаў, часта звязаных з Беларуссю ці беларускімі вучонымі. Згадваюцца, напрыклад, Браніслава Віц-Маргулес (“Classics and Class”: 90) і Сяргей Шарыпкін (“Classics and Class”: 80, 96–97), якія выкладалі і ўдзельнічалі ў арганізацыі спецыялізацыі “Класічная філалогія” ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы ў 1994 г. Апісанне адукацыі ў міжваеннай Польшчы непасрэдна закранае Заходнюю Беларусь (“Classics and Class”: 213–228). З іншага боку, перспектыва Балгарыі, Румыніі ці Венгрыі паказвае падобнасць і ўзаемазалежнасць адукацыйнай палітыкі ў краінах савецкага блока, уплыў важных палітычных падзей на іншыя краіны ці падабенства ў разуменні “марксісцкай” антычнасці (“Classics and Class”: 158–160). Аднак перш за ўсё біяграфічны падыход – ён пераважае ў большасці артыкулаў – паказвае чалавека ў яго змаганні за ўласныя мары ці выжыванне ў складаных умовах, што не залежыць ад нацыянальнасці, мовы, рэлігіі ці блізкасці да цэнтра савецкага свету.

Зборнікі змяшчаюць таксама багаты ілюстрацыйны матэрыял, які звычайна ўключае фота асобаў, пра якіх ідзе гаворка, копіі дакументаў, фотаздымкі будынкаў гімназій і ўніверсітэтаў. Апошні артыкул другога тома прысвечаны Марыю Прэгелю, славенскаму мастаку, аўтару ілюстрацый да “Іліяды” і “Адысеі” Гамера. Юрэ Мікуж, аўтар артыкула, да цікавага аналізу твораў далучыў багаты візуальны матэрыял, змясціўшы рэпрадукцыі ілюстрацый і малюнкаў, якія яшчэ больш наблізілі мастака да чытача. У трэцім томе, які рыхтуецца да выдання, плануецца таксама артыкул пра антычнасць у беларускім тэатры 1920-х гадоў – БДТ-1 і БДТ-2.

Варшава – Горадня *Ганна Паўлоўская*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2018 г.

## Доктарскія дысертацыі

Кручковский, Т. Т. История Польши в концепциях российской историографии XIX – начала XX века: 07.00.09 / Кручковский Тадеуш Тадеушевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2018. – 49 с. – Библиогр.: с. 38–46 (70 назв.).

Мяцельскі, А. А. Мсціслаўская воласць, княства і ваяводства: адміністрацыйна-тэрытарыяльнае, гаспадарчае і канфесійнае развіццё ў XI–XVIII стст.: 07.00.02 / Мяцельскі Андрэй Анатольевіч ; Ін-т гісторыі НАН Беларусі. – Мінск, 2018. – 46 с. – Бібліягр.: с. 39–43. (62 назв.).

Острога, В. А. Изучение новой и новейшей истории зарубежных стран в белорусской историографии (1919–1991 гг.): 07.00.09 / Острога Виктор Александрович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2018. – 51 с. – Библиогр.: с. 38–48 (97 назв.)

## Кандыдацкія дысертацыі

Булаты, П. Ю. Ляхавіцкае графства ў сістэме магнацкіх уладанняў (XVI–XVIII стст.): 07.00.02 / Булаты Павел Юр'евіч ; Магілёў. дзярж. ун-т ім. А. А. Куляшова. – Магілёў, 2018. – 25 с. – Бібліягр.: с. 17–22 (45 назв.).

Валодзіна, А. В. Рух вальдэнсаў у канцы XII – пачатку XV стагоддзяў: 07.00.03 / Валодзіна Аляксандра Вадзімаўна ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2018. – 26 с. – Бібліягр.: с. 20–23 (29 назв.).

Головач, Е. И. Социальный вопрос в идеологии и деятельности либеральных и правомонархических партий на территории Беларуси (1905 – февраль 1917 г.): 07.00.02 / Головач Елена Ивановна ; Могилёв. гос. ун-т

